

Старшая піянерважатая школы № 18 г. Гомеля Галіна Шыцко.

Фота А. Дзітлава.

Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# МАЛАДОСЦЬ

Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі і Саюза пісьменнікаў БССР

У НУМАРЫ:



4 (62)

Красавік,

1958.

Год выдання VI.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР. Мінск.

Мастацкі рэдактар В. Грамыка. Тэхрэдактар І. Шаршульскі. Карэктар Л. Таўлай.

**«Молодость»**
Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал Центрального Комитета ЛКСМ Белоруссии и Союза писателей БССР.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, д. 66. Тэлефон — 93-854.

Рукапісы не вяртаюцца.

АТ 03646. Здадзена ў набор 27.II.58 г. Падпісана да друку 8.IV.58 г. Заказ 138.

Друкарня імя Сталіна. Мінск, праспект імя Сталіна, 105.

**Раман ТАРМОЛА**

# ЛЯ ПОМНІКА ЛЕНІНУ

Дом Урада, Вядомы помнік.
Твар знаёмы, з маленства блізкі...
Гэта месца заўсёды я ўспомню
І за тысячы вёрст ад Мінска.

А сягоння дзень просты, будні.
Дзьме халодны асенні вецер...
Толькі што так ля помніка людна?
Гэта кветкі прынеслі дзеці.

І здаецца: скончыць прамову
Ён пад воплескі, гімна гукі,
І з усмешкай, ускінуўшы бровы,
Сыйдзе, возьме дзяўчынку на рукі.

Над сабою падыме потым,
Вельмі рады жаданай стрэчы,
І дзяўчынка з вялікай ахвотай,
Як да бацькі, ўзбярэцца на плечы.

Восень кідае лісця жмені,
А ля помніка свежыя кветкі...
Мне заўсёды вялікі Ленін
Уяўляецца толькі гэткім.

Р. БАРЫСАВА

# СУСТРЭЧЫ З ЛЕНІНЫМ

### Успаміны

Раіса Барысаўна Барысава, ветэран трох рэвалюцый, ужо 45 год з'яўляецца членам Камуністычнай партыі Савецкага Саюза.

З сямігадовага ўзросту Раіса Барысава пачала сваё працоўнае жыццё. Спачатку агароды палола ў багацеяў, а калі крышку падрасла, нанялася працаваць на фабрыку, якая выраблять гузікі. Тут яна прымала ўдзел у рэвалюцыі 1905 года. Па даручэнню сацыял-дэмакратаў разносіла адозвы, была членам стачачнага камітэта на фабрыцы.

Потым — турма за «бунтарства».

У 1906 годзе пасля вызвалення з турмы Раіса Барысава прыязджае ў Беларусь. Жыве і працуе ў Віцебску, а потым у Оршы. Яна выконвае шэраг сур'ёзных заданняў рэвалюцыйнага падполля. Удзельнічае ва ўзброеным нападзе на канвой, які вёў арыштаваных — кіраўнікоў рабочых баявых дружын — з Оршы ў Магілёў на суд.

У першыя гады пасля Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі Барысава была сакратаром павятовага камітэта партыі ў горадзе Нікалаеўску (цяпер Пугачоў).

Раісе Барысаўне Барысавай давялося некалькі разоў сустракацца і гутарыць з Уладзімірам Ільічом Леніным. Аб гэтых сустрэчах яна расказала нашаму карэспандэнту.

1918 год, — з хваляваннем успамінае Раіса Барысаўна, — быў асабліва памятны ў маім жыцці. Я ўпершыню пабачыла і пазнаёмілася з вялікім правадыром рэвалюцыі, арганізатарам нашай партыі і савецкай дзяржавы У. І. Леніным.



У кастрычніку мяне паслалі ў Маскву на вучобу ў Цэнтральную школу партыйнай і савецкай работы. Уладзімір Ільіч некалькі разоў выступаў у нас з дакладамі і лекцыямі.


Раіса Барысаўна Барысава.

Звычайна перад сваімі выступленнямі Уладзімір Ільіч заўсёды цікавіўся, як мы жывём, як харчуемся. Ведаючы, што большасць слухачоў курсаў — рабочыя і сяляне, Ленін ніколі не ўжываў у сваіх лекцыях незразумелых і замежных слоў. Ён і нам казаў, што для бальшавіцкага агітатара самае важнае — гаварыць з народам простай, зразумелай мовай.

Сваё прабыванне ў Маскве я выкарыстала яшчэ і для таго, каб паслухаць лекцыі на курсах па дашкольнаму выхаванню. І тут мне пашанцавала не толькі слухаць, але і гутарыць з Уладзімірам Ільічом.

Здарылася гэта так. У той дзень павінен быў выступаць Ленін. Я вельмі спяшалася, каб не спазніцца. І раптам ля ўваходу — намеснік загадчыка курсамі. Яна прапанавала мне ісці за ёю. Я стала прасіцца адкласці нашу размову, каб не прапусціць выступленне Ільіча.

— Не турбуйся, — адказала яна мне, — ты не спознішся. З табой хоча гаварыць Ленін.

Мяне ахапіла хваляванне. Я не паспела нават даведацца, аб чым будзе гутарка, каб падрыхтавацца да яе, як апынулася ў невялікім пакоі за сцэнай, дзе за столікам сядзеў У. І. Ленін. Ён устаў, працягнуў мне руку і запытаўся.

— Вы з якога павета, таварыш Барысава, кім там працуеце?

Даведаўшыся, што я з'яўляюся старшынёй Нікалаеўскага павятовага камітэта, Уладзімір Ільіч ажывіўся.

— Гэта ў тым павеце, дзе Чапаеў дзейнічае? — з цікавасцю запытаўся ён пра гэтага народнага героя.

На мой адказ, што пасля вучобы я вярнуся назад у Нікалаеўск, Уладзімір Ільіч сказаў:

— Гэта добра, едзьце туды, вы там цяпер патрэбны...

Хутка адбылася і другая мая сустрэча з Ільічом. У пачатку сакавіка 1919 года мяне абралі дэлегаткай Восьмага з'езда партыі. У Маскву я прыехала пасля цяжкай хваробы, змарнелая. Нават людзі, якія добра ведалі мяне, ледзь пазнавалі маё аблічча. Аднак якое ж было маё здзіўленне, калі, праходзячы па Георгіеўскай зале, Уладзімір Ільіч супыніўся каля мяне і працягнуў руку.

— Добры дзень, таварыш! Вы — дэлегат ад Нікалаеўскага павета? — спытаў ён.

— Так, Уладзімір Ільіч, — збянтэжана адказала я.

— Як жывеце, як працуеце? Як Чапаеў ваюе? — пытаўся Ільіч. А потым, пільна ўглядзеўшыся ў мой змардаваны твар, сказаў: — Вам трэба папраўляцца.

У той самы дзень, прышоўшы ў сталовую, я здзівілася, што мне падалі дадатковы абед. Як аказалася, Уладзімір Ільіч асабіста даў распараджэнне, каб мяне забяспечылі ўзмоцненым харчаваннем.

На наступны дзень я мела яшчэ адзін доказ таго, як клапатліва абыходзіцца Ленін з намі, мясцовымі работнікамі. Ад Надзежды Канстанцінаўны Крупскай я атрымала пісьмо У. І. Леніна ў адно з упраўленняў (назвы не помню) з просьбай забяспечыць мяне плашчом, паліто і цёплым шарфам. Як я была ўсхвалявана гэтым клопатам і ўдзячна Уладзіміру Ільічу!

На перапынках паміж пасяджэннямі з'езда Уладзімір Ільіч гутарыў з дэлегатамі. 21 сакавіка я пабывала ў кабінеце Леніна ў Крэмлі. Да гэтага часу помню сціплы ленінскі кабінет. Карта на сцяне, этажэрка з кнігамі, пісьмовы стол і насупраць яго два мяккіх крэслы. Калі я зайшла, Уладзімір Ільіч устаў і працягнуў мне руку. Пачалася гутарка. Уладзімір Ільіч распытваў пра колькасць хлеба ў павеце, ці шмат у сёлах камуністаў, як працуе павятовая партыйная арганізацыя. Асабліва падрабязна ён распытваў аб рабоце першай камуны, створанай чапаеўцамі, пра саўгасы і сялянскія кааператывы, аб сумеснай апрацоўцы зямлі. Ён бачыў у гэтым нашу перамогу на сяле. Я старалася коратка і канкрэтна адказваць на ўсе пытанні, а потым папрасіла У. І. Леніна дапамагчы нам дастаць некалькі аўтамабіляў для вывазкі хлеба.

— Хлеб нам вельмі патрэбен, — сказаў Ленін, ходзячы па кабінеце, — збярыце хлеба столькі, колькі можна сабраць у вашым павеце. Толькі памятайце, што хлеб трэба збіраць так, каб не дапусціць памылак, не абвастрыць адносін з сярэднім сялянствам... А вот машыны даць вам мы не можам. Іх у нас мала, і яны вельмі патрэбны для фронта.

Нечаканая сустрэча адбылася ў мяне з Ільічом праз некалькі дзён, калі я знаёмілася з будынкамі ў Крэмлі. Раніцай 24 сакавіка я пайшла аглядаць гістарычныя помнікі і заблудзілася. На адной з алей я ўбачыла Уладзіміра Ільіча, які прахаджваўся па дарожцы. Ён быў у зімовым паліто і шапцы-вушанцы.

Ленін падышоў да мяне, паздароўкаўся і пацікавіўся, што я раблю так рана ў Крэмлі. Даведаўшыся аб мэце майго прыходу, У. І. Ленін сказаў:

— Ну што ж, правільна. Аглядайце ўсё, што Вас цікавіць у Крэмлі.

Наша гутарка з Ільічом зацягнулася. Нечакана ён мяне спытаў:

— А вы снедалі?

Я апусціла вочы: казаць Леніну няпраўду было няёмка, і я сказала, што зараз іду ў сталовую.

— Хадземце паснедаем у нас, — запрасіў Уладзімір Ільіч.

Саромячыся, я стала адмаўляцца. Ільіч усміхнуўся і сказаў:

— Хадземце, хадземце. Надта сыта не пакормім, але і галоднай не будзеце.

Мы ўзняліся па лесвіцы. Уладзімір Ільіч адамкнуў ключом дзверы. Насустрач нам ішла Надзежда Канстанцінаўна. Яна была ў простым цёмным плацці з белым каўнерыкам.



— Вось, Надзюша, госця к снеданню сустрэлася на алеі. Таварыш Барысава ходзіць па ўсіх кутках і аглядае Крэмль, заблудзілася і трапіла да нас на снеданне, — весела сказаў Ільіч.

Мы прайшлі з ім на кухню, дзе быў накрыты стол. Калі я мыла рукі, Уладзімір Ільіч з некім размаўляў. Мяне здзівіла, з кім гэта: гэта ж у пакоі, акрамя нас дваіх, нікога не было.

— Як табе не сорамна, — казаў ён, — хіба для цябе сыр прыгатаваны?

Ажно Ільіч гаварыў гэта вялікаму пушыстаму кату, з якім ён быў у дружбе. Кот пазіраў на яго пільнымі, разумнымі вачыма.

Снедаючы, Уладзімір Ільіч ажыўлена размаўляў. Надзежда Канстанцінаўна падклала мне хлеба і сыру, падлівала кофе. Калі мы скончылі есці, Уладзімір Ільіч хутка развітаўся і пайшоў.

Сустрэлася я з У. І. Леніным яшчэ на пасяджэнні камісіі з'езда па дапрацоўцы раздзела праграмы партыі ў галіне народнае асветы, аховы працы і сацыяльнага забеспячэння. Старшынствавала ў камісіі А. М. Калантай. К канцу работы да нас прышоў Ільіч. Ён бегла азнаёміўся з нашымі папраўкамі, дадаткамі і, накідаўшы некалькі слоў, сказаў:

— Мне здаецца, што ў галіне аховы працы трэба зусім ясна намеціць такія мерапрыемствы, каб кожны рабочы і работніца ўсвядомілі, што толькі пры дыктатуры пралетарыята магчыма іх ажыццявіць.

Апошні раз мне давялося бачыць Уладзіміра Ільіча ў маі 1921 года. Я прыехала ў Маскву, у Цэнтральны Камітэт партыі. Жыла з маленькай дачкой у гасцініцы «Метраполь».

Неяк раз ідучы па лесвіцы з дачкой на руках, я ўбачыла Леніна з групай таварышаў. Я не стрымалася і крыкнула:

— Добры дзень, Уладзімір Ільіч!

Ленін паглядзеў на мяне і адразу пазнаў.

— Дзе вы прападалі? — запытаўся ён, працягваючы руку.

— У Самары працавала.

Дачка мая ўжо не кепска гаварыла і ведала Леніна па партрэтах. Пацягнуўшыся ручкамі да Уладзіміра Ільіча, яна пралепятала: «Я вас ведаю. Вы дзядзя Ленін».

...Хоць з часу маіх сустрэч з У. І. Леніным мінула больш 35 год, я, як цяпер, бачу перад сабою яго, мяккую ўсмешку, прыплюшчанае вока, успамінаю кожны яго жэст...



Н. ГРЫГОР'ЕЎ, І. КАРАГІНА

# САЛДАТ З БРАНЕВІКА

Нярэдка зварочваю я сюды з Неўскага. Цяпер тут па вечарах ззяюць газавыя трубкі. Аранжавыя струменьчыкі святла складваюцца ў літары: «Міжгародні тэлефон». Прыступкі ганка раней былі белыя, мармуровыя, ды, відаць, стапталіся: заменены гранітам.

Калі сказаць праўду, дык тэлефон гэты на вуліцы Герцана мне зусім не патрэбны. Прайду вечарком паўз ганак, пастаю. Тут, на Марской вуліцы (па-цяперашняму Герцана), заўсёды бываюць скразнякі. Побач — плошча з Зімнім палацам, адкрытая ўсім вятрам, туды і з мора задувае. А з аркі Галоўнага штаба цягне, як з коміна.

І вось пастаю я, закуру папяросу ды і задумаюся... Сорак год назад стаяў я тут з вінтоўкай, прыбіўшыся да атрада чырвонагвардзейцаў. Можа на гэтым самым камені і стаяў. Між іншым, не. Тады, у семнаццатым, пад нагой пружыніў набрынялы ад сырасці драўляны тарэц. Тарцовыя маставыя добрымі былі для дрожак і карэт з рысакамі. Але аджыло ўсё гэта свой век, выveўся і тарэц. Даўно ўжо ўсюды асфальт... А вось гадзіннік у пралёце Галоўнага штаба як вісеў у той памятны вечар, так і цяпер вісіць. Вялікі, круглы гадзіннік. Два цыферблаты: адзін павернуты да Дварцовай плошчы, другі, працілеглы, — да Марской вуліцы. Так што міністры Часовага ўрада, зачыніўшыся з афіцэрамі і юнкерамі ў Зімнім палацы, маглі паглядаць на гэты гадзіннік. Паглядалі на гадзіннік і мы, рабочыя і салдаты, толькі з свайго, працілеглага боку. Стрэлка не адзін раз абегла цыферблат: памятаю і восем вечара, і дзевяць, і дзесяць.

Мы стаім, тоўпімся, гатовыя к бою. Вядома ўжо, Зімні акружаны з усіх бакоў. На Няве наводзяць парадкі кранштацкія матросы. Астаноўка за невялікім — атакаваць, а загаду ўсё няма і няма. Агітатары, прабіраючыся па радах, тлумачаць, што ідуць нейкія там перагаворы паміж Смольным і палацам, каб пазбегнуць кровапраліцця. Але байцы толькі абураюцца: якія такія перагаворы з буржуазіяй! Пасылаюць агітатараў назад — ды наўздагон ім: «Бяжы, агітацыя, да начальства, далажы, што рабочыя, салдаты, матросы наступаць патрабуюць».

Па Неўскім праносяцца матацыклы. Мы, як толькі пачуем гул матора, насцярожваемся: «Сувязны з загадам?»

Ведаў я па свайму салдацкаму франтавому вопыту: перад боем трэба супакоіцца, а не гарачыць сябе. Стаў я глядзець па баках. Тут і прыкмеціў гэтыя белыя ступені мармуровага ганка. Дзверы, бачу, цёмныя і глухія. Нехта з цікаўнасці абмацаў дзверы прыкладам вінтоўкі. Па гуку я зразумеў, што дзверы акаваныя. Зацікаўленых пабольшала, зачыркалі запалкамі — і разгледзелі шыльду: «Банк». Гэтае адкрыццё непрыемна напомніла нам, што ўсе мы яшчэ пад уладаю буржуазіі.

Народ — дзякаваць бальшавікам — за лета і восень семнаццатага года стаў у сім-тым разбірацца. Цяпер і радавы салдат мог растлумачыць, што банкі пры буржуазным ладзе выраслі ў злавесную сілу. Буржуі пры дапамозе банкаў душаць і рабуюць народ.

Канешне, салдату цяжка было выказваць гэтыя новыя для яго паняцці, нехапала слоў, бо за плячыма якія-небудзь год-два прыхадской школы — вось і ўся адукацыя. Таму ў большасці выпадкаў выкарыстоўвалі гатовыя фразы, лозунгі. Бывала, выкрыкнеш на мітынгу: «Гідру імперыялізма... дало-о-оў!». І кожнаму зразумела і ясна, што справа ідзе пра банкіраў, фабрыкантаў і памешчыкаў, а заадно і пра Часовы ўрад. Ім бы толькі «вайна да перамогі», ім бы толькі народ губіць!

Акаваныя меддзю банкаўскія дзверы многім з нас сапсавалі настрой «Давай уперад!» — закрычалі тут і там.

Шум усё нарастаў. Тады нехта з камандзіраў падаў каманду зарадзіць вінтоўкі.

Забразгалі затворы. Для салдата зарадзіць вінтоўку — справа адной секунды. Ну, а тут кожны ўходжваўся са зброяй па-свойму, і на працягу некалькіх мінут у атрадзе толькі і чулася ляскання затвораў.

Тым часам пачулася каманда: «У ствол патроны не дасылаць. Затворы — на засцерагальнік!». Выходзіць, не для атакі падрыхтаваліся, а так, каб не крычалі без патрэбы... Камандзірская хітрасць!

Людзей ад нецярпення пачало калаціць, як пры ліхаманцы, ды і надвор'е, трэба сказаць, даймала. Лістападаўскае слякоцце. Да таго ж і затуманіла. Нядобрыя ў нас, у Піцеры, туманы. Як ні апранайся, а ён што хочаш пройме — і шынель, і гімнасцёрку.

Шынялёк на мне, праўду сказаць, быў ужо звыштэрміновы. Гэта вось як трэба разумець. Салдацкая вопратка ў стары час размяркоўвалася на тры тэрміны. Першы тэрмін — гэта абноўка, сукно на шынялі тоўстае, з ворсам: і варсістае і фарсістае. Другі тэрмін — шынель паношаны ўжо, без ворсу і без форсу. Даношвалі яго навабранцы, пакуль навучаліся салдацкай выпраўцы на казарменным двары. Трэці тэрмін — рвань, выдавалася толькі для бруднай работы... А на мне шынялёк звыштэрміновы — усе свае тэрміны аджыў. Ад злога чалавека дастаўся ён мне, на пасмешышча. Ляжаў я пасля ранення ў шпіталі і не паладзіў з наглядчыкам. Злодзей быў той наглядчык. А я цярпець не мог тых, якія на крадзеных салдацкіх харчах дамы сабе будавалі. Па зубах яму не даў, але кастылямі шпурляў услед па калідоры. Вылечыўся я, надышла пара выпісвацца — тут наглядчык і скарыстаў выпадак, каб вымесціць сваю злосць.

Росту я не малога. Ідзеш, бывала, па вуліцы, а дзеці дражняцца. «Дзядзечка, дастань верабейку». Дык ён, наглядчык, мала таго, што самы падраны шынель даў, дык яшчэ і маларослы.

Я да яго: «Начальнік, пасаромся, куды ж я ў такім?» А ён, прыжмурыўшы вочы і выскаліўшы зубы: «У мяне няма заказу для кожнага. У часці адзенуць!».

А выпісаўся я ў свята, на вялікдзень, трэцяга красавіка семнаццатага года. І як жа гэта бравам салдату, маладому хлопцу ў атопках ды ў рвані на святочных піцерскіх вуліцах паказацца! Ну і злосны ж я выйшаў за вароты. Як бы,— думаю,— з наглядчыкам паквітацца? І ўжо канчаткова. Але ўзяў тут мяне ў сваё распараджэнне салдат Іван, член бальшавіцкай партыі. Ён заходзіў да нас у шпіталь, праводзіў гутаркі, тайком раздаваў літаратуру, да людзей прыглядаўся. А мне аднойчы сказаў: «Кінь, Васіль, гэтага наглядчыка. Ён цябе за кастылі пад суд можа ўпячы, і прападзеш ты ні за што... Чытай ды ў сутнасць справы ўнікай, што бальшавікі гавораць. Наглядчык — драбяза, а бяда ўся ад акул капіталізма». Тады я не вельмі яго зразумеў, ды і з наглядчыкам сварка зайшла далёка, каб адступацца. А цяпер, у гэты святочны дзень, сустрэў мяне Іван ля самых варот ды і гаворыць:

— Шчаслівы ты, Васіль.

Я так і ўставіўся на яго: смяецца ён, ці што?.. Цікава, у чым маё шчасце?..

А ён:

— Сёння вяртаецца з эміграцыі Уладзімір Ільіч Ленін. Будзем сустракаць на Фінляндскім вакзале. І табе, беспартыйнаму таварышу, партыя даручае адказную справу. Ты ж у бронемашынах разбіраешся? Ну, дык вось... І чалавек ты наш — я асабіста за цябе паручыўся.

Ад гэтых слоў мне стала і радасна, і страшна.

— А што, — пытаю, — загадаеш рабіць?

— Пакуль, — гаворыць, — сакрэт. Даведаешся вечарам. І каб язык за зубамі!

Хапіўся я:

— А шынель які на мне... Куды ж я такі... Сарамота адна!

Іван усміхнуўся:

— Не, бойся, дружа. Уладзімір Ільіч не пакрыўдзіцца за шынель.

«Э, не, — думаю, — табе лёгка так разважаць!»

Паўдня сядзеў я з іголкай, цыруючы і латаючы свой звыштэрміновы. А потым зайшоў у кватэру, што першай папалася мне на дарозе, і незнаёмая жанчына папрасавала мне шынель. Ды яшчэ і кулічом пачаставала.

* * *

Гадзіннік пад аркаю Галоўнага штаба паказваў ужо адзінаццатую гадзіну. Белы цыферблат у водбліску раскладзеных вогнішчаў здаваўся то ружовым, то чырвоным, то барвовым. Ля агню грэліся людзі: хто трымаў рукі над полымем, хто выбіваў нагамі чачотку. Я з суседам моўчкі наскоквалі адзін на другога, стукаючыся плячамі: правым, левым, потым зноў правым.

Раптам бачу: праціскаецца скрозь натоўп чалавек у скураной шапцы, скуранай тужурцы — па выгляду камісар. Шукае некага вачыма, і ўсё бліжэй да мяне, усё бліжэй...

І вось камісар перада мною. Агледзеў мяне з галавы да ног і кажа:



— Чаму ты, таварыш Пракатчык, не абзываешся? Чаму гэта на цябе павінны людзі паказваць? Ідзём! Справа важная ёсць.

Пайшлі сярод вуліцы, тарцовымі ўхабамі, у напрамку да гадзінніка.

— Ідзём, Пракатчык, ідзём!

Вёў камісар мяне проста на натоўп, і людзі расступаліся перад намі, як мне здавалася, нават з павагаю.

Хачу растлумачыць, адкуль у мяне гэтае прозвішча «Пракатчык». Я шафёр, а па прозвішчу Фёдараў. Да рэвалюцыі нават у сталічным Пецярбургу аўтамабілі былі рэдкасцю. Гэтыя дарагія навінкі выпісваліся з-за мяжы і належалі багачам. А на Неўскім, паўз Гасцінны двор, стаялі наёмныя машыны, ці, як гаварылі тады, «машыны на пракат». На адной з такіх машын я і працаваў, здаючы выручку гаспадару, купцу. Ездзіў я «з ветрыкам», не раз нават у паліцыю пападаў. Затое аматары сапраўднай, хвацкай язды заўсёды выглядалі ля Гасціннага : «А ці свабодны ён, Вася-Пракатчык?» І, убачыўшы мяне, нікога іншага ўжо не наймалі. Калі ў 1914 годзе пачалася вайна з Германіяй — забралі мяне, ды не ў аўтакалону якую-небудзь грузы вазіць, а ў бранечасці.

Аднак, вось і гадзіннік — ён цяпер над галавою, вялікі з абручамі, як на бочцы.

Між тым камісар бярэ мяне, як маленькага, за плечы і паварочвае ў бок ад гадзінніка... Другая палова аркі. Глыбокая ніша. Там схаваны нейкі бранявік. Углядаюся — і раптам у змроку пазнаю вялікую белую лічбу «2» на барту браневіка.

У жар мяне кінула... «Няўжо ён?» Я імгненна разгледзеў сілуэт браневіка ўвесь, да самых малых дробязяў.

Камісар крануў мяне локцем.

— Ну як, знаёмая машына?

— Мала, таварыш камісар, сказаць «знаёмая». Гэта самая славутая машына ў свеце. З гэтага ж браневіка Уладзімір Ільіч Ленін выступаў. Трэцяга красавіка на Фінляндскім вакзале...

— А ты, — гаворыць, — за рулём сядзеў?

— Так точна...— І ад салдацкага гонару, які раптам нахлынуў на мяне, я выпучыў грудзі і апусціў рукі па швах. Але тут жа пад пальцамі адчуў падол шыняля. Паглядзеў я на сваю адзежынку і на сябе ў ёй,— і да таго ж мне весела стала, што я ледзь вымавіў скрозь смех: — Вось у гэтым... самым... шынялькy!

І камісар засмяяўся разам са мною, дабрадушна прыжмурыўшы вочы. А потым пастукаў у стальныя дзверы браневіка, і нехта з сярэдзіны адкінуў клямку. Дзверцы адчыніліся.

Твар у камісара стаў урачыстым.

— Ну што ж, Пракатчык, у гэты адказны момант табе і сядзець у браневіку. Займай сваё месца.

За рулём сядзеў зусім малады салдацік. Пачуўшы, што за чалавека прывёў камісар, салдацік замітусіўся ад збянтэжанасці і сунуўся быў наверх, каб выскачыць. Але я затрымаў яго. «Сядзі, — кажу, — месца хопіць абодвум. А калі ты ў браневіках не навічок, то павінен ведаць, што ў баявую машыну назначаецца галоўны шафёр, а пры ім абавязкова павінен быць і запасны».

Размясціўся я за рулём — а сам усё яшчэ не магу апамятацца, якім дзіўным выпадкам я зноў у браневіку... Ды ці ж гэта і сапраўды тая самая «двойка»? Вярчуся, азіраюся, абмацваю кожнае месца, правяраю. Ззаду ў мяне двое хлопцаў — кулямётчыкі, кожны ў сваёй вежы. Пры-

кмячаю, што станкі пад кулямётамі светлыя, латунныя, — і радасць разліваецца ў сэрцы. «Іменна такія ж, не жалезныя, а латунныя былі і тады, у красавіку». Рулявое кола тут з чорнай матавай гутаперчы — зноў жа адпаведная прыкмета... Пацягнула мяне перагнуцца цераз парожак, зірнуць: а якая ж прыступка? Тады яна была падобна на шуфлік для вуголляў. Камісар стаяў перад дзвярыма і абапіраўся на прыступку нагой. Збочыў ён, даў паглядзець: праўда, і прыступка тая ж!

Тут камісар і гаворыць:

— Чаму ты ўсё азіраешся? Раскажы хлопцам, што сядзяць з табой у браневіку, як Леніна сустракалі. Ім гэта карысна ведаць. Ды і мне не лішне будзе паслухаць.

І расказаў я, што пасля мітынгу ля Фінляндскага вакзала на прыступку гэтага браневіка станавіўся Ленін. Абапёрся на яе нагою і гэтак лёгка адштурхнуўся ад зямлі. Я падаў было яму руку, каб дапамагчы ўвайсці. Навокал жа браня, вострыя вуглы ды няроўныя закраіны: ужо нашто мы, бранявыя салдаты, прывычныя, — і то заўсёды ў сіняках. Але Уладзімір Ільіч сказаў: «Дазвольце, дазвольце, таварыш, я сам. Гэта нават цікава: ускарабкацца да вас — і не выцяцца». І стаў акуратна пралазіць у машыну. Сеў побач са мной на драўляную лаўку, скінуў шапку і весела звярнуўся да мяне: «Прашу праверыць — ніводнага сіняка!»

Расказаў я і пра тое, што было далей, як ехалі ад Фінляндскага вакзала да палаца Кшэсінскай: там змяшчаўся ЦК бальшавікоў. Язды на машыне па гэтаму маршруту — мінут дзесяць. А мы прабіраліся больш двух гадзін. У жыцці не бачыў я мільёна народу — а тут зразумеў: вось ён, мільён! Плошча перад Фінляндскім вакзалам вялікая, — і ўся яна была запоўнена рабочымі, салдатамі, матросамі. І па ўсёй дарозе віталі Уладзіміра Ільіча: «Ленін... Няхай жыве Ленін!» І Уладзімір Ільіч многа разоў выходзіў з браневіка, станавіўся на падножку і адказваў народу на прывітанні.

... Успамінаючы ўсё гэта, я так захапіўся, што не адразу зразумеў, што гэта такое грукнула ў мяне над галавою. Браня адгукнулася глухім гулам. Камісар паглядзеў здзіўлена ўверх... Але ў натоўпе, за намі, ужо здагадаліся: «Аўрора» ўдарыла!» І тут мы зразумелі, што нас ашукаў слых: над намі ж арка — яна, як вялікі, напоўнены ветрам парус; гук выбуху з карабля ўдарыў у арку, а там пераламіўся — і ў бранявік.

Камісар скінуў сваю скураную фуражку і паспешліва прыгладзіў валасы. Вочы яго расшырыліся, заблішчалі.

— Ну, таварыш Пракатчык... — і камісар растлумачыў мне задачу: ён з атрадам павінен быў атакаваць галоўныя вароты Зімняга. — Будзеш нам дапамагаць.

Ён пабег, прытрымліваючы на баку маўзер, да свайго атрада. Я зачыніў бранявую дзверцу, запёр яе на клямку і праз назіральную шчыліну глянуў уперад. Мутната, нічога не відаць. Бранявік — ён сам па сабе слепаваты, таму што, ідучы ў атаку, шчыліну звужваеш настолькі, каб не ўляцела варожая куля: тут адна мішэнь — шафёру ў лоб.

Паспрабаваў расшырыць шчыліну — стала трошкі відней: цяпер я адрозніў у цемры Аляксандраўскую калону... Ёсць арыентыр!

Паслаў свайго памочніка наверх заводзіць машыну. Пакруціў ён рычагом, а я ўключыў запальванне — узяла іскра ў цыліндрах, затросся бранявік.

— Кулямётчыкі, — пытаю, — як вы там, гатовы?

А яны:



— Давай, давай ходу... «Ура» ўжо навокал... Пачалося!

Ім жа ў вежах чутней: там акенцы ля кулямётаў. Але ў гэты час і ля самога браневіка разлілося магутнае, як мора: «Уставай, пракляцщем катаваны...» І загула пад нагамі чырвонагвардзейцаў маставая. Гэта мой камісар ужо вёў у атаку атрад.

Я ўключыў скорасць. Бяру кірунак на Аляксандраўскую калону. Маўчым. Пакуль не страляем, каб не выдаць сябе.

Мой хлапчына трымаўся-трымаўся, ды, відаць, не па сабе стала яму з непрывычкі. Трывожна зашаптаў:

— Куды ж страляць будзем?.. Цемра...

— А табе, — пытаю, — ілюмінацыя патрэбна? Добра, закажу ілюмінацыю.

Мінулі Аляксандраўскую калону—цяпер прастор для браневіка, можна дзейнічаць. Тут і там, то бліжэй, то далей, перакатваецца «ўра», трашчаць вінтовачныя і рэвальверныя стрэлы. А Зімні маўчыць, падпускае нас бліжэй. І на барыкадзе, складзенай з дроў і бярвенняў перад сценамі палаца, маўчанне. Затаіўся вораг, выглядвае, чакае... Але вось сярод дроў заскакалі агеньчыкі: па наступаючых ударылі кулямёты. Не надоўга ж хапіла ў вас вытрымкі, панове юнкеры і афіцэры!

Цяпер бой у адкрытую. Важна, каб праціўнік паказаў сябе, тады будзе відно, як дзейнічаць. Але не справіўся я даць параду кулямётчыкам, як яны ўжо самі паласнулі па барыкадзе двума доўгімі чэргамі. Адну мігалку ў дровах пагасілі. Узяліся лавіць другія.

І раптам — вось ужо адгадаў на здзіўленне — далі нам ілюмінацыю! Зімні па ўсяму фасаду асвяціўся ўспышкамі агнёў. Гэта з вокан, з дзвярэй палаца, з балконаў—адусюль залпамі забахкалі вінтоўкі, застрачылі кулямёты... Лабавая браня на браневіку загула, як барабан, ад тых куль, што пападалі ў яе.

— Вежы! — крыкнуў я.— Прайдзіся чаргою па вокнах і балконах — ды перанось агонь на галоўныя вароты... Чырвонагвардзейцам у падтрымку!

Бой разгараўся. На штурм Зімняга пайшоў бранявік — ленінскі!



Іван Козел нарадзіўся ў 1928 годзе ў вёсцы Канчаны Маладзечанскага раёна Маладзечанскай вобласці ў беднай сялянскай сям'і. Скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт у 1955 годзе. Зараз працуе настаўнікам у Ермакоўскай сямігадовай школе Маладзечанскага раёна. У 1957 годзе напісаў п'есу «Папараць-кветка». П'еса пастаўлена Беларускім рэспубліканскім тэатрам юнага гледача і прынята да пастаноўкі Брэсцкім тэатрам імя Ленінскага камсамола.

На Ўсесаюзным фестывалі тэатраў юнага гледача за п'есу «Папараць-кветка» І. Козелу прысуджана званне лаўрэата фестывалю, а тэатр за спектакль атрымаў дыплом І ступені.



**Іван КОЗЕЛ**

# ПАПАРАЦЬ-КВЕТКА

*Драма ў 3 дзеях, 5 карцінах з пралогам*

ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ:

Лабыш Антось — заможны селянін.
Анатоль, Яніна — дзеці Лабыша.
Надзя — траюрадная сястра Анатоля і Яніны.
Ганецкі — белапольскі асаднік.
Лявон — парабак Лабыша.
Міхась — Лявонаў сябар, батрак.
Люба — вясковая дзяўчына, батрачка, Надзіна сяброўка.
Дзед Струкач — вясковы бядняк.
Янук, Базыль — сяляне.
Марыля, Альжбета — сялянкі.
Адась, Максім — дарослыя дзеці Альжбеты.
Жабрак.
Лесьнічыха.
Камендант паліцыі, тры паліцэйскія, хлопцы, дзяўчаты, жанчыны, шаферы і шаферкі на вяселлі, госці, музыканты.

Дзея адбываецца ў адной з вёсак былой Заходняй Беларусі напярэдадні вызвалення.

## ПРАЛОГ

На авансцэну выходзіць стары дзед, былы жабрак.

Дзед. Здаровы, дзеткі мілыя і ўнучкі мае. Дай божа вам усім пажыць на свеце столькі гадкоў, колькі мне давялося, а то яшчэ і болей. А пажыў я, дзякаваць богу, нямала. Колькі мне гадоў зараз, дык я добра і не ведаю, ну, думаю, што больш, чым сто, бо радзіўся я, казалі, як Крымская вайна пачалася, а гэта было вельмі даўно. Радзіўся я каля



Гродна — так, мусіць, было богу ўгодна — і свой край Беларусь Заходнюю я ведаю, можна сказаць, як сваіх пяць пальцаў. Я прайшоў яго ўздоўж і ўпоперак з торбай праз плечы не адзін раз — я быў жабрак і ад торбаў мяне толькі савецкая ўлада вызваліла — і бачыў шмат добрага і дрэннага, больш дрэннага, вядома. Я начаваў часта ў гушчы Белавежскай пушчы, піў ваду з цудоўнага возера Нарач, купаўся ў магутным Нёмане, бачыў шмат усялякіх людзей. Пра нашых людзей і пра іх жыццё-быццё я і хачу расказаць вам зараз. Было гэта не так даўно, усяго дваццаць гадоў таму назад, але ўжо верыцца з цяжкасцю і здаецца нейкай незвычайнай казкай. А было ж тое на самай справе, мілыя.

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

### Карціна першая

Ноч. На поплаве паміж лесу і ракі — вялікі яркі агонь. Вакол агню сядзіць моладзь і музыканты. Сярод іх Люба, Яніна, Лявон, Міхась, Адась. Хлопцы пражаць на агні жытнія каласы, дзяўчаты ўюць з васількоў вянкі і спяваюць:

На свята Івана
Дзеўкі зелле капалі,
Дзеўкі зелле капалі,
Яны яго не зналі.
Яны яго не зналі,
У татулькі пыталі:
— Скажы, татулька, скажы,
Ды што гэта за зелле?
Ды што гэта за зелле,
Чырвонае карэнне?
— Гэта, дзеткі, купалле —
Дзявоцкае ўмыванне.
Дзявоцкае ўмыванне,
Хлапецкае каханне.

Люба. Так, здаецца, вянкоў для ўсіх ужо хопіць.

Яніна. А чаму хлопцы не памагаюць спяваць нам?

Лявон. Вы так суладна зачалі, што мы баяліся, каб песні не сапсаваць вам.

Яніна. Кашы маслам не сапсуеш, а песні — голасам такім, як у цябе.

Надзя. Памагайце ўсе — Адась, Міхась!..

Міхась. Адась пець не будзе.

Надзя. Чаму?

Міхась. Таму, што ты яго не пахваліла так, як Яніна Лявона.

Адась *(да Міхася)*. Ты вачыма пасі, але язык прыкусі. Мы ж, напрыклад, нічога не кажам пра цябе з Любай.

Люба. Бо пра нас ужо казаць няма чаго: усё перагаворана даўно. *(Запявае.)*

Былі ў удавы ды тры дачкі:

*(Усе хлопцы і дзяўчаты падхопліваюць песню.)*

Адна была тонка, высока,
Друга была бела, румяна,
А трэцяя — чорна, малая.
Тонка, высока — выйшла далёка,
Бела, румяна — выйшла за пана,

Чорна, малая — за караля.
Сталі шваргы з'язджацца,
Сталі з караля смяяцца:
— Ці табе, кароль, дзевак не было,
Чаму не браў белай, румянай,
Чаму не браў тонкай, высокай?
А нашто ўзяў чорну, малую?
— Тонка быліна — выгінастая,
Белая рэдзька — чарвівая,
Чорная зямелька — урадлівая.
А малая пчолка — мядлівая.

Н а д з я. Во, зусім інакш, як басы ўмяшаліся.

Я н і н а. А вядома...

Л ю б а. Ну, дзяўчаткі, пачнем варажыць.

Я н і н а. Пара, пара!

Н а д з я. Бярыце, хлопцы, па вянку кожны і пойдзем да вады.

М і х а с ь *(беручы вянок)*. Што ж, давайце паварожым. Чым жа яшчэ тут зоймешся?..

А д а с ь. Але, у кіно ці ў тэатр у нас жа не сходзіш. *(Бярэ вянок.)*

Л я в о н. Яшчэ добра, што паліцыя варажыць нам не забараняе. *(Узяўшы вянок.)* О, які мне прыгожы папаўся!

Усе хлопцы бяруць па вянку і па прыкладу дзяўчат адзяюць іх сабе на галовы.

Л ю б а. То ўставайце, пакуль курч у ногі не ўбіўся, ды на бераг хутчэй.

М і х а с ь *(устаючы)*. А сапраўды, у мяне ўжо змярцвела адна нага.

Усе ўстаюць і ідуць на бераг ракі, спяваючы:

Між гор, між даліны
Цякуць тры ручаіны.
Каля тых ручаёчкаў
Малойчык пахаджвае,
Ручаёк аглядае:
Адзін ручаёчак — салодкі мядочак,
Другі ручаёчак — зеляно віно,
Трэці ручаёчак — крынічная вада.
Салодкі мядочак для маладога малайца,
Зеляно віно — для дзяўчыны яго,
А крынічная вада — для варанога каня.

Л ю б а *(здымаючы з галавы вянок)*. Ну, каралі і каралевы, скідайце свае кароны.

Усе здымаюць вянкі з галоў.

Л ю б а. Аддадзім мы іх у дар цару вадзяному, і няхай ён нам за гэта пакажа, хто з кім пажэніцца ў сёлетнім годзе. *(Ліча.)* Раз, два, тры — плі!

Усе кідаюць вянкі ў ваду і сочаць за імі.

Н а д з я. А чые ж гэта вянкі сышліся?

Л я в о н. Адзін — мой.

Я н і н а. Другі — мой.

Л ю б а. О, вяселле! Вяселле будзе!

Дзяўчаты і хлопцы акружаюць Лявона з Янінай і пяюць ім:

Свякроў нявесткі жадом жадала,
Па ўсіх дарожках старажоў стаўляла.
— Не едзь, нявестка, ка мне фарсіста —



Прыедзь, нявестка, ка мне шчаслівa:
Ды пусці шчасце па маёй хаце,
Ды пусці долю па маім полі.

Л я в о н. Дык вось найгоршая бяда, што ў мяне поля ніякага няма.

Л ю б а. Але ж вы любіце адзін аднаго.

Л я в о н. Адкуль ты ўзяла гэта?

Х л о п е ц. А дзе там Лявону прыступіцца да Яніны за асаднікам. Ганецкі ж за ёй, як цень, па пятах ходзіць.

Л я в о н. Ды хіба ж можа што быць паміж парабкам і яго гаспадыняй.

Л ю б а. Шыла ў мяшку не ўтоіш. Гэта там Лабыш пад носам у сябе не бачыць нічога, а людзям збоку лепш відаць.

Л я в о н. Людзям часам і мурашка канём здаецца.

Я н і н а. Ды ты ўжо не апраўдвайся, Лявон!

А д а с ь. Правільна, бо не ашукаеш нікога.

Л ю б а *(да музыкантаў)*. А цяпер, музыканцікі, вы нам польку рэзніце, але такую — драбней маку! Каб нашы непаваротлівыя хлопцы і на адной назе выкруціцца не маглі.

Музыканты іграюць польку ў паскораным тэмпе.

М і х а с ь *(падыходзячы да Любы)*. Ну, давай жа паспрабуем, ці выкруцімся.

А д а с ь *(падыходзячы да Надзі)*. Праўда што.

Уся моладзь ідзе танцаваць, Лявон танцуе з Янінай.

М і х а с ь *(танцуючы, да Любы)*. Ты сама мешкаватая, я гляджу.

Л ю б а. А цябе, мусіць, нейкі віхор круціць, толькі не музыка.

М і х а с ь. Эх ты!.. *(Камандуе.)* Дзеўкі! Трымайся за дзягу: польку ўлева!

Усе пары круцяцца шпарка ў левы бок. З'яўляецца А л ь ж б е т а з кіем у руках.

А л ь ж б е т а *(падыходзіць да музыкантаў і кладзе руку на гармонік)*. Досыць іграць!

Музыка сціхае.

А л ь ж б е т а *(да Адася)*. Дзяцюк, марш дамоў!

А д а с ь *(вызваліўшы з рук Надзю)*. Чаго гэта?

А л ь ж б е т а. Яшчэ пытаецца — чаго, неслух! Думаеш не бачу, што ты з гэтай жабрачкай — служанкай Лабышавай — круцішся!

А д а с ь. Яна мая нявеста.

Л я в о н. Брыдка, цётка, абражаць так дзяўчыну, брыдка!

А л ь ж б е т а. Ты — не адвакат яе і не суддзя мне, так што не сунь свайго носу, куды не трэба.

Н а д з я непрыкметна ідзе да лесу і знікае ў ім.

Л ю б а. Дык, па-вашаму, цёця, я таксама нічога не варта, раз я бедная?

А л ь ж б е т а. Я да цябе нічога не маю: ты не вяжашся да майго сына!

А д а с ь. Ідзі спаць, старая. Што табе тут трэба?

А л ь ж б е т а *(стукаючы кіем у зямлю)*. Як што? Павянчаць вас

прышла! Пакуль поп, дык я першая хачу! *(Заўважыўшы, што Надзі няма.)* Во, як яе змяло. Цяпер і я магу ісці дахаты.

Адась *(убачыўшы, што Надзя знікла)*. Надзя! Надзя! Пачакай!

Бяжыць шукаць яе, але ў працілеглы бок.

Альжбета *(услед яму)*. Каб ты ногі паламаў! Каб табе вочы павылазілі! Вярніся!.. От, божа мой мілы, людзі зямлю шукаюць, людзі грошы пытаюць, а ён жа бы хоць карову ці свінню якую ўзяў...

Яніна. Ну, яму ж, мусіць, не карова і не свіння, а жонка патрэбна!

Міхась. Але, не ўсе ж на пасаг квапяцца. Вось я таксама з батрачкай жанюся.

Альжбета. А што ж ты хацеў яшчэ? Якія самі, такія і сані. Я люблю праўду ў вочы сказаць.

Лявон. Няма чым вельмі і Адасю вашаму казырыцца — дзесяць дзесяцін з братам на абодвух.

Альжбета. Але ён сам сабе гаспадар, і якая-небудзь голая костка не пара яму, не-е!

Міхась. А што вы зробіце, калі ён прывядзе яе ў хату вам?

Альжбета *(трасучы кіем)*. Я на ёй увесь качарэжнік пераламаю... І на ім разам! Так і перадайце ёй, няхай яна і не мастыгуецца.

Лявон. Хутка станем усе родныя і зямля ўся наша будзе.

Альжбета. Пакуль сонца ўзыйдзе, раса вочы выесць.

Адыходзіць.

Яніна. Ну і перчык!

Люба. Гром-баба.

Міхась. І вочы маланкай смаляць.

Усе садзяцца вакол агню, і дзяўчаты запяваюць:

Ой, баравая цяцера,
Чаго ты з бору ляцела?
Ці табе ў бары надаела?
У бары — ягодкі салодкі,
У бары — крыніца сцюдзёна,
У бары травіца зялёна.
Ой, маладая дзяўчына,
Чаго ты замуж хацела?
Ці табе ў мамкі надаела?
У мамкі — парожкі нізенькі,
У мамкі — вядзёркі маленькі,
У мамкі — вадзіца блізенька.

З'яўляецца Адась.

Яніна *(да Адася)*. А дзе Надзя?

Адась. Не ведаю, нідзе не бачыў. Не інакш, як лесам пайшла. Ох! Ну і гора мне з маткай сваёй: такая незгаворлівая старая — не дай бог! *(Садзіцца і ўглыбляецца ў свае думкі.)*

Люба. Родная матка — не мачыха: пазлуе і адпусціцца... Што яшчэ, дзяўчаткі, спяём? Можа «Ой, бела, бела бярозка» ці «Зыбнула мора, зыбнула».

Яніна. Не, давайце лепш — «Ой, былі, былі на рынку».

З'яўляецца дзед Струкач і Максім.

Дзед Струкач. Гэтыя песні, дзяўчаткі, мы чуем з году ў год. Вы што-небудзь навейшае спейце.



Максім. А праўду дзядуля кажа.

Люба. Я не супраць — давайце. *(Запявае.)*

Сягоння купалле — заўтра Ян, —
Прыдзе, панове, ліха вам!

*(Песню дружна падхопліваюць іншыя.)*

Ой, ліха, ліха ліхое,
Мінецца вам панства такое!
Не будзеце вы балявать —
Заставім мы вас працаваць.
Абрыдлі вам шакалады,
А будзеце бульбачцы рады.
Ад бульбы ж і саладухі
Скора падсохнуць вам брухі...

Дзед Струкач. Во, зусім іншая рэч.

Адась *(ачнуўшыся пасля гэтай песні ад сваіх думак)*. Цудоўная песня! Брава, Любка, брава. *(Пляскае ў ладкі.)*

Люба. А што цяпер будзем рабіць?

Яніна. Пойдзем кветку папараці шукаць: сёння ж купальская ноч і ўжо хутка поўнач будзе.

Люба. Дзе яна ёсць, тая папараць-кветка! Гэта ўсё байкі людскія

Дзед Струкач. Правільна, я шукаў яе ў маладосці і дарэмна. Значыць, няма яе.

Міхась. Чаму няма? Ёсць папараць-кветка. Толькі яна пакуль што ў нас для адных паноў цвіце... Але хутка яна і для нас расквітнее.

Люба. Не ведаю, ці прыдзе гэтае свята.

Лявон. Прыдзе свята, будзе свята. Гэта так ясна, як тое, што сёння купалле.

Дзед Струкач. Дай жа, божа!

Адась. На бога няма чаго спадзявацца, трэба самім дабівацца.

Дзед Струкач. Але як дабівацца?

Міхась. Трэба рабіць тое, што ў лістоўках пішуць.

Яніна. Ціхаце, ведзьма ідзе... Лесьнічыха.

Люба. Чаго ж яе нялёгкае гоніць сюды?

Міхась. Заробку лёгкага шукае.

Адась. І дурняў лёгкаверных.

Яніна. Не гаварыце: яна шмат што і ведае.

Лявон. Яна толькі хітрая вельмі.

Максім. І шкодная.

Люба. Што шкодная, то праўда. Гэта ж малако ад каровы адбярэ, і крапіва не памагае, што на купалле пад хлявом павесіш.

З'яўляецца Лесьнічыха.

Лесьнічыха *(складаючы накрыж рукі)*. Літась боская на ўсіх веруючых і гнеў божы на ўсіх недаверкаў...

Міхась. Выходзіць, вы ў бога верыце, а кажуць жа, што з нячыстай сілай звязаны.

Лесьнічыха. Мне падуладны неба і пекла.

Адась. А якой жа магіяй вы больш займаецеся, белай ці чорнай?

Лесьнічыха. Нараўне. На добрых людзей я анёлаў пасылаю, на ліхіх — чарцей пускаю.

Дзед Струкач. Ты, баба, хітрая, але ты б узяла паказала нам цуд які.

Яніна. Што вы, дзядуля!

Лесьнічыха. Хто сваю сілу растрачвае без патрэбы, той не можа быць моцны... *(Дастаўшы карты і тасуючы іх.)* Ну, каму паваражыць: усю праўду далажыць: што было, што будзе згадаць; добрую параду даць... Як, ніхто не хоча варажыць?.. Тады, можа, каго палячыць? Я зелляў шмат маю і ўсім памагаю — ад кашлю і колькі, ад усялякай болькі...

Дзед Струкач. Ведаю: ты і здароваму хваробы нагнаць можаш.

Міхась. І грэшнага ў рай адправіць.

Адась. Нічога дзіўнага. Лекі папраўляюць і атручваюць.

Лесьнічыха. А я кабета спагадлівая: нікому ні ў чым не адмаўляю... Але ў мяне няма атруты. У мяне ёсць толькі жывая і мёртвая вада.

Максім. А што ў вас яшчэ ёсць, цікава?

Лесьнічыха. Усё ёсць. Калі хлопец не кахае, зелле дам — і спадабае. Каб дзяўчыну ашукаць, магу такога зелля даць.

Дзед Струкач. А ты старога памаладзіць можаш?

Лесьнічыха. Магу, толькі гэта вельмі, вельмі дорага каштаваць будзе.

Дзед Струкач. А брыдкага прыгожым таксама зрабіць можаш?

Лесьнічыха. Вядома. Толькі і гэта не па мужыцкай кішэні... А чаму ты пытаешся?

Дзед Струкач. Бачыш, і мне б хацелася дзеўкам падабацца.

Лесьнічыха. Табе? Дзеўкам?

Дзед Струкач. А што? Ды я б яшчэ, каб абняў каторую ды пацалаваў, дык яна б не ведала ад шчасця, на якім свеце знаходзіцца.

Лесьнічыха. От лунь сівы!

Дзед Струкач. Я сівы, але яшчэ маю кавалак сілы. Я яшчэ б і ажаніўся, каб гэтак дзе кабеціну ўсмятку знайшоў.

Лесьнічыха. Ат, што мне галіць зубы з табой! Няма ў мяне часу на гэта. *(Да моладзі.)* Дык прыходзьце да мяне, мілыя, усяго магу даць: любізніку, разлюбізніку — чаго каму трэба будзе. *(Выходзіць.)*

Адась. Во дзе шарлатанка!

Яніна. Чыстая шайтанка! Добра, што і пайшла адсюль.

Дзед Струкач. Пайду і я. Не буду перашкаджаць вам. Паглядзеў на вас крыху і хопіць з мяне. Гуляйце, весяліцеся сабе. *(Выходзіць.)*

Люба. Ну, а зараз, хто хоча ўбачыць у сне свой лёс або свайго суджанага, няхай памыецца ў пшанічнай расе і, не размаўляючы ні з кім, ідзе спаць. Тое, што прысніцца ў гэтую ноч, адбудзецца абавязкова. Так што бягом да пшаніцы!

Дзяўчаты выбягаюць.

Адась *(адвёўшы Міхася, Лявона і Максіма ўбок)*. Мне трэба, хлопцы, пагаварыць з вамі. Правядзем крыху дзевак і назад вернемся.

Міхась. Ёсць што новае?

Адась. Ёсць.

Лявон. Дык добра.

Прыбягаюць дзяўчаты, усе з мокрымі тварамі.

Лявон. Яня!

Міхась. Люба!

Адась. Што вы, паглухлі?

Лявон *(пяе)*:



Разлягайцеся, прыпеўкі,
Пад самае неба,
Панямелі нашы дзеўкі,
Нам такіх не трэба.

Смех.

Міхась. *(Да Любы)*. Можа цябе падвесці да хаты?

Люба. Я і без цябе дайду... Цьфу, спакуснік!

Яніна *(гледзячы на Любу)*. Х-ха-ха!

Лявон *(да Яніны)*. Што, і ты прагарэла?

Яніна. Не, я ж толькі... А каб цябе немач!

Весела гамонячы паміж сабою, моладзь і музыканты разыходзяцца.

Лявон. Пачакай, Янечка. Раз нашы вянкі, як і душы, сышліся, дык дазволь жа мне гэта падарыць табе — пярсцёнак. На, вазьмі разам з сэрцам маім.

Яніна. Я буду берагчы яго і клянуся табе святым Іванам Купалам, што буду твая.

Лявон. А калі бацька ўсё-такі не захоча аддаць цябе за мяне?

Яніна. Клянуся табе яшчэ раз: я буду твая... альбо нічыя.

Лявон. Дык пойдзем, мая радасць, я правяду цябе крышку.

Лявон і Яніна адыходзяць. Нейкі момант на поплаве пуста, потым з'яўляецца Ганецкі і Анатоль. Анатоль у форме фашысцкай арганізацыі «Стралец».

Ганецкі. Хутарызацыю мы павінны правесці. Гэта наш абавязак дапамагчы паважанаму сялянству, як бы там ні супрацівілялася галата...

Анатоль. Ціха, нехта ідзе сюды. Можа якая-небудзь бесклапотная парачка начлег сабе тут аблюбавала. Давайце схаваемся ды паглядзім.

Ганецкі і Анатоль хаваюцца ў кусты. З'яўляюцца Адась, Міхась і Максім.

Адась. А дзе ж Лявон?

Міхась. З каханай, відаць, ніяк не могуць развітацца.

Максім. І чым гэта ў іх скончыцца, цікава?

Адась. А вунь і ён ідзе.

З'яўляецца Лявон.

Міхась *(да Адася)*. Дык кажы, што там за навіны.

Адась. На Мядзельшчыне паўсталі нарачанскія рыбакі. На Палессі бастуюць лесарубы, у Лідзе — чыгуначнікі...

Лявон. Здарова.

Адась. У Беластоку і Брэсце ў дэманстрацыях удзельнічалі і сяляне. Тут змяшаліся і палякі, і беларусы, і яўрэі... Што там рабілася — жудасць! А паліцыя баялася і носу высунуць на вуліцу.

Максім. Дзе ты чуў гэта?

Адась. Сёння ў укоме збіраліся сакратары ячэек.

Міхась. Трэба і нам дапамагчы гораду.

Адась. Так. Але трэба дапамагаць не толькі прадуктамі, а і жывой сілай. Трэба зваць сялян на дэманстрацыю, а там і на барыкады...

Міхась. Ясна. А што рабіць з паліцыяй, якая цяпер разам з каморнікамі за хутары ўзялася? Там не гаварылі часам?

Максім. Каламі, каламі яе з поля!

Адась. На паліцыю трэба пускаць жанчын з дзецьмі. Гэта памагае,

кажуць. Штрафаў не плаціць. Растлумачваць народу, што грошы са штрафаў ідуць на ўтрыманне тайнай паліцыі, а таму лепш адседзець колькі сутак, чым плаціць.

Лявон. Лістоўкі ёсць?

Адась. Ёсць. *(Дастае з-за пазухі жмут лістовак, дае частку лістовак Лявону, частку Міхасю.)* Вы іх расклейце ў вёсцы сёння. Ты, Максім, вазьміся за збор хлеба бастуючым рабочым.

Максім. Гэта дробязь. Я яшчэ бяруся каменданта і войта ўкакошыць.

Адась. І што з таго? На іх месца другія стануць. Рабі тое, што табе загадана... Ну, пойдзем адсюль, бо зараз і ноч разбяруць людзі... *(Устае са свайго месца.)*

Хлопцы адыходзяць. З кустоў вылазяць Ганецкі, за ім Анатоль.

Ганецкі. О, калі напалі на бальшавіцкае гняздо. Вось хто народ муціць.

Анатоль. Я вярнуся на пастарунак і заяўлю ў паліцыю. Зробім з імі тое, што з Міколам Глінскім і Сцёпкам Бутовічам. Схапіць свалату сёння ж.

Ганецкі. Не гарачыся, трэба высачыць, з кім бунтаўшчыкі больш у вёсцы звязаны, каб з карэннямі знішчыць крамолу.

Анатоль. Я з іх вока не спушчу цяпер. Басата праклятая!.. Ну, бывайце, нам далей не па дарозе.

Ганецкі. Давідзэння. Не забудзьце перадаць ад мяне прывітанне ойцу і панне Яніне. Скажыце ойцу, што я ў вас на днях буду і намякніце яму аб маіх намерах.

Анатоль. Я ўсё зраблю, пане Ганецкі, што ад мяне залежыць.

Разыходзяцца.

Заслона.

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

### Карціна другая

Пакой у доме Лабыша. Злева, бліжэй да гледачоў — уваходныя дзверы; насупраць — дзверы ў суседні пакой. У левым куце на лаве стаіць прасніца з кудзеляй, пры ёй на падлозе — калаўрот. У правым куце пад абразамі — доўгі кухонны стол і тры табурэткі. Каля ўваходных дзвярэй — шырокая канапа. У пакоі Яніна і Надзя. Яны прыбіраюць са стала рэшткі ежы.

Надзя. Дык хоць і люблю я яго, але прыдзецца выкінуць з сэрца. Нашто ж мне цярпець такую абразу? Ці на ім ужо свет клінам сышоўся? Учора і свята было, але я знарок яму на вочы не паказвалася.

Яніна. А хіба ён вінаваты, што ў яго маці гэтакая?

Надзя. Няхай яна выбірае яму каго сабе хоча, а я і без яго пражыву.

Яніна. Нічога, усё будзе добра, я думаю. Матка не перашкодзіць яму ў жаніцьбе. Калі яна не супакоіцца, дык ён і аддзяліцца ад яе можа. Я вось у горшым становішчы, ды і то духам не падаю. Мой бацька не гэтак заскача, як пачуе, што я Лявона кахаю.

Надзя. А пачуе, бо людзі падняпі ўжо на языкі.

Яніна. Мы самі яму хутчэй скажам аб гэтым. Хопіць гуляць у хованкі!



Уваходзіць Анатоль.

Анатоль. Ідзі, Яня, копы растрасаць, а то сена не высахне.

Надзя. Ідзі, Янечка, і я зараз іду, толькі хату падмяту.

Бярэ венік і мяце хату. Яніна выходзіць.

Анатоль. Ты сёння незвычайная, Надзя, — свежая, румяная.

Надзя. Як крапіва пад плотам.

Анатоль. Не-е, як гародняя ружа.

Надзя. Ну-у, выдумаў!

Анатоль. У цябе любы пан можа закахацца, калі ўбачыць.

Надзя. Што гэта табе прышло ў галаву хваліць мяне?

Чуецца тупат ног за дзвярыма.

Анатоль *(незадаволена)*. Некага ж нясе сюды нячыстая сіла.

Уваходзіць Люба.

Люба. Добры дзень.

Надзя. Добры дзень, Любка.

Люба. Ну, Толік, я прышла па грошы за поліва.

Анатоль. І колькі ж табе належыць?

Люба. Па злоту за дзень, як і дамовіліся, а за два дні — два злоты, значыць.

Анатоль. Не дам я табе па злоту: за табой палавіна травы засталася. Калі хочаш, па пяцьдзесят грошаў заплачу.

Люба. Дзе ж там тая трава? Што ты выдумляеш?

Анатоль. А дзе гэта хто бачыў, каб бабы па злоту ў дзень зараблялі?

Люба. Ты не будзь хітрэй свайго бацькі. Ён хоць і скупы, але калі дамовіўся, то не скруціць.

Анатоль. На табе паўтара злота і не барабань тут, як малатарня! Гэтага аж зашмат для цябе.

Дастае з кішэні грошы і працягвае іх Любе.

Люба *(беручы грошы.)* Няхай табе майго паўзлота праз бок вылезе, круцель! Ну, больш ты мяне не ашукаеш. *(Выходзіць.)*

Анатоль *(услед ёй)*. Кляні, кляні! Але на сябе бяры.

Надзя. О, ты ўжо, бачу я, лепш за бацьку за гаспадарку стаў брацца! Ці не жаніцца задумаў толькі?

Анатоль. А ты пойдзеш за мяне замуж?

Надзя. Не смейся з мяне.

Анатоль. Я не смяюся. Я сур'ёзна пытаю, бо ты мне падабаешся.

Надзя. Я ж сястра твая.

Анатоль. Якая ты ўжо мне сястра? Траюрадная — дзесятая вада на кісялі, як кажуць.

Надзя. У цябе ж ёсць Антаніна.

Анатоль. Антаніна... Нашто яна мне — рабая, старая.

Надзя. Але ж у яе панчоха золата. А я ж бедная.

Анатоль. Тваё хараство даражэй яе багацця, калі хочаш ведаць.

Надзя. Не веру я ніводнаму слову твайму!.. *(Ставіць у кут венік і хоча выйсці з хаты, але Анатоль заступае дарогу ёй.)* Што табе трэба ад мяне?!

Анатоль. Я люблю цябе і буду з табой жаніцца. *(Раптам абдымае*

*Надзю і цалуе.)* Ты не бойся мяне, што б я ні зрабіў з табой, я цябе не кіну. *(Прыціскае яе мацней да сябе.)*

Надзя падымае крык. На крык убягае Лабыш. Анатоль пускае Надзю.

Надзя *(да Анатоля)*. Нахабнік! *(Выходзіць.)*
Лабыш *(да Анатоля)*. Эх ты, скаціна бязрогая... Жаніўся б, калі так ужо не церпіцца.
Анатоль. Што, можа з ёй і жаніцца скажаш?
Лабыш. А чаму б і не з ёй? Чым кепская дзеўка?
Анатоль. Ну, каб жа яе цудоўныя ножкі ды мелі дзесяцін дзесяць зямлі пад сабой, або каб да яе прыгожага твару ды хоць пару тысяч злоцікаў, дык можна было б і пра жаніцьбу падумаць.

Лабыш. Дык вось прышоў час адкрыць табе, хто такая Надзя. Аб ёй тут ніхто нічога не ведае, таму што яна папала да нас здалёку і зусім маленькая, а я знарок трымаў усё ў таямніцы. Яе бацькі пакінулі ёй пасля смерці валоку зямлі. Тую зямлю я прадаў і грошы паклаў у банк на яе імя.

Анатоль. А чаго ж ты, бацька, раней не гаварыў мне аб гэтым. На чорта ж я час марнаваў з зязюляй старой — Антанінай Пясецкай.
Лабыш. І гэна дзеўка добрая.
Анатоль. Дык Надзя маладзейшая, харашэйшая.
Лабыш. І ў хаце ўжо ў нас.
Анатоль. Не ведаў я, што яна дзеўка цёплая, — не было б таго. Але нічога, я сваю памылку папраўлю.
Лабыш. Ну, ты ўжо, можна сказаць, у парадку. Застаецца толькі Яню ўпарадкаваць.
Анатоль. Цьфу ты! Я ж і забыўся зусім, для яе ж жаніх добры здараецца — пан Ганецкі. Заўчарых ён аб'явіў аб сваім жаданні парадніцца з намі.
Лабыш. Ганецкі! Дык ён жа паляк.
Анатоль. Рускі ці паляк — усёадно хрысціянін. Лепшага жаніха не падбярэш.
Лабыш. Ды я не аб гэтым... Ён жа пан...
Анатоль. А мы што — лыкам шыты? *(Папраўляе пояс на стралецкім мундзіры і канфедэратку на галаве і збіраецца ісці.)*
Лабыш. Бач ты — Ганецкі! *(Заўважыўшы, што Анатоль адыходзіць.)* Дык ты і сёння работу кідаеш?!
Анатоль. Без патрэбы я ніколі не адлучаюся з дому. У нас сёння заняткі на стрэльбішчы.
Лабыш. Каб яны пагарэлі, гэныя твае заняткі, як яны цябе ад работы адрываюць.
Анатоль. Нічога не зробіш, бацька, — служба.
Лабыш. Загінеш ты некалі праз гэтую сваю службу: звязаўся з паліцыяй, на чорта яна табе!
Анатоль. Ага, добра радзіш — кінь! Лепш ты на маё месца другога парабка наймі, а з пачэснай службы мяне не зрывай. Камуністы хочуць ад нас зямлю адабраць, а мы, стральцы, павінны абараняць ад іх нашу зямлю.
Лабыш. А хто ў цябе адбірае тваю зямлю?
Анатоль. Ёсць такія!

Стук у дзверы.



Лабыш. Калі ласка.

Уваходзіць Ганецкі.

Ганецкі. Добрага ранку панству!
Анатоль. Добрай раніцы! Вы лёгкія на ўспамін, пане Ганецкі! Мы толькі што гаварылі пра вас, і вы тут як тут!
Ганецкі. А што ж вы такога гаварылі пра мяне, панове?
Анатоль. Я расказваў бацьку аб тым, што вы хочаце аказаць нам вялікі гонар...
Ганецкі. І як ойцец глядзіць на гэта? Згодзен ён аддаць мне руку сваёй цуркі?
Анатоль. А вось няхай ён сам вам скажа. *(Да Лабыша.)* Можа, тата, Яню паклікаць у хату?
Лабыш. Пакліч.

Анатоль выходзіць.

Ганецкі. Дык што вы мне скажаце, пане Лабыш?
Лабыш. Не ведаю, як тут нам, мужыкам, радніцца з панам.
Ганецкі. Я лічу, што мы паны з вамі роўныя, хоць я паляк, а вы беларус, бо багацце ж у нас аднолькавае.
Лабыш. Дык я то не супраць быў бы аддаць за вас сваю дачку, але хацеў бы пачуць спярша, што яна сама наконт гэтага думае. А вось і яна ідзе ў хату. Я вас пакіну адных тут. Наперад вы пагаварыце з ёй, а потым я...

Уваходзіць Яніна.

Ганецкі. Дзень добры, панна Яніна.
Яніна. Дзень добры пану Ганецкаму.
Ганецкі. Маю гонар пацалаваць вашу пяшчотную беленькую ручку. *(Цалуе яе ў руку.)*
Лабыш. Ну, ты, Яня, займі тут чым-небудзь пана Ганецкага, пакуль я вярнуся. Пан Станіслаў павінен адчуваць сябе ў нас, як дома. *(Выходзіць.)*
Ганецкі. Дык што ў панны Яніны добрага чуваць?
Яніна. От, нічога такога важнага... *(Садзіцца за прасніцу.)*
Ганецкі. *(гледзячы, як яна прадзе)*. А нашто вам самой працаваць, панна Яніна? Ці ж вы не можаце знайсці сабе якога-небудзь шляхетнага занятку? Куды глядзіць ваш ойцец?
Яніна. А мы не паны: мы не прывыкшы без работы сядзець.
Ганецкі. Я заўважаю, што панна Яніна і такая ж сціплая, як і слічная. Вы, відаць, хочаце быць вельмі багатымі, калі і самі працуеце разам з наймітамі. *(Дакранаецца рукой да кудзелі.)* Якое кастрывае зрэб'е — гэта ж вы можаце пакалечыць ім свае пенкныя, далікатныя пальчыкі!
Яніна. Ну, як вам не сорамна, пане Ганецкі, пражыўшы паўвека на свеце, гаварыць мне такія рэчы!
Ганецкі. А я яшчэ лічу сябе годным вашай кампаніі.
Яніна. Для маёй кампаніі вам ужо трэба было мець сыноў.
Ганецкі. Пажондны мужчына ніколі не спяшаецца з жаніцьбай. Для таго, каб абзавесціся сям'ёй, спярша неабходна звіць цёплае і ўтульнае гняздзечка, а потым ужо ўвесці ў яго сваю галубку.
Яніна. Птушкі супольна ўюць сабе гнёзды, і яны шчаслівыя.
Ганецкі. Ест птушкі, што і без гнёзд жывуць, дзеці іх па ўсім свеце

раскіданы і кукуюць яны ад таго цэлы свой век. Няўжо ж можна і ім пазайздросціць?

Я н і н а. Чым жыць у гняздзе старога глушца, лепш быць ужо беспрытульнай зязюляй.

Г а н е ц к і. Стары глушэц можа аказацца больш чулым і спагадлівым, чым якая-небудзь маладая варона.

Я н і н а. А што ж там кваліцца на тую варону, калі можна мець сокала.

Г а н е ц к і. Вам кпіць з мяне лёгка, панна Яніна, а каб вы разабраліся, то самі б убачылі, як можна было мне жаніцца дагэтуль. Пакуль пан Пілсудскі вёў вайну з бальшавікамі, я дабраахвотна змагаўся ў яго легіёнах, а калі вайна скончылася, я ў чыне плютуновага застаўся служыць звыштэрмінова і праслужыў у пагранічных часцях аж да сёлетняга года.

Я н і н а. А цяпер пайшлі б у манастыр — богу паслужыць.

Г а н е ц к і. Жарты жартамі, панна Яніна, але мне здаецца, што ўсё ж такі лепш панаваць, чым працаваць, і што вы не адмовіце мне, калі я да вас у сваты прыеду.

Я н і н а. Мне шкада вашых коней, што вы іх дарэмна гнаць будзеце.

Г а н е ц к і. Дзеля вас, панна Яніна, я паехаў бы на край свету.

Я н і н а. У імя бога, адчапіцеся вы ад мяне!

Г а н е ц к і. О, мне падабаецца нават ваша дзёрзкасць! А як бы я цаніў вашы ласкі, панна Яніна!

Я н і н а. Не чакайце вы іх ад мяне.

Г а н е ц к і. У такім разе мне дастаткова будзе і адной вашай павагі.

Я н і н а. І на гэта вы не спадзявайцеся.

Г а н е ц к і. Што ж, я згодзен кахаць вас і без усялякай узаемнасці з вашага боку, абы толькі вы былі маёй жонкай.

Я н і н а. Гэта немагчыма так, як і памаладзець вам на якіх-небудзь дваццаць — дваццаць пяць год.

Г а н е ц к і. Я крыху старэйшы за вас, праўда, але ж вы будзеце жыць за мной, як крулева. Падумайце над гэтым, панна Яніна.

Уваходзіць Л а б ы ш.

Л а б ы ш. Ну, вось і прышоў, пляшку гарэлкі прынёс. *(Дастае з кішэні бутэльку «казёнкі».)*

Г а н е ц к і. Не, пане Лабыш, за вудку вельмі дзякую. Не час цяпер распівацца. Давайце пакінем яе лепш на другі дзень.

Л а б ы ш. Тады тое само сабой будзе.

Г а н е ц к і. Не, няма як зараз: я ў гміну да войта спяшаюся. *(Ідзе да Яніны развітвацца.)* Давідзэння, панна Яніна. *(Цалуе яе ў руку.)*

Л а б ы ш. Неяк жа надта няёмка адпускаць гасця не пачаставаўшы.

Г а н е ц к і. Нічога, пане Лабыш, другім разам вып'ем... А пакуль што бывайце здаровы. *(Падае яму руку.)*

Л а б ы ш. З богам, пане Ганецкі...

Г а н е ц к і выходзіць.

Л а б ы ш. Дык што табе, дачка, пан Станіслаў казаў? *(Ставіць у шафу гарэлку.)*

Я н і н а. От малоў лухту розную.

Л а б ы ш. Ты не хітруй са мною! Ён табе, мусіць, тое гаварыў, што і мне.

Я н і н а. А што ён вам гаварыў?



Л а б ы ш. Прасіў у мяне тваёй рукі.

Я н і н а. І што вы яму сказалі на гэта?

Л а б ы ш. Я сказаў, што буду вельмі рад вашаму шлюбу!

Я н і н а. Гэта ж корч стары!

Л а б ы ш. Пад гэтым карчом шмат золата.

Я н і н а. Грошы не грэюць сэрца.

Л а б ы ш. Глупства! Старэйшы заўсёды разумнейшы і як сем'янін лепшы!

Я н і н а. Чаму гэта ён лепшы?

Л а б ы ш. Па чужых бабах хадзіць не будзе — раз, цябе адну шанаваць будзе — два, на яго заглядацца ніхто не будзе — тры.

Я н і н а. Лепш, як кажуць, пад лаўкай пасядзець, але на харошага паглядзець.

Л а б ы ш. Харaство з гадамі ў кожнага праходзіць, а багацце не кожнаму харошаму даецца. Падумай, я ж ліха табе не жадаю.

Я н і н а *(са злосцю)*. Не бываць гэтаму!

Л а б ы ш. Дачушка! Апамятайся, што ты гаворыш!

Я н і н а. Ён жа католік.

Л а б ы ш. І ты каталічкай будзеш.

Я н і н а. Ды ён не чалавек. Ён, як ваяваў з бальшавікамі, дык, кажуць, і мірных людзей грабіў.

Л а б ы ш. А хто гэта грабе ад сябе? Адна курыца, і тая зерняткі падбірае.

Я н і н а *(са слязьмі)*. Не пайду я за яго! Ён жа мой бацька! Гэта нават грэх!

Л а б ы ш *(іранічна)*. Можна і не ісці, можна паехаць. У яго коні добрыя, ды і ў мяне не дрэнныя.

Я н і н а *(настойліва)*. І не паеду!

Л а б ы ш *(сур'ёзна)*. Звяжам і завязём, а будзе так, як я сказаў.

Я н і н а *(кідаецца яму ў ногі)*. Татачка, родненькі, не губіце вы мяне, не губіце! Пашкадуйце мяне, маладую! *(Плача.)*

Л а б ы ш. Я дзягай зараз пашкадую цябе, непаслушніца!

Я н і н а. Біце мяне, забіце мяне, толькі не аддавайце за Ганецкага.

Л а б ы ш *(падымаючы яе за руку)*. Нічога не выйдзе, міленькая! Так што асушы свае слёзкі і прымірыся з тым, што ты ўжо Ганецкая.

Я н і н а. Хоць на кавалкі пасячыце мяне, усёадно не пайду за нялюбага! *(Плачучы, бяжыць на двор.)*

Л а б ы ш *(гледзячы ёй услед)*. Прывыкнеш, нідзе дзенешся.

Уваходзіць ж а б р а к.

Ж а б р а к. Пахвалёны ў хату! *(Хрысціцца.)*

Л а б ы ш. Ідзі, ідзі, дзед! Няма чым дарыць цябе тут. На ўсіх гультаёў не настараешся.

Ж а б р а к. Людзі кажуць, не дай і не лай.

Л а б ы ш. Не аблай вас, дармаедаў, дык вы кожны дзень будзеце прыходзіць.

Ж а б р а к. Ты ўсё скупішся, чалавеча, золата копіш, а не ведаеш, што ў гэтым твая пагібель.

Л а б ы ш. Ты мне зубоў не замаўляй, бо ўсёроўна нічога не дам за тваю балбатню.

Ж а б р а к *(выходзячы)*. Пад намі зыбкая багна, і на ёй ніхто не ўстаіць, у каго кішэні цяжкія. *(Зачыняе за сабой дзверы.)*,

Л а б ы ш. Бач, вучыць яшчэ мяне ўздумаў.

Уваходзіць Надзя.

Надзя. Копы я кончыла растрасаць і пракосы ўсе за Лявонам разбіла. Што цяпер рабіць?

Лабыш. Сядзь, я хачу пагаварыць з табою.

Надзя *(садзіцца за прасніцу)*. Аб чым? *(Прадзе.)*

Лабыш. Нядаўна я быў сведкам непрыстойнай выхадкі майго сына.

Надзя. Я тут не вінавата зусім.

Лабыш. Так, але гэта значыць, што ён любіць цябе.

Надзя. Хто шчыра любіць, той пахабных думак не носіць у галаве.

Лабыш. І ўсё ж такі ты падабаешся яму.

Надзя. Даю слова, што вам няма ніякай прычыны непакоіцца: ні Толік мяне браць будзе, ні я за яго пайду.

Лабыш. Дачушка мая! А я зусім не супраць вяселля вашага. Наадварот, я ўсёй душой хачу гэтага.

Надзя. Вы хочаце нахлебніцу нявесткай сваёй зрабіць?

Лабыш. А ты не бедная, у цябе дваццаць тысяч злотых на кніжцы ляжыць.

Надзя. Адкуль у мяне тыя грошы ўзяліся, цікава?

Лабыш. Ад бацькоў па спадчыне перайшлі.

Надзя. Дык я такая багатая?!. А чаму вы не гаварылі мне аб гэтым?

Лабыш. Я хацеў уберагчы цябе ад розных басякоў і жулікаў і выдаць замуж за чалавека, вартага цябе.

Надзя. Значыць, вы берaглі мяне для свайго сына?

Лабыш. А чаму б вас ды не пажаніць? Ну, бяры свае паперы: ты ўжо паўналетняя і павінна сама здымаць працэнты. Апекуну твайму каса не дасць ужо болей. *(Аддае Надзі дакументы і зачыняе шафу.)*

Надзя. За тое, што вы мяне выгадавалі і грошы ўсе мае выхавалі, я вам шчыра дзякую, а што да нашай жаніцьбы з Толікам, дык з гэтага нічога не выйдзе.

Лабыш. Чаму? Ты яшчэ за ўвесь час, як жывеш тут, не прывыкла да яго?

Надзя. Прывыкла, але я не люблю яго.

Лабыш. Што гэта за любоў такая, не разумею? Мне некалі сказалі: едзь туды, там удава багатая, паўтары валокі зямлі мае, я і паехаў. Прыехаў, гляджу — баба, не старая яшчэ, дзяцей няма, у хустцы, у спадніцы. Ну, што з яе хацець? Узяў і ажаніўся. Во як было некалі. А цяпер, як жэняцца, дык глядзяць, каб і харошую і багатую ўзяць. Дзе ж ты падбярэш такія цялежкі?

Надзя. Не ў харастве справа зусім. Калі глядзець на харaство, дык і Толік не брыдкі.

Лабыш. А ў чым справа?

Надзя. У тым, што я люблю другога.

Лабыш. Дык хто ж ён, твой каханы?

Надзя. Адась.

Лабыш. Адась?!

Надзя. А што ж? Ён хоць і не такі багаты, але ж гаспадар усё-такі. Да таго ж ён вучаны: паўшэхную школу скончыў на пяцёркі і на гандлёвых курсах у горадзе быў.

Лабыш. І не выйшла з яго ні гаспадара, ні гандляра: гаспадаркі больш усяго брат глядзіць, а ён, замест гандлю, палітыкай займаецца.

Надзя. Адкуль вы ведаеце, што ён палітыкай займаецца?



Лабыш. Сядзеў тры гады ў турме за лістоўкі? Сядзеў. Думаеш, ён перамяніўся пасля гэтага? Не верыцца мне! Калі ўдасца жарабё з лысінкай, дык і здохне такім... Я табе, Надзя, як і роднай дачцы сваёй, ліха не жадаю, і калі ты розум мець будзеш, дык ты за Толіка замуж пойдзеш. Прадумай толькі добра нашу размову з табой. *(Выходзіць з хаты.)*

Надзя. Хай конь думае: у яго галава большая, а я ўжо ўсё перадумала... Та-ак, цяпер Альжбета не будзе чапаць мяне!

Уваходзіць Яніна з Лявонам.

Яніна *(да Лявона)*. Сядзь, адпачні!.. А работа — не воўк: у лес не ўцячэ. Ды яе тут, што ў пекле — век не пераробіш.

Лявон. Хацелася сёння ж дакоскі зрабіць.

Яніна. Дарэмна ты так стараешся: усёроўна табе бацька за тваю працу «дзякуй» не скажа.

Лявон. Не стараўся б, каб не думаў стаць яго зяцем.

Надзя ставіць прасніцу, выходзіць.

Яніна. Не-е, калі ты будзеш спаць у шапку, дык ніколі табе не стаць яго зяцем: аддадуць мяне за Ганецкага.

Лявон *(прысаджваючыся на лаве)*. Ну, а што мне рабіць?

Яніна. Ты павінен аб'явіць яму наша жаданне і як найхутчэй.

Лявон. Але як мне, парабку, перад сваім гаспадаром і заікнуцца аб гэтым?

Яніна. А ты не бойся. Падыйдзі і скажы яму, што мы кахаем адзін аднаго.

Лявон. Тут смеласць не паможа, хітрасць ужыць трэба!

Яніна. Можна і на хітрасць пайсці. А што ты прыдумаў такое?

Лявон. О-о, што я прыдумаў! Калі ўжо гэта не паможа, дык і нічога не паможа. Дай толькі слова, што ты ва ўсім дапамагаць мне будзеш.

Яніна. Не падвяду цябе, мой любы, не бойся.

Лявон. Мілая мая, Янечка! *(Прыцягвае яе да сябе.)* Сэрца маё! *(Цалуе яе.)* Дамовіліся?

Уваходзіць Лабыш.

Яніна. Дамовіліся.

Лявон. Ну, пане гаспадар, дакоскі зрабіў, з вас бутэлька належыць.

Лабыш. Дык, кажаш, цяпер замачыць не шкодзіла б? Што ж, можна, значыць: такі ўсім папрацаваць давялося. *(Дастае з шафы пляшку гарэлкі і далоняй адбівае корак.)*

Лявон *(ціха Яніне)*. О, ён у добрым настроі. Можа і атрымаецца што.

Лабыш. Яня, паглядзі прыкусіць чаго.

Яніна засцілае абрус, дастае з шуфляды хлеб, талерку мяса, дзве чаркі і ставіць усё на стол.

Яніна *(ціха да Лявона)*. Пачынай, а я выйду, каб не перашкаджаць табе. *(Выходзіць у суседні пакой.)*

Лабыш *(наліўшы чаркі і ўзняўшы сваю)*. Бяры, Лявон... Ну, будзем здаровы...

Лявон. На добрае здароўе.

Чокаюцца, выпіваюць і прысаджваюцца да стала закусіць.

Лявон. Я, пане Лабыш, жаніцца задумаў.

Л а б ы ш. Ну?!
Л я в о н. Праўда.
Л а б ы ш. Не кепская рэч. І каго ж ты бярэш?
Л я в о н. Ды тут... дзяўчыну адну.
Л а б ы ш. А як яна, не старая?
Л я в о н. А яшчэ амаль і дзеўкай не была.
Л а б ы ш. Бач ты!.. Можа і зямля ёсць?
Л я в о н. А як жа! Ёсць і зямля.
Л а б ы ш. Дык ты, значыць, у прымы да яе ідзеш?
Л я в о н. Не, у яе брат яшчэ ёсць.
Л а б ы ш. А колькі ў яе бацькі зямлі?
Л я в о н. Шмат!
Л а б ы ш. І колькі ж пасагу ён дае табе?
Л я в о н. Пасаг мяне мала цікавіць, што бацька дасць дачцы, з тым я і згодзен буду. Ён жа не захоча пакрыўдзіць сваёй дачкі — дзесяцін нейкіх дзесяць павінен даць.
Л а б ы ш. Маніш!
Л я в о н. Каб я так жыў, праўда!
Л а б ы ш. І бацька ахвотна аддае яе за цябе?
Л я в о н. А вось аб гэтым, прызнацца, дык я яшчэ і не гаварыў з яе бацькам.
Л а б ы ш. Ну-у, то дарэмна і радуешся!
Л я в о н. Не-е! Ён не павінен стаць мне ўпоперак дарогі, бо дарога ў нас адна і вельмі цесная. Бачыце, мы, можна сказаць, ужо як і жанатыя.
Л а б ы ш. Значыць, шлюб быў пад плотам, а вяселле потым? І, мусіць, як на грэх павяло, дык паненку і... абдуло.
Л я в о н. Не, пакуль што яшчэ нічога не прыкметна, але ўжо бусла чакаем.
Л а б ы ш. Маладзец! Дальбог, маладзец!.. Прыемна і павіншаваць такога.
Л я в о н. Шчыра дзякую вам.
Л а б ы ш. І дзе ж ты знайшоў яе?
Л я в о н. Ды проста пад бокам.
Л а б ы ш. Маладзец! Кругом маладзец! Проста герой, я скажу!.. І хто ж яна такая?
Л я в о н. Яніна.
Л а б ы ш. Якая Яніна? *(Твар яго робіцца насцярожаным.)*
Л я в о н. Яніна Лабыш.
Л а б ы ш. Што?! *(Твар яго крывіцца ад злосці.)*
Л я в о н. Ваша дачка.
Л а б ы ш. Вон, жулік! Вон, нягоднік! Во-о-он! Прайдзісвет! *(Тупае са злосці нагамі.)*
Л я в о н. Ты, бацька, не крычы. Давай лепш спакойна абмяркуем, як нам з бяды выбрацца.

Уваходзіць Н а д з я.

Л а б ы ш. Бач ты яго! Ужо і «бацькам» называе, на ты перайшоў! Ты што, сапраўды спадзяешся стаць маім зяцем? Не, сукін сын! Няхай табе і не сніцца. Лепш я шчанят тваіх гадаваць буду, ну дачкі сваёй за цябе, галетніка, не аддам. Вон пайшоў, лапаць растаптаны!

З суседняга пакоя выходзіць Я н і н а.

Л я в о н *(з іроніяй)*. Ну што ж, бывайце, яснавяльможны пане! Можа хутка вам прыдзецца ўпрошваць мяне, каб я жаніўся. *(Збіраецца адыходзіць.)*



Я н і н а *(вешаючыся Лявону на шыю)*. Дык ты мяне пакідаеш, няўдзячны? Не-е, я ад цябе не адстану! Бяры і мяне з сабою! *(Цалуе яго.)*
Л я в о н. Пусці мяне, я пайду! *(Выходзіць.)*

Я н і н а пачынае плакаць.

Л а б ы ш. Во жулік!.. Атруціў, забіў, зарэзаў... і абакраў! Славу маю ўкраў!.. *(Да Яніны.)* Дачушка, што ж мне рабіць з табою? Што мне рабіць з табою, шэльма?!
Я н і н а. Аддайце мяне, татачка, за Лявона.
Л а б ы ш. За басяка?! Ніколі!
Я н і н а. Калі захочаце, дык вы можаце і багатым зрабіць яго. Зямлі ж у нас хапае.
Л а б ы ш. Не на тое набывалі яе, каб затым розным галадранцам раздаваць!
Я н і н а. Татачка, родненькі, злітуйся нада мной.
Л а б ы ш. Маўчаць! Каб і духу я твайго не чуў!

Я н і н а плача.

Н а д з я *(ціха)*. Яня, не плач. Калі табе бацька з братам не дадуць пасагу, дык ты яго ад мяне атрымаеш. Я з табою папалам падзялюся.
Л а б ы ш. Гэта ж жаласніца якая знайшлася! Тысячамі смяціць уздумала.
Н а д з я. Хопіць і для мяне яшчэ, я не прагавітая.

Уваходзіць А н а т о л ь.

Л а б ы ш *(да Яніны)*. Ну, хто ж цябе з непатрэбным пасагам возьме цяпер?
А н а т о л ь. Пра які пасаг вы гаворыце?
Л а б ы ш. О, пакуль мы думалі-гадалі, дык гэтая гадаўка жывым багажом абзавесціся паспела.
А н а т о л ь. З кім жа яна так пастаралася?
Л а б ы ш. Або-о, дай ты рады! З адвечным саладушнікам, з Лявонам, парабкам маім.
А н а т о л ь. Ну, цяпер хоць на свет не выходзь ад сораму!
Я н і н а *(плачучы)*. Выдайце мяне за Лявона, і ўсё загладзіцца.
Л а б ы ш. За батрака?! За лапцюжніка?! За абадранца?!
А н а т о л ь. За бунтаўшчыка, якому толькі ў турме месца?! Не-е.Лепш утапіся дзе, а ганьбы на ўвесь дом не кладзі, подлая распусніца! *(Хоча ўдарыць яе.)*
Я н і н а. Ну, калі ўжо на тое пайшло, ды я ж прызнаюся, што я сумленная, ну... не пайду за Ганецкага. Хутчэй маю шыю абдыме пятля, чым агідныя старэчыя рукі! *(Кідаецца ў дзверы і выбягае.)*

За ёй выходзіць Н а д з я.

Л а б ы ш. Во, гадаўка, на якую хітрасць пусцілася. *(Уздыхнуўшы.)* Ох! Дзякуй богу, што ўсё ў парадку. Цяпер я развяду вам хэўру! Трэба хутчэй выдаць за Ганецкага. А то, чаго добрага, яна і сапраўды з гэтым лапцюжнікам скруціцца. Во гад капусны! Ціхі-ціхі...
А н а т о л ь. Нічога, адно слова маё, і яму капцы. Аж у Картуз-Бярозе загрыміць, бальшавіцкая морда!

Лабыш. Во распусцілася басата! Глядзі яшчэ, каб Адась табе дарогі не перайшоў. Такая самая сволач, як і гэты, — астрожнік!

Анатоль. Адась мне не сапернік. Сядзеў ён у турме, цяпер не адзін, а са ўсёй сваёй пачкай сядзе. Я ім пакажу слабоду! Я ім пакажу!

Заслона.

## Карціна трэцяя

Вясковая вуліца. Сцены будынкаў і платы ад вуліцы пабелены вапнай. Каля хаты Адася лавачка. На лавачцы сядзіць Адась. Па вуліцы праходзіць Надзя. Яна кудысьці спяшаецца.

Адась. Добры дзень, Надзя. Нешта ты і глядзець цяпер на мяне не хочаш, як багацце сваё атрымала.

Надзя. Што ты! Мне толькі хацелася, каб ты першы мяне зачапіў.

Адась. Значыць, не заганарылася?

Надзя. Калі ты мяне бедную кахаў, дык ці ж магу я цяпер, багатая, адмовіцца ад цябе?

Адась. То хадзі сядзь каля мяне.

Надзя садзіцца.

Адась *(абдымаючы Надзю за талію)*. А я дык неяк і не рад, што ты такой багатай аказалася.

Надзя. Чаму не рад?

Адась. Што мы рабіць будзем з такой кучай грошай?

Надзя. Што грошай шмат, дык гэта ж не бяда. Ты цяпер можаш нават сваю частку зямлі брату аддаць, а нам з табой і таго хопіць, што ў мяне ёсць.

Адчыняецца акно і паказваецца ў ім галава Альжбеты.

Альжбета. Здарова, дачушка. Заходзь у хату. Што чуваць добрага?

Надзя. От, нічога такога асаблівага, старына, можна сказаць.

Альжбета. А няўжо новых навін няма? Я чула, што да Яні Ганецкі сватаецца. Ці праўда гэта?

Надзя. Праўда. Быў у сватах учора.

Альжбета. Ну, то, мусіць, Лявону хамут будзе?

Надзя. Ужо, сёння Лабыш і з работы прагнаў яго.

Альжбета *(павярнуўшы галаву ў хату)*. Апсік, каб ты выдахла! Ужо ў малако ўбілася. *(Зачыняе акно)*.

Падыходзіць Міхась з Любай.

Міхась *(да Адася і Надзі)*. Ну, галубкі, досыць галубіцца вам! Прызнавайцеся, калі вяселле ваша гуляем?

Адась. А калі ваша?

Люба. Наша ў гэту нядзелю, што прыдзе.

Надзя. І наша хутка.

Міхась. Праўда, Адась?

Адась. Я не ведаю нічога. Я нават з Лабышам яшчэ не пагаварыў.

Надзя. Я ўжо гаварыла з ім і за сябе і за цябе.

Адась. Ну, і што?

Надзя. Не падабаецца яму! Але я мала бядую па гэтым: перайду



Камсамольскія актывісты механічнага цэха Мінскага машына-будаўнічага завода «Ударнік» — слесар Уладзімір Багданаў і дыспетчар Людміла Казакова. Яны ўваходзяць у склад рэйдавай камсамольска-маладзёжнай брыгады, якая ўважліва сочыць за ўсім ходам вытворчасці, дапамагаючы Упраўленню Саўнаргаса кіраваць заводам.

Фота А. Дзітлава.



Камсамолка Людміла Алатырцава зусім нядаўна скончыла тэхнікум і працуе ў адной з лабараторый Беларускага навукова-даследчага інстытута будаўнічых матэрыялаў. Яна прымала ўдзел у распрацоўцы і ўкараненні ў вытворчасць новага высокапрадукцыйнага метаду вырабу цэглы. Яе мара — стаць інжынерам. Так, не пакідаючы працы, Людміла Алатырцава стала студэнткай вячэрняга аддзялення Беларускага палітэхнічнага інстытута.

Фота А. Дзітлава.



да цябе і ўсё. Можа ж маці твая не будзе мне ўжо насуперак дарогі станавіцца?

Адась. Не-е ўжо! Яна цяпер не ведае, за што б сябе ўкусіла, каб вярнуць тыя словы назад.

Люба. Дык будзь, Надзенька, у мяне за першую шаферку.

Міхась. А ты, Адась, у мяне за першага шафера.

Надзя. Добра. А вы будзеце тады ў нас першымі сватамі.

Адась. Правільна, каб у даўгу не застацца. Згода?

Міхась. Згода! Па руках!

Падаюць накрыж адзін аднаму рукі: Міхась — Адасю, Люба — Надзі. Падыходзяць Янук і Максім.

Янук. О! Ці не заручыны тут? Нейк як быццам вяселлем пахне.

Люба. А вы не памыліліся, дзядзька?

Максім. Ды тут аж два, відаць. Гэта не кепская рэч.

З'яўляецца Альжбета.

Альжбета *(падыходзячы да Янука)*. Ты чаму, чорт рыжы, у сенажаць маю залез! Думаеш, як я баба, дык мяне і ашукаць можна? Не, брат, выбачай, я не паддамся! Гэта ж трэба ведаць, ледзь не на аршын колікі ў маю сенажаць перанёс.

Янук. Каб ты ў пятлю дзе ўлезла, як я ў тваю сенажаць лез! Гэта ты ў маю ўбілася, зайздросніца, а я ўсяго на старое месца колікі пазаганяў! Спытайся ў Адася, калі не верыш, мы перамералі з ім нашы надзелы.

Альжбета. Адась там глядзеў надта! Ён такі, што і сваё аддаць можа.

Максім. Маўчы, матка, усё правільна: і я быў пры гэтым.

Адась. Як табе не сорамна, мама, сваю віну на некага ўскладаць?

Янук. А што, вось жа і дзеці не дадуць салгаць, сучка ты.

Альжбета. А, не ведаю я цябе, злодзея! Лес ідзі красці.

Янук. У лесе ўсе крадуць, і ты не лепшая. Але табе няма чым укалоць мяне, асва ты.

Прыбягае Марыля з двума камнямі ў руках.

Марыля *(да Альжбеты)*. Досыць табе вадзіцца тут, бяжым на поле хутчэй! Там каморнікі з паліцыяй прышлі, на хутары разбіваць будуць... Усе бабы пабеглі туды. Набірай каменняў пабольш і — за мной. *(Убягае.)*

Альжбета. Нашто тыя камені — мы іх гноем, гноем.

Бяжыць за Марыляй.

Люба. Пабягу і я за імі.

Адась. Не трэба маладым ісці: старыя там і адны справяцца. А ўжо калі спатрэбіцца дапамога, тады ўсе разам пойдзем. А пакуль што я наглядаць буду. *(Адыходзіць.)*

Міхась. Дык гэта праўда, пане Яне, што вы ў казённым лесе з дрэвам папаліся?

Янук. Праўда. Сасну на дошкі спусціў ноччу. І якраз жа лесніка з аб'ездчыкам бура нагнала.

Максім. Ну і што будзе?

Янук. Нічога. Перайшоў на каталіка, дык і калоду тую дамоў прывёз і па ўсім судзе ўжо.

Люба. І вы, дзядзька, далі сябе апалячыць? Проста не хочацца верыць у гэта.

Янук. А мяне ксёндз не апалячыў праз сваю веру: я быў беларус, ёсць беларус і буду беларус. Не на таго ён нарваўся.

Надзя. А куды вы цяпер маліцца хадзіць будзеце: у царкву ці ў касцёл?

Янук. Не хадзіў я ў царкву асабліва, а ў касцёл і не думаю.

Максім. З гэтай верай, дык аж смешна іншы раз. Мой дваюрадны брат Андрэй, што з Міхайлова, ажаніўся з каталічкай. І яны з жонкай зрабілі такую ўмову: як народзіцца дзяўчынка, хрысціць яе ў касцёле; калі хлопчык — у царкве. І вось нарадзілася адна дзяўчынка — ахрысцілі ў касцёле, другая — таксама. Затым бог дае ім трэцюю. Ну, тут Андрэй і кажа: «Стоп, гэту ў царкву павядзем, хопіць каталікаў ужо». І павезлі кумы, куды гаспадар загадаў. Як прывезлі ад папа, дык матка а ні блізка грудзі дзіцяці даваць... «Ну, і не давай сабе, — кажа Андрэй,— я яе і на кароўім малацэ выгадую».

Смех.
Падыходзіць Базыль.

Базыль. От жа пагналі бабы паліцыянтаў з поля — аж толькі іх пяты барабанілі, як уцякалі.

Міхась. І куды яны пабеглі?

Базыль. У вёску з таго канца.

Янук. Ну, мінула адна бяда.

Міхась. Другая навісла: зараз штрафы на людзей пасыплюцца. За ўсё ўсякае.

Максім. У нас дык яны не знойдуць да чаго прычапіцца, я не баюся.

Базыль. Другі раз і не падумаеш, за што пападзешся.

Максім. Не, здаецца, у нас усё ў парадку: будынкі пабелены ў сярэдзіне і знадворку, платы скрозь таксама пабелены, накрыўка да студні зроблена, дошчачка з прозвішчам прыбіта да хаты, званочак пры хамуце ёсць, — што ж болей трэба ім?

Янук *(дастаючы з кішэні лістоўку)*. Ты чытаў, Базыль, сённяшнія лістоўкі?

Базыль. Праўду пішуць, што большасць зямлі ў памешчыкаў і кулакоў, што непасільныя падаткі і штрафы, што паны ідуць на змову з немцамі супраць Расеі...

Янук. Так. *(Чытае.)* «Але мы, працоўныя, супраць змоўшчыкаў і мы заяўляем: «Прэч разбойніцкія рукі ад Савецкай Расіі!» *(Хавае лістоўку ў кішэню.)* А што ты даў у дапамогу гораду?

Базыль. А ты што?

Янук. Я два пуды мукі, пуд круп і тры кілі сала.

Базыль. А я дзве кілі масла, паўтара пуда гароху і таксама два пуды мукі.

Міхась. Маўчыце, браткі, Анатоль ідзе.

З'яўляецца Анатоль.

Максім. Што нос павесіў, з хутарамі не выходзіць?

Анатоль. А чаго вы так баіцёся хутароў? Гэта ж няма лепшай выгады! Уся зямля сабе ў адным кавалку вакол хаты, ці курыца, ці гусь, дык па сваім ходзіць, і гной вазіць блізка.

Базыль. Добра табе не баяцца, як табе лепшую зямлю даюць, а нас на макляціну ды на пяскі адпіхаюць.



Анатоль. Каму горшая зямля пападзецца, дык жа больш даюць яе, гэта ж улічваецца.

Янук. Ведаем мы, як у Навасёлках было: лепшую зямлю ў горшую катэгорыю паставілі, а благую добрай зрабілі, і беднякоў напалавіну абрэзалі.

Анатоль. А мы выберам камісію, каб і беднякі ў яе ўвайшлі.

Базыль. А каморнік скажа ім: «Што вы разумееце, цямнота. Я чалавек вучоны і лепш за вас разбіраюся».

Анатоль. Вас збіваюць з толку бальшавіцкія лістоўкі. Не верце ім: там адна хлусня. Дакуль жа будуць трымацца людзі за свае вузенькія палоскі, іх жа хутка трава заесць.

Янук. Ды ў вёсцы весялей жыць неяк.

Максім. Яны хочуць разагнаць сялян, як зайцоў, па ўсім полі.

Анатоль. Менш вадзіцца за межы будзеце, як яны карацейшымі стануць.

Базыль. Угаворваць за хутары ўздумаў?

Міхась. Ім смярдзіць сялянская згуртаванасць.

З'яўляецца Альжбета.

Альжбета. Дарэмна беглі толькі: там і без нас управіліся.

Міхась. А што паліцыя ў вёсцы робіць?

Альжбета. У канцавога Рыгора камендант некалькі каліў тытуню знайшоў і пратакол на яго піша.

Люба. Некалькі каліў — гэта не доказ, яны і самі маглі вырасці.

Максім. Пасадзіць, як міленькага, гад.

Альжбета ідзе ў хату. З'яўляецца Адась.

Адась *(дэкламуе)*:

У нас іначай, як у Іспаніі,
І не такая інквізіцыя,
І забурэнні, як у Германіі,
Гуманітарна душыць паліцыя.
У нас геніяльнае кіраўніцтва:
Паны, банкіры і слугі бога:
У нас магутны ўздым будаўніцтва
Касцёлаў, шыбеніц, астрогаў.
І справядлівасць у нас панская,
На нашых, на «усходніх крэсах».
У нас апека акупанцкая,
Кайданы, краты — шлях прагрэсу.
Таму адносімся мы з пашанай
Да ўсіх паноў, да ўсіх дабрадзеяў,
Пятлю ім круцім з лык канапляных,
Якую хутка на іх адзенем.

Янук. Пятлю то мы круцім, але як адзець нам яе на панскую шыю?

Адась. Адзенем! Толькі трэба, каб сяляне ішлі ў нагу з рабочымі. Вось мы жывём блізка горада, дзе часта адбываюцца забастоўкі і дэманстрацыі. Мы не раз дапамагалі рабочым хлебам, салам, гароднінай. Але гэта і ўсё, вось на дэманстрацыі разам з імі мы яшчэ ні разу не былі.

Міхась. Вады не засіліш, не паварушыўшыся, рыбкі не зловіш, не памачыўшыся.

Адась. Правільна. Трэба нам з вамі варушыцца, ды жывей. Ці ж мы не такія сяляне, як тыя, што жывуць вакол Беластока ці Брэста? Ці ж над намі не гэтак сама паны здзекуюцца? Дык чаму ж і нам, як ім, не ўзняць свайго голасу?

Базыль. Ага, чаго ты, Янук, у хаце адседжваешся?
Янук *(да Базыля)*. А чаго ты толькі па сватах ды па вяселлях ходзіш?
Базыль. Пасмяяўся гаршчок з катла. Ад дармавой гарэлкі і ты не вельмі адмаўляешся.
Максім. Што тут глядзець адзін на аднаго. Трэба ўсім у наступны раз у горад выйсці.
Міхась. Правільна, Максім.
Адась. Давай, Міхась, мы з табой у той канец сходзім. Цікава, што там тыя гіцалі твораць.
Міхась. Ага, падыдзем.

Адась і Міхась адыходзяць. З'яўляецца дзед Струкач.

Дзед Струкач. Добры дзень, каго не бачыў.
Базыль. А, добры дзень, стары жартаўнік... Як жыў-здароў, як справы, хваліся.
Дзед Струкач. На здароўе, дзякаваць богу, я яшчэ не скарджуся.
Базыль. А на жыццё?
Дзед Струкач. І на жыцця наракаць няма чаго. Гэта за царом самазванцам быў Струкач галадранцам, а за панам Пілсудскім і ён стаў чалавекам людскім. Падумай, брат, сам, чым жа яму кепска цяпер? Зарабляе ён у дзень цэлага паўзлота, а ўсё такое таннае: пачка тытуню каштуе шэсцьдзесят грошаў, пачка запалак — дзесяць грошаў, — гэта ж цэлы дзень куры ды паплёўвай!

Усе рагочуць.

Максім *(да дзеда Струкача)*. Праўда, што і казаць. Давай лепш закурым, дзядуля.
Дзед Струкач. Давай закурым, калі маеш што. У каго табачок, у того і празнічак.

Смех.

Максім. Дык я ж думаў, што ў вас ёсць.
Дзед Струкач. У мяне няма толькі зранку да ўстанку, а так у любы момант знойдзеш.

Агульны смех.

Янук. У мяне крыху збярэцца.
Дзед Струкач. Ну, то закурым усе.
Янук *(дастаўшы капшук, скручвае цыгарку)*. Гэта, ці ведаеце, які са мной выпадак учора быў. Іду я дадому па чыгунцы, а насустрач мне п'яны войт з жонкай. Падыходжу, вітаюся, а ён і кажа мне: «Цалуй моён жонэн в рэнкэн».
Базыль *(беручы ў Янука капшук)*. Куды, куды?
Янук. У руку. «Цалуй, мувен, хаме, моён жонэн в рэнкэн, а то зараз тон ляскон» і паказвае мне палку. А я за тую палку ды і кажу: «Дык дзякуй, паночку, за падарунак», — і пайшоў. Па дарозе зайшоў у шынок, прадаў за два злоты, дык і выпіў яшчэ дабравата. А ён жа мяне хваробу ведае... А ў каго запалкі будуць?

Смех.



Максім. На што глуміць тую запалку: у мяне машынка ёсць. *(Дастае з кішэні запальнічку.)*
Дзед Струкач. Не псуй каменьчыка! Я крэсіва маю. *(Дастае крэсіва, але ніяк не можа выкрасіць агню.)*
Максім. Пакінь, дзядуля! У мяне вось ужо гарыць.

Янук прыкурвае ад Максімавай запальнічкі. Падыходзіць камендант паліцыі, ведучы ў руках веласіпед. Да багажніка веласіпеда прывязана некалькі каліў канфіскаванага тытуню.

Камендант *(да Максіма, убачыўшы ў яго запальнічку)*. Штэмпель на запальнічцэ ест?
Максім. Няма, пане камендант.
Камендант. Пенць злотых штрафу... *(Дастае з сумкі паперу і аловак.)* і запальнічкэн абвёнсково одштэмплёваць. *(Піша пратакол.)*
Максім. Дык што вы, пане камендант, хочаце з мяне ўжо дзве скуры злупіць: каб я і штраф заплаціў і яшчэ за штэмпель грошы аддаў?
Камендант. Трэба было то вчэсне зробіць.
Максім. Пішыце ж, усёроўна ні аднаго граша не заплачу.
Камендант. Не заплаціш — одседзіш в вензеню.
Дзед Струкач *(паказваючы крэмень)*. То, можа, паночку, і на гэтым камені трэба пячатку ставіць? Баюся, каб вы і мяне не аштрафавалі часам.
Камендант. Ты, стары пес, тэж кедыкольвек трафіш мне в лапы!
Дзед Струкач. А я вас, пане камендант, баяўся назваць сабакам: думаў, што ў вас рукі.
Надзя *(ціха да дзеда Струкача)*. Сціхніце вы, дзядуля!
Дзед Струкач *(услых)*. А што ён мне зробіць, старому!

Камендант яшчэ ўсё піша. Дзед Струкач заходзіць у яго ззаду, выцягвае з багажніка веласіпеда тытунь і запіхвае туды некалькі лістоў лапуху.

Янук *(калі дзед Струкач скончыў сваю работу)*. Што гэта за траву пан возіць з сабою?
Камендант. То трава, ктура вензенем пахне.
Люба. Дык вы і вуліцу загадалі б апалоць ад яе.
Надзя. Праўда што! І хіба ж можна за яе судзіць.
Камендант *(азірнуўшыся назад)*. О, пся крэв! Юж подменілі мне. Марш додому вшысцы! Цо ту за мітынг такі!
Дзед Струкач *(пускаючы кольцамі дым)*. Нядзелька, пане камендант, маем права і пагуляць.
Камендант. А до косцёла ты сходзіл, стары д'ябал?
Дзед Струкач. Дык касцёл жа не для д'яблаў прызначаны. *(Смяецца.)*
Камендант. Цо смееш сень, холера?! Плакаць тшэба. *(Хавае ў сумку паперу і аловак.)*
Дзед Струкач. Колькі ні плакаў, быў бог адзінакаў. Стаў скакаць — стаў і бог даваць.

Смех.

Камендант. Вы ешчэ выць бэндзеце, не тылькі плакаць, пся маць ваша! *(Выходзіць.)*
Дзед Струкач. Каціся кілбасой! Не вельмі што баімося мы цябе.

Прыбягае Марыля.

Марыля. А божачкі! А божачкі! Янук! Мужчынкі! Што рабіць? Прыехаў секвестратар за падаткі апісваць, а ў нас жа не ўсё выплачана.

Янук. Дык чаго стаіш? Хадзем скаціну хаваць хутчэй! Якраз жа з поля прыгналі.

Максім. Я пайду памагу вам.

Базыль. А я туды пагляджу схаджу.

Дзед Струкач. І я з табою.

Янук, Марыля, Максім, Базыль і дзед Струкач выходзяць.

Люба. Во нанесла іх нялёгкая сёння, каб іх пярун пабіў!

Надзя. Лявон ідзе.

Люба. Няўжо Яню сілай за Ганецкага аддадуць?

Надзя. Ды ўжо ўсё. Прапілі ўчора.

Падыходзіць Лявон.

Лявон. Здаровы, дзяўчаткі. Не ведаеце, Адася дома няма?

Надзя. Няма. У тым канцы недзе.

Люба. Ну, што ты цяпер думаеш рабіць, Лявон?

Лявон. А што мне думаць! Атрымаў ад Лабыша разлік — чатыры злоты і трыццаць грошаў і — кум каралю, хоць у Амерыку едзь.

Люба. Я сур'ёзна пытаю.

Лявон. У горад хачу падацца.

Надзя. А Яніну так і пакінеш Ганецкаму?

Лявон маўчыць.

Люба. Чаго маўчыш?.. Курыца мокрая! Што ты крыллі апусціў? Баба ты!

Надзя. Перастань, Любка.

Люба. Дык жа вельмі Яніны шкада, што аддаюць за гэтага антыхрыста... Во ідуць, каб іх зямля не насіла.

Па вуліцы праходзяць Ганецкі і Анатоль.

Люба (*калі яны прайшлі*). Вось жа дабраў чорт пару, і ходзяць, як спрэжаныя.

Лявон. Гэтая парка яшчэ сябе пакажа, хутка ўсю вёску падтопча пад ногі.

Люба. Быць не можа, прыдзе і на іх ліха нейкае.

З'яўляецца Яніна.

Яніна. Дзяўчаткі, сястрыцы! (*Плача.*)

Надзя. Ціха, Янечка.

Яніна. Утаплюся, павешуся, усёроўна адзін канец... Лявонка, любы! Што рабіць?!

Лявон. Янечка, мілая!..

Люба. Пойдзем, Надзя. (*Бярэ яе пад руку і адыходзіць з ёю.*)

Лявон. Бяжым адгэтуль.

Яніна. А куды? Дзе мы дзенемся?

Лявон. У горад пойдзем. Рукі ёсць, не прападзем.

Яніна. Што рукі? Дзе мы галаву прыхінем? Няшчасная я. (*Плача.*)

Лявон. Няўжо ж двое жывых людзей, здольных да працы, не знойдуць сабе прытулку на зямлі... Калі ты верыш мне, дык чакай. Я знайду месца. Тут не знайду, заграніцу ўцячэм, у Расею перабярэмся.



З'яўляецца Базыль.

Базыль (*падышоўшы пад акно Альжбеты*). Альжбета! Альжбета! Адася арыштавалі!

Лявон. За што?

Базыль. Камендант нагайкай Тафіля стаў біць, што той каровы не даваў. А Адась з Міхасём уступіліся за яго, дык іх абодвух схапілі.

Выбягае Альжбета.

Альжбета. А божачкі! А мілы мой! Сыночка арыштавалі! Людцы, ратуйце! А божа ж мой!

З'яўляюцца Ганецкі, Анатоль і камендант. За імі тры паліцэйскія гоняць пад карабінамі скаваных Адася і Міхася. За паліцэйскімі, заплаканыя, ідуць Надзя і Люба.

Альжбета (*кідаецца да Адася*). Сыночак, за што ж гэта яны цябе?

Камендант. Ідзь до сту д'яблув, холера!

Адась. Ціха, мама, я вярнуся.

Альжбета. Толік, што ж гэта робіцца такое?

Анатоль. Адкуль я ведаю! Знаць, супраць улады пайшлі.

Камендант. Забраць і тэго. (*Паказвае на Лявона.*) Ні з мейсца большэвік пшэкленты! (*Настаўляе на яго рэвальвер.*) В кайданы го!

Адзін з паліцэйскіх падыходзіць да Лявона і надзяе яму на рукі наручнікі.

Ганецкі. О, панове, што значыць закон парушаць.

Анатоль. Гэта і ўсім будзе, хто па іх следзе пойдзе.

Яніна. Лявонка! (*Плача.*)

Анатоль. Дамоў марш, стыдніца.

Лявон. Бывай, Янечка.

Альжбета. Сынок мой, зноў турма табе. (*Плача.*)

Надзя (*плачучы*). Супакойцеся, цётачка.

Люба. Адальюцца ім нашы слёзы.

Прыбягаюць Янук, Марыля, Максім і дзед Струкач.

Максім. Ах вы, сабакі! (*Хапае кол.*) Я ж вам пакажу!

Адась. Максім!

Янук. Апамятайся! (*Адбірае ў яго кол.*)

Максім. Пусці! Я іх усіх...

Камендант. Взёнць!

Максім. Я табе вазьму! (*Б'е каменданта і той падае.*)

Паліцэйскія кідаюцца на Максіма.

Дзед Струкач. Максім! Бяжы!

Максім пераскоквае праз плот і ўцякае. Камендант падымаецца і страляе ў той бок, куды пабег Максім.

Дзед Струкач (*людзям*). Трасцу ты пападзеш!

Камендант (*да арыштаваных*). На постэрунак марш!

Міхась. Бывай, Люба!

Люба. Нічога, Міхаська, трымайся, буду чакаць.

Альжбета. А божачкі! Закавалі. (*Плача.*)

Адась. Пакуль паны будуць — торбы і турмы не пазбегнеш.

Заслона.

## ДЗЕЯ ТРЭЦЯЯ

### Карціна чацвёртая

Той жа пакой у доме Лабыша. Каля ўваходных дзвярэй пры левай сцяне па-ранейшаму стаіць канапа. Уздоўж задняй і правай сцен — сталы з гарэлкай і закускай. На канапе сядзіць Яніна і горка плача, выціраючыся насоўкай. Каля сталоў паходжваюць Лабыш, Марыля, Надзя і Янук. Уваходзіць Анатоль. Ён у чорным касцюме.

Анатоль. Ну, ужо і малады едзе. Музыка аж разлягаецца.

Яніна. А божачкі, а міленькія! Што ж мне рабіць цяпер? Дзе ж мне дзецца?

Лабыш *(да Янука)*. Дык рыхтуйся, сваток, прыданых сустракаць. *(Да Марылі.)* І ты, сваціца, знай сваю справу.

Марыля. У мяне ўсё гатова.

Яніна. На што ж я на свет нарадзілася, няшчасная? Чаму ж мяне маленькую хвароба не скасіла якая? Для чаго ж мне жыць зараз? *(Плача.)*

Янук *(да Лабыша)*. Не ведаю, як і сустракаць нам тых прыданых, калі тут ракой слёзы льюцца. *(Глядзіць на Яніну.)*

Лабыш. А каб ты здароў быў, сваток! Няўжо ж ты за свой век не прывык яшчэ да бабскіх слёз.

Янук. Не, мілыя, яшчэ не бачыў я, каб так маладая плакала. Яна ж галосіць, нібы са светам развітваецца.

Лабыш. Дзяўчыне ж трэба са слязьмі замуж выходзіць. Калі каторая, кажуць, на вяселлі сваім не паплача, дык потым замужам адплача тое.

Яніна. Каб мяне аддавалі за Лявона, то я і не думала б плакаць.

Анатоль. Што пра гэтага злачынца думаць. Яму ўжо не вярнуцца з турмы.

Надзя. А суду яшчэ не было, так што невядома, колькі прысудзяць. *(Ідзе ў суседні пакой.)*

Янук. Пакуль суд, здароўе вымуць.

Чуецца іржанне коней, звон бразготак і музыка.

Анатоль. Прыданыя ўжо на двары.

Яніна. Усёроўна я не буду жонкай Ганецкага.

Янук. Дык што нам рабіць? Пачынаць вяселле, ці дахаты ісці?

Марыля. Але, радня пазбіралася, суседзі, і ходзяць усе па двары, як непрыкаяныя.

Анатоль. Ёй, відаць, прыемна народ круціць. *(Выходзіць.)*

Лабыш *(да Яніны)*. Досыць хлімаць тут! Замры! *(Ідзе ў суседні пакой.)*

Марыля *(да Янука)*. Ідзі па каравай, а я па ручнік пайду.

Янук і Марыля ідуць у суседні пакой. Уваходзіць Лесьнічыха.

Лесьнічыха. Да пачуе цябе гасподзь у дзень пячалі і абароне цябе імя бога ніякага.

Яніна. Прышлі ўсё-такі, не падвялі... А ці ж прынеслі тое, што я вас прасіла?

Лесьнічыха. А плата?



Яніна. Вось вам. *(Здымае з сябе залаты крыжык.)* Хопіць гэтага?

Лесьнічыха. А ён з чыстага золата?

Яніна. З чыстага. Там проба, глядзіце, ёсць.

Лесьнічыха *(паглядзеўшы яшчэ раз на крыжык)*. Ну, дык трымай насоўку.

Яніна падстаўляе насоўку, і Лесьнічыха штосьці сыпле ёй у насоўку з паперкі.

Яніна. А з чым прыняць гэта, скажыце?

Лесьнічыха. З гарэлкай. І не бойся, як заснеш усёадно.

Яніна. Вельмі дзякую вам. Вы мяне выратавалі. Цяпер я іх не баюся.

Голас знадворку. Гой, гой, вяселле да пятніцы!

Лесьнічыха. Ужо і прыданыя ў хату ідуць, чуваць.

З'яўляецца Лабыш.

Лесьнічыха. Спасі госпадзі, бо не стала праведнага паміж сынамі чалавечымі.

Лесьнічыха выходзіць. З суседняга пакоя ў гэты час уваходзіць Лабыш, Янук з караваем, спечаным у выглядзе сонца, і Марыля з ручнікам.

Лабыш. О, нешта ж нядобрае будзе: ведзьма на вяселле зайшла.

Янук *(перахрысціўшыся)*. От, глупства гэта! Дасць бог, і як найлепей усё абыйдзецца.

Марыля *(да Яніны)*. А ты ўжо не плачаш, ягадка?

Яніна. Што з таго плачу майго, калі на яго ніхто ніякай увагі не звяртае. Не буду больш і твару свайго слязьмі псаваць.

Уваходзіць дзед Струкач, Альжбета, Люба і іншыя вясковыя жанчыны і дзяўчаты.

Дзед Струкач. Добры дзень у хату!

Лабыш. Хто з просам, а хто першы з носам.

Дзед Струкач. А я не прышоў вашай гарэлкі напіцца, паглядзець прышоў.

Лабыш. Няўжо ты за свой век яшчэ мала вяселляў бачыў?

Дзед Струкач. Шмат бачыў у добрых людзей — захацеў паглядзець у багатых.

Альжбета. Хоць жа і гора ў нас з табой, Любка, але давай прыпяём гаспадару, калі ён такі ганарысты.

Люба. Правільна, цётка: мы свайго гора не паправім тым, што пець не станем. Сваёй жалобай мы толькі ворагаў нашых цешыць будзем. *(Запявае.)*

У бары старым зязюля кукуе...

*(Усе жанчыны і дзяўчаты падхопліваюць песню.)*

Што Лабыш скупы дачкі не шкадуе,
Каб не даць пасагу аніякага,
Аддае дачку ён за багатага;
За багатага, за недарэчнага:
Непрыгожага і бессардэчнага.

Лабыш *(махнуўшы рукой)*. А ну вас! З вамі лепш не займацца. *(Ідзе ў суседні пакой.)*

Уваходзіць Базыль, несучы перад сабой на белым абрусе каравай, спечаны ў выглядзе паўмесяца.

Базыль *(падняўшы каравай над галавой)*. Светлы сярэбраны месячык прышоў да яснага залатога сонейка шукаць сяброўства і цеснага саюзу, каб разам свяціць днём і ноччу і ніколі не разлучацца паміж сабою. Ці згодна яснавяльможнае сонейка на такі саюз?

Янук *(падняўшы каравай-сонца над галавой)*. Наша сонейка не па сабе сціплае і таму не можа адмовіць вяльможнаму месяцу.

Яніна кланяецца Базылю ў ногі.

Дзед Струкач. Нявест паважаюць, усяляк услаўляюць, а жонак потым б'юць і плакаць не даюць.

Янук *(да Базыля)*. То, давайце, сваток, я вам рукі аблягчу. *(Бярэ ад Базыля каравай і кладзе яго пад абразы на стол разам са сваім караваем.)*

Базыль *(дастаўшы з-за пазухі здобную булку, да Яніны)*. А гэта мілай царэўне гасцінец ад нашага князя.

Яніна *(узяўшы булку)*. Дзякую. *(Кланяецца зноў Базылю і ідзе ў суседні пакой.)*

Марыля *(падышоўшы да Базыля)*. А гэта слаўнаму баярыну ад нашай царэўны генеральскі чын. *(Перавязвае Базыля ручніком.)*

Базыль. Найлепшы чын, як нічым.

Янук *(адчыняе ўваходныя дзверы)*. Дык прашу, сваточкі, у хату ўсіх. З дарогі прыехаўшы, трэба адпачыць.

Уваходзіць Ганецкі са сваёй дружынай і музыкантамі.

Марыля. Проша не затрымлівацца, сваточкі, залазьце за сталы адразу.

Янук. Але, не прымушайце сябе доўга ўпрошваць, самі сядайце.

Базыль. А мы людзі не гордыя і вялікай просьбы не патрабуем для сябе. Мы з парога і пад бога. *(Паказвае рукой на абразы.)*

Ганецкі і яго дружына, музыканты садзяцца за сталы.

Янук. Дык падмацоўвайцеся, сваточкі, пакуль мы тут маладую падрыхтуем.

Марыля. І не саромцеся: хлеб і гарэлка на стале, а рукі свае.

Янук і Марыля ідуць у суседні пакой.

Базыль. А як жа мы адны піць будзем? *(Гукае.)* Сват дамовы... чарка без мовы!

З суседняга пакоя ўваходзіць Лабыш.

Лабыш. Іду, сваточкі, іду. Я там крыху каля маладой забавіўся. *(Падыходзіць да стала, за якім сядзіць Ганецкі, і бярэ чарку з гарэлкай.)* То здароў будзь, сынок!

Ганецкі. На здароўе, коханы ойцец.

Лабыш з Ганецкім чокаюцца цераз стол і выпіваюць. За імі выпіваюць свае чаркі і іншыя.

Дзед Струкач *(да Альжбеты)*. Невядома, хто з іх старэйшы: бацька ці гэты — сынок?

Альжбета. Чорт іх ведае: яны што браты ўсёадно.



Лабыш *(закусваючы)*. Сілкуйцеся, сваточкі, будзьце, як дома. *(Ходзіць каля сталоў, наглядаючы за парадкам.)*

Базыль *(да дружыны Ганецкага)*. Будзьце, як дома, але не забывайцеся, што ў гасцях.

Жанчыны і дзяўчаты пяюць:

Чаго прыехаў, пан Ганецкі,
Мы табе Янечкі не дадзім,
Мы табе тры ганьбачкі дадзім:
Адна ганьба — конь не убран,
Другая ганьбачка, што сам стар,
Трэцяя ганьбачка — п'яніца.

Лабыш *(да Ганецкага)*. Ну, сынок, не толькі мне, а і табе перапала.

Ганецкі. Што ж. Якая песня, такая і плата.

Працягвае спявачкам маленькую манету.

Люба. А мы пець не наймаліся, так што і грошай браць не думаем.

Сканфужаны Ганецкі хавае грошы ў кішэню.

Дзед Струкач. Нашы бабы, пане Ганецкі, не прадаюцца за медзякі.

Лабыш *(падышоўшы да дзвярэй суседняга пакоя і адчыніўшы іх)*. Ну, ці скора там маладая гатова будзе?

Голас Марылі. Зараз, сваток, зараз! Канчаем прыбіраць!

Жанчыны і дзяўчаты пяюць:

Нясіце дзежачку хлебную,
Вядзіце матачку родную.
А ні мне дзежачкі не нясуць,
А ні мне мамачкі не вядуць.
Хлебная дзежачка для славы, —
Родная мамачка, блаславі.

У гэты час з суседняга пакоя выходзіць Янук з хлебнай дзежкай у руках, за ім Марыля з падушкай пад пахай, а за ёй Надзя з абрусам. Янук ставіць дзяжу сярод хаты, Марыля кладзе на дзяжу падушку, Надзя накрывае падушку абрусам. Затым яны ідуць зноў у суседні пакой.

Лабыш *(да Ганецкага)*. Зараз і маладую прывядуць.

Ганецкі. Хутчэй бы, а то я ўжо смуціцца пачынаю.

Базыль. Гой, гой, вяселле да пятніцы!

Адчыняюцца дзверы суседняга пакоя і ўваходзіць Янук.

Янук *(да музыкантаў)*. Музыканцікі — марш!

Музыканты іграюць марш. З суседняга пакоя ўваходзіць Анатоль, ведучы пад руку Яніну. Яна ў белай сукенцы з велюрам і ў вянку. За ёй ідзе ўся яе дружына і госці. Надзя нясе ў руках свечку, запалкі і кальцо.

Жанчыны і дзяўчаты пяюць:

Брат сястру на пасад вядзе,
Ён яе жалуе,
А яна яму не дзенькуе.

Анатоль, падвёўшы Яніну да дзяжы, садзіць яе, і сам адыходзіць убок.

Марыля. Панове музыкі, вы добра ігралі, але я папрашу, каб вы

перасталі. Не я прашу — маладая ўпрашае пакорным, добрым словам. Дзе тут ёсць: маткі, бацькі, родныя і хрышчоныя; браты, сёстры; сябры і сяброўкі; суседзі, суседкі і ўсе суседзіны дзеткі. Проша благаславіць гэта дзіця!

Галасы. Няхай яе бог блаславіць!

Марыля абводзіць Яніну вакол дзяжы. Жанчыны і дзяўчаты пяюць ёй:

Застрыганае дзіця
Застрыгаціся хоча,
Косачкі расплятае,
Слёзкі пралівае.

Марыля *(пасадзіўшы Яніну на дзяжу)*. Дзе тут ёсць: маткі, бацькі, родныя і хрышчоныя, браты, сёстры; сябры, сяброўкі; суседзі, суседкі і ўсе суседзіны дзеткі. Проша блаславіць гэта дзіця!

Галасы. Няхай яе бог блаславіць.

Марыля абводзіць Яніну вакол дзяжы. Жанчыны і дзяўчаты пяюць:

Біце камень, біце,
Агню здабывайце,
Свечачку зажыгайце,
Дзевачку застрыгайце.

Марыля *(пасадзіўшы Яніну на дзяжу)*. Дзе тут ёсць: маткі, бацькі, родныя і хрышчоныя; браты і сёстры; сябры і сяброўкі, суседзі і суседкі і ўсе суседзіны дзеткі. Проша блаславіць гэта дзіця!

Галасы. Няхай яе бог блаславіць.

Надзя запальвае свечку і дае Марылі, потым дае ёй кальцо. Марыля абводзіць запаленую свечку тры разы вакол Янінінай галавы, пасля бярэ кальцо, укладае ў яго кончыкі валасоў і прыпальвае іх свечкай. Прыпальваюцца валасы ў трох месцах: на адным віску, на патыліцы, на другім віску. Жанчыны і дзяўчаты пяюць:

О, добра, добра дзевачка зрабіла,
На пасадзе села, як маці зрадзіла.
З пасаду ўстала,
Як рута завяла.

Марыля *(затушыўшы свечку)*. Ну, першы шафер і першая шаферка, бярыце маладую цяпер і за стол вядзіце.

Базыль. Музыкі, марша маладой! Але такога, каб аж шыбы з вокнаў павыляталі! *(Гойкае.)* Гой, гой, вяселле да пятніцы!

Музыканты іграюць марш. Анатоль і Надзя бяруць Яніну пад рукі і вядуць яе да Ганецкага. За маладой за сталы залазяць яе шаферы і шаферкі і ўсе госці.

Дзед Струкач. Павялі козачку ў кіпцюры воўчыя!

Марыля бярэ абрус і падушку, Янук — дзяжу і ідуць у суседні пакой. Лабыш памагае ўсаджвацца гасцям.

Лабыш *(узняўшы чарку)*. Перад выездам да шлюбу прашу маладых, сватоў і гасцей усіх выпіць і закусіць. *(Выпівае сваю чарку.)*

Ганецкі. Дык вып'ем жа і мы, толькі да дна, панна Яніна.

Яніна *(перахрысціўшыся)*. Да дна. *(Заплюшчвае вочы і выпівае.)*

За маладымі выпіваюць свае чаркі і ўсе астатнія. Уваходзяць Янук з Марыляй у вывернутых кажухах. Музыканты іграюць польку, і яны скачуць.



Марыля *(скачучы, ухкае)*. Ух! Ух! Ух!..

Янук *(скачучы, гойкае)*. Гой-гой! Вяселле пачынаецца!

Марыля *(спыніўшыся)*. Дай, божа, у гэтай хаце кожны год скакаць.

Галасы. Дай жа, божа!

Янук. Скакаць, пець, іграць і ніколі не сумаваць!

Галасы. Дай жа, божа!

Янук і Марыля скідаюць з сябе кажухі і садзяцца за стол. Жанчыны і дзяўчаты пяюць:

Ох ты, рэчанька, ох ты, быстрая,
Ох ты, быстрая, беражыстая,
Ды чаго стаіш, чаму не цячэш?

Яніна *(адпявае)*:

Ды я так цяку, ды я сяк цяку,
З цяжкіх каменняў усё не выцеку.

Жанчыны і дзяўчаты пяюць:

Ох ты, дзяўчынка маладзенькая,
Ды чаго сядзіш, чаго не плачаш?

Яніна:

Ды я так плачу, ды я сяк плачу,
Свайго татулькі ўсё не разжалю.
Мой татулька благі, няжаласны,
Аддаець мяне недарослую,
Недарослую, недаўмелую,
Ды як ягадку недаспелую.

*(Плача, схіліўшыся на стол.)*

Лабыш. Ну, ты! *(Падымае Яніну за плячо.)*

Ганецкі *(да Яніны)*. А чаго вы плачаце, панна Яніна? Вы ж не ведаеце, можа ў мяне вам як найлепей будзе.

Яніна. А я і не хачу плакаць, але неяк самі слёзы сыплюцца. *(Выцірае насоўкай вочы.)*

Ганецкі. Калі я не бачу слёз на вашых вачах, дык і мне на душы лягчэй становіцца.

Базыль *(устаўшы, да маладых)*:

Няхай вас, дзеці, бог блаславіць
Шчасцем, доляю,
Векам доўгім,
Бытам добрым!
Дай жа, божа, гэтай пары
Шчасця й долю,
Хлеба і волю,
Каб бог жыта радзіў,
Скацінку зашчыціў,
Здароўем надзяліў!
Каб былі багаты, як зямля,
Здаровы, як вада, нахільны, як вярба,
Каб адзін аднаго шанавалі
І нас старых не забывалі.

Базыль садзіцца, і ўсе зноў пачынаюць піць гарэлку.

Дзед Струкач. Правільна: і каб нас старых не забывалі.

Яніна. Ох! *(Моршчыцца ад болю.)*

Надзя. Што з табой, сястрыца?

Яніна. Надта пад грудзямі сціснула.

Ганецкі. Гэта вам ад жалю, панна Яніна.

Анатоль. А можа што з'ела нядобрае?

Я н і н а. Не, мне не ад ежы, мне ад пітва, я ведаю. *(Зноў моршчыцца ад болю.)*

Л а б ы ш *(пахаджваючы каля сталоў)*. Піце, сваточкі, піце! Не шкадуйце маёй гарэлкі — я вам яшчэ прынясу!

Г а н е ц к і. Не, панове, мусіць, канчаць будзем: пара да шлюбу ехаць. Тут ужо і панне млодэй ад гэтай духаты млосна робіцца...

Б а з ы л ь. Паедзем, сваточкі, паедзем. Хто не дапіў яшчэ, потым дап'е. Папрашу дружыну пана маладога вылезці з-за стала. *(Вылазіць сам.)*

Ганецкі і ўся яго дружына вылазяць з-за сталоў і выходзяць на двор.

Я н у к *(да маладой)*. Ну, Янечка, табе пара ўжо вакол сталоў хадзіць з дружынай сваёй.

Я н і н а. Прасіць прабачэння ў бацькі і бога я згодна.

Госці выходзяць з хаты. Выходзіць і д з е д С т р у к а ч. Я н і н а, пакланіўшыся бацьку ў ногі, абыходзіць са сваёй дружынай вакол сталоў. На куце яна спыняецца і цалуе абразы. Ж а н ч ы н ы і д з я ў ч а т ы пяюць:

Не ведаў татка, як дачушку збыць...
Збыў яе татачка за адзін дзянёчак,
За адзін дзянёчак, за вечарочак.
— А ідзі, дачушка, не заставайся,
На маю хатку не ўглядайся.

Я н і н а *(абышоўшы вакол сталоў і другі раз пакланіўшыся бацьку)*. Ой!.. *(Да Надзі.)* Надзечка, падтрымай ты мяне, а то я ўпаду зараз — мне вельмі нядобра.

Н а д з я. Хадзі, сястрыца, каля акна сядзь. Можа табе палягчае. *(Падводзіць Яніну да акна і садзіць яе на лаве.)*

Я н у к. Ну, сваточкі, пойдзем коней запрагаць.

А н а т о л ь. Жывей, хлопцы! *(Выходзіць у суседні пакой.)*

Л а б ы ш. Ага, не марудзьце, братцы. *(Ідзе ў суседні пакой.)*

У хату ўваходзіць М а к с і м і накіроўваецца да Я н у к а.

М а к с і м. Сваток, дык дазволь жа згуляць моладзі.

А л ь ж б е т а. Сынок, што ты робіш?!

Я н у к. Максім, як ты адважыўся прыйсці сюды?!

М а к с і м. Проста, на танцы прышоў.

А л ь ж б е т а. Максімка, дзіцятка, ідзі адгэтуль.

М а к с і м. Дык што вы і пагуляць мне не дасцё?

Я н у к. Да шлюбу, братка, едзем ужо. Хіба потым.

М а к с і м. Ну хоць на адзін танец дайце музыкантаў.

Уваходзіць А н а т о л ь.

А н а т о л ь. Што тут за балаган такі?.. А, гэта ты, астрожнік! Вон пайшоў адсюль, бадзяка лясная! Што табе трэба тут?!

М а к с і м. Гэта я праз цябе бадзяюся, пілсудчык ты!

А н а т о л ь. Праз мяне? Хто табе казаў? Максім!

М а к с і м. А ты думаеш, я не ведаю, што ты з Ганецкім нашых хлопцаў у турму запякаў. Мне гэта Мішка Банадысёў казаў, які з Картуз-Бярозы збег і цяпер разам са мною ў лесе хаваецца. Падавай мне брата. *(Бярэ яго за штрыфлі касцюма.)*

А н а т о л ь. На!.. *(Б'е яго па твары.)* Табе брата...



Уваходзіць Л а б ы ш.

М а к с і м. Ах ты, гадзіна! *(Хапае са стала нож і ўдарае ім Анатоля.)* Мне турма, табе магіла. *(Бяжыць на двор.)*

А н а т о л ь. Ой! *(Падае.)*

Л а б ы ш. А божачкі! А міленькія! *(Падбягае да Анатоля.)* Толік! Толік! Сынок!.. *(Нахіляецца над ім.)*

А н а т о л ь. Лавіце, трымайце, душагуба праклятага!

Л а б ы ш. За Лесністыхай збегайце хто! Кроў астанавіць трэба!

Д з я ў ч ы н а. Я збегаю па яе! *(Выходзіць.)*

Я н у к. Давайце ў тую хату вынесем яго.

Я н у к з Л а б ы ш а м падымаюць Анатоля і нясуць яго ў суседні пакой.

М а р ы л я. А божа ж мой, што ж гэта будзе з ім?

Х л о п е ц. Выжыве, нідзе дзенецца. Ён, што кот, — жывучы: яму ж ужо не раз пападала на вечарынках.

М а р ы л я. Не, мілыя, мусіць не вытрымае: вельмі моцна паласнуў яго Максім.

Я н і н а. Толік! *(Устае і накіроўваецца ў суседні пакой, але пасярод хаты падае.)*

Н а д з я. А матачкі! Яна самлела! Цётка Марыля, вады хутчэй!

М а р ы л я *(узяўшы са стала кружку з вадой, да Надзі)*. Расшпілі ёй сукенку, на грудзі пырснуць трэба.

Н а д з я *(да Марылі)*. Яшчэ пырсніце, цётачка, яна ўжо заварушылася была.

М а р ы л я пырскае Яніне на грудзі вадою.

Я н і н а *(прышоўшы да сябе)*. Не трэба... не паможа... Я... паміраю.

М а р ы л я. Малака кіслага трэба даць ёй.

Я н і н а. Не чапайце мяне... Дайце мне спакойна памерці... Я... атруцілася.

М а р ы л я. Матачка найсвентшая! Пане Лабыш, дачка атруцілася.

Убягае Л а б ы ш.

Л а б ы ш. А божачкі! А мілыя! Дачушка мая!

Уваходзіць Л е с н і ч ы х а.

Л е с н і ч ы х а. Паўстане бог і растачацца ў гразі яго ненавідзячыя яго.

Л а б ы ш. Ратуй дзяцей, Тадора, дачку ад смерці... Нічога не пашкадую: пяцьдзесят злотых дам.

Л е с н і ч ы х а. Як рассяваецца дым, ты, госпадзі, рассей так балесць; як тае воск ад ліца агню, ты, божа, растапі нядуг яе.

Л а б ы ш. Яна ўжо канае! Свечку, свечку нясіце! Дзіцятка маё, прабач мяне. Я ж не ведаў, што ты праз любоў сваю загінуць можаш. *(Плача.)*

Л е с н і ч ы х а. Ёй ужо нічога не трэба. Яе зорачка патухне на небе. А дзе ж Анатоль?

М а р ы л я. У той хаце, Тадорка.

Л е с н і ч ы х а ідзе ў суседні пакой. Да Я н і н ы падыходзіць М а р ы л я з запаленай свечкай у руках.

Марыля *(складаючы Яніне рукі на грудзях і заціскаючы вочы)*. Спі, Янечка, спі, дзіцятка, — табе ў трунцы раскашней будзе, чым у гэтым доме вялікім.
Надзя. Ай! *(Падае Яніне на грудзі.)*

Усе плачуць.

Лабыш. О, божа! А на каго я працаваў? А для каго я стараўся? А каму ж я зямлю гэтую здабываў. Як ты пакараў мяне!

З'яўляецца Лесьнічыха.

Лесьнічыха. Господи, облегчи скорбь мою, помыслами благочестия сердца наши просвети и сыну твоему молитву вознеси о спасении душ наших.

Заслона.

## Карціна пятая

Вуліца. На вуліцы стаяць Люба, Надзя, Альжбета і Марыля. Надзя чытае пісьмо.

Надзя. «Добры дзень, мама і тата. З нізкім паклонам да вас ваш сын Грышка. Пішу пісьмо я вам з палявога шпіталю. Мяне паранілі...»
Марыля *(плача)*. Сынок...
Надзя. «... але не хвалюйцеся і не бядуйце, зусім лёгка. Мне яшчэ пашанцавала. Вось тут са мною ляжыць Кастусь Карыцкі з Зарэчча, дык ён, нябога, без правай рукі застаўся».
Альжбета. Ой, такі хлопец!
Надзя. «А Міколу Каляду з Глінішча пахавалі ўчора. Яго моцна пасекла асколкамі».
Альжбета. Бедная Тэкля: ні мужыка, ні сына.
Надзя. «Быў страшны бой за Варшаву. Мала хто вышаў з акружэння».
Люба. Прагулялі Польшчу паны.
Надзя. «Дарагія тата і мама! Прыхавайце мой гармонік. Я вярнуся і яшчэ буду іграць на ім. Пішыце, што ў вас чуваць? Як вы жывеце цяпер? Ці паправілася наша Падласка? Як там мой шустрак Гняды?»
Марыля *(плачучы)*. Ён і не ведае, што яго пад войска ўзялі.
Надзя. «Перадайце мой паклон Стасі і ўсім блізкім і знаёмым. Застаюся ваш сын Рыгор Іванавіч Баравец». *(Аддае пісьмо Марылі.)*
Марыля. Дзякуй, дачушка. *(Хавае пісьмо за пазуху.)*
Люба. Апусцела вёска. Усю моладзь пабралі. Каго на фронт, а каго ў турму.
Марыля. Хто ў турме, дык вернецца, а вось хто на вайне, невядома.
Люба. Лёгка сказаць дзесяць гадкоў чакаць.
Надзя. А мне столькі ды яшчэ паўстолькі.
Марыля. Бедная ты. Ты і грошы аддала свае ўсе і не вырвала Адаські з турмы.
Надзя. Што грошы. *(Плача.)*
Альжбета. Не плач, дачушка, будзем разам чакаць яго. У мяне па абодвух душа баліць. І Максім жа, як воўк, ад паліцыі хаваецца.

У небе раздаецца гул самалётаў.

Марыля. Зноў вірапланы лётаюць.
Альжбета. А высока — і не відаць нават.



З'яўляецца дзед Струкач. Ён зусім састарэў. Ідзе сагнуўшыся і апіраецца на палку. У зубах яго дыміць люлька.

Дзед Струкач. Здаровы, дзеткі.
Надзя. Добры дзень, дзядуля.
Дзед Струкач. Што вы ўткнуліся ў неба?
Альжбета. Во, немец сюды ўжо прыляцеў.
Дзед Струкач. Халера з ім! Усёадно паміраць мне. *(Кашляе.)*
Люба. Дзіва што! Такую махорку курыце.
Дзед Струкач. А гэта не махорка, гэта — бульбянік.
Альжбета. Лабыш дурны ідзе.
Марыля. Во, да чаго давёў чалавека асаднік. Такую гаспадарку абманам узяў і з хаты выгнаў!
Дзед Струкач. А чорт яго бяры! Сам быў цаца добрая.

Па вуліцы праходзіць Лабыш. Ён значна пастарэў і пахудзеў. Вопратка на ім парваная і месцамі свіціцца голае цела.

Лабыш. Зямля... зямля... О, я багаты! У мяне шмат зямлі. І гэта мая зямля. *(Паказвае на левы бок вуліцы.)* І гэта мая. *(Паказвае на правы бок.)* І гэта. *(Падбівае босай нагой пясок на вуліцы.)* А гэта добрая зямля! На ёй золата можа расці. *(Нагінаецца і набірае ў кішэні пяску.)*
Дзед Струкач. Хапай, хапай! Не нахапаўся яшчэ за свой век. Не, брат, больш трох аршын не адхопіш. *(Закашляўся.)*
Лабыш *(падыходзіць да людзей)*. Яніны не бачылі, куды пайшла?.. І Толіка няма.
Альжбета *(скідаючы з сябе пінжак.)* На табе, Антось, мой каптан, а то ж цела голае свеціцца.
Лабыш *(хапаючыся за полы свайго пінжака)*. Грошы! Грошы! Грошы хочаш украсці?!
Альжбета. Дзе яны ёсць тыя грошы ў цябе? Калі можа і былі дзе зашытыя якія, дык даўно вываліліся.
Надзя. Адзеньце вазьміце.
Лабыш. Не дам! Не дам! *(Мітусіцца па вуліцы.)*

Праходзіць устрывожаны Ганецкі. Лабыш кідаецца да яго.

Лабыш. Паночку, ратуйце!.. *(Хапае яго за руку.)*
Ганецкі. Што табе трэба ад мяне, вар'ят? Адстань! *(Адштурхоўвае яго.)*
Дзед Струкач. Дык што вы, пане Ганецкі, ужо і прывітацца з цесцем не хочаце?

Ганецкі паспешна адыходзіць. Лабыш, пануры, пляцецца ў другі бок.

Дзед Струкач. Ха-ха-ха! Во, адхапіў сабе зяця, Антось! *(Закашляўся.)* А каб цябе немач з гэтай хваробай!
Марыля. Ну, трэба ж і мне ісці.

Даносіцца гарматны выбух.

Марыля. Што гэта?

Усе прыслухоўваюцца. Раздаецца некалькі гарматных выбухаў.

Люба. Няўжо немцы дабіраюцца сюды?
Надзя. Але чаму гэта адтуль страляюць?

З'яўляецца Янук.

Янук. Што вы прыслухоўваецеся?
Дзед Струкач. Ды вось немец з гармат смаліць ужо.
Янук. Гэта не немец. Гэта — бальшавікі ідуць, кажуць!
Марыля. Ну? Праўда? Не можа быць.
Янук. Дальбог, праўда, мусіць! Чаму ж з таго боку страляюць?
Люба. Ой, нешта не верыцца!
Янук. Чаму не верыцца? А чаму ж палітзняволеных выпусцілі? Толькі што сустрэў я Мятліцкага з Дубавых. Дамоў ішоў.
Люба. А пра нашых нічога не чулі?
Янук. Не, ён у Лукішках сядзеў.
Надзя. Цёця, цёця! Сюды хадзіце!

Выбягае Альжбета.

Надзя. Хутка Адась прыдзе!
Альжбета. Ай-ёй! Няўжо праўда?! Хто гэта кажа?
Надзя. Ды вось, дзядзька Янук Мятліцкага з Дубавых бачыў.

З'яўляецца Базыль.

Базыль *(здалёку крычыць)*. Бальшавікі ідуць! Чулі?! Я з горада цяпер. У паноў ад страху ўсе жылкі трасуцца! Хто куды ўцякаюць. Што там робіцца, братцы!
Люба *(кідаецца на шыю Надзі)*. Надзька!
Надзя *(абдымаючы Любу)*. Любка!
Марыля. Пайду людзям казаць. *(Адыходзіць.)*
Альжбета. Мужчынкі! Можа мне ўжо і Максіма выпусціць можна. А то ён у саломе, як пацук, сядзіць.
Базыль. Выпускай, на сонца, на паветра!

Альжбета выходзіць.

Янук. А што ты, дзядзька Струкач, не радуешся?
Дзед Струкач. Цьфу, каб вы папухлі, таўстапузыя! Дваццаць гадкоў у мяне адабралі. *(Устае.)*

Смех.

Дзед Струкач. Што вы рагочаце, як жарабцы? Вам толькі жыць цяпер, а мне паміраць пара. *(Адыходзіць.)*

З'яўляюцца Максім і Альжбета.

Максім *(жмурачыся на сонца)*. Здаровы, братцы.
Базыль. Здароў, здароў, Максім.

Вітаюцца.

Альжбета. Надзя, дачушка, хадзі, памажы ў хаце прыбраць. Гэта ж свята находзіць такое!
Люба. І я пайду дапамагу вам.

Альжбета, Надзя і Люба адыходзяць.

Янук. Насядзеўся нябось...
Максім. Але, колькі дзён сонца не бачыў.
Базыль. Ну, цяпер можаш супакоіцца. Няхай паны ўжо хаваюцца.
Янук. Ага, няхай Ганецкі ў салому лезе.
Максім. А ён яшчэ тут?!
Базыль. Зямля яго ведае! Можа і ўцёк куды, гад.



Максім. Хадзем паглядзім.

Мужчыны адыходзяць. Нейкі момант на вуліцы пуста, потым з'яўляецца Міхась. З варот насустрач яму з вядром у руках выходзіць Надзя.

Надзя. Міхась!
Міхась. Добры дзень, Надзя.
Надзя *(упусціўшы вядро)*. Любка! Міхась дома!

Чуецца радасны крык Любы, затым бяжыць яна сама. Дабегшы да Міхася, Люба раптам спыняецца ў разгубленасці.

Міхась. Здарова, Любка.
Люба. Міхась! *(Кідаецца яму на шыю.)*
Міхась. Што, прачакалася?
Люба. Во, сам ведаеш.
Надзя. А дзе ж Адась?

З'яўляецца Альжбета.

Альжбета. Выпусцілі?! Здароў, сынок! А дзе ж Адась мой?
Міхась. Добры дзень, цётка. Не бядуйце, за мной ідзе. Там людзі затрымалі яго.
Надзя *(паглядзеўшы ўздоўж вуліцы)*. Вунь ён ідзе! *(Бяжыць у той бок.)*
Міхась *(да Любы)*. Ну, як ты жыла тут без мяне?
Люба. Пра цябе ўсё думала... Але я верыла, што ты вернешся.

З'яўляецца Адась з Надзяй, трымаючыся за рукі; Лявон і сяляне.

Дзяўчына. Ну, цётка, сустракай госця.
Адась. Добры дзень, мама. *(Падыходзіць да Альжбеты і цалуе яе руку.)*
Альжбета. Здароў, сынок. *(Цалуе яго.)*
Адась. Добры дзень, Люба. *(Падае ёй руку.)*

Лявон падыходзіць да Альжбеты і моўчкі цалуе ёй руку.

Альжбета. Здароў, Лявон. Не дачакалася цябе Яніна.
Лявон. Я ведаю.

Раздаюцца стрэлы і крыкі: «Трымайце яго! Трымайце!»

Альжбета. Што такое?

Бяжыць Ганецкі, адстрэльваючыся.

Лявон. Стой, шаноўны пане! *(Ударае Ганецкага па руцэ і выбівае ў яго рэвальвер.)* Мы з табою расквітаемся. *(Хапае яго за плечы і валіць на зямлю.)*

Прыбягае Максім.

Максім *(падняўшы з зямлі рэвальвер)*. Папаўся, сабака! Ад нас ты нідзе не схаваешся.

З'яўляюцца Янук і Базыль.

Базыль. Цяпер мы яго ажэнім, каб па ім вошы жаніліся, вырадак!
Ганецкі. Яшчэ вы пакаецеся за свае грахі. Не думайце, што ўжо ў рай папалі.

Л я в о н. Што будзем рабіць з гадам?
М і х а с ь. Павесіць яго зараз жа.
Я н у к. Не, братцы, пачакаем парадку новага.
А д а с ь. Правільна. А пакуль што запрыце ў свіран да каго.
Я н у к. Можна да мяне ў свінушнік, там не вельмі гразка — па калені ўсяго.
Б а з ы л ь. А ён свінскай пароды, дык яму там і месца.
М а к с і м *(наставіўшы на Ганецкага рэвальвер)*. Уставайце, пане Ганецкі.
Г а н е ц к і *(устаючы)*. Хамы! Галата! Брудасы!
Л я в о н. Пойдзем, чысцёха, пойдзем.

М а к с і м і Л я в о н выводзяць Г а н е ц к а г а. З'яўляецца ж а б р а к.

Ж а б р а к. Са святам вас, людцы добрыя! З вялікім і радасным днём! З вясною, што ўвосень прышла да нас!
А д а с ь. Таксама ж і вас, дзядуля. Ужо не прыдзецца вам больш з торбамі цягацца па свеце.
Ж а б р а к. Але ж, мілыя, можа і я зараз чалавекам буду. *(Скідаючы торбы з сябе.)* А ідзіце ж вы, карміліцы мае, на сухі лес, на балоты мокрыя, у нетру глухую, каб людскія вочы вас не бачылі. *(Вымае з торбы хлеб, цалуе яго, кладзе за пазуху, падыходзіць да крыжа і вешае на ім свае торбы.)* Абарані ж нас, госпадзі, ад няшчасця гэтага на векі вечныя.

Зяўляецца М а р ы л я.

М а р ы л я. Амінь. *(Заўважыўшы хлопцаў.)* Здаровы, хлопчыкі! Здаровы, мучанікі нашы, малайцы адважныя.
М і х а с ь. Добры дзень, цётка Марыля.
А д а с ь. Сапраўды добры дзень — незвычайны дзень сёння! Чырвоная Армія нясе нам свабоду, вызваляе нас ад панскага ярма. Дваццаць год мучылі нас паны, асаднікі, кулакі, а сёння...
М і х а с ь. А сёння папараць-кветка расквітнела для нас.

Раздаецца гул самалётаў.

А л ь ж б е т а. Віраплланы.
Л ю б а. А як нізка!
Н а д з я. З чырвонымі зорачкамі на крыллях!
Я н у к. Гэта рускія!
Б а з ы л ь. Бальшавікі!
Я н у к. У добры час, героі чырвоныя!

З а с л о н а.

Янка Непачаловіч нарадзіўся ў вёсцы Мінкавічы Старадарожскага раёна.
У 1940 годзе ён скончыў завочна літаратурнае аддзяленне Мінскага педагагічнага інстытута і працаваў настаўнікам у Дзяржынскім і Пухавіцкім раёнах. У час Айчыннай вайны Я. Непачаловіч быў сувязным партызанскай брыгады імя Кірава. Цяпер ён працуе настаўнікам у Дарагнаўскай сярэдняй школе Старадарожскага раёна.
Творы Я. Непачаловіча неаднаразова друкаваліся ў «Маладосці», «Полымі», «Вожыку». Хутка ў Дзяржаўным выдавецтве Беларусі выйдзе яго першы зборнік вершаў. Ніжэй мы змяшчаем новыя творы паэта.



Янка **НЕПАЧАЛОВІЧ**

# ПАДКОВА



Я знайшоў падкову пад кустом
На лясной сцяжынцы выпадкова.
Кажуць: да сцяны прыб'еш—і дом
Ад няшчасця зберажэ падкова.

Аб пясок абцёр іржу з яе—
І падкова, нібы люстраная...
На Урале брат метал куе,
Значыць, ён аб шчасці нашым дбае.

Брат другі шырока мой вядом:
Здабывае ён руду штодзённа,
І жыве яго шчасліва дом,
Мой—таксама шчасцем акрылёны.

Мне не горш жывецца, чым братам.
Для чаго ж, скажы ты мне, падкова?...
Зборшчыку металу цябе здам
Неадкладна і абавязкова.

Там цябе да хаты не прыб'юць —
Не дапусцім, каб ты век ржавела.
Будзеш службу нам служыць сваю,
Зазвініш, як некалі звінела!

Можа, зробіць хто з цябе цвікі,
Можа, часткай станеш для машыны —
Усёроўна ёсць закон такі:
Толькі шчасцю ты служыць павінна.

# З ТАБОЮ



З табою шчырым словам
Падзелішся ў бядзе—
Бяды тае палова
З плячэй маіх спадзе.

Сваёю палавінаю
Жыцця лічу цябе.
Жыву табой адзінаю
І ў шчасці, і ў журбе.

Ты мне ўручыла сэрца—
Душа ў цябе мая:
Калі табе пяецца—
Мне весела ўдвая.

Прыду з работы—бачу я,
Працуеш за дваіх.
Твая любоў гарачая—
Крыніца сіл маіх.

Ты надзяліла сілаю,
І дужы я такі,
Што жыць з табою, мілая,
Магу хоць два вякі!

* * *



Гары, маё сонца, гары,
Абняўшы прасторы зямлі,
Любоў, сваю ласку дары,
Каб людзі у згодзе жылі;

Каб рунь аздабляла палі,
Каб сосны звінелі ў бары,
І птушкі каб гнёзды вілі—
На кожнай галінцы па тры!

Гары, маё сонца, гары.
Каб дрэвы і кветкі цвілі
І скрозь ад зары да зары
Над кветкамі пчолы гулі;



Каб хлеба хапала для тых,
Хто носіць свой век мазалі,
Каб нашыя з намі браты
Заўсёды у дружбе жылі;

Гары, маё сонца, гары,
Жылі каб табою усе,
Адчуў каб юнак і стары,
Штó ў сэрцы ён сонца нясе.

Каб кожны ў рашаючы час
Мог сэрцам сяброў азарыць,
Каб сэрцу адзін быў наказ:
Гары, маё сэрца, гары!

# ВЕРНАСЦЬ



Мужа кулі скасілі —
Затужыла ўдава:
Спаць яму у магіле—
Ёй дзяцей гадаваць.

У жніво, у спякоту
Ён спакойна ляжыць.
А яна на работу
На дасвецці бяжыць.

Плеткароў языкатых
Ён не чуе—глухі:
Родны брат зойдзе ў хату —
Ёй прыпішуць грахі.

Праўда, з дзеверам дружаць —
У іх доля адна,
Згодзен ён быць за мужа,
Ды не згодна яна.

Сын пайшоў яе ў прымы,
Выйдзе замуж дачка.
І тады ужо, магчыма,
Возьме ў дом прымака.

* * *



Можа праўду ты сказаць не хочаш?
Не кажы. Занадта не прашу:
Пагляджу уважліва у вочы
І пабачу ў іх тваю душу.

Хоць душа глыбей за дно марское,
Ды яна не мора—ў ёй відней:
У вачах адлюстравана тое,
Што ў душы хаваецца на дне.

Радасць неўгамонная і смутак,
Боль, які парой душу пячэ, —
Мне відаць. І, можа, я таму так
Даражу святлом тваіх вачэй.

Дружа, нам сумленне моль не точыць,
А пра шчырасць я таму кажу,
Што гляджу адкрыта праўдзе ў вочы,
Бачачы у ёй сваю душу.

## ДВА СОНЦЫ



Адно пячэ, аж дзецца недзе,
Другое песціцца ў вадзе;
Адно б'е ў вочы — не разгледзець,
Другое можна дзень глядзець...

Мастак хадзіў каля ракі там,
З двух сонцаў выбраўшы адно,
Схапіў яго з вядомым спрытам
І палажыў на палатно.

На палатне у фарбах яркіх
Абсохла сонца, і тады
Сыпнула золата з-за хмаркі
На фоне сіняе слюды.

І ўсё-ж... карціну не прызналі;
Адна з прычын тае бяды:
Блакіт і сонца—ўсе дэталі
Не з неба ўзяты, а з вады.

Іван Науменка нарадзіўся ў 1925 годзе ў гарадскім пасёлку Васілевічы Гомельскай вобласці ў сям'і рабочага-чыгуначніка. Да вайны вучыўся ў сярэдняй школе.
У гады Вялікай Айчыннай вайны быў падпольшчыкам, партызанскім разведчыкам, прымаў удзел у баях з нямецка-фашысцкімі захопнікамі на Ленінградскім і 1 Украінскім франтах. Узнагароджан ордэнам «Чырвонай Звязды» і медалямі.
У пасляваенныя гады працаваў карэспандэнтам абласной газеты «Бальшавік Палесся», затым рэспубліканскай газеты «Звязда». Закончыў завочна БДУ імя Леніна, пазней аспірантуру. Апавяданні пачаў друкаваць з 1955 года.
І. Науменка — член Саюза пісьменнікаў БССР.



Іван **НАУМЕНКА**

# ПЕРАЛОМНЫ ЎЗРОСТ

**Апавяданне**

Мал. Г. Паплаўскага.

I

Пека быў добры хлопец. У гэтым я пераканаўся, як толькі мы пазнаёміліся. Ён першы падышоў да мяне і прывітаўся, хоць гэта належала зрабіць мне, як гаспадару хаты. Справа ў тым, што Пека прыехаў да нас кватараваць. Прыехаў з горада ў наша ціхае мястэчка, якое ў той памятны год стала раённым цэнтрам. Я трошкі баяўся гарадскіх, трошкі іх недалюбліваў і можа таму ў дзень прыезду Пекі аднёсся да яго не зусім прыхільна.

Магчыма, была і другая прычына, з-за якой мне не адразу ўдалося разгледзець у асобе Пекі поўнага свайго аднадумца. З кузава паўтараткі, што спынілася насупраць нашага двара, саскочыла маладая жанчына велічэзнага росту. Такіх высокіх жанчын я яшчэ не бачыў ніколі. У нашым мястэчку такіх не было. Таму я на першым часе ўсю сваю ўвагу накіраваў на гэтую высокую, якая цяпер ужо лічылася нашай кватаранткай.

З кузава злезлі яшчэ двое — тоўсты мужчына і хлопец маіх год. Але я на іх не глядзеў. Я дапамагаў зносіць рэчы ў другі пакой нашай хаты, якую мае бацькі аддалі пад кватэру гэтым прыезджым, і сачыў толькі за высокай тонкай кватаранткай. Яна з непрывычкі стукнулася галавой аб верхнюю дошку калiткі і, пасля ўжо, усе астатнія разы згіналася дугой, калі хадзіла ад машыны ў хату.

Рэчы мы пазносілі, і новыя гаспадары, зачыніўшыся, пачалі іх расстаўляць і ўладкоўваць. Іх кватэра адразу стала лепшай, чым наша. На двор яны выходзілі праз пярэдні пакой, які застаўся нам, і цяпер усё жыццё нашай сям'і было на відавоку. Мне стала крыху сумна ад гэтага і, каб развеяць маркотныя думкі, я выйшаў на вуліцу. Я не прыходзіў дамоў да самага вечара. А вечарам у нас якраз і адбылося знаёмства з Пекам.

Пека, мабыць, чакаў мяне. Ён сядзеў на лавачцы і чарціў дубцом па зямлі.

— Добры дзень,— сказаў ён.— Мяне завуць Пека. Давай дружыць.

— Пека? — здзівіўся я. — Хіба ёсць такое імя?

— Ну, па-звычайнаму, Пятро. Гэта мяне так Рашэль называе..

— Якая Рашэль? Твая маці?

— Мацеры ў мяне няма, — сумна прамовіў Пека. — І бацька памёр таксама. Рашэль — сястра...

Мне стала шкада Пекі. Я ўжо вінаваціў сябе за тое, што так няласкава яго сёння сустрэў. Хвілін праз дваццаць мы ведалі адзін пра другога ўсё. Пека, як і я, перайшоў у пяты клас, і мы адразу дамовіліся, што ён запішацца ў «Б» клас, каб нам разам вучыць урокі. Ад свайго новага сябра я дазнаўся, што ён умее гуляць у шахматы і збіраецца змайстраваць уласны радыёпрыёмнік. Сам я тады яшчэ не гуляў у шахматы, а што датычыцца радыёпрыёмніка, дык нават не дакранаўся да яго. Вядома, я адразу пранікся павагай да Пекі, хоць мяне і калола зайздрасць. Але мае ўласныя козыры яшчэ былі зусім не раскрыты і я спадзяваўся ўзяць рэванш.

— Ты чытаў «Капітана Гатэраса»? — спытаў я ў Пекі, спадзеючыся на адмоўны адказ.

Гэтая кніга дарэвалюцыйнага выдання трапілася мне без вокладак, і я таіў цвёрдую надзею, што ён яе не чытаў.

— Гэта Жуль Верна? — Пека ніколькі не здзівіўся пытанню.— Чытаў яшчэ летась...

Пачатак для мяне складаўся няўдала. Чарга задаваць пытанне была за Пекам, і я насцярожана прыціх.

— А ты чытаў «Рабінзона Крузо»?..

Не прачытаць «Рабінзона» было б проста сорамна, на гэтым мяне Пека злавіць не мог. Я прачытаў аж тры кнігі пра розных рабінзонаў, аб чым яму адразу заявіў. Мы досыць доўга шпілялі адзін другога пытаннямі наконт прачытаных кніг, і ўрэшце пагадзіліся, што сілы ў нас прыкладна роўныя. Былі кнігі, якіх не чытаў я, траплялiся і такія, якіх не чытаў мой сябар. Галоўнае, мы абодва любілі кнігі і пазналі адзін у адным людзей, блізкіх па духу. Мы ў той вечар так захапіліся ацэнкай вартасці розных пісьменнікаў, што нават не пачулі, як да паркана, які аддзяляў лавачку ад двара, падышла доўгая Пекава сястра.

— Пека!— пачуўся яе прарэзлівы голас. — Ідзі спаць. Ты ўжо сёння сабе зарабіў...

Пека падхапіўся і, угнуўшы галаву ў плечы, паціху пашкандыбаў у двор. Мне стала крыху няёмка за сябра. Нічога ж дрэннага мы не рабілі.

Але гэты выпадак на першым часе неяк забыўся. Былі справы важнейшыя за крыклівую Пакаву сястру, і мы аддаваліся ім усім сэрцам. Яшчэ не кончыліся канікулы, і я з раніцы хадзіў на заработкі — ссякаў на нашай станцыі траву паміж шпаламі і зносіў яе прэч. За гэта мне плацілі цэлых сто дваццаць рублёў у месяц — грошы па даваенным часе немалыя. Прыходзіў я дадому гадзіны ў чатыры, і Пека ўжо чакаў мяне. У маю адсутнасць ён бавіў час з трыма маімі меншымі братамі. Але з імі Пеку было, вядома, нецікава. Двое маіх братоў — Піліп і Кузя — зусім яшчэ не хадзілі ў школу і скакалі верхам на бярозавых кійках, а Васіль, на тры гады малодшы за мяне, перайшоў толькі ў другі клас і не прачытаў яшчэ ніводнай кнігі.

Я прыходзіў, умываўся, хуценька абедаў, і мы з Пекам хаваліся пад



павець. Туды разам з намі імкнуліся прабрацца і мае браты, але я іх без літасці праганяў. Пад павеццю мы майстравалі радыёпрыёмнік, і лішнія вочы там былі зусім непатрэбны. З прыёмнікам справа і без таго не клеілася. Пакуль што мы зрабілі толькі невялікую скрыначку і перамотвалі катушкі. Галоўную дудку у нашай агульнай справе іграў, вядома, Пека, я ж быў толькі за падсобную сілу. Сябар часта паказваў мне чудадзейны каменчык — дэтэктар і запэўняў, што да пачатку заняткаў мы будзем мець радыё. У яго-такі былі залатыя рукі, у гэтага Пекі. Ён умеў чытаць надрукаваныя ў кніжцы схемы, вельмі спрытна карыстаўся стамескай, напільнікам, кусачкамі. Я пачынаў верыць, што да пачатку заняткаў у нас будзе радыё і што мы з Пекам прынясем у наш пяты «Б» клас самую цікавую навіну.



Але на нашым канструктарскім шляху стаялі неадольныя перашкоды. Розных вінцікаў, шурупак, маткоў меднага дроту ў Пекі хапала, на недахоп матэрыялаў мы паскардзіцца не маглі. Перашкоды былі куды больш сур'ёзныя. Вечарам якраз прачыналася Пекава сястра Рашэль. Яна вяла сябе наогул дзіўна. Ноччу Рашэль чытала і клалася спаць пад самую раніцу. Раніцай ўставала, снедала і зноў засынала. Прачыналася Рашэль у той самы час, калі ў нас ішла гарачая работа. Вядома, каб не мая чыгунка, мы-б пачалі майстраваць радыёпрыёмнік днём. Але выбіраць не прыходзілася: новыя штаны, сарочка і чаравікі, у якіх я збіраўся з'явіцца ў пяты клас, у многім залежалі ад майго заробку.

Прачыналася Рашэль, і наша майстраванне канчалася.

— Пека! — крычала яна. — Прынясі вады!...

Пека хуценька складваў прычындалы і з усіх ног бег гаспадарыць. Лёс абеду, які можна было назваць і вячэрай, залежаў ад яго аднаго. Пека насіў ваду, чысціў бульбу, распальваў прымус. Рашэль толькі стаяла і камандавала. Я не зайздросціў Пеку. Я меў уласны заробак і ганарыўся тым, што мной у сям'і ніхто не папіхае. Маці пры маім прыходзе з чыгункі хуценька ставіла на стол абед, і я іншы раз нават шпурляў лыжку, калі лічыў страву нясмачнай...

Усё ж неяк мы майстравалі гэты прыёмнік. Магчыма, мы што-небудзь і зрабілі б, каб не адзін прыкры выпадак. Аднойчы, калі мы прыступілі да самай тонкай работы, — перакладвалі лісцікамі слюды пласцінкі будучага кандэнсатара, — Рашэль прачнулася раней звычайнага. Мабыць, занятыя працай, мы не пачулі, калі яна клікала Пеку. Рашэль прыляцела пад павець страшэнна разгневаная.

— А гэта што такое? — закрычала яна. — Ты гэта чым выпэцкаў майку?

Пекава майка была зусім яшчэ чыстая, на ёй толькі самае прыдзірлівае вока магло заўважыць маленькую плямінку. Гэтую плямінку Пека пасадзіў яшчэ ўчора, калі мы прыпайвалі катушкі. Рашэль проста шукала прычэпкі, каб адпомсціць Пеку за тое, што ён не з'явіўся, калі яна яго звала.

— Я памыю майку, — лепятаў мой сябар пабялелымі губамі. — Я не чуў, як ты звала...

Рашэль болей не крычала. Яна схапіла скрыначку, дзе ўжо былі прыпаяны тры гатовыя катушкі, і пакрочыла прэч. Пека стаяў спалоханы і маўклівы.

— Ты болей гэтай дрэнню займацца не будзеш, — ужо на парозе крыкнула Пеку сястра. — Ты сабе сёння зарабіў...

Я не разумеў, чаго Пека так баіцца сваёй сястры. Ён вылазіў са скуры, каб ёй дагадзіць, хадзіў пры ёй пакорлівы і маўклівы, хоць па натуры быў вясёлы і рухавы хлопец. Мае меншыя браты Васіль, Пiлiп і Кузя, да якіх я таксама адносіўся не вельмі далікатна, мяне ніколечкі не баяліся. Яны дражніліся са мной, як з роўным, кралі мае рэчы і, калі ім ад мяне пападала, у ахвоту скардзіліся на мяне матцы. Ніякай улады над імі я не меў. Пека ж дрыжаў перад сястрой, як асінавы ліст.

Прыёмніка мы так і не змайстравалі. Пека пасля гэтага выпадку некалькі дзён дагаджаў сястры з усіх сіл. Але калі ён заікнуўся наконт радыё, яна нават не захацела яго слухаць.

— Ты перайшоў толькі ў пяты клас,— рашуча заявіла Рашэль.— З радыётэхнікай вы пазнаёміцеся ў сёмым класе, калі па фізіцы будзеце праходзіць электрычнасць. Цяпер гэта табе не трэба.

Рашэль была настаўніцай. Яна хоць і не працавала ў школе, але дужа ганарылася сваёй прафесіяй і заўсёды навучала маю маці, як трэба выхоўваць дзяцей. Пеку яна трымала на строгім рэжыме. Ён уставаў і клаўся спаць у вызначаныя гадзіны, не меў права есці яблыкаў, не памыўшы іх у кіпятку, не мог чытаць кніг, якіх Рашэль не дазваляла. Сама яна, праўда, не прытрымлівалася ніякага рэжыму і па-ранейшаму ўначы чытала, а ўдзень спала.

Муж Рашэлі, якога звалі Сямёнам Барысавічам, дома не стыкаўся. Ён быў нарыхтоўшчыкам і цэлы тыдзень ездзіў па раёну. Працаваў Сямён Барысавіч ад некалькіх арганізацый і нарыхтоўваў усё: скуры, грыбы, рогі і капыты, шэрсць, мёд, лекавыя травы і нават яловыя шышкі. Прыязджаў ён дадому ў суботу апаўдня, мыўся, галіўся і садзіўся пералічваць грошы. Грошай у яго было заўсёды шмат — поўная раменная сумка.

Хоць Рашэль і была настаўніцай, але мне яна не падабалася. Каб не Пека, я наогул бы ўхіляўся ад усялякіх сустрэч з ёю. З Пекам жа мы пасябравалі, і я часта без яго не мог абысціся. Мы ўжо гулялі з ім у шахматы, і на гэта кожны раз трэба было прасіць дазволу ў доўгай Рашэлі.

— Будзеш гуляць адну гадзіну, — сонным голасам дазваляла Пеку сястра. — У тваім узросце не трэба затлумліваць галаву...

Пека мяне амаль заўсёды абыгрываў, і я ніяк не мог звесці з ім рахунку. У тую самую хвіліну, калі я, здавалася, быў на парозе да вернай перамогі, паяўлялася кватарантка і падымала Пеку ад шахматнай дошкі. Яна была як заведзеная, гэтая Рашэль. Яна прыходзіла тады, калі менш за ўсё была патрэбна, прымушала рабіць тое, чаго ніхто не хацеў. Я проста зненавідзеў яе пісклівы голас, яе недарэчную даўжэзную постаць. Пека ж маўчаў і цярпеў. Ён ні разу не агрызнуўся, не запярэчыў сястры. Я нават крыху недалюбліваў за гэта свайго новага сябра. Манах ён нейкі, ці што?...

Нарэшце, канікулы скончыліся. У першы дзень заняткаў я апрануў усё новае—сарочку, штаны, чаравікі. Я адчуваў сябе імяніннікам і з нецярпеннем крочыў па двары, чакаючы Пекі, каб пайсці разам у школу. У душы я таіў надзею, што ў яго новага адзення няма, і па гэтай прычыне



мой настрой быў самы ўзнёслы. Новыя штаны былі са складкай і не тапырыліся пухірамі на каленях, белая сарочка прыемна шасцела пры кожным руху. Мне здавалася, што на мае абновы пазірае кожны, хто праходзіць паўз нашу хату. Але на парозе паявіўся Пека, і мая радасць адразу знікла. Ён быў апрануты куды лепш, чым я. На ім быў сапраўдны суконны касцюм, бліскучыя з вузкімі наскамі туфлі і прыгожая з адкладным каўнерыкам шаўковая сарочка. Усё-такі доўгая Рашэль не пашкадавала грошай на Пеку.

## II

Мы сталі вучыцца ў пятым класе. Пека яшчэ ў першыя дні праславіўся як самы здольны вучань. На другі ці трэці дзень заняткаў усяму нашаму класу далі рускую дыктоўку. Настаўнік Рыгор Канстанцінавіч, мабыць спецыяльна для таго, каб праверыць нас, падабраў самы цяжкі тэкст. Я і яшчэ адна вучаніца-другагодніца напісалі дыктоўку на «здавальняюча», а Пека — на «добра». Ён зрабіў толькі дзве памылкі. Усім астатнім вучням паставілі дрэнныя і вельмі дрэнныя адзнакі. Мы ўтраіх былі героямі дня, і самым галоўным героем быў, вядома, Пека. Рыгор Канстанцінавіч яго хваліў перад усім класам. Я крыху зайздросціў Пеку, бо ў чацвёртым класе самым моцным па рускай мове лічылі мяне.

Нам з Пекам падабалася вучыцца ў пятым класе, дзе выкладалі некалькі настаўнікаў. Пяты клас проста нельга было параўнаць ні з трэцім, ні з чацвёртым. Тут было і цікавей, і весялей. Настаўнікі ў нас падабраліся добрыя, і амаль усе яны называлі нас, пяцікласнікаў, на «вы». Спачатку гэта здавалася мне дзіўным, але паступова я прызвычаіўся да такога абыходжання.

У тыя далёкія гады я глядзеў на настаўнікаў, як на нейкіх вышэйшых істот. Я не дапускаў нават думкі, што яны могуць быць самымі звычайнымі людзьмі, могуць памыляцца або рабіць якія-небудзь брыдкія рэчы. Я цвёрда верыў, што нашы педагогі жывуць нейкім асаблівым, ідэальным жыццём.

Настаўнікі ўяўляліся мне нават у сваім дамашнім побыце гэткімі ж строгімі і разумнымі, як і на ўроках. Раз яны вучаць нас стараннасці, праўдзівасці, сумленнасці, то і самі павінны быць такімі. Інакшай думкі я не дапускаў.

Рашэль, якая хвалілася тым, што цэлых два гады працавала ў школе, сваімі паводзінамі неяк супярэчыла гэтаму майму ўяўленню. Яна па-ранейшаму ўночы чытала, а ўдзень спала, або споўдалася па двары.

Я не хацеў лічыць Рашэль за настаўніцу. Але яна ўсё ж настаўніцай была, у гэтым прыйшлося пераканацца. Яна ведала напамяць безліч вершаў, прачытала страшэнна многа кніг. Іншы раз Рашэль правярала Пекавы сшыткі, і я бачыў, што яна не прапускала ніводнай самай маленькай памылкі. Яна вельмі добра ведала ўсе граматычныя правілы і, не заглядваючы ў слоўнік, гаварыла, як трэба напісаць тое або іншае слова. Я не памятаю, каб Рашэль хоць раз памылілася...

Мы з Пекам вучыліся даволі роўна. Ён па-ранейшаму пісаў рускія дыктанты лепш за мяне, але ў веданні астатніх прадметаў я яму не ўступаў. Урокі мы рыхтавалі разам, на нашай палавіне хаты, і гэта давала нам вялікую эканомію ў часе. Задачы, якія нам задавалі на дом, мы дзялілі папалам і рашалі кожны сваю частку, а потым адзін у другога пера-

пісвалі рашэнне. Гэтак жа мы паступалі і з нямецкім перакладам. Яшчэ лепш ішла справа з вуснымі прадметамі. Тут было працей. Адзін з нас чытаў, а другі слухаў. Потым мы закрывалі кнігу і, дапамагаючы адзін аднаму, успаміналі і пераказвалі прачытанае.

Дзякуючы такой намі ж выдуманай сістэме, на падрыхтоўку урокаў мы трацілі не больш двух гадзін. Увесь астатні час мы аддавалі кнігам. Гаспадарчы клопат з Пекавай галавы спаў, бо цяпер Рашэлі прыслужвала мая маці. Пад выглядам падрыхтоўкі ўрокаў мы на працягу доўгіх асенніх вечароў глыталі кнігу за кнігай. Мы чыталі ўсё, што трапляла пад руку. Рашэль аб гэтым, вядома, не здагадвалася. Яна-б ніколі не дазволіла Пеку чытаць кнігі, якія не мелі ніякага дачынення да школьнай праграмы.

З Пекам я сябраваў, мы абмяркоўвалі з ім многія рэчы, але адно ў ім было незразумела. Ён страшэнна баяўся сваёй доўгай сястры. Ён ёй ніколі не гаварыў праўды, змаўкаў, калі яна выходзіла са свайго пакоя, і амаль увесь свой час праводзіў на нашай палавіне хаты. Пека жыў нейкім двайным жыццём. Дома, паблізу ад сястры, ён быў ціхі і пакорлівы, не павышаў голасу і не смяяўся. На вуліцы ж або ў школе Пека мяняўся на вачах. Ён быў бадай самы гарэзлівы хлапец у нашым пятым класе. Ён дужаўся з аднакласнікамі, бегаў па партах, прыкладваў кожнаму мянушкі. Адзін раз ён нават разбіў да крыві нос вучню чацвёртага класа за тое, што той назваў яго канапатым. У Пекі сапраўды ўвесь твар быў у вяснушках, і крыўдаваць за мянушку яму не выпадала, бо і сам ён ахвотна даваў мянушкі другім. Мы ледзь тады ўгаварылі таго вучня не скардзіцца ў школе, бо Пеку пагражала вялікая непрыемнасць...

Гэтая няўрымслівасць сябра не падабалася мне. Я яго так і не мог зразумець. Калі ён сапраўды такі гарачы і смелы, то чаго ён так баіцца сваёй Рашэлі, не скажа ёй насупраць і слова? Чаму ён дома адзін, а ў школе другі?

Іншы раз мне здавалася, што Рашэль вельмі добра ведае свайго брата і таму стараецца моцна трымаць яго ў сваіх руках. Нездарма ж яна настаўніца. Але такая думка вельмі хутка знікла. Рашэль не цікавілася нікім, апрача самой сябе. Яна, праўда, любіла ўсіх павучаць і абгаворваць, але рабіла гэта, мабыць, проста так, па прывычцы.

Наогул Пекава сястра задала мне загадку, якую я доўга не мог разгадаць. Мабыць з-за яе я стаў пільней прыглядацца да настаўнікаў, якія нас вучылі, знаходзячы іншы раз у іх паводзінах нешта такое, што ў маім уяўленні крыху псавала абсалютную ідэальнасць гэтых людзей. Яшчэ тады, у пятым класе, некаторыя настаўнікі перасталі для мяне быць толькі багамі...

Я стаў прыкмячаць, што ў кожнага настаўніка свой характар, свае звычкі і нават свае ўласныя патрабаванні да вучняў. Нават злаваліся настаўнікі, калі хто-небудзь парушаў дысцыпліну, па-рознаму.

Бадай найбольш паважаным з усіх педагогаў, якія нас тады вучылі, быў настаўнік рускай мовы Рыгор Канстанцінавіч. Пра яго строгасць і патрабавальнасць хадзілі легенды. Памятаю першы ўрок Рыгора Канстанцінавіча. Высокі, чарнавалосы, ён увайшоў у клас павольнай, размеранай паходкай. Ён не адразу павітаўся з намі, а спачатку доўгім позіркам абвёў клас, як бы прыкідваючы, чаго варты кожны з нас. Цэлы ўрок настаўнік знаёміўся з намі. Ён распытваў, што мы чыталі, якія кнігі нам падабаюцца, дзе працуюць нашы бацькі. Толькі на трэці дзень заняткаў Рыгор Канстанцінавіч даў нам тую славутую дыктоўку, якую за вы-





ключэннем траіх, увесь клас напісаў на дрэнна. Тлумачыў ён вельмі проста і даходліва. Яго нельга было не зразумець.

Адзнакі Рыгор Канстанцінавіч ставіў справядліва. Ён мог паставіць здавальняюча і за восем памылак, калі бачыў, што вучань расце. І наадварот, ён рэзка зніжаў адзнаку таму, хто ў новай дыктоўцы зрабіў тую ж самую памылку, што і раней. Я не памятаю, каб Рыгор Канстанцінавіч калі-небудзь крычаў. Ён, здаецца, зусім спакойна выклікаў вінаватага і пачынаў яго ўшчуваць. Ён не лаяўся, не абражаў вучня, але калі настаўнік пачынаў гаварыць, то было чуваць, як б'ецца муха аб аконнае шкло.

Мы паважалі свайго настаўніка рускай мовы. Яго пахвала лічылася самай вышэйшай у школе. Рыгор Канстанцінавіч быў заўсёды роўны, стрыманы, акуратны. Ён не мяняў сваіх поглядаў і рабіў заўсёды так, як гаварыў. Здавалася, што гэты чалавек выпраменьвае са сваіх вачэй нейкую разумную сілу, супраць якой не мог устаяць ніхто.

Рыгор Канстанцінавіч быў нашым класным настаўнікам і, вядома, вельмі хутка дазнаўся аб прадзелках Пекі.

— Сілы ў цябе многа, ці што?— пытаўся ён у сябра. — Не ведаеш, куды яе падзець? А можа ты зазнавацца пачаў, Пятро Мацюшэнка? Вучышся ты добра, і таму стаў лічыць, што табе ўсё дазволена?

Пека ніколі не апраўдваўся ў такія хвіліны. Ён стаяў за сваёй партай чырвоны і разгублены. Мне здавалася, што сябру страшэнна сорамна.

Рыгор Канстанцінавіч не называў нас на «вы». Але размаўляў ён з вучнямі, як з дарослымі — сур'ёзна і патрабавальна. За гэта, мабыць, больш за ўсё і паважалі настаўніка.

III

У нашым пятым класе вучылася смяшлівая і вясёлая дзяўчынка Ліна. Вучылася яна няроўна. Здаралася, што ў адзін і той жа дзень у яе дзённік трапляла і выдатная і дрэнная адзнака. Усё залежала ад Лінінага настрою. Іншы раз, нават добра ведаючы ўрок, яна не ішла адказваць і потым з выглядам пакутніцы не ўставала з-за парты нават на пераменках.

Але ў першым паўгоддзі мы прывыклі бачыць Ліну нейкай вогненна-вясёлай. Яна насілася па класу, як апантаная. Ганялася за хлопцамі, гуляла з імі ў «чот і лішку», стукалку і нават, ператварыўшы пры дапамозе шпілек сваю спаднічку ў нешта накшталт штаноў, вярцелася на турніку. Ліна ведала амаль усе хлапечыя тайны, сябравала пераважна з хлопцамі і пра свой жаночы пол адзывалася надзвычай зняважліва.

Пасля ўрокаў я і Пека часцей за ўсё ішлі разам з Лінай, бо нам было па дарозе. Дзяўчынка жыла ў гасцініцы, дзе яе бацька працаваў загадчыкам. Дарогай Ліна балбатала без упынку. Яна прыехала ў наша мястэчка аж з Каўказа і вельмі ахвотна расказвала пра смелых і адважных чачэнцаў, пра тое, як яны крадуць сабе ў жонкі дзяўчат і як танцуюць з кінжаламі ў зубах. За гэтыя апавяданні дзяўчыне нават далі ў класе мянушку — «чачэнка».

На нашым школьным вечары Ліна сама аднойчы танцавала каўказскі танец, трымаючы ў зубах звычайны сталовы нож, бо кінжала ў школе не знайшлося.

Ад нас з Пекам у дзяўчынкі не было ніякіх сакрэтаў. Яна скардзілася, што страшэнна не любіць арыфметыкі і пасля кожнай рашонай задачы ў яе баліць галава. Мы з Пекам ішлі насустрач жаданню Ліны і навыперадкі давалі ёй спісваць нашы рашэнні. Я хутка заўважыў, што Ліна ахвотней бярэ Пекавы сшыткі. А Пека, не гледзячы на тое, што арыфметыку мы заўсёды рыхтавалі разам, трымаў сябе так, нібы толькі ў яго аднаго задачы выйшлі па адказу. Гэта мяне крыўдзіла, і бывалі хвіліны, калі Пека здаваўся мне проста ненавісным.

Хутка я пераканаўся, што Ліна наогул горнецца да Пекі. Па дарозе яна размаўляла часцей за ўсё з ім, звонка смяялася пасля кожнага яго жарту, а я быў, як у той гульні — «трэцім лішнім». Ліне, відаць, падабалася, што Пека гучней, чым другія, крычаў на перапынках, бегаў па партах, дужаўся з кожным, каго ні стрэне. У маёй натуры ніякай няўрымслівасці не было, і таму Ліна проста не выдзяляла мяне сярод іншых хлопцаў.

З Пекам у мяне адносіны псаваліся. Я ведаў, як ён баіцца сваёй Рашэлі, як ходзіць перад ёй на задніх лапках, і таму зусім не лічыў яго смелым. «Варона,— помсліва думаў я пра Ліну.— Што яна такога знайшла ў гэтым канапатым Пеку?».

Аднойчы, калі канчалася ўжо другая чвэрць, я падклаў і Пеку і Ліне добрую свінню. Тры разы ў тыдзень Рашэль пускала свайго брата пакатацца на каньках. Пускала яна яго ўсяго на адну гадзіну, і таму я не любіў выбірацца на лёд разам з Пекам. Увойдзеш у самы смак, ляціш на дзеравяшках па звонкім ільду, забываючы аб усім на свеце, а Пека раптам заве дамоў. Яго гадзіна кончылася...



На гэты ж раз я пакінуў лёд раней за Пеку. У той вечар на нашу замёрзлую рачулку прышла Ліна. Можа яны згаварыліся з Пекам, можа дзяўчына дазналася сама, якой цудоўнай бывае рачулка зімовым вечарам, калі над зямлёй вісіць сіняе сутонне, а лёд звініць і патрэсквае, але яна прышла.

Ліна ўмела катацца на каньках, гэта я ўбачыў адразу. Пека імчаў першы, за ім Ліна, а трэцім я. Мне здалося, што Пека з Лінай хочуць наўмысна адарвацца ад мяне, каб застацца адным, і я звярнуў убок, каб ім не перашкаджаць. У іх абодвых былі бліскучыя снягурачкі, а ў мяне самаробныя дзеравяшкі. Мне ад гэтага стала неяк горка і крыўдна і, зняўшы свае дзеравяшкі, я ціха паклыпаў дадому.

Дома я сеў за арыфметыку. Нам далі рашыць два вельмі цяжкія прыклады на дзяленне дробаў. Гэтыя дробы былі нейкія чатырохпавярховыя, і прайшла можа цэлая гадзіна, пакуль я рашыў першы прыклад. Пекі ўсё не было. Я ўяўляў, як, пабраўшыся за рукі, Пека з Лінай носяцца па ільду, і мяне ўсё болей апаноўвала злосць. «Ён хоча, каб я рашыў і яго прыклад,— з нянавісцю думаў я пра Пеку.— Я рашу, але заўтра паглядзім»... Два разы выходзіла са свайго пакоя доўгая Рашэль і пыталася, дзе Пека. Я адказваў, што не ведаю.

Пека прышоў можа гадзіны праз тры. Ён быў расчырванелы і ўзбуджаны. «Рашыў задачы?» — спытаў ён у мяне шэптам. Я кіўнуў галавой. «Заўтра пойдзем у школу раней, я ў цябе перапішу»... Выскачыла Рашэль і накінулася на Пеку. Ён спачатку нешта даводзіў ёй пра рэпетыцыю харавога гуртка, але яна не слухала. Яна лементавала, як шалёная, а Пека стаяў насуплены і няшчасны. Мне ў гэтую хвіліну нават стала крыху шкада сябра, і я ўжо зусім на яго не злаваўся.

Але назаўтра прага помсты авалодала ўсёй маёй істотай. Калі па дарозе ў школу мы праходзілі паўз гасцініцу, з яе двара выскачыла Ліна. Яна, мабыць, спецыяльна падпільноўвала Пеку. Са мной Ліна нават не павіталася. Яна гаварыла толькі з Пекам, успаміналa рачулку, пытаючыся, калі ён пойдзе зноў катацца на каньках. Я ішоў ззаду і набіраўся злосці.

— Ты рашыў прыклады? —перад самай школай пацікавілася Ліна.

— Рашыў, — абыякавым голасам адказаў мой сябар.

— Дасі мне перапісаць?

— Дам...

У мяне закіпела ў грудзях. Я ледзь не закрычаў ад абурэння на гэтых дваіх, якія без ніякага сумлення не хацелі заўважаць ні мяне, ні нават маёй працы. Але я ўсё ж стрымаўся. Я толькі адстаў крокаў на дваццаць ад Пекі з Лінай.

— Ты хутка? — на самым ганку аклікнуў мяне Пека.

— Хутка...

Але ў клас я не пайшоў. Як толькі Пека з Лінай схаваліся ў калідоры, я сігануў за вугал школы. Я стаіўся ў штабелях дроў і з нейкім радасна-помслівым пачуццём маляваў сабе карціну, якімі вачамі глядзіць цяпер Ліна на свайго смелага і разумнага Пеку, у якога не рашоны ніводны прыклад. Я нават замёрз, седзячы на дровах, але ў клас пайшоў толькі пасля таго, як празвінеў званок.

Арыфметыка была на першым уроку. Пека, вядома, засыпаўся. Настаўнік, ведаючы, што прыклады цяжкія, пасля двух дзяўчынак, якія сказалі, што сшыткі з рашэннем забылі дома, выклікаў Пеку. Пека пачырванеў, як бурак.

— І я забыў сшытак дома, — нарэшце прамовіў ён.

Пека схлусіў няўдала. Яго сшытак ляжаў на парце, і настаўнік, каб пераканацца, што Пека хлусіць, спецыяльна ўзяў гэты сшытак і пагартаў.

— Вы і не браліся за рашэнне, Мацюшэнка,— сказаў настаўнік Пеку. — У вас жа толькі ўмова ў сшытку... Улічваючы вашы мінулыя заслугі, дрэннай адзнакі вам не стаўлю, але заўвагу запішу. Дайце дзённік...

Пека ў той дзень са мною не размаўляў. А вечарам здарылася нешта незвычайнае, што назаўсёды прымірыла мяне з маім сябрам і прымусіла глядзець на яго зусім новымі вачыма. Вечарам Пека не выйшаў у нашу палавіну хаты, каб рыхтаваць са мной урокі. Па суботах ён часта не паказваўся са свайго пакоя, і я таксама не сеў рашаць задачы, спадзеючыся заўтра памірыцца з Пекам і засесці за арыфметыку разам з ім. Я сядзеў на прыпечку і чытаў кнігу, як раптам з Пекавай палавіны хаты данеслася нейкае раўнамернае цёпканне. Здавалася, што нехта выкалачваў пыл з заляжалага старога паліто. Такія гукі даносіліся з пакоя нашых кватарантаў не ўпершыню, і я заўсёды дзівіўся, чаму Рашэль выбівае адзенне ў хаце, а не на двары.

У гэты час мяне тузануў за нагу мой самы малодшы брат Кузя. Акрамя яго і мяне ў хаце болей нікога не было. Маці даіла карову, бацька быў на рабоце, а двое братоў коўзаліся недзе на рачулцы.

— Пеку б'юць, а ён не плача,— сур'ёзна сказаў Кузя і, пакінуўшы мяне, прыпаў вокам да шчыліны ў дзвярах Пекавага пакоя. Гэтыя словы працялі мяне, нібы электрычны ток. Страшная здагадка скаланула ўсю маю істоту, і я выскачыў на двор. Зазірнуўшы ў акно, я ўбачыў распластанага ніц на канапе Пеку і Сямёна Барысавіча, які ўзмахваў над ім складзеным у дзве столкі гумавым шлангам. Доўгая Рашэль, адклаўшы ўбок кнігу, спакойна наглядала за гэтай экзекуцыяй...

У той вечар я доўга не прыходзіў дадому. Я вінаваціў сябе ў сотнях самых цяжкіх грахоў перад Пекам. Мне цяпер было ясна, як пакутуе мой сябар, жывучы ў сваёй доўгай сястры. Яго, выходзіць, білі ўсе тыя суботы, калі ён па незразумелай прычыне не выходзіў на нашу палавіну хаты.

Я даў самому сабе слова, што не буду злаваць на Пеку з-за Ліны і нікому не раскажу пра гумавы шланг. Я толькі не ведаў, як буду глядзець у вочы свайму сябру. Пека ж сам не хоча, каб хто-небудзь дазнаўся, што яго б'юць, бо ён ніколі не закрычаў пад гэтым гумавым шлангам. Доўгую Рашэль і тоўстага Сямёна Барысавіча з гэтага часу я проста зненавідзеў.

Дома ўжо ўсе ведалі, што Сямён Барысавіч караў Пеку. Відаць аб гэтым паспяшыў раззваніць Кузя. Мае браты Васіль і Піліп сядзелі на печы маўклівыя і насупленыя і не грызліся, як звычайна, адзін з адным. Толькі Кузя ў сваіх паласатых штанах, якія яму нядаўна перашылі з навалачкі, даволі бадзёра вытанцоўваў па хаце. Хлопец пакуль што карыстаўся ўсімі перавагамі свайго пяцігадовага ўзросту і таму ніколі не губляў добрага настрою. Яго яшчэ ніхто не крануў нават пальцам, яму не трэба было рашаць арыфметыку і дапамагаць маці, і жыццё ўяўлялася хлопцу адной суцэльнай гульнёй. Кузя лез за стол разоў дзесяць у дзень: ён снедаў, абедаў і вячэраў па чарзе з кожным, хто прыходзіў у хату. Кузя і цяпер, мабыць, чакаў мяне, каб павячэраць у трэці раз.



— Пека не плакаў, калі яго білі, — яшчэ раз паведаміў мне Кузя.— Ён тоўсты, і яму зусім не баліць...

Васіль і Піліп пасля гэтых слоў пашыліся яшчэ глыбей ў змрок. Яны не падзялялі Кузева аптымізму. Кожны з іх меў за сабой сякія-такія грашкі, і таму на печы ў гэты вечар панавала трывожная сваёй затоенасцю атмасфера.

— Бач, прыціхлі, — заўважыў бацька. — Вас бы вось так прычашчаць паплiскай перад нядзеляй, мо' перасталі б тады гыркацца...

Назаўтра мы з Пекам памірыліся. Ён ні словам, ні рухам не паказаў, што яго ўчора білі. Я таксама зрабіў выгляд, што нічога не ведаю. Усё было б добра, каб не Кузя, які ўсунуў свой замурзаны нос у гэтую справу.

— Табе з, праўда, уцора не балела, як дзядзя біў? — спытаў Кузя ў Пекі. — Па цым цябе ён біў?

Я ўпершыню даў Кузю шлепака, і ён зарумзаў. Пека выскачыў з хаты. На яго вачах былі слёзы...

Не, я не зайздросціў Пеку. Ён падабаўся Ліне, лепш за мяне апранаўся, смачней еў, у яго былі бліскучыя снягурачкі, але я яму ні кропелькі не зайздросціў...

Пека паводзіў сябе ў школе ўсё горш і горш. Ён стаў нейкі нервовы, ва ўсякім самым бяскрыўдным слове бачыў насмешку над сабой і ніколі не даваў спуску. Іншы раз на сябра нападала празмерная ўзбуджанасць, і ён тады насіўся па класу, як віхор, смяяўся, вырабляў розныя марта-плясы. Але жартаваў Пека жорстка. Ён кідаў дзяўчатам у чарніліцы павукоў, складаў пра хлопцаў крыўдныя вершыкі, вывіжоўваў чужыя сакрэты, расказваючы іх потым усім. Вучыўся ён па-ранейшаму добра, і таму настаўнікі, нават класны кіраўнік Рыгор Канстанцінавіч, яму многае даравалі. Па дысцыпліне ў другой чвэрці выдатнай адзнакі Пеку ўсё ж не паставілі.

— Мы перахвалілі вас, Мацюшэнка, — сказаў Рыгор Канстанцінавіч на класным сходзе.— Гэта ж сорам: вы адзін з усяго класа пішаце на «выдатна» дыктоўкі і так дрэнна сябе трымаеце. Прыдзецца пагаварыць з вашымі бацькамі...

Пека сядзеў, апусціўшы галаву. Мне было шкада сябра, але я не мог яму нічым дапамагчы. Я нікому не расказаў, што Пеку дома б'юць, і ён плаціў мне за гэта ўдзячнасцю. Мяне ён ніколі не закранаў ні сваім колкім жартам, ні насмешкай.

У наступную суботу Сямён Барысавіч зноў частаваў Пеку гумавым шлангам. Цяпер мабыць за тое, што ён не прынёс у дзённіку выдатнай адзнакі па дысцыпліне...

— Ты не расказвай нікому, — ужо не тоячыся, папрасіў мяне Пека. — Я да лета пацярплю, а потым паеду куды-небудзь...

— Куды ты паедзеш? — спалохана перапытаў я.

— А што? Мне будзе ўжо чатырнаццаць гадоў. Паступлю куды-небудзь на завод. Ты толькі маўчы...

## IV

У трэцяй чвэрці нічога не змянілася. Пека на перапынках падымаў уверх нагамі ўвесь клас. Кожны дзень ён выдумляў што-небудзь новае. Выклікалі ў школу доўгую Рашэль, з ёю гаварыў сам Рыгор Канстанціна-

лірызме ранняй прозы К. Чорнага, паэтычнасці яго сродкаў, то неабходна тут жа падкрэсліць, што гэта лірызм пісьменніка, які па свайму светаадчуванню ў першую чаргу аналітык, гуманіст-мысліцель.

Гуманістычнасць светаадчування — вось што, перш за ўсё, вызначала стыль твораў К. Чорнага, вось у чым вытокі яго лірычнага пафасу і філасофскага роздуму.

Чалавек працы, «просты чалавек», які нясе на сабе ўвесь цяжар гістарычнага прагрэсу, з'яўляецца галоўным героем пісьменніка-гуманіста. З ім пісьменнік звязаны сваімі думамі і пачуццямі на працягу ўсяго творчага шляху. Як-бы ад імя гэтага галоўнага героя К. Чорнага салдат Нявада ў рамане «Пошукі будучыні» гаворыць:

«Пазбірайце ж вы, кажу, золата з усяго свету, зрабіце з яго трон, пасадзіце на яго мяне кіраваць паўсветам, а каб увесь свет выхваляў мяне, дык я перад вамі буду прасіцца і маліцца: пусціце, калі ласка, дайце мне шчасце спаўзці з гэтага трона: я колькі год жыта не сеяў, кала нават не зачасаў, у кузні каня не каваў, у млыне мукі не малоў, раллі не нюхаў, ботаў не мазаў, капусты не сёрбаў, не наслухаўся ўволю, як пеўні спяваюць, як людзі па-людску гавораць».

Імкненне да паказу глыбінных працэсаў народнага жыцця, характэрнае для К. Чорнага ўсіх перыядаў, у ранніх апавяданнях выявілася ў паказе тых ледзь улоўных, але арганічных зрухаў у побыце і псіхалогіі чалавека працы, што пісьменнік назіраў у вёсцы.

Пачуццё замілавання да чалавека працы, што выкіроўваецца на новы жыццёвы шлях, страсная зацікаўленасць у яго лёсе — асноўная эмацыянальная рыса ранніх твораў К. Чорнага. Пачуццё кроўнай сувязі з блізкімі сэрцу яго людзьмі, што засталіся «там», «на вёсцы», ні на хвіліну не пакідае героя К. Чорнага. Але гэта своеасаблівае пачуццё. Яно не робіць гэтага героя чужым у горадзе. Алёша з апавядання «Бяздонне» так успамінае аб вёсцы:

«І тут жа набеглі думкі аб тым, што дома, дзе быў заплакаў, калі ён ад'язджаў у гэты горад, там людзі як бы не прабавалі той радасці, якая вакол іх захавана, ды не ўзнята яшчэ для жыцця ўся: што не бачылі там людзі яшчэ той шырыні, якая ў жыцці і якую ўжо адчуў ён, Алёша, на студэнцкіх сходах і лекцыях...»

Пралетарскі горад у ранніх творах К. Чорнага («Максімка», «Быльнікоывя межы» і інш.) — саюзнік «саламяных вёсак». Адсюль ідзе святло новага жыцця на вёску. І сялянская моладзь прыходзіць у пралетарскі горад, як у «свой горад», становіцца моцным звяном паміж горадам і вёскай. Пачуцці, настроі гэтай моладзі і выражае «лірычны герой» ранняга К. Чорнага. Гуманістычнае пачуццё кроўнай сувязі з працоўным асяроддзем, з яго маральнымі нормамі, якое заўсёды было вельмі моцным у К. Чорнага, паглыбілася і ўскладнілася ў яго пазнейшых творах.

К. Чорны як пісьменнік развіўся ў напрамку ўсё больш гістарычнага погляду на «вечную» праблему простага чалавека. У 1939 годзе ў артыкуле «На трыбуне просты чалавек» К. Чорны пісаў:

«Просты чалавек! Колькі ў гэтым слове вялікага сэнсу. Быў жа час, што ўвесь беларускі народ зваўся «простым народам», ці яшчэ інакш «тутэйшым народам». З сталецця ў сталецце «простым чалавекам» на беларускай зямлі зваўся той, хто мазалём і крывёю здабываў хлеб панству і чыноўніцтву, а сам быў галодны, раздзеты. Польскае панства не задаволілася нявінным тэрмінам «просты чалавек», яно назвала гэтага чалавека «быдлам». Беларускі народ за стагоддзі нацыянальнага і сацыяльнага прыгнечання не толькі не страціў сваёй нацыянальнай годнасці і



свайго нацыянальнага твару, а яшчэ мацней вызначыў яго. Народ Савецкай Беларусі прынёс у сацыялізм сваё вялікае нацыянальнае багацце — сваю мову, сваё мастацтва, свой вялікі аптымізм, сваю працавітасць і здольнасць. «Просты чалавек» стаў вялікім чалавекам у вялікай дзяржаве. Слава былых каранаваных заканадаўцаў меркне перад славай «простага чалавека», які ў нас з дзяржаўнай трыбуны выражае волю народа».

Паняцце «просты чалавек», паняцце «народ» набывае ў творах К. Чорнага канца 20-х пачатку 30-х гадоў усё больш шырокае сацыяльнае і філасофска-гістарычнае асэнсаванне. Але на кожным этапе творчага шляху пісьменніка мастацкі стыль яго вызначаўся вось гэтым пачуццём блізкасці да чалавека працы, усведамленнем свайго вялікага і неаплатнага пісьменніцкага доўгу перад народам.

Праз усё жыццё К. Чорны нёс тое душэўнае цяпло, якое абуджалі ў ім простыя людзі, што сустракаліся на яго жыццёвым шляху. Людзі, што ведалі К. Чорнага, гавораць аб яго выдатнай памяці назіральніка. Творы К. Чорнага сведчаць аб выключнай «памяці сэрца» гэтага пісьменніка.

Шырокі філасофска-гістарычны погляд на жыццё спалучаўся ў К. Чорнага з душэўнай прывязанасцю яго да нейкага пэўнага куточка зямлі. Для К. Чорнага Случчына была тым, чым быў Урал для Бажова, Сібір для Караленкі і Маміна-Сібірака, чым з'яўляецца Дон для Шолахава, Смаленшчына для Ісакоўскага, Магілёўшчына для Куляшова. Большасць твораў і вобразаў К. Чорнага так ці інакш звязаны са Случчынай. Гэта асабліва датычыцца твораў перыяду Айчыннай вайны. І не выпадкова, бо іменна ў гэты час асабліва вастрыні дасягае пачуццё замілавання да роднага краю, да мясцін і простых людзей, якія з жыцця прышлі ў творы К. Чорнага 20-х—30-х гадоў і там атрымалі новае жыццё, новы лёс.

Каваль Вялічка і Астаповіч з «Вялікага дня» — гэта вобразы самастойнай мастацкай вартасці. Але за гэтымі вобразамі лёгка прагдядваюцца каваль Несцяровіч і кравец з рамана «Трэцяе пакаленне».

Філасофская канцэпцыя жыцця, як і ў кожнага сапраўднага мастака, у Чорнага існавала ў выглядзе нейкай зусім канкрэтнай сістэмы шматлікіх вобразаў і карцін рэальнага жыцця. Пісьменнік увесь час рос як мысліцель, як сацыялістычны гуманіст, паглыблялася яго мастацкае бачанне свету. І таму ён ніколі не паўтараў сябе, хоць вобразы і карціны яго часам паўтараліся. Цівунчык з «Сястры» не проста пераходзіць у «Трэцяе пакаленне», ён перарастае ў вобраз краўца, вобраз больш тыпізаваны і значны; Паўлючок з рамана «Ідзі, ідзі» вырастае ў Міхала Тварыцкага, а Бухча з апавядання «Нянавісць» — у Скуратовіча («Трэцяе пакаленне»). Не беднасць, а іменна багацце жыццёвага вопыту абумовіла тое, што К. Чорны адну і тую ж з'яву ўмее ўбачыць кожны раз па-новаму, з новага боку. І гэтая здольнасць паглыбляцца ў матэрыял узрастала ў адпаведнасці з ростам К. Чорнага-мысліцеля.

Па словах людзей, якія ведалі К. Чорнага, пісьменнік любіў паўтараць: «Мне б на ўсё жыццё хапіла апісваць цімкавічоўцаў», падкрэсліваючы каларытнасць і яркасць тыпаў і малюнкаў, якія назіраў ён, жывучы на Случчыне. У гэтых адносінах у Чорнага многа агульнага было з Самуйлёнкам. Вось якія, блізкія яму самому, рысы таленту Самуйлёнка К. Чорны адзначае ў сваім артыкуле «Аб Эдуардзе Самуйлёнку»:

«І яшчэ быццам чакаеш, што прыдзе ён і, са звыклай сваёй ноткай жарту, скажа:

— Здароў стары, ну, што парабляеш? А ведаеш, каб яны гарэлі, з маёй галавы не вылазяць мае землякі. Нават аднаго я сніў.

Яго «землякі» — гэта тыпы, якія ён калі-небудзь бачыў у жыцці, якія пэўнымі сваімі рысамі назаўсёды засталіся ў яго памяці...

Аднойчы ён сказаў:

— Адна толькі вёска, дзе я нарадзіўся і вырас, можа даць тыпаў на паўсотню раманаў. Ты не палохайся, што гэта з адной вёскі і раманы могуць выйсці аднародныя сваім матэрыялам. Перш за ўсё, гэта чалавечыя тыпы, якія можна ставіць у розныя ўмовы і сітуацыі!

...Гэта быў інжынер, які глядзіць на кавалак металу і думае аб тых магчымасцях, якія затоены ў гэтым кавалку».

У 20-я гады, як ужо адзначалася, К. Чорны піша ў асноўным на матэрыяле жыцця беларускай вёскі. Герой яго апавяданняў і замалёвак — гэта цёмны, прыдаўлены перажыткамі «мінуўшчыны» селянін, які пачынае, аднак, ужо адчуваць нейкія новыя гарызонты жыцця. «Новае» існуе ў яго свядомасці недзе на мяжы пачуццяў і думак, але выяўляецца яно востра, праз непрывычную і незразумелую для самога героя радасць жыцця.

Пісьменнік з горыччу заўважае, што вёска ў паўсядзённым жыцці сваім яшчэ вельмі задаўлена беднасцю і цемрай, што ідыятызм вясковага дробнаўласніцкага жыцця яшчэ моцна праяўляецца ў быце, у сямейных узаемаадносінах, у поглядзе на жанчыну і г. д.

Разам з тым пісьменнік з увагай і з радаснай верай у заўтрашні дзень прыглядаецца да самых нязначных змен у жыцці роднага яму чалавека працы.

Гэта вызначае сабой складаны настрой ранніх твораў К. Чорнага: быццам бедны пейзаж з пахіленымі хаткамі, «пустымі, гулкімі палямі», забітымі людзьмі асветлен яркім, радасным веснавым сонцам, да якога цягнецца ўсё жывое.

«Эх, прасторы вы, размашныя! Шырыня ваша дзікая ажывае пад шырынёй новай радасці.

Яшчэ конскія вочы на вашых дарогах свецяцца тугою... яшчэ вецер... спявае надмагільную песню над сухімі касцямі, да зганяе ўжо вашу старую, панурую дзіч, аднакасць і сон тупога існавання.

Вось і ўзмахнула новае захапленне каравых людзей...

Па бязмернасці ажыўшых прастораў, па ваколіцах, між старых хат, ходзіць новая радасць» («Новыя людзі»).

Групавыя сцэны, «сялянскія дыялогі» ў апавяданнях «Палявыя людзі», «Максімка», «Дзякуй богу, як шклянка» і іншае, характарызуюць на першы погляд самае дзікае, «дрымучае» асяроддзе. І размаўляюць сяляне, як рашэтнікаўскія падліпаўцы, цяжка, каснаязычна.

Але ва ўсіх сцэнках гэтых ёсць глыбокі эмацыянальны і псіхалагічны падтэкст. Здаецца, людзей акружае самае прывычнае, дзедаўскае, і гавораць яны аб дробязях, часта проста аб нічым, але чаму столькі страсці, скрытага болю, скаргі ў гэтым бессэнсоўным наборы слоў?

У адной з рэцэнзій на творы заходнеўкраінскага пісьменніка Васіля Стэфаніка К. Чорны адзначыў, што ў яго сяляне-беднякі жывуць у «пастаяннай напружанасці». І гэтая напружанасць ад таго, гаворыць К. Чорны, што само жыццё іх — незвычайнасць, ненармальнасць, да якой нельга прывыкнуць, як нельга прывыкнуць да голаду. Па сутнасці, К. Чорны выказаў тут свой уласны погляд на «спрадвечныя» ўмовы жыцця працоўнага селяніна. Як ні абжыў селянін спрадвечныя дзядоўскія формы жыцця,



як ні падазрона адносіцца ён да ўсяго новага (камсамольцаў, шэфа з горада, клубаў-чытальняў і г. д.), але «прывыкнуць» да свайго беспрасветнага, цёмнага, жабрацкага жыцця, вядома, не можа. Бруд, забабоны, жорсткасць чалавечых адносін, беднасць, зайздрасць — усё, чым «багатай» была дробнаўласніцкая вёска — ненармальнасць. І таму так трапечацца, кідаецца, шукае выйсця герой маладога К. Чорнага. У душы гэтага героя — заўсёды бура, пачуцці яго «крычаць», хоць знешне ён можа здавацца і абыякава спакойным. У ранніх творах сваіх К. Чорны праз бытавыя дэталі ўмее стварыць адчуванне неўладкаванасці жыцця селяніна, выявіць жыццёвую неабходнасць карэнных змен яго быту, працы і г. д. Ён паказвае, як уладна ўрываецца ў жыццё селяніна новае, як гэтае новае абуджае ў ім новыя думкі, адчуванні, імкненні.

Стыль твораў К. Чорнага 1923—1925 гадоў вызначаецца тым, што да беднага радасцямі, няяркага жыцця сваіх герояў, якія з цяжкасцю становяцца на новы шлях, прыглядаецца пісьменнік, захоплены агульным радасным пафасам перапрацоўкі жыцця. Бытавыя жанравыя малюнкі ў ранняга К. Чорнага асветлены адначасова і роздумам і радасным захапленнем. Характэрнейшай адзнакай мастацкага стылю яго з'яўляецца схільнасць выражаць «радасць жыцця», пафас пераўтварэння праз эмацыянальна-паэтычную «маладнякоўскую» вобразнасць.

«І бурліла ў людскіх пачуццях жаданне як бы крыкнуць усёй зямлі, сказаць усяму, што ёсць радасць дзён аб песнях і звонах жыцця».

«Вясна ўсміхалася маем. І першага мая як бы сабрала яна ў зямлі і людзях усю сваю маладосць («Свята працы і свету»).

Характар наследавання ранняга К. Чорнага фальклорным і літаратурным узорам сведчыць аб свядомых пошуках пісьменнікам паэтычнага слова, паэтычных інтанацый.

«Твар у жанчыны быў прыгожым, ды пакрыты ён густою сеткаю тонкіх зморшчыкаў, вочы ў яе глыбока-ясныя, ды сінія кругі пад імі. Толькі голас яе быў зычна пявучы, і гулка ён плаваў часам па палях цягучаю песняю.

Заўсёды выходзіла жанчына з крайняй хаты.

І звалі яе Ганнаю» («Радасць жанчыны»).

Аднак калі ў пейзажах і ў некаторых партрэтных характарыстыках стыль маладога Чорнага набліжаўся да стылю З. Бядулі, то ў малюнках вясковага побыту, у «сялянскіх дыялагах» стыль яго бліжэй да коласаўскага. Іменна гэтая «коласаўская» лінія, лінія строга рэалістычнага і з цягам часу ўсё больш аналітычнага паказу жыцця будзе ўзмацняцца з кожным творам К. Чорнага. У 30-я гады ён стане прынцыповым праціўнікам паэтычнай прозы, праціўнікам «лірыкі ў прозе».

Праўда, лірызм не знікне і з твораў яго ў 30-х гадах, але ён стане больш глыбінны, падтэкстны, тады як у 20-я гады ён выяўляецца яшчэ адкрыта, праз вельмі моцную паэтычна-стылёвую плынь.

Нельга аднак рабіць з гэтага вывад, што «лірыка», «паэтычнасць» была нечым чужародным, наносным у ранніх творах К. Чорнага. Паэтычнасць стылю ранняга К. Чорнага характарызавала яго адносіны да рэчаіснасці. Паэтычнае слова дапамагала пісьменніку данесці да чытача сваё захапленне жыццём, перадаць пафас сучаснасці.

Раннія творы К. Чорнага — гэта большай часткай замалёўкі, псіхалагічныя эцюды, бытавыя імпрэсіі.

Малады пісьменнік прыглядаецца да праяў жыцця, стараецца асэнсаваць яго, вучыцца валодаць матэрыялам, праз мастацкае слова выказваць

сваё захапленне жыццём, сваё замілаванне да чалавека працы. Праўда, пры гэтым аўтар яшчэ ўвесь націск робіць на самастойную яркасць добра вядомага яму жыццёвага матэрыялу і на сваё аўтарскае эмацыянальнае слова.

Сюжэтна-фабульны рух, які арганізоўваў бы матэрыял, у большасці гэтых апавяданняў вельмі невыразны. Яго замяняе эмацыянальна-мастацкае ўзаемадзеянне асобных, даволі статычных малюнкаў, звязаных вобразам апавядальніка і адзінствам думкі, ідэі, часам выражанай у сваім загалоўку («Будзем жыць», «Быльнікавыя межы», «Новыя людзі» і г. д.). Характэрным у гэтых адносінах з'яўляецца апавяданне аб грамадзянскай вайне «Будзем жыць». Складаецца гэтае апавяданне з некалькіх самастойных малюнкаў, падпарадкаваных аптымістычнай аўтарскай думцы аб таржастве таго жыцця, за якое паміралі чырвонаармейцы.

**Малюнак першы.** Камандзір палка заўсёды «маўклівы і хмуры, бо адчуваў тую вялікую адказнасць, якая ляжала на ім», узвесіўшы ўсе даныя, вырашыў: «Здаецца мне, што трэба біць...»

На гэта па-рознаму рэагуюць акружаючыя яго людзі.

Тэлефаніст, аб якім аўтар заўсёды гаворыць з эпітэтам «вясёлы», рад быў, што пачынаецца наступленне: надакучыла яму сядзець на адным месцы, ды і холадна: «адзёжы цёплай не было».

Таму, што «трэба біць», быў рад і ад'ютант камандзіра палка, але па другой прычыне: да гэтага часу палку «прыходзілася адступаць, аддаваць крок за крокам родную савецкую зямлю белым ворагам».

«І як толькі камандзір сказаў, што пара «біць», ён моўчкі кіўнуў галавою і глянуў яму ў твар з нецярплівым запытаннем у сваіх вачах.

Камандзір зразумеў, што кіўком галавы ад'ютант згадзіўся з тым, што пара «біць». Зразумеў ён і тое, што пытаўся той сваімі вачыма, і замест адказу махнуў рукою.

Тады ад'ютант падышоў к тэлефону і паведаміў галоўнаму штабу аб тым, што «дзела пачынаецца».

Такі вось прынцып сінхроннага, паралельнага раскрыцця псіхалогіі розных людзей ляжыць у аснове кампазіцыі апавядання. Кожны наступны малюнак уяўляе сабой паказ новага душэўнага стану героя ці новага палажэння яго, або паказ адносін іншых герояў да таго, аб чым гаварылася раней.

У **другім** малюнку апавядаецца па-талстоўску проста: «Сухі корань парваў шынель і прайшоў навылет. Тэлефаністу шкада стала новага шыняля, і, каб не рваць яго больш, ён стараўся выцягнуць корань і прыпадняўся яшчэ вышэй — к кулям ён ужо за некалькі гадоў вайны прывык.

Некалькі куль з гулам уваткнулася ў зямлю, а адна папала якраз у грудзі тэлефаністу і там засела».

У малюнку **трэцім** паказваюцца адносіны простай сялянкі да таго, што дзеецца навокал.

«Нядаўна яшчэ, як кругом сакаталі кулямёты, яна сядзела ў халодным, сырым склепе і, баязліва прытуліўшыся к сцяне, раз-по-разу хрысцілася».

Калі ўсё скончылася, «яна адамкнула сенцы і абышла паволі ўвесь хутар. Кругом было ўжо ціха і спакойна. Каб як-небудзь супакоіцца, яна ўзялася за работу: набрала бярэмя дроў, унесла ў хату і, запаліўшы газоўку, стала класці ў печ».

У хату ўвайшоў «шэры чалавек» і папрасіў прынесці салому. Напалоханая жанчына «бачыла перад сабой жывога чалавека, які гаварыў звычайна, не страляў і не крычаў. Ёй стала смялей».



Чырвонаармейцы ўнеслі ў хату раненых.

Малюнак **чацвёрты.** У хаце трызніць «вясёлы тэлефаніст», а пад вокнамі ідуць к фронту чырвонаармейцы і спяваюць. «Пачуўшы вясёлую песню, тэлефаніст заварушыўся. З яго затуманенай галавы раптоўна згінулі думкі аб ране і смерці». Ён «весела і няведама дзеля чаго крыкнуў санітарам:

— Хадзеце адно сюды, браткі, будзем жыць!

Санітары кінуліся да яго».

І зноў, як і ў ранейшых малюнках, пісьменнік паказвае, як наплывае будзённае жыццё, бярэ сваё, становіцца над смерцю.

«А ў некалькіх кроках ад «вясёлага» паміраючага тэлефаніста стаяла каля печы кабета і парыла раненым малако.

Ёй было радасна ад таго, што яна зноў пачне так, як і раней, насіць з калодзежа вядром ваду, даіць каровы, працаваць светлымі летнімі днямі ў грамадзе другіх кабет і мужчын у полі і хадзіць па роднай слаўнай зямлі».

У **апошнім** малюнку чытач пераносіцца ў вёску, дзе жывуць бацькі тэлефаніста. Стары прачуў, што пісьмо ёсць у іспалкоме: «можа ад сына з войску».

Пачуўшы аб смерці сына, стары «стаяў нібы акамянелы». Старшыня сказаў яму: «Будзем жа жыць і радавацца аб тым, што і ў нашым кутку ёсць такія слаўныя людзі.

— Будзем жыць і радавацца, — не думаючы, як машына, паўтараў стары і стаў выціраць рукавом слёзы».

Па дарозе дадому сэнс слоў «будзем жыць» глыбока ўваходзіць у душу селяніна: «Так. Будзем жыць» — паўтарае ён.

Так з дапамогай своеасаблівай сінхроннай кампазіцыі пісьменнік асэнсоўвае жыццёвы матэрыял у плане агульнай гуманістычнай ідэі.

У апавяданні выразна адчуваецца мастацкая залежнасць твора ад кампазіцыйных прыёмаў Льва Талстога.

Але важна адзначыць, што такая кампазіцыя «паралельных малюнкаў» вынікала з самастойных ідэйна-мастацкіх пошукаў пісьменніка. Іменна таму і ў многіх іншых творах, дзе ўплыў Талстога ўжо ніяк не адчуваецца, прынцыпы кампазіцыйнай будовы застаюцца амаль тыя ж, што і ў апавяданні «Будзем жыць». У такіх апавяданнях, як «Андрэй Клыга», «Бяздонне», «Па дарозе» і іншых ранніх творах К. Чорнага, таксама даюцца паралельныя малюнкі людскіх перажыванняў і паводзін, якія раскрываюць нейкую скразную аўтарскую думку аб жыцці. У апавяданні «Па дарозе» ў першым малюнку падаюцца вострыя перажыванні хворага Паўла Грыбка, які едзе па дарозе за возам свайго шчаслівага суперніка, у другім — пачуцці і адчуванні Насці, якой трохі няёмка ад думкі, што ззаду едзе Павал і бачыць яе з Алесем, і адначасова радасна ад таго, што «вельмі ж вось падабаецца Алесь, што яны ўдваіх едуць на яго возе купляць, што ім патрэбна, што можа яна паклікаць яго, здаровага, кплівага над усім, і ён ціха прыдзе да яе». У трэцім малюнку апавядаецца аб тым, як хвароба Паўла, яго жыццёвыя няўдачы адбіваюцца ў чулым сэрцы сялянкі-маці. У апошнім паказваецца зварот Паўла ад доктара, які «яму нічога не сказаў, толькі даў нейкіх зеленаватых пілюль». Выйшаў ён на дарогу, і раптам ахапіла яго гаячая душэўныя раны плынь дробных, бытавых і ў той жа час шырокіх пачуццяў.

Такім чынам, і тут кампазіцыя апавядання прадстаўляе сабой серыю

асобных малюнкаў, звязаных адзінай аўтарскай думкай аб гоячай усе раны радасці жыць на зямлі.

«Чалавек — гэта цэлы свет» — любіў паўтараць К. Чорны. І кожнае з яго ранніх апавяданняў — гэта ў першую чаргу серыя малюнкаў складанага ўнутранага жыцця людзей, або нават асобнага чалавека. Аб чым бы ні пісаў К. Чорны, цікавяць яго не факты самі па сабе, а «псіхалогія фактаў» (М. Горкі). Чалавек, яго псіхалогія, складанае перапляценне ў душы чалавека радасці і суму, парывы да нечага новага і страх перад усім непрывычным — вось што на першым плане ў апавяданнях К. Чорнага. Чалавек, яго псіхалагічны стан заўсёды для К. Чорнага з'яўляецца аб'ектам самага дэталёвага вывучэння, даследавання.

Аб гэтым так гаворыць пісьменнік у адным са сваіх апавяданняў:

«Найдрабнейшае каліва травы — незаўважанае ці даўно забытае і яно можа калі-небудзь увайсці раптам у жыццё чалавека, заняць увагу і думкі. І няма тае рамы, у якую можна было б, нават самаму моцнаму з моцных, увагнаць гэтую з'яву з малым калівам травы. А якую адлегласць трэба вымераць ад травы да чалавека!»

Чалавек для маладога К. Чорнага — своеасаблівы свет складанейшых думак, настрояў, парываў, і ўсю складанасць іх імкнецца ён заўсёды перадаць. Людзі жывуць побач, сутыкаюцца, іх інтарэсы перакрыжоўваюцца. Пісьменнік стараецца раскрыць грамадскія ўзаемаадносіны людзей. Але ён паказвае не столькі гэтыя ўзаемаадносіны, колькі адбіццё іх у пачуццях, думках, перажываннях людзей. Людзі не столькі дзейнічаюць у ранніх апавяданнях К. Чорнага, колькі перажываюць. Кожны з іх нясе сваю замкнутую «атмасферу» складаных настрояў і думак. Чалавек з гэтай сваёй «атмасферай» звычайна і складае асобнае кампазіцыйнае цэлае ў ранніх апавяданнях К. Чорнага (у апавяданні «Па дарозе» — Павал — Насця — маці Паўла). Пры гэтым новы псіхалагічны стан героя (зварот Паўла з горада) таксама можа быць замкнутым кампазіцыйным цэлым.

Кампазіцыя большасці ранніх апавяданняў прадстаўляе сабой ланцуг «малюнкаў настрояў», малюнкаў, якія падпарадкаваны аўтарскай ідэі, звязаны не столькі сюжэтным рухам (ён ёсць, але вельмі невыразны — гэта развіццё настрою, а не падзей), колькі вобразам «лірычнага героя» — чалавека, які поўніцца ласкай да свайго гарапашніка-героя, радасцю за яго.

Трэба аднак адзначыць, што, акружаючы свайго героя атмасферай самых дробных, часам выпадковых адчуванняў і пачуццяў, пісьменнік не толькі вельмі замаруджвае сюжэтны рух у сваіх ранніх творах, але і зацямняе ідэю твора. І таму часам аўтарскія словы аб «новай радасці» амаль не вынікаюць з таго, што расказваецца ў творы. Аўтар не заўсёды ўмее знайсці ў жыцці тое галоўнае, што характарызуе эпоху. І таму лірычны сцвярджальны пафас пісьменніка часта яшчэ не знаходзіць у творах К. Чорнага канкрэтна-мастацкага падмацавання ў жыццёвых карцінах. Пафас гэты як-бы прыўносіцца ад аўтара. І тым не менш лірычная ўзнёсласць, пафаснасць ранніх апавяданняў і замалёвак К. Чорнага (1923—1925 гг.), іх светлы і жыццерадасны каларыт — гэта іх вартасць. Пафас гэты ўзбагачаў малюнкі жыцця, узбагачаў ідэйна-мастацкі змест твораў, і калі ён у 1926—1927 гадах некалькі «пагас», адразу выступілі на першы план іменна недахопы і недасканаласць творчай манеры маладога К. Чорнага.

Неабходна адзначыць, што ўжо ў першых апавяданнях К. Чорнага выразна выявілася такая адзнака стылю яго, якую можна назваць «лагізацыяй» чалавечых перажыванняў, пры гэтым перажыванняў самых тонкіх, ледзь улоўных.



Аўтар так прыглядаецца да кожнага душэўнага руху чалавека, так старанна шукае ўсяму сваё тлумачэнне, што нават падсвядомае набывае ў яго лагічную яснасць.

Вось апісвае ён жанчыну-сялянку, зусім не схільную да самааналізу: яна жыве мінутай, што набяжыць.

«У тую раніцу яна брала пад паветкай дровы і ўбачыла, як каля самай сцяны дрыжаў на ветры дробны куст крапівы. І тады прыпомнілася, што яе многа расце на дарозе, дзе агароды пераходзяць у жытнія засевы. А гэта было прывычнае, роднае, сярод чаго жылося, пакутавалася. І ўжо тады ад гэтага ў жанчыны з'явілася да ўсяго шырокае пачуццё і падумалася:

«От Павал прыдзе і пойдзе касіць, а я каля дома буду».

І затым, што было ўсё гэта звязана з тым дробным, што на кожным кроку ў жыцці, затым і з'явіўся ў жанчыны востры настрой. Хацелася гаварыць з усімі аб усім. І от пачала яна з нецярплівасцю чакаць Паўла» («Па дарозе»).

Гэтая аналітычная стылёвая плынь часам прымае ў ранніх творах К. Чорнага падкрэслена навуковы характар, што выяўляецца і ў лексіцы і ў сінтаксічнай пабудове яго фразы:

«Ну, а што? — сказала маё другое «я», — пытанне гэта трэба пусціць па двух лініях. Тут магло быць так: яна магла за што-небудзь заззлаваць на свайго практыканта» і г. д. («Хвоі гаворац»).

Такім чынам ужо для самых ранніх апавяданняў і замалёвак К. Чорнага характэрна было імкненне пранікнуць у самыя складаныя працэсы душэўнага жыцця чалавека, падвергнуць іх аналізу, зразумець. Праўда, зразумець, лагічна вызначыць — гэта яшчэ не значыць па-мастацку выявіць, паказаць. Вялікі шлях творчых пошукаў прайшоў К. Чорны перш чым ад «аголенага» навукова-лагічнага аналізу чалавечых перажыванняў падняўся да сапраўды мастацкага аналізу «дыялектыкі» чалавечай душы. Аднак ужо тут, у першых сваіх псіхалагічных навелах, К. Чорны вучыўся разумець усю складанасць унутранага жыцця чалавека.

З цягам часу К. Чорны зусім адыйдзе і ад паэтычна-кніжнай «маладнякоўскай» вобразнасці, апавядальная манера яго стане больш простай і, так сказаць, «празаічнай», эпічнай.

Пачаўшы як «паэт у прозе», пісьменнік гэты вельмі многа зрабіў для выпрацоўкі «чыста празаічнай», эпічнай традыцыі ў беларускай літаратуры.

Але для твораў сталага Чорнага менш за ўсё ўласціва бясстраснасць. Ён на ўсё жыццё збярог сілу і гарачыню пачуццяў, што так кіпелі ў яго «маладнякоўскіх» творах. Спакойны, эпічны апавядальны стыль К. Чорнага 30-х—40-х гадоў — гэта толькі застыглая паверхня расплаўленай магмы. Пад гэтай паверхняй — велізарная тэмпература чалавечых пачуццяў і страсцей.

Алена УЛАДЗІМІРАВА

# НЯХАЙ ВЕРНЕЦЦА СЛАВА

## Нарыс

Яшчэ не знасіла тую сукенку з блакітнага шоўку, што атрымала на злёце маладых жывёлаводаў, не пажоўклі яшчэ лісткі газет, у якіх пісалася аб ёй, аб лепшай свінарцы раёна... А людзі ўжо забыліся аб славе Раі Абмётка, быццам і не было нічога такога.

Што ж здарылася з дзяўчынай? Можа зазналася, заганарылася? А можа проста была яе слава выпадковай?

Не, слава не птушка, яна не магла адляцець, як прыблудная ластаўка, што выпадкова прыбілася пад чужую страху ад навальніцы.

Раі было чатырнаццаць год, калі яна прышла на ферму. Раіна маці вельмі шкадавала сваю дачку, старалася нічым не замінаць яе вучобы. Але нечакана памёр бацька. Маці неяк адразу і надоўга разгубілася. Ёй здавалася, што цяпер без яго сям'я загіне. Ледзь не назаўтра, як пахавалі бацьку, прывяла яна Раю за руку ў кантору. Заплаканы, бледны тварык дзяўчынкі, пакамечаная істужка ў тонкіх косах устрымалі словы пярэчання, якія гатовы былі вось-вось сарвацца з вуснаў старшыні: «Які з яе будзе работнік... Мабыць у лялькі яшчэ гуляе...»

— Пойдзеш на ферму, дапаможаш свінаркам: вады прынясеш, стойлы пачысціш, — сказаў старшыня.

Пажылыя жанчыны, што працавалі тады на ферме, прынялі Раю ў сваю сям'ю, прынялі шчыра і сардэчна. Бывала, возьме Рая на плечы цяжкія вёдры, і раптам яны як бы павісնуць у паветры, нібы самі паплывуць.

— Табе гэта не пад сілу, — скажа хто-небудзь з жанчын, і Раі застаецца толькі ісці побач.

Тады яшчэ ферма была ў старым будынку, вецер гуляў па кутках. Не было гэткага, як цяпер, утульнага пакойчыка. Вакол «буржуйкі» збіраліся ў вольную хвіліну свінаркі. Паскардзіцца хто-небудзь з жанчын на рэўматызм, уздыхне і скажа:

— Не кепска, каб маладыя нас падмянілі.



— Дзе ім у гнаі калупацца — кажа другая. — Бачыла Нюрку Куньскую? Як апране свае футры, як размалюецца, куды там! Толькі ёй ля свіней і хадзіць! Не, мабыць, не прыдуць да нас маладыя...

Але прышлі на ферму маладыя дзяўчаты-камсамолкі. Прышла нават тая самая Нюрка, якую ніколі не спадзяваліся бачыць у свінарніку. Але аб гэтым пасля. Пакуль што на ферме з маладых была толькі адна Рая. Ніхто неяк не заўважыў, як яна ўжо сама пачала забіраць цяжкія вёдры ў жанчын, як у доўгія зімовыя вечары заставалася на ферме пазней за ўсіх, як чытала адну за другой кніжкі па жывёлагадоўлі. Адным словам, ніхто не прыкмеціў, у які дзень дзяўчынка стала дарослай дзяўчынай, падсобніца стала майстрам сваёй справы.

Вось ляжаць яе чацвераногія падшэфныя — сытыя, белыя, дагледжаныя. Здаецца, кароткія ногі не вытрымаюць цяжару цела. У мінулым годзе ад іх выгадавалася па 22 парасяці. Усіх парасят дагледзела Рая, ніводнае не прапала. Ноччу прыбягала на ферму, з вечарынкі спяшалася хоць адным вокам глянуць: як там яе маленькія — ці не памерзлі, ці не галодныя?

Людзі дзіву даваліся, быццам і думак у дзяўчыны не было, апрача як пра ферму. Нават жартаваць у вёсцы пачалі. Вострыя язычкі сяброўак дапякалі. Не раз на вечарынках кідалі ў яе адрас прыпеўку:

«Рая стане гераіняй,
Адаб'е мілёначка,
А на памяць мне пакіне
Толькі парасёначка».

Не крыўдавала Рая: жарты яна разумела. Узмахне сваёй хусцінкай, выйдзе на круг і адкажа прыпеўкай, вясёлай, задзірыстай.

Але калі б толькі жарты, з імі б Рая справілася...

Першы раз адчула Рая штосьці няладнае ў той дзень, калі на ферму прыехала карэспандэнт раённай газеты і адразу ж запыталася пра яе, Раю. Паселі тады на лаўку ўсе свінаркі ў рад, быццам на судзе. Лавілі насцярожана кожнае слова карэспандэнта да Раі. І варта было дзяўчыне хоць што-небудзь сказаць аб сваёй рабоце, як тут жа чуўся шэпт:

— Толькі яна адна ў нас добра працуе...

— Бач ты, лепшая ў раёне!

— Адну прэмію не знасіла, як другую атрымала...

— А мы што?

— Ты ўжо сядзі і маўчы, каму ты патрэбна, старая...

Слухала Рая гэтыя шэпты і сэрца аблівалася горкай крыўдай. Чым яна пакрыўдзіла старэйшых, у чым вінавата? Хіба не для таго, каб аддзякаваць вось гэтым жанчынам за ўсё добрае, старалася, уставала на досвітку, брала на свае плечы цяжкую працу?

І хацелася ёй сказаць карэспандэнту, што не адна яна добра працуе на ферме, што ўсім уменнем сваім абавязана яна гэтым жанчынам, якія цяпер так сочаць за кожным яе словам. Пра іх трэба напісаць у газеце, а не пра яе. Але ці карэспандэнт не здагадалася запытаць у яе аб гэтым, ці таму што сама пасаромелася, Рая прамаўчала...

Амаль кожны чалавек, які дасягнуў чаго-небудзь значнага ў рабоце, даволі ахвотна расказвае, як і што ён зрабіў. Рая ж на ўсе пытанні адказвае коратка: «Так...», «Не...» Кожнае слова даводзіцца ледзь не сілком выцягваць, бо яе ні на хвіліну не пакідала прыкрае адчуванне: за спіной насцярожаныя позіркі...

Што ж здарылася з яе пажылы-

мі сяброўкамі? Няўжо сапраўды Рая зрабіла што-небудзь дрэннае? Калісьці, пазіраючы на маладзенькую дзяўчыну, яны ўспаміналі сваю маладосць. Цяплелі позіркі, святлела душа. А за добрае хочацца адплаціць чымсьці добрым, — адсюль і паблажлівасць была да Раі.

Гэта былі гады, калі калгас яшчэ ледзь-ледзь станавіўся на ногі, працадзень быў зусім няважкі. Моладзь рвалася ў горад, і дзяўчаты Раінага ўзросту гатовы былі стаць на працу дзе прыдзецца, нават хатнімі работніцамі, толькі б не заставацца дома, не ісці на ферму. А яны — цёткі ў ватоўках, у гумовых ботах, у аднолькавых шэрых хустках непрыкметна для іншых з дня ў дзень неслі цяжар сваёй паўсядзённай працы. І пасвойму ганарыліся гэтым. А калі часам скардзіліся ля печы, што даўно трэба было б ісці ім «у адстаўку», то гэта была звычайная старэчая скарга. Не так лёгка збіраліся жанчыны ўступаць сваё месца.

Настаў іншы час. Калгас пайшоў угору. Пайшлі на ферму маладыя дзяўчаты — Валя, Соня і яшчэ адна Валя. Цяпер жанкі не ўспаміналі ўжо аб ранейшым жаданні на адпачынак. На ферме стала весялей. Не ранейшыя сумныя размовы аб хваробах, аб доўгіх пражытых гадах вяліся ля цёплай печы. Дзяўчаты ўмелі і любілі спяваць песні. Разам з імі быццам памаладзелі пажылыя — усё часцей і часцей успаміналі аб сваім колішнім каханні, аб жаніхах (трэба ж параіць дзяўчатам, як жыць на свеце). Адным словам, жылі дружна.

А потым... Потым Раіна слава, нечаканая для ўсіх іншых, заззяўшая яркай зоркай, насцярожыла жанчын. Як так? Тая самая дзяўчынка, якую яны яшчэ і ў сур'ёз не прымалі, і раптам — глядзі ты! — абагнала іх, стала ў цэнтры ўвагі. Хто не прыдзе ў калгас, старшыня адразу ж вядзе на ферму, да Раі.

— Знаёмцеся, наша лепшая свінарка!..

Ледзь не кожны тыдзень Раю выклікалі то ў раён, то ў Мінск. І кожны раз Рая з затоеным страхам чакала такіх выклікаў, бо ведала — за імі пасыплюцца рэплікі:

— Зноў едзе...

— Як жа! Перадавая...

А не скажуць, то іншы раз так паглядзяць, што дзяўчына гатова была схавацца ў самы цёмны куток, толькі б ніхто не чапаў яе.

«Калі так пойдуць справы і далей, калі ўсе маладыя за пояс заткнуць, то хоць ферму пакідай», — разважалі жанчыны. Слава Раі не давала ім спакою.

У такіх калектывах, дзе ўсе людзі выконваюць амаль аднолькавую працу, дзе цяжка ўзважыць, хто большую і хто меншую долю ўнёс у агульную справу — усхваленне аднаго чалавека рэдка праходзіць без падобных інцыдэнтаў. Выдатныя паказчыкі Раі тлумачылі выпадковасцю: проста свінаматкі добрыя ўдаліся. І ніхто не хацеў заўважаць, як праседжвала дзяўчына вечарамі над кнігамі, як увяла штосьці сваё, новае ў догляд свіней, парасят. Затое промахаў ёй не даравалі. Ледзь толькі што, адразу ж:

— А яшчэ перадавая!

— Усе яны такія...

Кропля за кропляй гэтае пачуццё зайздрасці атруціла дзяўчыне светлую гордасць за сваю працу, за свае поспехі. Быў бы на яе месцы чалавек больш моцны, загартаваны, ён не звярнуў бы ўвагі, або даў зразумець людзям: не слава і не прэміі патрэбны ёй. Не дапамаглі б гэтыя словы, — іншыя, больш рэзкія спынілі б упорны паток непрыязні, які акружыў дзяўчыну, абсек яе крылы.

Дарэчы, успамінаецца гісторыя, якая адбылася з вядомай кукурузаводкай Любай Бельскай. Любе зайздросцілі адкрыта, папракалі яе ледзь не на кожным кроку. Знайшліся людзі, у тым ліку і сакратар камсамольскай арганізацыі калгаса, якія нават пайшлі далей: паспрабавалі стварыць ёй такія ўмовы для працы, што Люба з перадавых ледзь не стала адстаючай. Люба змагалася, а калі адной стала не пад сілу, пісала ў райком камсамола, у райвыканком, усім, хто калісьці ганарыўся ёю, усхваляў яе працоўны подзвіг.

Рая Абмётка нікому не пісала, нікому не скардзілася. Яна адступіла, прынаравілася. Нават і цяпер яна не асмеліцца прызнацца, што іменна глухое цкаванне і зайздрасць змянілі яе адносіны да працы.

— Няўдача напаткала, — адзіны адказ можна пачуць ад Раі.

Іншага прызнання не варта было і чакаць — аб ім можна было б здагадацца. Але ніхто не пажадаў задумацца над гэтым: аказалася, што ўзносіць чалавека было значна лягчэй...

Ці можна было абараніць Раю Абмётка ад нападак, хто і як павінен быў гэта зрабіць? Размова датычыцца, зразумела, не адной толькі Раі, бо на іншых фермах таксама працуюць дзяўчаты, якія адчуваюць гэта.

Мне давялося быць на ферме калгаса «Перамога» зусім нядоўга. Але нават за такі кароткі час нельга было не заўважыць, што з дзяўчатамі штосьці няладнае. Перш чым вымавіць слова, адказаць на пытанне, яны скоса пазіралі на жанчын. Пра сваю працу гаварылі неахвотна, баючыся абраніць што-небудзь лішняе. А Рая наогул не падымала галавы. Адчувалася, што паміж дзяўчатамі існуе невыказаны ўгавор: наперад не лезці... Хопіць з іх горкага ўроку Раі...

Думалася, няўжо людзі, якія бываюць на ферме ледзь не кожны дзень: і інструктар райкома камсамола, і сакратар камсамольскай арганізацыі калгаса, і настаўнік-агітатар не заўважаюць усяго гэтага? Ці проста не хочуць заўважаць, бо гэта не ўваходзіць у іх фармальныя абавязкі. Што ж тады ўваходзіць у гэтыя самыя «фармальныя абавязкі»?

Так павялося і ў райкомах камсамола, і ў камсамольскіх арганізацыях калгасаў, што на запытанне аб выхаваўчай рабоце на ферме перш за ўсё адказваюць:

— Чырвоны куток ёсць (або няма).

— Гутаркі праводзяцца (або не праводзяцца).

— У самадзейнасці ўдзельнічаюць маладыя жывёлаводы (або не ўдзельнічаюць).

Ну што ж, і чырвоны куток, і гутаркі, і самадзейнасць тым ці іншым чынам складаюць пэўнае ўражанне аб выхаваўчай рабоце. Усё гэта ёсць на ферме калгаса «Перамога»; агітатар сюды прыходзіць даволі часта, газеты чытае, гутаркі праводзіць. Ёсць тут і чырвоны куток, калі можна так назваць гэты пакойчык, быццам наўмысля абклеены з усіх бакоў плакатамі... Але хіба гісторыя з Раяй Абмётка не прымушае думаць, што не так проста, як гэта часам здаецца, не з трох абавязковых даных складаецца вялікі і складаны працэс выхавання?

Рая, Валя і Соня не прапускаюць ніводнага камсамольскага сходу. Яны акуратна выконваюць тыя рэдкія даручэнні, што дае ім сакратар камітэта камсамола. Але які след пакідае ў іх душах сама прыналежнасць да камсамола, ці ўзбагачае іх жыццё, ці робіць працу больш асэнсаванай, узнёслай? Ці вучыць уменню адмятаць ад сябе ўсё дробязнае, нікчэмнае, калі справа ідзе аб вялікай, высакароднай мэце?

Гавораць, што сакратар камса-

мольскай арганізацыі калгаса «Перамога» Павел Граковіч яшчэ не страціў маладога запалу, хоць ён бацька чатырох дзяцей. Кажуць, што ён нават гармонікам сваім склікае моладзь на сходы. Дзяўчаты з фермы так весела і цёпла гавораць аб гармоніку сакратара, што хочацца параіць іншым важакам моладзі прымяніць такі ж «метад» работы. І разам з тым закрадваецца думка: а можа, калі б не гэты гармонік, то зусім бы не пайшлі на камсамольскі сход Рая, Валя і Соня. Варта было папрысутнічаць пры такой кароткай размове:

— Калі ў вас быў апошні сход? (Пытанне звернутае да Соні).

— Не памятаю... Здаецца, месяц назад.

— Аб чым гаварылі на сходзе?

Лоб дзяўчыны, упрыгожаны дробнымі кудзеркамі, некаторы час хмурыцца і, нарэшце:

— Не памятаю.

Набраўшыся раптам смеласці, Соня хітравата бліснула вачыма:

— Нешта не трымаецца ў памяці тое, аб чым гавораць на сходах.

«Не трымаецца ў памяці»... Калі б пагаварылі на гэтым сходзе аб загубленай славе Раі Абмётка, надоўга, вельмі надоўга запомніўся б ён і Соні, і Раі, ды, бадай, і ўсёй моладзі калгаса. Але нават калі ўцякла з фермы камсамолка Нюра Куньская, і гэтым самым дала яшчэ адзін козыр у рукі пажылым жанчынам: «Вось яна якая, моладзь... Цяжка стане — адразу ў кусты. А калі хваляць, дык зямлі пад сабой не чуюць», — нават і тады камсамольская арганізацыя не палічыла патрэбным бліжэй прыглядзецца да спраў на ферме. Калі б дзяўчаты, якія страшэнна зняважылі ўцёкі з фермы іх таварышкі, адчулі, што гэта хвалюе ўвесь маладзёжны калектыў калгаса, калі б убачылі яны, што слава Раі Абмётка была дарагой і блізкай і трактарыстам, і паляводам, і даяркам, і самому Паўлу Граковічу, калі б усе, хто носіць камсамольскі білет, дружна адбівалі самую маленькую спробу зняважыць Раю — хто ведае, можа цяпер далёка грымела б слава не толькі пра Раю, але і пра ўсіх маладых свінарак з калгаса «Перамога».

... Простыя і даверлівыя без хітрасці — такімі засталіся ў памяці тры маладыя свінаркі з калгаса «Перамога», нягледзячы нават на ўсю іх стрыманасць. Кароткай была першая сустрэча з імі, але многа нарадзіла яна думак, не выказаных гэтым слаўным дзяўчатам, і перш за ўсё самой Раі Абмётка.

Часам бывае так: згубіць чалавек штосьці вельмі дарагое і здаецца яму, што без гэтага ўсё жыццё нібы паблякла, яркія фарбы зрабіліся шэрымі. Махне на ўсё рукой — толькі б дзень пражыць, і сам стане такім жа шэрым, нецікавым, замкнецца ў вузенькім коле дробных пачуццяў... А бывае наадварот, рукамі, сэрцам, розумам сваім змагаецца чалавек за тое, што дорага яму, што неабходна ў жыцці. І нават сам не заўважыць, як душа яго стане ў тысячу разоў яшчэ больш багатай і моцнай. А чалавек з такой душою здолее дайсці да самай высокай, самай цудоўнай мэты.

Твая слава, Рая, не была табе дадзена ў задатак. Ты ішла да яе прамым, сумленным, працоўным шляхам. Гэты шлях не закрыўся для цябе і сёння. Варта адкінуць толькі далей ад сябе ўсё дробязнае, усё нікчэмнае, варта вышэй узняць галаву.

Мы папракаем і будзем папракаць людзей, якія не дапамаглі табе. Але твае сілы, тваё ўменне, нарэшце веды і вопыт — хіба гэтага недастаткова, каб вярнуць сваю ранейшую славу?!

**Смалявіцкі раён.**

# Насустрач 40-годдзю ВЛКСМ

## ЮНАЦТВА НАША КАМСАМОЛЬСКАЕ

(«Чырвоная змена». 1929—1931 гг.)

### ЗА ВЯСЁЛУЮ, ЦІКАВУЮ ВЯЧОРКУ

**9-я гадавіна Вялікага Кастрычніка будзе праходзіць пад лозунгам вывучэння нашых дасягненняў і недахопаў у справе будавання *сацыялізма*.**

**Вясковыя ячэйкі, *побач з гэтымі падлічэннямі, побач з ушанаваннем паасобных камсамольцаў за іх вялікую працу на карысць усяе вёскі, на карысць пралетарскай дзяржавы, наладжваюць масава-культурныя камсамольскія вячоркі.***

**Што для гэтага патрэбна?**

**Перад гульнямі — маленькая гутарка аб Кастрычніку, аб ролі Леніна... Потым бойкі хлапец чытае маленькі раешнік (ён, як і іншыя матэрыялы, змешчаны тут жа. Рэд.).**



Ц. Анісімаў.

**Ц. АНІСІМАЎ,**
***сакратар Любанскага райкома КПБ***

## НАД РАКОЙ АРЭСАЙ

Гэтай зімою мне давялося быць у Слуцку, куды з'язджаліся нашы суседзі з Любанскага, Чырвона-Слабодскага, Капыльскага, Клецкага і іншых раёнаў атрымоўваць узнагароды, якімі шчодра надарыла іх Радзіма за доблесную працу. Глядзеў я, як да стала разам з пажылымі людзьмі падыходзілі вясковыя хлопцы і дзяўчаты ў добрых крамных

Пасля кожнай гульні можна падумаць над галаваломкамі і вясёлымі задачкамі.

Калі прысутныя пажадаюць, скокаў—ні ў якім разе нельга іх забараняць.

**ПЕРАВЫБАРЫ ГАРАДСКІХ САВЕТАЎ. МОЛАДЗЬ УНОСІЦЬ ДЗЕЛАВЫЯ ПАПРАЎКІ**

Чыгуначнікі Мінска, абгаворваючы наказ, ні адной дробязі не ўпусцілі, ні адно запытанне не засталося забытым:

— Трэба выдаваць дармовыя альбо танныя абеды беспрацоўным і іх сем'ям.

— Адразу ж трэба распачаць брук вуліц на ўскраінах горада, трэба павялічыць лік ліхтароў на ўскраінах.

— Трэба прыняць усе захады гарсавета, каб замест конкі ў Мінску быў пабудаваны трамвай.

**ГАРМОНІК — У МАСЫ КАМСАМОЛЬЦАЎ. НАШ ЛОЗУНГ: — НЯМА ВЯСКОВАЙ КАМСАМОЛЬСКАЙ ЯЧЭЙКІ БЕЗ КАМСАМОЛЬСКАГА ГАРМОНІКА!**

22-га лістапада скончыў сваю працу з'езд гарманістаў Бабруйскай акругі сумесна з гарманістамі вайсковых часцей.

Усе партыйныя, прафсаюзныя і іншыя ўстановы ішлі насустрач акружкому ў справе склікання з'езда. Да працы былі прыцягнуты... праўленне краязнаўчага таварыства, рэдакцыі газет і інш.

**ЗБУДАВАЛІ МОСТ**

У нас (Засценкаўская ячэйка, Аршаншчына) камсамольцаў зусім мала — толькі пяць чалавек. Але хлопцы дружныя і ячэйкавая праца з кожным днём узмацняецца.

Засценкаўцы некалькі год «думалі» збудаваць мост і наладзіць грэблю ў канцы вёскі.

абновах, дастойна прымалі ордэны і медалі, а потым гаварылі шчырыя, смелыя прамовы, і міжвольна прыгадваў сваю камсамольскую маладосць. У памяці паўстала тая незабыўная пара, калі разам са сваімі равеснікамі — камсамольцамі трыццатых гадоў — я прышоў па закліку роднай партыі на Любаншчыну, у край непраходных балот і дрымучых лясоў, каб запаліць агні новага, калектыўнага жыцця на Палессі.

У нашых цяперашніх любанскіх дзяўчат шаўковыя плацці, мадэльныя туфлі, залатыя гадзіннікі на руках, а хлопцы пры гальштуках, у хромавых ботах... І за плячыма ў іх сямігодка ці нават дзесяцігодка.

А ў нас тады не было ні абноў, ні такой адукацыі. Затое мы ўсё мелі неадольнае, гарачае жаданне на новы лад перабудаваць жыццё ў родным краі, сваімі рукамі стварыць светлы будынак, імя якому — сацыялізм. Мы ішлі з радасцю туды, куды клікала нас партыя, на самыя цяжкія ўчасткі, у самыя глухія куткі.

З цяперашніх маладых людзей-камсамольцаў не кожны можа сабе ўявіць, якім было Палессе ў мінулым. А было яно якраз такім, як намаляваў яго народны паэт Янка Купала ў сваёй вядомай паэме «Над ракой Арэсай»:

«Між топкіх багнішчаў,
На выдмах пясчаных,
Як на папялішчы,
Рад хат, бы курганаў.»

У нас, на Любаншчыне, сяляне да Вялікага Кастрычніка жылі вельмі бедна, душыліся нішчымніцай. Уся зямля, дзе можна было што-небудзь пасеяць, — пясчаныя выдмы-астраўкі; вакол іх — чэзлы хмызняк, непраходная дрыгва. Людзі жылі ў курных хацінах, як дзікуны, бо з вёскі ў вёску можна было дабрацца хіба толькі зімой або ўвесну на чоўне. Селянін не ведаў ні школы, ні навукі. У хатах не было нават лямпы. Асвятляліся лучынай і смалячкамі на камінку...

Вось у такі край, забыты богам і людзьмі, прыехалі мы, дэмабілізаваныя чырвонаармейцы, будаваць камуну. Нас было спачатку сем чалавек. З-пад Мінска, дзе мы служылі ў войску, нам падаравалі некалькі коней з фурманкамі і вупражжу, а таксама сёе-тое з такіх патрэбных рэчаў, як піла, сякера, плашч-палатка. Са сваім абозам-скарбам мы



і рушылі вясною 1929 года на Мар'інскія балоты.

На Мар'інскія балоты наш абоз прыбыў цёплымі вясновымі днямі, калі Палессе ўжо апранула сваё зялёнае ўбранне. На бугры-пясчаніку расхінулі палаткі, зрабілі першы шалёўчаты барак-пуню, выкапалі калодзеж. Дружнай сям'ёю ўзяліся церабіць хмызнякі, капаць канавы. Магістральныя каналы на балоце былі пракладзены крыху раней. Наогул асваенне любанскіх балот пачалося яшчэ ў 1925 годзе.

Наш невялічкі калектыў камунараў-чырвонаармейцаў быў інтэрнацыянальным: у нас былі і рускія, і ўкраінцы, і беларусы, і яўрэі, — і ўсіх нас аб'яднала палымяная ідэя: ператварыць багну ў квітнеючыя палеткі. Побач з беларусамі Хведарам Коўрыкам з-пад Рагачова і гамяльчанінам Іванам Кавальковым працавалі сібіракі Яфрэм Зяноў і Іван Рабчанка. Крыху пазней да нас прыбылі камсамольцы-дабраахвотнікі з Любані — Зіна Галай, Вульф Кустановіч, Дора Ханіна і іншыя.

Нягледзячы на тое, што мы выйшлі на бітву з балотам, узброеныя звычайнай гарбарнай лапатай, праца кіпела. З рання да цямна карчавалі хмызнякі, капалі канавы, метр за метрам адваёўвалі скарб у балотнай пустыні. Кожны дзень паглядзець на нашу працу прыходзілі хутаране-палешукі; яны зласліва ўсміхаліся і ківалі галовамі:

— Нічога ў іх не выйдзе. Засмокча багнішча-балота!

Камунары на гэтыя кепікі адказвалі настойлівай, ударнай працай. Адна за другой, як струны, пралеглі канавы, і мутная балотная вада пайшла ў Арэсу. У першы год было асвоена тарфянікаў нямнога — 40 гектараў. Затое мы набылі гаспадарку — збудавалі дамы, загадавалі жывёлу, назапасілі корму.

Свята Вялікага Кастрычніка адзначалі ў новым клубе. Многія камунары пад гэты час пажаніліся. Згуляў і я вяселле з камсамолкай Зінай Галай, якая прыехала да нас з вёскі Арлёва. Наогул наша камунарская сям'я павялічылася значна. Да нас далучыліся некалькі хлопцаў з навакольных хутароў — Андрэй Верамейчык, Мікола Галай, Іван Лагун, Мікалай Міхаленя, Іван Шляпко і інш. Іх прыход нас вельмі абрадаваў. Значыць недарэмна наша задума, значыць

Збяруцца на сход, пасварацца ў ахвоту і на гэтым канец.

Камсамольцы дагаварыліся з камітэтам сялянскай узаемадапамогі і сельсаветам, выйшлі з піянерамі і перадавой беспартыйнай моладдзю, збудавалі мост і наладзілі грэблю.

Цяпер сяляне ездзяць па добрай грэблі і больш не сварацца.

**С. МІНІН.**

**НАВУЧЫМСЯ ЎЛАДАЦЬ ЗБРОЯЙ!**

Кожны камсамолец павінен умець уладаць зброяй, кожная камсамолка павінна атрымаць вайсковыя навыкі і ведаць вайскова-санітарную справу.

...Міралюбівыя запэўненні, якія шчодра рассыпаюць буржуазныя ўлады, заўсёды былі толькі прыкрыццём іх падрыхтоўкі да вайны.

А ці гатовы мы? Ці зможам даць належны адпор узброеным да зубоў ворагам?

Адказам на меркаванні імперыялістаў абкружыць Савецкі Саюз ваеннай інтэрвенцыяй будзе заклік камсамола: Моладзь, у стралковыя гурткі!

**АБУТНІКІ АРГАНІЗУЮЦЬ РАЦЫЯНАЛІЗАТАРСКУЮ ГРУПУ**

На сходзе камсамольскай ячэйкі Мінскай абутковай фабрыкі абгаворваўся даклад дырэктара аб становішчы і перспектывах фабрыкі і ўдзеле ў жыцці фабрыкі моладзі. Выступаючыя прапанавалі арганізаваць гурток па вывучэнню машын і рацыяналізатарскую групу.

**ЛАЗНЯЎ БОЛЕЙ — БОЛЬШ ЗДАРОЎЯ**

Шлях да культуры ляжыць праз чыстаплотнасць! — добра, відаць, зразумелі гэты покліч вучні Цяцеранскай майстэрань.

**Вось таму іменна так заўзята вучні і кваліфікацыю набывалі, і вялікую грамадска-культурную справу для мястэчка зрабілі, пабудаваўшы лазню.**

**І вырасла, як з-пад зямлі, новая культурная ўстанова мястэчка Цяцерына, з шыльдачкай пры ўваходзе:**

**«Таварыш Лазня».**

**— Малайцы хлопцы!**

**Цяпер вядомаму беларускаму сатырыку Крапіве не будзе сорамна за вашае мястэчка, а то ж ён надоечы прызнаўся, што:**

**«Ад Барысава да Слуцку,**
**Аж прызнацца нейк нялоўка,**
**Усе прывыклі не па-людску**
**Сяк-так боўтацца ў начоўках».**

**Дык і вам больш у начоўках боўтацца не прыдзецца!**

**Адным словам:**

**— Малайцы!**

## АБ'ЯДНАННЕ МАЛАДЫХ ВЫНАХОДЦАЎ

**У мэтах аказання дапамогі маладым вынаходцам у хутчэйшым прахаджэнні праектаў, дапамогі па складанню чарцяжоў і мадэляў, узняцця хадайніцтва аб матэрыяльным падтрыманні вынаходніцтваў і аказання тэхнічнай дапамогі ім пры Мінскім акругкоме і ЦК ЛКСМБ ствараецца аб'яднанае бюро дапамогі маладым вынаходцам.**

## ПАЧЫНАЕМ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЕ СПАБОРНІЦТВА

**Уздымем масы супраць прагулаў, браку, разгільдзяйства, марнатраўства, «ачкаўціпацельства», пустаслоўя, рабскіх адносін да варштата.**

**— За культуру працы, павышэнне тэхнічных ведаў, беражлівыя, гаспадарчыя адносіны да варштатаў, машын, рацыянальнае выкарыстанне кожнай капейкі, кожнага кавалачку матэрыялу.**

абвалілася сцяна недавер'я паміж камунарамі і палешукамі!

Праўда, ворагі калгаснага ладу — кулакі — яшчэ не супакоіліся. Яны прадаўжалі паклёпнічаць, распускаць чорныя плёткі. А калі гэта не дапамагло, падпалілі наш кароўнік, стагі сена, тарфянікі, рабілі напады на нашых актывістаў.

Тым не менш камуна расла на вачах. Вірлівая, жыццёвая плынь новага начыста змывала ўвесь бруд мінуўшчыны. Вакол камуны адзін за другім вырасталі калгасы — у Гарадзяцічах, Кузьмічах, Новай Дуброве, Турку, Закольным...

Няспынна расла, набірала моц камуна. З яе арганізаваўся адзін з лепшых калгасаў на Любаншчыне — імя Беларускай Ваеннай Акругі. Не буду падрабязна расказваць пра гэты калгас. Аб ім шмат гавораць у нашым друку. Прывяду толькі некаторыя факты з гісторыі яго развіцця.

За дзесяць даваенных год камунары асвоілі і зрабілі квітнеючымі нівамі звыш 1600 гектараў балот. На колішніх пясчаніках, на балотах вырошчваўся самы высокі на Палессі ўраджай жыта, ячменю, аўса, канапель і іншых культур. На фермах было 300 дойных кароў, яны давалі па 2 тысячы літраў малака ў год.

Колішнія палешукі зажылі заможна і культурна. Калгас меў трынаццаць шматкватэрных і пяцьдзесят аднакватэрных дамоў, добрыя гаспадарчыя будынкі. Быў свой клуб, школа, радзільны дом, яслі, электрастанцыя, сыраварны завод, пільня, паравы млын...

У гады фашысцкай акупацыі вораг знішчыў дашчэнту калгас імя БВА, зруйнаваў саўгас імя 10-годдзя БССР, нанёс незлічоныя страты ўсёй Любаншчыне. Фашысты расстралялі шмат якіх камунараў.

Прайшоў час, і зноў квітнее Палессе. Залечаны раны, нанесеныя вайной. Зноў грыміць слава на ўсю рэспубліку пра калгас імя БВА, які яшчэ да вайны быў удзельнікам сельскагаспадарчай выстаўкі ў Маскве і за свае поспехі меў вышэйшую ўзнагароду — ордэн Леніна.

Першыя камунары з калгаса імя БВА — перадавыя заслужаныя людзі на Любаншчыне. Мікалай Міхаленя цяпер — брыгадзір трактарнай брыгады, Эміля Барткевіч — звеннявая, Адам Кур'ян — загадчык фермы, Эмануіл Модзін — дырэктар саўгаса «Любанскі». Усе яны маюць узнагароды — ордэн Леніна або Працоўнага Чырвонага Сцягу.

Традыцыі сваіх бацькоў-камунараў шануюць і прадаўжаюць іх дзеці — сённяшнія камсамольцы, маладыя перадавікі новай палескай вёскі.

...Думаю пра нашых цяперашніх хлопцаў і дзяўчат з Любаншчыны, якія ў той памятны зімовы дзень у Слуцку атрымлівалі ордэны і медалі, і радуюся: гэта ж мы для іх пачыналі новую справу, для іх моклі на дажджы, ваявалі з багнай і дрыгвою. Нашай моладзі ёсць з каго браць прыклад, ёсць да чаго прыкласці свае працавітыя рукі.



# ДАЎНЯЕ, НЕЗАБЫЎНАЕ...

Была пахмурная дажджлівая восень. Па дашчатых, дзіравых тратуарах брылі пешаходы. Адны — маўклівыя, строгія, другія — бадзёрыя, усхваляваныя. Панурую маўклівасць ускалыхнула песня:

«Смело, товарищи, в ногу...»

Павел убачыў, як з завулка выйшаў атрад чырвонагвардзейцаў у шэрых шынялях, у шапках з чырвонымі стужкамі-каснічкамі. І адразу навокал пасвятлела, у прасторы разлілася звонкагалосая ўрачыстасць.

Краіна рыхтавалася адзначыць сваё трохгоддзе, а камсамол — сваю другую гадавіну.

Атрад, роўна адбіваючы крок, спяваў зладжана, дружна...

Гэтая песня нагадала Паўлу верасень 1917 года, калі рабочыя кандытарскай фабрыкі ў Маскве, дзе ён працаваў яшчэ хлапчуком, з чырвонымі сцягамі выйшлі на дэманстрацыю. З Таганкі дэманстранты накіраваліся да Яўзкага маста. На другім канцы пераправы іх чакала шчыльная сцяна жандараў са зброяй напагатове.

Павел насцярожана сачыў за тымі, хто рыхтаваўся адкрыць агонь па дэманстран-

## У прамысловы паход

## «КАВАЛЕРЫІ» ЗАГАД

**Усім атрадам «лёгкай кавалерыі» згодна плану ЦК ЛКСМБ у пачатку правядзення вытворчага паходу павінен быць праведзен усебеларускі рэйд атрадаў «лёгкай кавалерыі» па праверцы правядзення гаспадарчымі арганізацыямі 7-працэнтнага зніжэння сабекошту прамысловай прадукцыі.**

**У выкананне гэтага пункту ЦК ЛКСМБ прапануе:**

**1. Усім атрадам «Л. К.» безадкладна пачаць працу з тым, каб скончыць яе да 10-га красавіка г. г.**

**2. Вынікі праверкі дасылаць у рэдакцыю газеты «Чырвоная змена».**

**3. Раённым і акруговым камітэтам ЛКСМБ ЦК прапануе забяспечыць кіраўніцтва і інструктаванне «кавалерыстаў» у часе выканання гэтага задання.**

## ПЕРАКЛІЧКА ЎДАРНІКАЎ

**У мінскіх вагонных майстэрнях ужо два месяцы працуюць дзве ўдарныя брыгады—слясарная і сталярная.**

**Стварэннем ударных брыгад мінскія чыгуначнікі ўступілі ў сацыялістычнае спаборніцтва.**

**Выклікаем Гомельскі калектыў ЛКСМБ чыгункі абмяняцца вопытам па правядзенню канкрэтных мерапрыемстваў у час прамысловага паходу на старонках «Чырвонай змены»**

**По даручэнню ўдарнікаў**
**В. Давідовіч.**

## НА ДРУЖБУ РУКУ, ТАВАРЫШ ІНЖЫНЕР!

**Ленінскі камсамол Беларусі, у прамысловы паход! Яго атрады ўступаюць ва ўсесаюзнае**

сацыялістычнае спаборніцтва па хутчэйшаму і лепшаму выкананню баявых задач, пастаўленых нашай партыяй і савецкім урадам перад сацыялістычнай прамысловасцю і яе работнікамі. Знізіць сабекошт нашай прадукцыі, палепшыць якасць яе, узняць вытворчасць працы, узмацніць вытворчую дысцыпліну, уцягнуць шырокія масы рабочых у справу рацыяналізацыі вытворчасці—баявыя і важнейшыя задачы, якія стаяць перад намі. Выходзячы з гэтага, Ленінскі камсамол паставіў перад сабой мэту: мабілізаваць усю энергію і ініцыятыву мас рабочай моладзі для хутчэйшага і лепшага выканання пастаўленых заданняў. Ленінскі камсамол выступіў у паход супраць расхлябанасці, нядбайнасці да вытворчай работы, супраць ганебных з'явішчаў—прагулаў, супраць «канкрэтных насіцеляў зла», якія зрываюць і тармозяць паспяховае выкананне пастаўленых задач.

Ленінскі камсамол парашыў рынуцца ў бязлітасную атаку супраць усіх недахопаў, бюракратычных скрыўленняў, коснасці, недысцыплінаванасці...

### ЛЕНІНСКІ КАМСАМОЛ АДДАЕ СТРОГІ ЗАГАД УСІМ СВАІМ СЯБРАМ

Быць прыкладнымі трудавымі армейцамі, па-баявому хутка і энергічна кожнаму на сваім пасту выконваць баявыя заданні ўрада, укладаючы ў справу сваю творчасць і ініцыятыву, бязлітасна змагаючыся з з'явішчам нядбайнасці і безадказных адносін да вытворчасці ў асяроддзі рабочай моладзі.

### З 900 ДА 1300 СКРЫНАК

Камсамольскі калектыў фабрыкі «Чырвоная Беразіна» выступіў у гаспадарчы паход. Ва ўпаковачным цэху ўсіх трох змен арганізаваны ўдарныя

тах. Хлопец угледзеўся на азызлага жандара, які вышаў насустрач калоне.

— Стой! — закрычаў жандар, размахваючы рэвальверам.

З калоны вышаў рослы шыракаплечы чалавек. Гэта быў рабочы Астахаў. Трымаючы ў руцэ трапяткі чырвоны сцяг, ён гукнуў над калонай:

— За мной! — і размашыста і ўпэўнена рушыў наперад, мазолістыя рукі яшчэ вышэй узнялі дрэўка сцяга.

Раптам ціха трэснулі выстралы. Рука Астахава апусцілася. Сябры цесна абступілі свайго баявога таварыша. Хтосьці ўзяў у яго з рук сцяг, хтосьці падтрымліваў параненага. Астахаў сканаў на руках таварышаў.

У жалобным маўчанні, зняўшы шапкі, стаялі дэманстранты. На вуснах кожнага было адзінае слова: «Адпомсцім!» Разам з імі быў і Павел.

— Адпомсцім, — ціха гаварыў Павел. Яго юнацкае сэрца гатова было выскачыць з грудзей, яно прагнула змагання.

Сябры не забылі свайго баявога таварыша. Яўзкі мост і сёння носіць назву Астахаўскага.

Неўзабаве перамагла Кастрычніцкая рэвалюцыя. Усюды палыхалі лозунгі: «Уся ўлада Саветам», «Зямля сялянам!», «Мір народам!».

У Паўла нібы выраслі крыллі. Разам з іншымі хлопцамі-равеснікамі ён ідзе ў паравознае дэпо, становіцца качагарам. Тады нехапала паравозаў, паліва... Але моладзь была моцная духам, працавала, не ведаючы стомы. Маладыя рабочыя самі рамантавалі паравозы, вагоны, а потым адпраўляліся ў далёкія рэйсы...

Вярнуўшыся з паездкі, спяшаліся на камсамольскі сход. Колькі гарачых спрэчак і дыскусій было тады ў камсамольскіх ячэйках! 16-гадовым хлопцам Павел Лаўрэнцеў узначаліў у камітэце камсамола сектар па абароне правоў моладзі. Гэта быў адказны ў той час участак. Даводзілася вырашаць розныя пытанні: працаўладкавання маладых рабочых, іх вучобы і адпачынку...

Павел глыбока цікавіўся жыццём моладзі. Яму адказвалі на гэта шчырасцю і павагай. У тым памятным 1920 годзе яны аднадушна паслалі Паўла Лаўрэнцева на III з'езд РКСМ.



...Малая Дзмітраўка. Павел уважліва разглядае таблічкі на сценах дамоў, шукаючы патрэбную лічбу «6». У доме № 6 меў адбыцца з'езд камсамола. Яшчэ здалёк хлопец убачыў, што ля дома, перад уваходам тоўпілася моладзь. Калі Павел падышоў бліжэй, то пачуў:

— Ці праўда, што Ленін выступаць будзе?

За некалькі гадзін да адкрыцця з'езда зала была перапоўнена. Дэлегаты і госці сядзелі на падаконніках, стаялі ўздоўж сцен. Адны з іх толькі вярнуліся з фронта, альбо рыхтаваліся пайсці на фронт; другія — адразу з палёў, з уборкі ўраджаю; трэція — з фабрык і заводаў...

У зале стаяў гул. І раптам усе змоўклі. Позіркі ўсіх накіраваліся на сцэну, дзе будзе выступаць Уладзімір Ільіч. Многія зайздросцілі піцерскай, маскоўскай дэлегацыям, якія паселі на першых радах. За імі сядзелі ўкраінцы, уральцы...

Ля трыбуны — правадыр, невысокі, рухавы чалавек у цёмным паліто з чорным акса-

П. Лаўрэнцеў.



брыгады, такія ж брыгады існуюць у набівачным і макальным цэхах.

Дзякуючы рацыяналізатарскім мерапрыемствам, унесеным брыгадай, выраб аднаго рабочага павялічыўся з 900 скрынак на 1 300. Брыгады праводзяць спаборніцтва паміж сабою, паміж асобнымі сталамі і машынамі.

### У паходзе за 7 і 17

### БАЯВАЯ ЗВОДКА

На заводзе «Энергія» (Мінск) брыгада камсамольцаў з 6 чалавек знізіла брак да 3 прац. і зменшыла амаль зусім прагулы. Заработная плата павысілася на 12 прац. Маладзёжная брыгада першая паказала прыклад працаздольнасці, у выніку чаго стала мажлівым зніжаць расцэнкі, на што першай пайшла брыгада.

⊙ Ячэйка хімфармзавода арганізавала дзве ўдарныя брыгады.

⊙ На фабрыцы «Адраджэнне» брыгада слесараў павялічыла выпуск прадукцыі на 30 працэнтаў...

⊙ Рацыяналізатарскія групы будаўнікоў ўнеслі прапанову, дзякуючы якой уведзена электрычная рэзка балак, што павялічыла прадукцыйнасць у чатыры разы.

### ПЕРШЫ ЎДАРНЫ ЗАВОД У БССР

Гэтымі днямі адбыўся сход рабочых Мінскага хлебазавода, дзе разглядалася пытанне аб праверцы старога соцдагавору і заключэнне новага. На сённяшні 25 працэнтаў усіх рабочых завода складаюць ударныя брыгады. Яны на гэтым сходзе зрабілі выклік перaтварыць хлебазавод ва ўдарны.

### 96 УДАРНЫХ—ПАДАРУНАК З'ЕЗДУ

Колькасць ударных брыгад і ўдарнікаў на прадпрыемствах

Мінскай акругі з кожным месяцам, з кожным тыднем расце. Па няпоўных даных, на 13 прадпрыемствах на першае кастрычніка 1929 года налічвалася 23 ударныя брыгады з колькасцю ўдарнікаў 563.

Нядаўна створана 73 новых брыгады, на першым месцы па колькасці ўдарнікаў ідзе «Чырвоная Беразіна», на якой налічваецца 13 ударных брыгад з колькасцю 479 чалавек, альбо 44 працэнты усіх рабочых фабрыкі.

### НОВАЯ ШВЕЙНАЯ ФАБРЫКА Ў БАБРУЙСКУ

**(Ад нашага спецкора)**

Сёння адчыняецца ў Бабруйску новы гігант сацыялістычнай прамысловасці—швейная фабрыка імя тав. Дзяржынскага.

Пуск гэтай фабрыкі—наш першамайскі падарунак сусветнаму пралетарыяту—так гаворыць лозунг 1-й друкаванай газеты фабрыкі «Чырвоны швейнік».

Фабрыка цалкам механізавана, на ёй працуе да 1000 рабочых у дзве змены. Перайшла на бесперапынны тыдзень.

### У СТРОЙ УВАЙШОЎ ПАНЧОШНЫ КАМБІНАТ
### ВІТАННЕ ЎДАРНІКАМ САЦЫЯЛІСТЫЧНАГА БУДАЎНІЦТВА

Сёння ўваходзіць у строй адзін з 518 — Віцебскі панчошны камбінат. Камбінат пачынае сваю працу на 10 дзён раней тэрміну, бо віцебская камсамолія разам з усім беларускім камсамолам паставіла перад сабой задачу: пусціць камбінат датэрмінова...

Пуск камбіната — чарговая перамога на фронце сацыялістычнага будаўніцтва. Пуск камбіната—яшчэ адна слаўная старонка ў гісторыі барацьбы беларускай камсамоліі...

мітным каўняром. Усе ў адзіным парыве закрычалі: «Ленін», «Ленін», «Ленін».

Уладзімір Ільіч дастаў з кішэні жылеткі гадзіннік, глянуў на прэзідыум і, павярнуўшыся да залы, узняў руку.

Павел сядзеў, нібы зачараваны, не спускаў вачэй з дарагога Ільіча. Хацелася рвануцца наперад, каб быць яшчэ бліжэй да яго. Ленін пачаў прамову. Кожнае слова Павел стараўся запомніць надоўга, назаўсёды.

Уладзімір Ільіч гаварыў аб асноўных задачах Саюза Камуністычнай моладзі — проста, зразумела, пераканаўча. Ленін даваў у рукі моладзі праграму на дзесяцігоддзі.

Перапоўненыя ўражаннямі, пакідалі дэлегаты з'езд, раз'язджаліся па краіне.

Разам з масквічамі вяртаўся дадому і камсамолец Павел Лаўрэнцеў. Не цярпелася хутчэй сустрэцца з сябрамі, расказаць ім аб дарагім і любімым правадыру, параіцца, як лепш выканаць задачы, пастаўленыя на з'ездзе.

У цеснай дзяжурцы сабраліся камсамольцы, маладыя чыгуначнікі. Цяпер яны слухалі Паўла.

— Ленін гаварыў нам вучыцца, — паведамляў Павел і дадаваў заклапочана: — А ў нас пакуль наконт гэтага слаба...

Камсамольцы тут жа рашылі адкрыць курсы па павышэнню сваёй кваліфікацыі. На курсы пайшоў і Павел. Тры разы ў тыдзень наведваў заняткі.

Павел стаў інструктарам школы фабрычна-заводскага навучання на першым савецкім аўтамабільным заводзе, цяпер завод імя Ліхачова. Працуючы там, ён паступіў у акадэмію, скончыў яе і стаў інжынерам.

Праляцелі гады. Павел Мікалаевіч Лаўрэнцеў прайшоў баявы шлях камуніста-змагара. Галава яго сівая, але ён па-ранейшаму энергічны і бадзёры. Гледзячы на гэтага чалавека, не верыш, што яму мінула пяцьдзесят. Маладосць не згасла ў яго душы...

Павел Мікалаевіч спяшаецца ў цэх, дзе кіпіць праца. Прыбыло на аўтазавод новае абсталяванне, і патрэбна яго дапамога і парада.

За малады запал любяць і паважаюць намесніка галоўнага інжынера Мінскага аўтазавода былога камсамольца дваццатых гадоў Паўла Мікалаевіча Лаўрэнцева.

**Ул. МАЯРОВІЧ.**

## *Па партызанскіх сцежках*

Хведар **БАЧЫЛА**,
**былы камандзір дыверсійнага ўзвода 3-й Мінскай брыгады.**

# У НАС, ПАД МІНСКАМ

### Начныя выбухі

Але вернемся да нашых падрыўных будняў.

Выбухі, якія прагрымелі ў познюю восень і зімой 1942 года пад Мінскам, абвясцілі пачатак наступлення партызанскіх сіл на чыгуначных магістралях. З Мінска ва ўсе бакі — на Пухавічы, на Барысаў, на Баранавічы і Маладзечна — усё часцей накіроўваліся аварыйныя паязды, але і іх спасцігала справядлівая кара.

Паабапал чыгункі немцы высеклі лес, адчысцілі хмызнякі, пабудавалі дзоты, правялі сігналізацыю, днём і ноччу патрулiравала варта, але выбухі грымелі ўсё часцей і часцей. Пад адхон ляцелі эшалоны, ірваліся рэйкі, выварочваліся шпалы...

Наша група зімой 1943 года дзейнічала пад Мінскам на ўчастку Калядзічы—Рудзенск. Хадзілі мы, як я гаварыў, спачатку поўным узводам, а потым ужо невялікай групай. У той час, калі пад Новы год Пятро Сачок з сябрамі штурмавалі гарнізон у Зазер'і, мы далі ім салют на чыгунцы. Разлічылі так, каб паравоз узышоў на міну, і тарганулі шнур. Аказваецца, паравозаў было два. Яны наскочылі адзін на другі. Гэта былі рэзервавыя паязды.

— Вось, хлопцы, быў выбух!— аж паціраў рукі ад задавальнення наш Дзям'ян Іванавіч. — Паравозы ляжаць і зараз з адарванымі коламі, пакалечаныя. Два дапаможныя паязды прышлі і двое сутак рамантавалі пуць, ачышчалі навалы.

Я ўжо гаварыў, што Алейнікаў гарэў ідэяй рэйкавай вайны. Ён і нас, маладых партызан, вучыў валодаць падрыўной справай, перадаваў сваё ўмельства.

Аднойчы зімовай ноччу мы заляглі за ўзгоркам і чакалі поезд са станцыі Міханавічы, з Мінска. Анатоль мне і гаворыць:

— Пацягнеш за шнур?

---

Пачатак у № 3 за 1958 г.

— Адзін баюся. А раптам не выйдзе? — адказаў я.

Анатоль застаўся са мной і ірвануў шнур тады, калі настаў самы падыходзячы момант — як паравоз узышоў на міну. Між іншым, тады выбуху не было. Граната ўзарвалася, сапсавала рэйку, і поезд стаў. Насустрач ішоў таксама эшалон. Са злосці мы пачалі абстрэльваць паязды, а потым схаваліся за горку і паехалі. Канешне, паехалі сумныя. Асабліва балюча перажываў кожную такую няўдачу Толік.

Кожны раз ён даймаў камандзіра атрада, каб той патурбаваўся пра ўзрыўчатку. Снарадаў і бомбаў, з якіх дагэтуль выплаўлялі тол, станавілася ўсё менш, за імі хадзілі ледзь не ў самы Мінск, і хлопцы не на жарт трывожыліся.

Пасля таго, як Алейнікаў расказаў камандзіру пра нашы няўдачы, неяк ён зайшоў да нас у будан і весела сказаў, падміргнуўшы Толіку:

— У нас хутка будуць госці з Вялікай зямлі. Павінны нам штокольвечы падкінуць!..

І сапраўды ў хуткім часе мы прынялі самалёт. Нам прывезлі міны, узрыўчатку, запалы, шнур і іншыя рэчы, якія вельмі патрэбны кожнаму падрыўніку. Да нас тады прыехаў новы сакратар падпольнага райкома партыі Мікалай Міронавіч Альхімовіч, які больш канкрэтна заняўся справамі палітычнага выхавання моладзі. Разгарнулася работа па стварэнню ініцыятыўных груп з камуністаў і камсамольцаў, якія працавалі ў вёсках, у гушчы насельніцтва, звязваліся з гарадскімі падпольшчыкамі.

Трэба сказаць шчыра, што, нягледзячы на гэтую дапамогу з Вялікай зямлі, узрыўчаткі нехапала. І нам даводзілася вымяньваць тол у хлопцаў з атрада Градава, які забяспечваўся лепш. Вымяньвалі за два кавалкі сала кавалак толу. Было і гэтак!

У той час ужо больш сур'ёзна загаварылі пра дыверсійныя групы. Нашу ініцыятыву ўхвалілі, і Анатоль з яшчэ большым энтузіязмам узяўся за справу. Не перашкодзіла нам рабіць налёты на чыгунку, якая цяпер больш пільна ахоўвалася, і новая зімовая блакада, хоць на некаторы час падрывы спыніліся. З варожага акружэння давялося прарывацца з баямі. Адзін раз наткнуліся на засаду і кінулі на балоце фурманкі і нават кухню. Выручыў нас Раман-кулямётчык. Ён застаўся адзін, стаіўшыся ў зацішным месцы, і, як толькі немцы рынуліся да абоза, смальнуў па іх. Немцы ледзь паспелі падабраць забітых. Пасля доўгіх бадзянняў мы натрапілі на свой штаб, які апынуўся зноў ля Рудкова.

Камандзір узвода Алейнікаў прапанаваў:

— Паедзем пад Дукору, у пушчу. Адпачнем крыху, а тады — зноў «на жалезку»...

Але доўга адпачываць не давялося. Сувязныя перадалі, што немцы зганяюць людзей на ачыстку дарогі і што з Рудзенска будуць ісці машыны. Анатоль адразу:

— Хлопцы, збірайся!

— Мы — Валодзя Хмялеўскі, Валодзя Бачыла, Міхаіл Заяш і я — схапілі аўтаматы, кулямёт і пайшлі за камандзірам. З ляска днём выскачылі на гравійку. Бачым, на белай снежнай роўнядзі коні цягнуць драўляны трохкутнік — чысцяць дарогу. З рыдлёўкамі корпаюцца людзі. Мы да іх. Яны здзівіліся і перапалохаліся: такога яшчэ яны не бачылі, каб у зімовы дзень, побач з гарнізонам паявіліся партызаны, не атрад, а некалькі чалавек.

Дзяўчаты адразу пазналі Толіка-«прыпісніка». Крыху пасмялелі, пачалі запрашаць у вёску, распытваць пра жыццё ў партызанах. Аднак доўга з імі не затрымаліся.



Коней выпраглі, пасаромелі дзядзькоў, што тут рабілі, і выправілі іх дахаты. А тут нам насустрач — машына, у ёй некалькі паліцаяў. Адразу ж накінуліся на іх — спалілі машыну, пастралялі паліцаяў і з трафеямі пайшлі ў Дукору.

На вуліцы сустрэлі двух трактарыстаў, якія поркаліся ля машын.

— Чаму немцу служыце? — грозна спытаў Анатоль у аднаго з іх і тут жа дадаў: — Злазь!

Мы селі на трактар, Анатоль узяўся за руль, і паехалі па вуліцы. З усіх хат чуваць галасы: «Партызаны! Партызаны!» За намі натоўп дзяцей.

Праехалі. Што рабіць з гэтымі машынамі? Рашылі знішчыць — няхай не дастануцца ворагу. Валодзя даў па іх чаргу бранебойнымі — і ад іх толькі пырскі паляцелі...

Мы сабралі людзей, расказалі ім аб падзеях на фронце, пачыталі лістоўкі.

— Чырвоная Армія ўжо ля Смаленска, — бадзёра гаворыць Анатоль. — Хутка прыдзе канец Гітлеру!

А дзяўчаты пазіраюць на нас цікаўнымі вачмі. Відаць, ім спадабалася наша зухаватасць. Некаторых і я ўжо ведаў — гэта Таню і Вольку. Яны хочуць спытаць пра сваіх хлопцаў, якія ўжо былі ў нашым атрадзе, але не адважваюцца.

Уначы мы зрабілі налёт на невялікі гарнізон на торфзаводзе ля Дукоры. Запасліся там свініной (забралі 25 парсюкоў), а заадно і снарады, якія раней схавалі на балоце, і прыцемкам узялі кірунак на Бардзілаўку, якая тады была ў партызанскай зоне.

Цішыня. Толькі нячутна цярушыцца сухі, пульхны сняжок ды весела рыпяць палазы. У нас — добры настрой. Мы даведаліся, што немцаў турнулі ад Масквы. Нехта з партызан зацягнуў любімую песню падрыўнікоў:

Шумел дождик в ночном полумраке,
По дорогам вода потекла.

Яму ціха, але з пачуццём, шчыра памагалі ўсе, як адзін, увесь узвод:

Партизаны с лесов выезжают
Совершать боевые дела...

Настрой ва ўсіх быў прыўзняты, баявы. Напэўна, мы тады забыліся, што вакол вораг, што ў любы момант нас падпільноўвае смерць. Так маглі адчуваць сябе людзі, якія ўпэўнены ў сваёй перамозе над ворагам.

У Лешніцы разгулялася завіруха. Умомант замяло дарогу. Насоўвалася ноч. Але гэта яшчэ не бяда. Сувязныя паведамілі: нарадзе немцы!

Рашылі збочыць, прабіцца да чыгункі. Прабівалі дарогу напрамік. Як мясцовыя людзі, мы з Валодзем Бачылам ішлі наперадзе. Завіруха не сціхала, круціла, як у гаршку. Блудзілі цэлую ноч. На світанні прабіліся да чыгункі. Засталі ў будцы абходчыка, даўняга нашага знаёмага. Але і ён перапужаўся:

— Хлопцы, што ж гэта вы і мяне загубіць хочаце?

Мы ў маскхалатах паверх кажухоў і шынялёў, зацярушаныя снегам, як таежнікі. На санях — правізія, станкач, ручныя кулямёты, скрынкі з патронамі... У кожнага пры рамяні — граната.

— Што будзем рабіць? — пытае Анатоль у хлопцаў, хоць у самога, відаць, ужо ёсць пэўнае рашэнне. — За чыгунку!

— Едзем! — крыкнулі дружна. Абоз наш — падвод дваццаць пяць — рушыў на пераезд.

Не праехалі нават і палавіны, як паказаўся поезд. Немцы з вагонаў махаюць нам рукамі.

— Прывецік! — махалі нашы хлопцы ім у адказ, а самі глыбей нацягвалі на галовы маскхалаты, каб часам не бліснуў каснічок партызанскай істужкі.

На гэтым нашы прыгоды не скончыліся. Як толькі прайшоў поезд, мы заўважылі: ідуць два патрулі. Гэта былі нашы палонныя, якіх немцы выкарыстоўвалі для аховы чыгункі. Мы наперад, наперарэз ім.

— Рукі ўгору!

Тут я заўважыў, што ў мяне аўтамат застыў, а пісталет далёка — у кішэні. Між іншым, у Валодзі Бачылы таксама аўтамат прымёрз.

Канешне, нашы «ворагі» здаліся без гуку, нават з радасцю.

Адзін з іх — Мікалай Супранка — шчупленькі і рыжаваты чалавечак — аказаўся больш рызыкоўны. Ён адразу сказаў:

— Мы з вамі, хлопцы. Мы самі збіраліся...

Другі, як абшчыпанае куранё, узняў рукі і трасецца. Нейкі нягеглы. Мы яго потым аддалі ў другую брыгаду. У гэтых «дабраахвотнікаў» былі вінтоўкі, гранаты. А гэта ўжо была для іх нядрэнная характарыстыка. Яны нам расказалі, што ў іх ёсць шмат хлопцаў, якія жадаюць перайсці да партызан. Усё гэта, як кажуць, накруціў на вус наш камандзір узвода.

У Бардзілаўцы нас сустрэлі, як родных. Той раз я ўпершыню адкрыта паявіўся ў сваёй вёсцы. Нас частавалі гарачымі блінамі, смажанінкай. Каб чаго не здарылася, дзядзькі нават выставілі свае пасты па краях вуліц. Тады ж урачыста, перад усімі партызанамі, мая маці ўручыла мне той аўтамат, што некалі пашкадавала.

— Няхай моцнай будзе твая рука, дзіцятка маё! — сказала маці і чамусьці выцерла ражком хусткі вочы. Яна ўжо сама падрыхтавалася ісці з намі.

... Рыжы Супранка не маніў. Праз дзень, калі мы ўначы паехалі на чыгунку, нам дабраахвотна здалася ўся варта. І вось як гэта ўсё адбывалася.

Нас ехала сямёра. Пяць хлопцаў засталіся на правым баку, а мы з Супранкам пайшлі на пуць. Вось ідуць двое. Я гавару:

— Хлопцы, хадзіце сюды!

— А хто вы?

— Свае. Партызаны.

Маўчанне. Тады Супранка падае голас:

— Не бойцеся. Гэта я, Мікалай. Мяне ўчора забралі днём.

— Ідзем. Ды глядзіце ж не страляйце!

Спыталі ў іх пароль. Пайшлі далей па чыгунцы. Насустрач ідуць патрулі.

— Пароль!

Мы адказваем. І тут жа знаёмімся. Загадваем, каб заўтра былі напагатове: набралі пабольш патронаў, гранат. Аказваецца, хлопцы даўно гарэлі такім жаданнем, але не давяралі адзін другому і не мелі выпадку звязацца з партызанамі. Тут жа ноччу сустрэўся нам на чыгунцы і Мікалай Бядулін, смелы хлопец-весяльчак, музыкант і запявала.

Прызначылі спатканне...

З'явіліся, як было дамоўлена, уначы. Прывезлі з сабою дзве, па 100 кілаграмаў кожная, бомбы, адна з іх запальная. Паклалі іх проста на пераездзе, ля будкі. З намі тут жа завіхаўся пуцявы абходчык — наш сувязны Косця, якога мы называлі проста «Гулькоўскі заяц».

Пачалі збіраць «вартаўнікоў» чыгункі. Сярод іх выявілася шмат навічкоў, якія нічога не ведалі і ад страху толькі дрыжалі. З імі размова была кароткая. Забіралі



затвор ад вінтоўкі, а самога — уніз, да фурманак. Узялі тады чалавек дваццаць пяць. Сярод іх не аказалася таго падхлябістага музыканта, якога мы хацелі мець абавязкова.

Ён прышоў назаўтра: брыў па чэрава ў снезе, мокры, змучаны, з поўнымі кішэнямі патронаў і гранат... І іграў так, што сыходзіліся партызаны з усіх суседніх атрадаў. Ворага біў таксама нядрэнна!

Але ж мы хвалюемся. І вядома чаго: патрулі сюды ідуць, а назад не вяртаюцца. На наша шчасце пачуўся шум, бліснула жоўтае вока паравоза. Прывязалі шнур, і поезд ужо тут. Ірванулі колькі было сілы. Мяне і Толіка адкінула далёка ў снег.

Ужо ў лесе мы ўбачылі вялікае зарава, якое яшчэ доўга блішчала ў цемені зімовай ночы. Выбух гэты, як і многія іншыя, быў удалы: паравоз разарвала, і далёка адляцелі яго колы, разбіліся тры вагоны з немцамі і пятнаццаць вагонаў з прадуктамі. Вакол на сотні метраў валяліся каўбасы, кансервы. Немцы нават самі былі задаволеныя выбухам, бо пакаштавалі каўбаскі...

Калі мы адыходзілі ў тую ноч, Анатоль сказаў мне, што трэба было б знішчыць дзот пры чыгунцы. Мы з Валодзем Хмялеўскім і Мішам Заяшам вызваліся ісці. Назаўтра набралі бярэмя саломы, каб падпаліць гэты дзот — звычайную хату, па вокны абкапаную зямлёй, і пайшлі. Мы ведалі, што гэты дзот ахоўваюць двое немцаў і рускі ваеннапалонны, яго звалі Васілём. Рашылі ўзяць іх жывымі. Залеглі за хатаю. На ганку было двое — немец і Васіль.

— Рукі ўгору! — скамандавалі мы ім, наставіўшы на грудзі аўтаматы.

Васіль спакойна прагаварыў:

— Хопіць. Адзін раз падымаў. Цяпер не буду. Іду з вамі!

Немец моцна спужаўся. Мы ўзялі іх з сабою. Спалілі дзот. Адыходзячы, сустрэлі нямецкі парад — пяцярых салдат. Завязалі з імі перастрэлку. Чатырох забілі, і аднаго ранілі. Немца прывялі ў атрад — гэта быў першы наш «язык» і няўдалы. Заядлы нацыст, ён адмовіўся гаварыць.

У атрадзе пачалася падрыхтоўка да гадавіны Чырвонай Арміі. Падрыўнікі гарэлі жаданнем яшчэ што-небудзь зрабіць перад святам. Вяртаючыся ў Пагуляйкі, месца нашай тадышняй стаянкі, мы сустрэлі хлопцаў з роты Віталія Пака.

— Нікуды не едзьце, — перадаў ён нашым. — На свята нешта арганізуем...

Каб унесці сваю пайку, мы заказалі дзядзьку Юрку зрабіць самагонкі, каб на свята было па чарцы. Перад святам заехалі ў Бардзілаўку, забралі ў вазок бутыль з гарэлкай і паехалі да станцыі Седча. Не ўтаймавалася помста за спаленыя вёскі Рыбцы і Пярэжыр, за кроў і слёзы невінаватых людзей. Пераехалі праз чыгунку і спыніліся на рыбіцкай вуліцы, сярод пачарнелых комінаў і абгарэлых яблынь.

І тут прышло рашэнне — назад, на чыгунку!

Аказалася, што ў нас не хапала шнура, і мы рашылі з'ездзіць ва Узляны, там на слупах быў тэлефонны дрот.

Пры ўездзе ў вёску заняліся нарыхтоўкай дроту. Я ўзняў бінокль і бачу: з рудзенскай дарогі едуць фурманкі. Адна... дзве, тры...

— Толік, хахол! — крыкнуў я. — Паліцыя!

А ён спакойна, захінуўшыся ў свой доўгі мурзаты кажух, сядзіць у вазку і, нават не павярнуўшыся, гаворыць:

— Цэ ім будэ закускі!..

Нас было шэсць чалавек — на двух фурманках. На першай фурманцы ехалі Супранка, Валодзя і я. Аказваецца, паліцаі заўважылі нас і імчалі нам наперарэз. Мы рашылі залегчы перад пасёлкам Мохаўка. Валодзя схапіў кулямёт і бягом к першай хаце. «Сынок», маленькі, сухі, як корчык, партызан, набраў бярэмя дыскаў. Пачалася перастрэлка. Але хутка бачым, што не ўправімся з імі, і назад, к ляску. Кінулі другую фурманку. Убеглі ў хвойнік, а Толік з крыкам «Оце ж, горілка засталася бісом!» па снезе пабег назад. А кулі ціўкаюць, як галодныя кураняты. Бачу, у Толі кажух на плячы куляй ускалмаціла. Ён прылёг... Тым часам мы і не заўважылі, як Супранка колькі ёсць сілы паімчаўся ў Распуцце, за падмогай.

Перад ляском на снезе ляжаць нашы — «Сынок» і Валодзя Хмялеўскі. Як толькі яны падымуцца, з пасёлка — страляніна. У адну з такіх перадышак Валодзя перабег да нас у лес, а «Сынок» так і ляжаў, зашыўшыся ў снег. Раптам з пасёлка выбеглі чалавек пяць — захацелі захапіць «Сынка» жывым. Мы секанулі па іх з аўтаматаў. І «Сынок» вырваўся...

Тут чуем: нашы бягуць. І разгарэўся бой. У нас было фурманак сорак, а немцаў і паліцаяў — чалавек сто дваццаць, на чале з начальнікам рудзенскай жандармерыі. У іх на царкве стаяў кулямёт, але і гэта не дапамагло. Уварваўшыся ў вёску, партызаны ва ўпор расстрэльвалі гадаў. Многіх яны ведалі ў твар.

— А, гэта ты, Вацік! — і бах у яго.

— Вось дзе я сустрэў цябе, сабака! — і прыкладам па галаве.

Паліцаі хаваліся на двары, у хатах. Але партызанская куля іх насцігала ўсюды. Барыс Келер у сутычцы забіў афіцэра-жандара. Апамятаўшыся, напоўз да яго па зброю, па ім адкрылі кулямётны агонь. І ўсё ж Барыс умудрыўся забраць у забітага парабелум і дакументы.

Гэта быў бой, пра які самі немцы пісалі ў газетах, што нібыта біліся з імі не партызаны, а дэсантнікі — рэгулярныя войскі. Тады забілі 18 немцаў, у тым ліку трох афіцэраў, 20 паліцаяў, два кулямёты, шмат вінтовак, аўтаматаў і некалькі пісталетаў — такія былі нашы ўзлянскія трафеі.

Вярнулі мы сваю фурманку і гусей, якіх падарыў нам з выпадку свята зазерскі стараста, толькі бутыль загінула, — яе раскалола шалёная куля. Той дзень Чырвонай Арміі мы адсвяткавалі хоць і без гарэлкі, затое з добрым падарункам.

З наступленнем вясны, і асабліва ўлетку 1943 года, выбухі над мінскімі чыгункамі грымелі ўсё часцей і мацней. Дрыжалі, узнімаліся высока над прыдарожнымі прымятымі травамі пакручаныя рэйкі, ляцелі ва ўсе бакі пачарнелыя шпалы. Чыгунка выбывала са строю кожны дзень. Немцы не ведалі, куды пасылаць аварыйныя паязды, бо ўсюды ішлі дыверсіі і грымелі выбухі. У кожным атрадзе — падрыўны ўзвод. Ужо самастойна працуюць і Анатоль Сцепічаў, і Васіль Баркун, і Ева Федарэнка, і Янка Сезень, і многія іншыя партызаны.

У нашай 3-й Мінскай брыгадзе імя Будзённага пачаў дзейнічаць новы атрад імя Лазо. У ім былі амаль усе камсамольцы. Ірвалі дарогу пад носам у немцаў, хадзілі на падрыў групамі, ставілі розныя міны — і на шнур, і на шомпал, і націскныя з электраўзрывальнікамі. Мой жа любімы метад заставаўся ранейшы — ставіць міны на шнур.

Улетку 1943 года мяне прызначылі камандзірам падрыўнога ўзвода. На падрыў мы хадзілі групамі. Старшы групай прызначаўся камандзірам узвода. Але на падрыве справа была арганізавана так, што ў любы момант партызаны маглі замяніць адзін другога — усе ведалі, як ставіць зарады і рыхтаваць выбух. Я ўжо гаварыў, што нашы падрыўнікі — людзі бясстрашныя. Цяпер вось думаю пра іх, і мне здаецца, што то былі не мы, а нейкія іншыя, сапраўды смелыя людзі. А нам жа ў той час было па васемнаццаць-дваццаць год, не больш.



Хіба вось гэта не геройскі подзвіг, пра які я зараз скажу?

У знак помсты партызанам немцы пачалі кідаць бомбы на вёскі, дзе жылі ў асноўным старыя і дзеці. Бомбаў скідвалі шмат, і многія не разрываліся. Знайшлі нашы хлопцы адну такую бомбу ў балоце, выцягнулі з дрыгвы. Паспрабавалі было выкруціць запал, але не ўдалося. Тады Валодзя Бачыла ўзяў звычайнае кавальскае зубіла і пачаў ім дзейнічаць, нібы перад ім была не бомба велізарнай выбухной сілы, а звычайная балванка.

У маёй групе былі хлопцы з розных мясцін: Валодзя Карпіловіч — токар з Мінскай МТС, браты Фёдар і Валодзя Клімовічы — вучні з вёскі Канюціцы і мой стрыечны брат Мікола Бачыла з Бардзілаўкі, таксама вучань. Здружыліся мы хутка і заваявалі славу добрых падрыўнікоў.

Як мы хадзілі на падрывы?

Звычайна выбіралі ноч цёмную, часта дажджлівую, з навальніцамі. Рабілі спачатку разведку, потым ішлі на эшалон. Ішлі як бы клінам, адзін уперадзе, а два па баках, чацвёрты прыкрываў ззаду. Я цягнуў шнур, а Мікола заставаўся трымаць за другі канец. Ён потым торгаў яго па сігналу.

Мы ідзём з аднаго боку дарогі. А раптам на другім баку — немцы? Галоўны, гэта значыць я, вяду ў бінокль назіранне. Часам даводзілася ляжаць на зямлі доўга, цікуючы ўдалую хвіліну. Праз кожныя дваццаць мінут ходзяць вартавыя — з абодвух бакоў.

Асабліва хвалюешся, пакуль не перабярэшся за чыгуначныя працы ўсцяж насыпу. Потым, калі ставіш зарад-міну, хваляванне як рукой знімае. Свой аўтамат аддаю сябру, падкопваю зямлю ля рэйкі і бліжэй да яе, з правага боку, па ходу поезда кладу міну. Стараліся класці іх у выемкі, паміж двума ўзгоркамі. Тады выбух цудоўны — з двух бакоў вагоны гнятуць адзін аднаго. Прымацоўваючы шнур да гайкі, ціха падаю каманду:

— Адыход!

І сам бягу ад шнура. Вяртаемся ўсхваляваныя, не чуем пад сабою ног. Падбягаем да таварыша, які застаўся са шнурам. Пачынаюцца хвіліны чакання...

— Выбух!!!

Скрыгат. Лямант. Мы рады. Валодзя Клімовіч не любіў так спакойна адыходзіць. Абавязкова стоіцца дзе-небудзь у зацішным месцы і дасць чаргу з аўтамата. Гэта ў яго называлася: зрабіць эшалон пад музыку.

У тых месцах, дзе рабіліся выбухі, немцы пачалі пакідаць засады, але мы абыходзілі іх. Пуцявы абходчык Дзям'ян Іванавіч даваў нам дакладныя звесткі аб тым, дзе і калі можна падысці да чыгункі. Хадзіў у разведку мой брат Валодзя, якому тады было год чатырнаццаць. Хлопец набярэ яек і шыбуе на станцыю, абменьвае іх у немцаў на папяросы, а тым часам выведае, дзе менш варты на чыгунцы.

Было і такое, што мы трапілі пад абстрэл. Ноч цёмная. Ішоў моцны дождж, мільгала бліскавіца. Мы падышлі да чыгункі ля-

самых Міханавіч, супраць Бардзілаўкі. На пагорку стаяла вышка, якую цяпер немцы выкарысталі як назіральны пункт. У цемені амаль што наткнуліся на яе. Немцы кураць, нешта гавораць... Мы збочылі, але нехта не ўтрымаўся, — кашлянуў. Узвілася ракета. Узнялася страляніна. На цяперашні розум, дык нам трэба было легчы і перачакаць. Тады ж мы кінуліся ўцякаць з усіх ног. Ужо каля вёскі я заўважыў, што рука ў мяне ліпкая і адчуў боль — гэта куля прабіла навылет далонь.

За летнія месяцы мы зрабілі дзесяць узрываў, не лічачы тых, што рабілі напрадвесні, праходзячы так званую практыку на атэстат сталасці падрыўніка.

Хлопцы дзейнічалі рызыкоўна і смела, паміж імі было як-бы спаборніцтва. Азін раз прышлі на чыгунку, падрыхтаваліся да сустрэчы поезда і раптам перад намі — выбух. Аказваецца, гэта нас апярэдзіў Янка Сезень.

Сваіх выбухаў мне бачыць не даводзілася. Але вось аднойчы быў я сведкаю, калі сярод белага дня падрыўнік Васіль Мусорын з атрада Сядзякіна пракраўся на чыгунку і паставіў нацiскныя міны. Эшалоны ідуць, а ні адна не ўзрываецца. Неўзабаве паказаўся аварыйны паравоз, цягнучы велізарны пад'ёмны кран. Было цудоўнае відовішча, калі паравоз, пакалечаны і струшчаны, узляцеў угару і грымнуўся з насыпу. Перавярнуўся і кран-грамадзіна, глыбока ўехаўшы ў зямлю. Рэйкі і шпалы са свістам ляцелі ва ўсе бакі. У небе доўга стаяў слуп пылу.

Немцы шалелі ад злосці.

На чыгунцы ўначы хадзілі вартавыя, салдаты і паліцаі бесперапынна сядзелі ў дзотах, стаялі на вышках. Усцяж насыпу віселі правады з бразготкамі.

А выбухі грымелі з новай сілай.

Камандаванне высока ценіла нашу цяжкую працу. Многіх з нас прадставілі да ўрадавых узнагарод. Пра падрыўнікоў пісалі ў друку, складалі песні і вершы. Памятаю адзін верш, які напісаў наш партызанскі паэт Лёня Амбах, пачынаўся ён так:

Партия нас мужеству учила.
Ты её отличный ученик,
Фёдор Афанасьевич Бачило,
Первый по бригаде подрывник.
Точно знамя боевой колонны.
Ты в подарок Родине принёс
Двадцать шесть немецких
эшелонов,
Спущенных тобою под откос.

Улетку 1943 года камсамольская арганізацыя атрада рэкамендавала лепшых партызан у партыю. Разам са мной кандыдатамі ў члены КПСС былі прыняты Анатоль Сцепічаў, Мікалай Крайко, Янка Сезень, Мікола Шкор і другія.

Гэта была лепшая ацэнка нашай работы.

### «Тытунёвы камерсант»

Падрыўнікі былі неблагімі разведчыкамі. Я ўжо расказваў пра свае сустрэчы з дзядзькам Арсенем Каліноўскім у Мінску, упамінаў пра тое, як здабывалі зброю і ўзрыўчатку, як наладжвалі сувязь з гарадскімі падпольшчыкамі.

Мне нярэдка даводзілася хадзіць у Мінск, у самае логава фашыстаў, і пазней, калі я ўжо быў у атрадзе.

Некаторыя сустрэчы з людзьмі падпольнага Мінска хочацца прыгадаць. То былі цудоўныя людзі, якія пагарджалі смерцю. Можа цяпер хто падумае, што тое, што яны рабілі, не было ўжо такім геройскім, але няхай удумаецца лепш, уявіць сабе той грозны час, і ён згодзіцца — гэта быў подзвіг.

...Прыцемкам з Сяргеем Пашкевічам мы вярталіся з Канючыц. Там здабылі дзве бомбы і завіталі да дзядзькі Антося Бельскага, майго земляка, які жыў пры абочцкай дарозе, непадалёк ад Мінска, і працаваў дарожным рамонтнікам. Загналі фурманку на невялікі шалёўчаты дворык, зачынілі вароты і пайшлі ў хату. Гаспадар сустрэў нас добра, хоць крыху і разгубіўся, убачыўшы нечаканых гасцей, запрасіў павячэраць.

Абагрэўшыся, мы сабраліся выходзіць. У мяне, як заўсёды, аўтамат на пагатове. За мною ідзе Пашкевіч. Толькі я левай рукою ўзяўся за клямку, як дзверы самі расчыніліся, і ў святле ліхтарыка я заўважыў маўзер, настаўлены на мяне. Увайшлі двое ў нямецкай вайсковай вопратцы, моўчкі наставіўшы зброю на нас. Маўчым і мы, збітыя спанталыку. Прайшла нейкая секунда, але думка працавала з ліхаманкавай хуткасцю.

— Вы хто такія? — раптам крыкнуў я, наставіўшы проста ў грудзі свой аўтамат незнаёмцу. — Немцы?

Маўчанне. Я заўважыў, што яны як бы разгубіліся, відаць, не чакалі сутыкнуцца так неспадзявана з узброенымі людзьмі. Не марудзячы, я зноў пытаю:

— Хто ж вы? Дабравольцы? — і прапанаваў прайсці ў пакой, а сам адразу ж са словамі «здаць зброю», выхапіў у першага з рук маўзер.

Тое ж зрабіў Сяргей з другім. Незнаёмцы загаварылі. Значыць свае, рускія! Пераканаўшыся, што перад імі партызаны, кінуліся да нас. Адзін з іх ужо цалаваўся з Сяргеем, а другі памкнуўся да мяне.

— Чакайце, — спыніў я гэтага. — Яшчэ паспеем. Лепш адкажыце, вы адны?

— Не. Нас сямёра, — ніяк не маглі супакоіцца незнаёмцы. — Мы чакалі партызан...

— А дзе ж астатнія?

— Ляжаць у канаве.

Адчуўшы, што хлопцы шчыра расчулены, мы рашылі забраць іх з сабою ў атрад. Заставалася паклікаць астатніх. Я выйшаў на двор. Сяргей застаўся з другім у хаце. І раптам чую: у хаце стрэл! «Ну, думаю, застрэліў гэты гад Сяргея», — і тузануў дзверы колькі было сілы. Пасярод хаты стаіць Сяргей з новым таварышам і рагоча. Ён хацеў разрадзіць маўзер, але не паспеў, і адбыўся нечаканы стрэл.

А тыя хлопцы, што чакалі нас на шасэ ў канаве, пачуўшы стрэл, спалохаліся і пабеглі, куды вочы глядзяць. Яны падумалі, што іх таварышаў пастралялі.

Нашы новыя таварышы — вясковыя хлопцы Яўген і Лёня з-пад Клінцоў. Іх немцы мабілізавалі для работы на складзе па сартыроўцы трафейнага (нашага) узбраення. Яны расказалі, што там многія шукаюць выпадку вырвацца з палону і далучыцца да партызан. Нават пакінулі аднаму надзейнаму чалавеку ў горадзе, шаўцу на Сонечнай вуліцы, пароль: «Боты сшыты. Шыць не трэба».

У атрадзе пра ўсё гэта мы расказалі камандаванню. Усе абрадаваліся: гэта ж такі выпадак прыдбаць патроны. Нам яны патрэбны, як паветра.

— Хто ж паедзе? — спытаў камандзір і паглядзеў на мяне, скупа ўсміхнуўся. — Можа ты, Федзя, па старой звычцы? У цябе ж там вялікае знаёмства...

— Паеду, — згадзіўся я. Карцела здабыць патронаў і вельмі шкада было тых хлопцаў, хацелася дапамагчы ім вырвацца на волю.

Мне зрабілі пашпарт на імя Мікалая Саўчанкі, селяніна з вёскі Залессе Пярэжырскага сельсавета, які нібы накіроўваўся ў Мінск

для продажу хлеба. З сабою набраў грошай — акупацыйных марак і, развітаўшыся з хлопцамі, рушыў у дарогу.

Зайшоў да сваяка Ігнася Камінскага, які жыў на Чэрвенскім тракце і ў якога часта збіраліся падпольшчыкі. Пераначаваўшы, пайшоў шукаць таго шаўца. Дзядзька Ігнась даў мне нейкае рыззё, якое я напхаў у кошык, — моў, нясу ў рамонт. Заходжу ў дом. Сапраўды, у мыцельніку на кругляку з шавецкім начыннем схіліўся пасівелы чалавек у акулярах. Нешта буркнуў у адказ на маё прывітанне і ўрупіўся ў свой занятак. У другой палове хаты — двое ў нямецкіх шынялях і шапках, відаць афіцэры, і адзін у цывільным. Пагаварыўшы з шаўцом пра свае заказы, яны хутка пайшлі.

— Вам што? — узняў стомленыя вочы шавец, трымаючы воддаль у левай руцэ патрэсканыя акуляры.

— Боты сшыты. Шыць не трэба! — цвёрда і з хваляваннем прагаварыў я.

Стары ўпіўся ў мяне калючымі вачамі, у яго руках задрыжалі акуляры, але ўвогуле заставаўся такі ж спакойны, як і раней, толькі неяк пасуровеў, насцярожыўся. Так было нейкі момант, а потым чалавек хутка, праворна крутнуўся на месцы, яшчэ раз працяў маю шчуплую постаць вачамі і спытаў:

— А вы адкуль?

Я назваў хлопцаў, расказаў, што двое з іх ужо ў нас і я прышоў цяпер да іх на перагаворы. Стары падхапіўся і пачаў завіхацца ля буфета, сабіраючы на стол.

— Мне трэба стрэцца з Міхаілам Іпалітавым, — звярнуўся я зноў да старога.

— Добра. Пад час абеду зробім...

Шавец запрасіў мяне да стала. Выпіў сам чарачку. Але ад гэтага не раздобрыўся, не стаў больш гаваркі. Больш маўчаў, насцярожана пазіраючы на мяне.

З-за перагародкі выглянула кучаравая дзявочая галоўка. Пырснула цяплом сініх вачэй і знікла. У другі раз зіркнула і баязліва ўсміхнулася. Я перахапіў яе позірк.... Потым яна выйшла. Мы пазнаёміліся. Жэня — так звалі гэтую дзяўчыну — паказала мне свае кніжкі. Мы гаварылі пра нейкія дробязі. Потым шавец выправадзіў дачку некуды па справах.

Прышоў Міхаіл у форме нямецкага салдата. Ён прысадзісты, на моцных крываватых нагах, хлопец-расіец, з вясёлым адкрытым поглядам цемнаватых вачэй, моцна пацiснуў мне руку, назваў сябе, але трымаўся насцярожана.

— Я — партызан, — гледзячы ў вочы Міхаілу, сказаў я і чамусьці паклаў перад сабою на стале пісталет, а побач пачак грошай. — Што ты выбераш?

— Ні тое, ні другое, — спакойна адказаў Міхаіл. — А калі табе што трэба, можам згаварыцца...

Міхаіл, як я даведаўся потым, толькі на год быў старэйшы за мяне, але выглядаў сур'ёзна і стала. Мне запомніўся назаўсёды спакой і ўнутраная душэўная развага гэтага чалавека. Такога ніякае гора, па-мойму, не магло зламаць.

Загаварыў пра тое, што перш. чым ісці ў атрад, трэба дапамагчы нам і падкрэсліў, што нам патрэбны патроны, гранаты, міны, — адным словам, зброя.

— Асабліва патрэбны патроны для аўтаматаў. Шмат патронаў!..

— Добра, — згадзіўся Міхаіл. — Можна і сёння прынесці. Штук пяцьсот.

Маёй радасці не было краю! Міхаіл паабяцаў прынесці і некалькі гранат. Развітваючыся, мы дамовіліся: усё, што збярэ ён і



яго сябры, зносіць на кватэру да шаўца — дздзькі Чыкілеўскага.

— А як жа ўсё гэта вы пераправіце? — спытаў у першы ж вечар Міхаіл, выкладваючы патроны і тры нашы «эфкі» з запаламі.

— Вывезем! Не тое што патроны, гармату вывезем. У нас сіл хопіць.

Мы разам павячэралі. З намі цяпер прысела і шаўцова дачка, але пакуль яна не здагадвалася, хто мы такія. На другі дзень я прышоў за набыткам. Патроны ссыпаў у валенкі, а гранаты прыхаваў у кажусе, за покрыўкай, якою была абшыта мая апранаха.

Іду па вуліцы. Раптам з-за павароткі выйшлі два немцы і пакрочылі за мной. А тут патроны пад падэшвамі пякуць, як агнём. Немцы загаварылі між сабою, а мне думаецца — зараз схопяць за каўнер.

Дарога ад шаўцовага дома да дзядзькі Камінскага ладная, і мне так і давялося дыбаць пад аховай гэтых немцаў. Пераўняўшыся са сваім домам, я пакрочыў далей, як бы мне і зусім не трэба было туды. Але бачу: немцы павярнулі ў завулак, у ваенны гарадок, і я з палёгкай уздыхнуў.

— Ну, усё ў парадку? — спытала мая сястра, якая тады яшчэ жыла ў дзядзькі і дапамагала нам.

— У парадку!

Некалькі дзён хадзіў я да шаўца на Сонечную вуліцу, прыносіў патроны, а сястра Волька хавала іх. У нас хутка быў цэлы арсенал. Начаваў у другога свайго дзядзькі Аляксея Пракопавіча Бачылы, які жыў непадалёк. Ён быў з намі заадно і ўсё падбіваў мяне, каб дапамог яму забіць аднаго паліцая, які ўсім суседзям уеўся ў косці. З паліцаем важдацца не выпадала, але міну-маламагнітку я яму даў. Яе ён з ахвотай падклаў пад машыну ў нямецкім гаражы.

У мяне было яшчэ адно заданне — раздабыць хлопцам махоркі. За парадай зноў жа звярнуўся да таго ж дзядзькі Аляксея. Махорку тады можна было купіць хіба толькі ў немцаў. Ды і не толькі махорку. У немцаў можна было купіць усё, нават яго ж аўтамат ці каску, абы капейку добрую хто даў.

Дзядзька Аляксей, выслухаўшы мяне, сказаў:

— Я прывяду немцаў, скажу, што ты — камерсант, тытунь скупляеш...

Праўда, сказаўшы гэтак, дзядзька паморшчыўся, акінуў крытычным позіркам маю несамавітую постаць для такой важнай ролі, але ўсміхнуўся сам сабе ў вусы і дадаў:

— Надзенеш мой гарнітур і сарочку, ды гальштук не забудзь!..

К вечару я падрыхтаваўся. Праўда, дзядзькаў гарнітур сядзеў на мне мяшком, рукавы сарочкі былі доўгія, але я хохрыўся, выпучваў грудзі, як сапраўдны камерсант. Але як толькі на парозе паявіўся таўставаты немец у афіцэрскім цёмным шынялі, мяне ахапіла нейкая бязглуздая злосць: рука міжволі пацягнулася да кішэні, дзе ляжаў пісталет.

У хату ўвайшло яшчэ двое, адзін у цывільнай вопратцы, другі — таксама ў шынялі. Павіталіся. Дзядзька пазнаёміў іх са мной. Селі за стол. Немцы прыцягнулі каўбасу, сала і нейкі выключна дрэнны нямецкі ром. Дзядзька сказаў ім, што за ўсё заплаціць яго пляменнік — камерсант.

Пачалася гаворка пра тытунь. Я неўзаметкі пераклаў з кішэні ў кішэнь грошы: адзін пачак, другі... У таўставатага немца заскакалі чорцікі ў вачах. Гэта быў пажылы немец у чыне капітана войск «ТОД», гаварыў крыху папольску. Немец спытаў, ці выгад-

на мне гандляваць тытунём, дзе я яго збываю...

Я нешта гаварыў, зрабіўшы важную міну, а больш за ўсё запрашаў іх частавацца:

— Выпіце, панове. У мяне грошай хопіць, — і памахаў над сталом пачкам хрусткіх марак.

Капітан пачаў скардзіцца на тое, што вайна зацягнулася, што партызаны не даюць жыцця.

— Гэта ж смеху варта, — узнімаў ён угару вялікі палец і грэбліва крывіў рот, — цэлы тыдзень я ехаў з Оршы да Мінска, праз кожныя 15—20 кіламетраў стаялі: або наперадзе рэйкі разбураны, або паравоз на міну наскокваў. Вагоны ляцелі пад адхон. Мне яшчэ пашанцавала — ехаў у заднім вагоне. А іншыя адправіліся ў рай!..

— Так, так, — згаджаўся са сваім начальнікам другі немец, спалохана вырачыўшы вочы. — Гэтыя партызаны знаходзяць нас усюды, нават там, дзе іх не чакаеш. Кепска!..

У мяне ўспыхвала жаданне крыкнуць: «Дурні вы! Ніякі я не камерсант, не тытунёвы гандляр — я і ёсць самы сапраўдны партызан». Хацелася пусціць іх усіх у паветра з іх смярдзючым ромам. Але — дысцыпліна... Хлопцы ж там, у буданах і зямлянках, чакаюць патронаў, кураць рознае бадылле, замест махоркі. І я папраўляю салідна гальштук, адлічваю хрусткія маркі, для прылікy таргуюся з капітанам.

Пражыў я ў Мінску чатыры дні. Сэрца балела, гледзячы, як грымелі паязды на станцыі Козырава (у гэтым раёне была мая кватэра). Вось дзе добра было б закласці магнітку! Але дзядзька Ігнась просіць: не чапайся, немцы ў ярасці потым спаляць горад, паб'юць людзей.

Нядоўга давялося быць «камерсантам», спаць на цёплай і мяккай пасцелі. Кароткім было наша спатканне з сінявокай дачкой шаўца, з якой шчыра пасябраваў. На двары ў дзядзькі Ігнася стаялі ўжо запрэжаныя сані, пакрытыя знаёмай пярэстай посцілкай. Мой сябар і сваяк Мікола важна паходжваў у доўгім бацькавым кажусе з пугаўём у руцэ. Мы спакавалі на падвойным насціле саней мой скарб — дзве тысячы аўтаматных патронаў, пяць гранат і сто пачак тытуню і, развітаўшыся, крануліся ў дарогу — насустрач завірусе, сіберным ветрам.

Больш у Мінск мне ездзіць не давялося. Стала вельмі цяжка, нават з нашымі «аўсвайсамі», якія вельмі ўдала падрабляў разведчык Мікола Баброўскі. Цяпер ужо на гэтую цяжкую ролю дала згоду мая маці. Ёй было лягчэй пранікнуць у горад. Некалькі разоў вазіла яна ў Мінск сала, мёд, а адтуль прывозіла нам сярнічкі, тытунь і соль. Шчаслівa давезла яна і дзве скрынкі патронаў, якія ёй перадалі нашы «падшэфнікі».

Між іншым, Міхаіл Іпалітаў з хлопцамі, што працавалі на трафейным складзе, у хуткім часе прышоў да нас у партызаны. Яны былі добрымі ваякамі.

Мяне зноў чакала любімая сяброўка — торба з толам... Вярнуўшыся з Мінска, я запытаў Рыгора Мысніка (гэта быў наш новы камбрыг), ці хутка пойдзем «на жалезку»? Ён адказаў:

— Давай, братко, дзейнічай. Выбірай сабе хлопцаў, каго хочаш...

## Перад сустрэчай

Пад магутным націскам Савецкай Арміі гітлераўцы адыходзілі на захад. Ужо былі ачышчаны ад захопнікаў усходнія раёны Віцебскай вобласці, вызвалена значная частка Магілёўшчыны і Гомельшчыны. Савецкія войскі рыхтаваліся да новага наступлення — за вызваленне ўсёй беларускай зямлі. За Дняпром стаялі нашы артылерыйскія і бранетанкавыя сілы, чакаючы сігналу, каб пайсці ў наступ на Бабруйск і Мінск.



Адчуваючы блізкасць сваёй пагібелі, гітлераўцы з шалёнай нянавісцю знішчалі гарады і сёлы, кідалі свае рэгулярныя войскі, карныя экспедыцыі і атрады на партызан, мініравалі подступы да чыгункі, праз кожныя 300—400 метраў ставілі засады.

Падрыўнікі ж не спыняліся ні перад чым. На чыгунку ішлі групы, атрады, брыгады. Разгаралася сапраўдная рэйкавая вайна. Выбухі грымелі на ўсіх дарогах.

Наш дыверсійны ўзвод па-ранейшаму дзейнічаў на ўчастку Калядзічы—Рудзенск—Пухавічы і Мінск — Негарэлае, на дарозе, па якой напрадвесні 1944 года забяспечвалася ўся цэнтральная групоўка фашысцкіх войск.

Неяк з падрыўнікамі нашага атрада імя Лазо сустрэўся сакратар падпольнага абкома камсамола Анатоль Дзенісевіч. Гутарачы з намі, Дзенісевіч сказаў:

— Хутка, Федзя, вайна скончыцца. Цябе і тваіх хлапцоў прадставілі да ўрадавых узнагарод. Вы добра паваявалі. І цяпер, думаю, будзеце не горш...

— Канешне, Анатоль Ульянавіч, — загаварылі ў адзін голас падрыўнікі. — Пойдзем на чыгунку. Падсыплем фрыцам аганьку!

Наша разведка данесла, што ўчастак чыгункі за Міханавічамі, супроць вёскі Забалоцце, не замініраваны і не бачна было, каб блізка знаходзілася варожая засада. Мы рашылі іменна тут падсцерагчы варожы эшалон.

У Забалоцці сіратліва стаялі абгарэлыя дрэвы ды цёмныя коміны на пустых папялішчах. Мінуўшы пустую вуліцу, мы збочылі ўлева. Перад намі паказаўся высокі, жвірысты насып чыгункі. На ім тыя запаветныя рэйкі, куды належыць нам дабрацца. Міны цяпер у нас добрыя — з электразапаламі. Падкапаеш кінжалам ці сапёрнай рыдлёвачкай зямлю, падкладзеш яе пад рэйкі — і парадак. Чакай выбуху. Затое цяпер падпаўзці на насып — справа цяжкая. З абодвух бакоў — вышкі, на якіх з кулямётамі дзяжураць немцы і паліцаі. Праз кожныя дваццаць мінут насустрач адзін аднаму ідуць патрулі.

Нас чацвёра. Я падкраўся да дарогі, агледзеўся і ўскочыў на насып, прылёг. Са мной побач Валодзя Карпіловіч. Па баках — Фёдар Клімовіч, які замяніў свайго старэйшага паранёнага брата, і Мікола. Яны прыкрываюць нас. Хутка праверыў міну, паставіў як трэба. І пачалі адыходзіць уздоўж каляі, па сцежцы. Ля пераезду збочылі, узяўшы кірунак зноў на Забалоцце. Раптам чую крык:

— Пароль!

Вядома, паролю я не ведаў, і адразу пляснуўся вобземлю. Хлопцы былі ззаду і, пачуўшы гэта, кінуліся з усіх ног у розныя бакі. Грымнулі стрэлы. Успыхнула ракета. Не зважаючы ні на што, я, прыгнуўшыся, пабег да тых абгарэлых комінаў. Непадалёку, збоч вуліцы, стаяў высокі падмурак спаленай хаты, да яго цяпер я стараўся дабрацца з усіх сіл. Я папоўз. На шляху мне трапіўся камень, выцяў па ім аўтаматам — трэснула спружына ў дыску. Страляць няма чым. Ёсць у мяне яшчэ наган, але ён у кішэні. Апрача таго, у ім усяго тры патроны, чатыры патроны я аддаў перад гэтым хлопцам.

Паўзучы, адчуў, што левая нага змакрэла, паварушыў ёю — цэлая. Прыпоўз на вуліцу. Стрэлы спыніліся. Кінуўся бегчы, полы шыняля надзімаюцца, як ветразі, і з вышкі зноў заклекатаў кулямёт. Рассыпаліся іскрамі ракеты. Кулі стрыкаюць вакол мяне. Я пачуў яшчэ, як гаўкнуў кулямёт і тырч-

ком паляцеў некуды... Ачуняўшы, адчуў, што страшэнна апякло жывот, крыкнуў:

— Хлопцы, я паранены!

У гэты час над пераездам грымнуў выбух. Зноў пачулася страляніна. Сабраўшыся з сіламі, дапоўз да склепа пры тым падмурку, наводшыбе, зняможана апусціўся на ўчарнелы снег. Страшэнна хацелася піць — я зграбаў брудны снег і кідаў яго жменямі ў рот. Дакрануўся рукою да правай нагі — уся яна была ліпкая, у боце хлюпала кроў. Перад вачамі паплылі жоўтыя, зялёныя кругі. Я страціў прытомнасць.

Праз колькі хвілін расплюшчыў вочы і бачу на мяне паўзе адзін, крыху воддаль другі. Я нарыхтаваў наган, забыўшы пра тое, што ў барабане першыя чатыры адтуліны пустыя. Падпускаю іх бліжэй. Яны перапаўзаюць ужо вуліцу, во, побач са мною, — я націскаю на кручок — няма стрэлу, націскаю другі, трэці раз, — стрэлу не чуваць. Прыставіў наган сабе да вуха. У гэты момант нечая рука хапае наган. Гэта быў Валодзя Карпіловіч, за ім поўз Фёдар Клімовіч.

— Ты паранены, Федзя?

— Паранены.

Валодзя быў самы здаровы з нас, хоць і астатнія не слабцы. Ён абхапіў мяне пад рукі і ўзваліў на плечы. Фёдар узяў мой аўтамат і пабег у другі бок. Адбегшыся, даў чаргу са свайго аўтамата. Немцы накіравалі агонь туды, а Валодзя панёс мяне ў бок цагельнага завода, да кар'ераў, дзе можна схавацца. Магчыма, нас заўважылі, бо і сюды паляцелі трасіруючыя кулі. Адна закранула нагу Міколы Бачылы, які падбег да нас, але мы толькі ў кар'еры спыніліся, разаслалі плашч-палатку.

— Мяне параніла ў жывот, — прагаварыў я. — Пакіньце мяне, хлопцы... — і зноў страціў прытомнасць.

Валодзя абмацаў мяне і, глянуўшы на ногі, сумна сказаў:

— Перабіты.

Тут жа адарваў рукаў ад сарочкі, перавязаў ногі і абкруціў рамянём. Мікола пабег у вёску Дубавое па коней. Хутка мяне таварышы прывезлі ў хату да аднаго селяніна, здабылі чыстыя прасціradлы, зрабілі перавязку і паклалі на фурманку.

Як жа выбрацца адсюль, калі ў кожнай вёсцы лёгка наткнуцца на засаду. А да Азярычына, адкуль пачынаецца партызанская зона, — кіламетраў дванаццаць.

Патухлі зоркі. Радзее змрок вяснонай ночы. Вось-вось пырсне світанне. Колькі ёсць духу хлопцы гоняць коней. Уперадзе на фурманцы — Федзя і Мікола выведваюць дарогу. Праедуць кіламетры два — і назад: шлях свабодны!

У Азярычыне сустрэлі хлопцаў з атрада Сядзякіна. Яны чулі выбух ля Забалоцця. Гэта, між іншым, быў мой апошні, 28-ы падрыў.

— Ваша работа? — запытаў Нехта.

— Наша, — сумна адказаў Валодзя. — Але і немцы нашкодзілі нам...

Убачыўшы, што я паранены, сябры-партызаны кінуліся на дапамогу. Нехта прынёс самагонкі, нехта пабег па доктара. Сабраліся жанчыны, плачуць, войкаюць, а мне зусім не баліць, толькі нейкая лёгкасць незвычайная. Я паціху напяваю:

«У ціхім полі, у полі пад
Рудковым,
Дзе клубіцца па начах туман...»

Падняўся крыху на падушках, якіх мне ў Дубавым наклалі цэлую гару, і зноў страшэнны боль працяў усяго. Усплыў у памяці жудасны твар Пеці-падрыўніка, якому нядаўна ў вёсцы звычайнай



сялянскай пілою рэзалі раструшчаную ступню. Пеця страшэнна, нечалавечым голасам крычаў, а мы яго трымалі ўпяцярых. Тым часам двое рабілі яму ампутацыю па-партызанску. Зімою было гэта, пры вялікім марозе...

А я чамусьці замест таго, каб крычаць, нават спрабую ўсміхнуцца і супакойваю кабет:

— Чаго вы плачаце...

Прывялі нейкую фельчарыцу Лену. Яна раскруціла мне закарэлую нагу, зірнула і зайшлася ад страху. Прыйшлося самому дапамагаць ёй. Потым па дарозе ў атрад сустрэлі яшчэ аднаго фельчара — Ларысу. Яна аказалася больш смелай і зрабіла мне перавязку лепш, прамыла раны.

Паклалі мяне ў брыгадны партызанскі шпіталь. Неўзабаве стала горш — паднялася вельмі высокая тэмпература. Сабраліся ўрачы, зрабілі кансіліум.

— Не выжыве, — сказалі яны амаль што ў адзін голас. — Заражэнне...

За мяне заступілася наша малады ўрач Надзя Меркуль, вызвалася сама лячыць мае раны. Яна сказала, што ў мяне няма ніякага заражэння, а нешта другое. Дзве ночы не адыходзіла ад мяне, кладучы прымочкі. Аказалася, што ў мяне ў дадатак крупознае запаленне лёгкіх.

Надзежда Гаўрылаўна тады была маладая дзяўчына, камсамолка. Перад вайной скончыла медыцынскі інстытут, і лёс ёй наканаваў такую суровую практыку. Колькі параненых яна зберагла і выхадзіла, колькі разоў сама была ў суровых і жорсткіх баях.

Нас ляжала ў шпіталі чалавек дванаццаць, і кожнаму Надзя знаходзіла цёплыя словы, пяшчотную ласку. Не дзіва, што яе ўсе любілі, як родную сястру. Не шкадуючы ні сіл, ні свайго жыцця, даглядалі параненых і ўрачы Палякоў, Анцілоўскі, Касцюк, Леўчанка, Махвіс і іншыя. Разам з намі яны перажылі нечалавечыя жахі ў блакадзе, з баямі прабіваліся праз фашысцкія заслоны.

За Беразіной загрукалі савецкія гарматы... А тут з Пухавіч, з Рудзенска, з Шацка рынулася саракатысячная зграя фашыстаў, зацiснуўшы нас у агнявое кальцо. Выхад быў толькі адзін — за Пціч, у дрыгву.

Пачалася новая і самая жорсткая з усіх, якія давялося перажыць раней, варожая блакада. Партызаны біліся не на жыццё, а на смерць. Дванаццаць дзён трымалі абарону, і самі не раз хадзілі ў атакі.

У адзін з чэрвеньскіх дзён мы атрымалі загад — адыходзіць з баямі ў глыб зоны. Наша брыгада прыкрывала адыходы ад Слуцкага шасэ, атрады Сядзякіна і Героя Савецкага Саюза Мармулёва — з боку Рудзенска і Пухавіч. Немцы кінулі танкі і бронетранспарцёры. Але яны наткнуліся на партызанскія міны. Нашы ўдарылі з гармат і мінамётаў. Віктар Казакоў разгарнуў свой бранявік і ўдарыў па танках — два «тыгры» загарэліся. Наступаючых гітлераўцаў партызаны сустрэлі шквальным агнём. Рабіліся завалы, барыкады з дрэваў...

Мармулёўцы заманілі немцаў у пастку. Адышоўшы ў лес, далі ім перайсці рэчку, а потым ударылі з усіх бакоў. Немцы пакінулі штабную машыну, шмат забітых, зброю і боепрыпасы.

Пяць дзён грымеў бой ля вёсак Ліпнякі і Пясчанка. Немцы кінулі сюды велізарныя сілы, але вымушаны былі кожны раз вяртацца. Атрад сядзякінцаў штурмам авалодаў вёскай Ліпнякі, вытурыў адтуль карнікаў. Яны не паспелі нават забраць параненых.

Нашы параненыя партызаны таксама падрыхтаваліся да сустрэчы з ворагам. Кожны бярог зброю і гранаты, не думаючы пра тое.

што ўжо каторы дзень няма чаго есці. Нас выправілі ў Церабуцкія балоты. Спыніліся сярод багны, на невялічкіх астраўках-купінах.

Нечакана ля мяне паклалі новага чалавека. Гляджу — Міхаіл Ананьін, мой таварыш, з якім я сустрэўся паўтара года назад, яшчэ калі зімавалі ў Рудкове. Гэты ўжо тады сталы чалавек зрабіў на мяне незвычайнае ўражанне сваёй выключнай сардэчнасцю і адкрытым, шырокім характарам. Пра Ананьіна я ведаў, што ён паранены трапіў у палон, уцёк адтуль, захаваўшы свой партыйны білет, і прышоў у партызаны. Па прафесіі журналіст, фотакарэспандэнт, у нас ён быў байцомснайперам.

Стрэўшыся ў такую цяжкую хвіліну з Міхаілам Пятровічам, я незвычайна ўзрадаваўся, хоць радасць была сумная — у яго таксама была паранена нага.

— Ты што, Міша, паранены?

— Так, браток-дарагуша,— сібірскім гаварком сказаў Ананьін і, як звычайна, паляпаў мяне па плячы: — Не застаўся і я ў даўгу — трох улажыў...

Цяпер на гэтым дрыгвяністым, хлюпкім астраўку нас сем чалавек. Ролю доктара выконвае Ваня-санітар, выключнай жывучасці чалавек. Калі б вы паглядзелі на яго, маленькага і хударлявага, то спалохаліся б — у яго ўсё цела пашчапана кулямі і асколкамі. Прабіта галава. Ваня-санітар з палонных чырвонаармейцаў, якія засталіся параненыя ў сорак першым годзе на крывавым полі вайны. Яго выхадзіла адна сардэчная беларуская кабета, і вось Ваня-санітар бегаў вакол нас, ён нам у тысячу разоў даражэй за самага выдатнага доктара.

— Ваня, вады!..

— Ваня, хоць кавалачак цукру!

Ваня-санітар, як муравей, поркаецца, бегае ад аднаго да другога, суцяшае, шэптам расказвае смешныя гісторыі. А вакол — бясконцыя грымоты, надрыўна скуголяць асколкі, захліпаюцца кулямёты. Балотная іржавая вада цвякчыць пад намі. Асака рэжа рукі...

— Ваня, махорачкі б...

І Ваня-санітар, дачакаўшыся ночы, ідзе на хутар, заняты немцамі, забіраецца на гарышча да якога-небудзь дзядка і прыносіць вязку самасаду.

На шосты дзень немцы падышлі зусім блізка. Вось яны пруць зялёна-шэрай лавінай на наш востраў, зарослы густым лазняком.

— Падрыхтавацца! — загадвае Міша Ананьін.— Будзем трымаць абарону.

Я праверыў наган: у ім сем патронаў. Есць яшчэ граната, але Ваня-санітар забараніў нам падаваць голас. Ён спакойна сказаў:

— Не хвалюйцеся, хлопцы, я вас замаскірую ў кустах,— і першага Мішу зацягнуў у вялізны лазовы куст.

Я падхапіўся і, забыўшыся на раненне, пабег далей у лазняк. Ступіў некалькі крокаў і пляснуўся ў асаку, як мёртвы. Зноў жа наш клапатлівы Ваня падхапіў мяне, перанёс на суседні астравок. Тут сустрэлі параненага з суседняга атрада. Ён сказаў:

— Федзя, недалёчка ляжыць твой таварыш Вася Баркун.

Я прашу свайго санітара:

— Ваня, цягні.

Знайшоўшы кавалак дроту, Ваня даў мне адзін канец у рукі, а за другі ўзяўся сам, і паехалі па асацэ. На трэцім астраўку сустрэлі Васю Баркуна. Ляжаў ён белы, як папера, рана на назе закарэла. Ваня-санітар адразу сумку з плячэй і ўзяўся за справу: зрабіў перавязку, даў яму глыток вады з біклажкі.



Васіль вельмі ўзрадаваўся, але як толькі яго радасць крыху ўлеглася, адразу папярэдзіў:

— Побач шнырáць немцы.

Дамовіліся, што як толькі нас заўважаць, страляем да апошняга патрона і апошняй гранатай узрываем сябе. Увесь дзень ляжым у балотнай вадзе, сяк-так замаскаваўшыся. Толькі ўначы выпаўзаем на купіны, выкручваем адзежыну і засынаем. У Вані-санітара даўно скончыліся сухары, засталося, можа, у біклажцы некалькі глыткоў чыстай вады — гэтым і трымаемся. Пайшоў шосты дзень, як мы тут «лечымся». І раптам пад вечар чуем галасы:

— Федзя-я-я!..

— Вася-я-я!..

Але мы маўчым. Часам і карнікі вось гэтак жа клікалі, а потым нападалі знянацку. Неўзабаве зноў:

— Бачыла-а-а!..

Гэта шукаюць нас — мой дзядзька Уладзімір Іванавіч і нашы хлопцы. Пачалося наступленне нашых войск, і немцы спешна вымушаны былі зняць карнікаў на падмацаванне.

Нас прывезлі ў атрад імя Калініна, той самы атрад, з якога вырасла наша брыгада. У шпіталі за намі даглядалі ўрачы Андрэй Касцюк і Мікалай Махвіс, медсястра Вера Раманоўская — сардэчныя, шчырыя людзі. Мяне наведалі маці і бацька...

Тут дачуўся пра трагічны лёс свайго друга-аднавяскоўца паплечніка па падполлю Лёні Бельскага, які пад той час быў памочнікам камісара нашай брыгады па камсамолу. Пры прарыве Лёні даручылі з групай партызан прыкрываць адыход. Калі стала вельмі цяжка, ён загадаў сваім хлопцам адысці, застаўшыся сам прыкрываць іх. Паранены ў абедзве нагі, ён замаскаваўся ў балоце і працягваў весці няроўны бой з ворагам. Немцы заўважылі, што ён адзін, і акружылі з усіх бакоў:

— Рус, здавайся!

З крыкам «Партызаны не здаюцца!» Лёня даў чаргу з аўтамата. Некалькі немцаў упалі мёртвымі. Іншыя, як шалёныя, кінуліся на яго. Лёня адбіваўся да апошняга патрона, потым шпурнуў гранаты, апошняй — узарваў сябе разам з немцамі.

Тады загінула шмат нашых баявых сяброў. Яны аддалі свае маладыя жыцці за тое, каб будучыя пакаленні не ведалі войнаў, каб заўсёды квітнела ў шчасці наша маці-Радзіма.

Вечная ім памяць і слава!

... Неўзабаве прышоў векапомны дзень сустрэчы з нашай Савецкай гераічнай арміяй. Радасныя крыкі прывітання. Моцныя мужчынскія абдымкі... Ніколі не згасне ў памяці тая хвіліна, калі на шашы, ля вёскі Парэчча, мы сустрэлі пракураных порахам і дымам савецкіх артылерыстаў. Вусач-старшына павіншаваў нас, партызан, якія на фурманках выязджалі з лесу, з перамогай, з шчаслівай сустрэчай. Пачаставаў салдацкай махоркай. Здаецца, ніколі не зацягваліся мы такім салодкім дымам..

Я гляджу на зусім маладога салдата ў вялікаватай пілотцы, які з важным выглядам усеўся на ствале гарматы, і недарэчна пытаю:

— Ну што, не страшна ваяваць?

А сам падумаў: які ж я дзівак, ці даўно сам быў такі ж...

* * *

Даўно ўсё гэта было. На лясных прасторах Міншчыны, дзе грымелі выбухі і палалі партызанскія агні, буйным цветам квітнеюць палеткі, нівы. Ужо даўно збуцвелі і ўраслі ў зямлю нашы буданы пад Рудко-

вым і Парэччам, замуравелі партызанскія сцежкі. Раз'ехаліся па ўсіх кутках неабсяжнай савецкай зямлі людзі, з якімі нас звяла некалі маладымі вайна. Гады бяруць сваё, нават у мяне ўжо, тады зусім бязвусага хлопца, ёсць дачка і сын-піянер, якія часта даймаюць роспытамі пра тое, як мы білі фашыстаў. Шмат якія дэталі і падзеі сціраюцца з памяці, забываюцца. Няхай мяне прабачаць тыя з нашых партызан, хто не прачытае свайго прозвішча ў гэтых нататках, — яны такія ж удзельнікі і зрабілі не менш, чым тыя, з кім я быў побач і чые імёны захавала памяць.

Я не браў на сябе смеласць паказаць усе баявыя справы і подзвігі партызан Міншчыны, не расказаў і сотай долі таго, што зрабілі падрыўнікі нашай брыгады, многае ўпусціў з таго, што зрабілі хлопцы з нашага атрада. Прыгадаў тое, што перажыў і бачыў сваімі вачамі, што рабілі разам.

Літаратурны запіс
С. КУХАРАВА.

НОВЫЯ ІМЁНЫ

# „НАША ГАЛАЧКА"

У Мінску на воінскіх могілках у засені бэзу стаіць прыгожы гранітны помнік. На ім высечаны надпіс:

«Галіна Захараўна Магілеўчык. 18-гадовая партызанка гераічна загінула за родную Беларусь 29 верасня 1943 года».

Кароткае, але прыгожае, як песня, было жыццё гэтай дзяўчынкі-патрыёткі.

Галя нарадзілася ў вёсцы Галоўчын, на Бярэзіншчыне, у сям'і ўрача. Яе бацькі пераехалі на працу ў Мінск, і Галя вучылася ў горадзе спачатку ў 13-й школе, а потым у політэхнічным тэхнікуме. Тут уступіла ў камсамол. Заўсёды ціхая і спакойная, Галя была шчырым таварышам, актыўным грамадскім працаўніком.

Калі пачалася вайна, Галі настаў шаснаццаты год. Але камсамолка сур'ёзна задумалася, як ёй быць, дзе яе месца ў такі цяжкі для Радзімы час.

Разам з бацькамі Галя ішла на ўсход і ў думках складала планы барацьбы з фашыстамі, якія па-зверску напалі на савецкую краіну. У Галоўчыне сям'я Магілеўчыкаў зрабіла кароткі прыпынак, і Галя, калі бацькі зноў сабраліся ісці далей, у савецкі тыл, рашуча заявіла ім:

— Далей не пайду. Я камсамолка і маё месца тут, у агні барацьбы з фашыстамі!..

Ні ўгаворы, ні слёзы маці не дапамаглі. Галя не перамяніла свайго рашэння — засталася ў вёсцы, у цёткі. У яе выспела цвёрдае рашэнне: далучыцца да партызан і актыўна змагацца за вызваленне роднай беларускай зямлі ад фашысцкай погані.

З першых дзён жыцця ў акупіраванай ворагам вёсцы Галя ўпэўнілася, што паступіла вельмі правільна. З болем у сэрцы перажыла яна смерць сваіх вясковых сябровак — Дзіны, Фрыды і Хаі, якіх



фашысты па-зверску расстралялі разам з іншымі ні чым не вінаватымі мірнымі людзьмі ў Галоўчыне.

«Змагацца! Бязлітасна змагацца, пакуль хоць адзін гітлеравец будзе на нашай зямлі», — гаварыла сама сабе Галя і накіроўвалася на сустрэчы з людзьмі, якія рыхтаваліся ў рашучы бой з акупантамі.

Неўзабаве Галіне ўдаецца наладзіць сувязь з падпольшчыкамі горада Магілёва. Пачалася небяспечная і цяжкая праца сувязной падпольшчыцы: здабыча агентурных звестак, зброі партызанам.

Аднойчы Галя несла чамаданчык з патронамі партызанам і наткнулася на варожую засаду. Кінулася ўцякаць. Паліцаі адкрылі па ёй агонь. Галя бегла, не азіраючыся. Варожая куля параніла яе ў грудзі, але, і параненая, дзяўчына не спынілася.

У доме, дзе жыла Галя, якраз стаялі тады паліцэйскія. З іх ніхто не заўважаў, што побач з імі жыве партызанская сувязная. Не толькі паліцаі, нават цётка не ведала, што Галя паранена — яна ўпотай рабіла сабе перавязкі, цярпліва пераносіла боль.

З чэрвеня 1943 года Галя Магілеўчык — партызанская медыцынская сястра брыгады імя Варашылава.

«Наша Галачка», «сястрычка» з любоўю называлі яе партызаны. Яна разам з усімі ішла ў бой, удзельнічала ў засадах, даглядала параненых і хворых партызан. Ласкавым словам, цёплым позіркам яна ўмела супакоіць чалавека. Усе ведалі, калі ў лазарэце цішыня, значыць дзяжурная Галя.

Верасень 1943 года. На партызан брыгады імя Варашылава, якая дзейнічала ў Мядзельскіх лясах, гітлераўцы кінулі тры дывізіі карнікаў. Разгарэліся крывапралітныя баі. Партызаны рашылі



Галя Магілеўчык.

ўсімі сіламі прабіцца праз варожае кальцо.

На астраўку, які з усіх бакоў быў акружаны балотамі, наладзілі партызаны шпіталь, куды збіралі параненых.

Аднаго параненага партызана выводзіла з бою Галя Магілеўчык. Варожая куля параніла ў нагу і яе, але медсястра прадаўжала ісці, не кінула і параненага. Фашысты пачалі страляць з кулямётаў, і ў няроўным баі загінула Галя — медыцынская сястра і яе баявы таварыш.

Партызаны выйшлі з блакады. Толькі праз месяц знайшлі яны нежывую Галю і таго партызана, якога яна выносіла з бою.

Тыя, хто ведаў камсамолку Галю Магілеўчык у маленстве і ваяваў з ёю, ніколі не забудуць яе — слаўную дзяўчыну, адважную беларускую партызанку.

В. РАМАНОЎСКАЯ.

# Разгорнем карту роднага краю

*ДА НАШЫХ ЧЫТАЧОЎ*

*Рэдакцыя часопіса «Маладосць» з гэтага нумара адкрывае новы раздзел «Разгорнем карту роднага краю». У ім мы будзем друкаваць заметкі, у якіх расказваецца аб гісторыі культуры і дзяржаўнасці беларускага народа. Аб усіх фактах, якія, на думку аўтараў, уяўляюць шырокую цікавасць, трэба паведамляць коратка і абавязкова ўказваць дакладныя назвы геаграфічных пунктаў, з якімі звязана тая ці іншая падзея.*

*Рэдакцыя лічыць, што праз некаторы час з сабраных такім чынам фактаў можна будзе скласці своеасаблівую карту нашай рэспублікі, з прыкладаннем да яе даведачнай кнігі. Шырокае кола аўтараў — ад школьнікаў да вядомых вучоных, забяспечыць поспех пачатай справе. Мы заклікаем нашых чытачоў не толькі самім уключыцца ў гэтую цікавую калектыўную работу, але і прыцягнуць да яе тых, хто пакуль што мала знаёмы з нашым часопісам.*

*Чакаем вашых паведамленняў, таварышы чытачы!*




## Першы Усебеларускі з'езд Саветаў

Савецкая ўлада ў Беларусі была ўстаноўлена неўзабаве пасля перамогі Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі ў Петраградзе. Да канца лістапада 1917 года Савецкая ўлада была на ўсёй тэрыторыі ўсходніх абласцей Беларусі.

Аднак у 1918 годзе нямецкія войскі акупіравалі тэрыторыю нашай Рэспублікі, прасунуўшыся да лініі Орша — Магілёў — Гомель.

Урад Беларусі знаходзіўся ў Смаленску.

На акупіраванай немцамі тэрыторыі Беларусі разгарнуўся партызанскі рух. Партызаны і Чырвоная Армія павялі баі за вызваленне маладой Савецкай рэспублікі. У студзені 1919 года ўся Беларусь канчаткова стала свабоднай. 5-га студзеня 1919 года Часовы Рэвалюцыйны рабоча-сялянскі ўрад вярнуўся ў горад Мінск, які стаў з гэтага часу сталіцай рэспублікі.

Пад кіраўніцтвам Цэнтральнага Бюро Камуністычнай партыі Беларусі і Часовага рабоча-сялянскага ўрада рабочыя і працоўныя сяляне Беларусі рыхтаваліся да першага з'езда Саветаў рэспублікі. Перад гэтым адбыліся валасныя, павятовыя і губернскія з'езды Саветаў.

Першы з'езд Саветаў рабочых, сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў Беларусі адкрыўся ў Мінску ў Дзяржаўным тэатры 1-га лютага 1919 года у 7 гадзін вечара.





У якасці прадстаўніка ЦК РКП(б) і Савецкага ўрада на з'езд прыбыў старшыня ВЦВК Якаў Міхайлавіч Свярдлоў.

Вітаючы ў асобе дэлегатаў з'езда ўсіх працоўных Беларусі, Я. М. Свярдлоў даў высокую ацэнку гераізму і мужнасці беларускага народа ў барацьбе за Савецкую ўладу і запэўніў, што Савецкі ўрад дапаможа Беларусі залячыць яе раны.

«Вам,— сказаў Свярдлоў,— больш чым каму іншаму, давялося перанесці цяжкасці ад чужаземнай акупацыі. Але і пад пятой імперыялізма вы не пакінулі сваёй работы над падрыхтоўкай Савецкага ладу ў Беларусі. Мы дапаможам вам сваім вопытам, набытым за мінулы год».

3-га лютага 1919 года Першы Ўсебеларускі з'езд Саветаў адзінагалосна прыняў дэкларацыю, у якой былі выкладзены асноўныя прынцыпы дзяржаўнасці Беларусі. Беларусь абвяшчалася Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікай, мэтай якой павінна быць «канчатковае знішчэнне панавання капітала і ўстанаўленне сацыялістычнага ладу...»

У дэкларацыі было запісана:

«Пачаць перагаворы з Расійскай Савецкай Рэспублікай па ўстанаўленню федэратыўнай сувязі паміж ёю і Савецкай Беларуссю. З'езд Саветаў звярнуўся да ўсіх братніх савецкіх сацыялістычных рэспублік з прапановай устанавіць федэратыўную сувязь з РСФСР.

Я. М. Свярдлоў абвясціў пастанову Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта аб прызнанні незалежнасці Беларускай ССР. ВЦВК у гэтай пастанове вітаў працоўных Беларусі з тым, што... «толькі цяпер на глебе прызнання поўнай свабоды самавызначэння і пераходу ўлады ў рукі працоўнага класа, ствараецца дабраахвотны і непарушны саюз працоўных усіх нацый, насяляючых тэрыторыю былой Расійскай імперыі».

Паўнамоцныя прадстаўнікі народа вырашылі пытанне аб зліцці БССР з Літоўскай ССР, што выклікалася неабходнасцю ўмацавання абароназдольнасці краіны, агульнасцю гістарычных інтарэсаў гэтых рэспублік.

У поўнай згодзе з прапановай Літоўскага Савецкага ўрада з'езд пастанавіў:

«Прызнаць неабходным неадкладнае зліццё Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі з Літоўскай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікай у адзіную Беларуска-Літоўскую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку». Аб'яднаная рэспубліка праіснавала да акупацыі тэрыторыі Беларусі белапалякамі.

4-га лютага 1919 года была зацверджана Канстытуцыя БССР, узорам і асновай для якой з'явілася Канстытуцыя РСФСР.

У асноўным законе былі запісаны: заваёвы ўлады рабочым класам і беднейшым сялянствам, кіруючая роля рабочага класа, устанаўленне сапраўднага раўнапраўя раней прыгнечаных класаў.

Першы з'езд Саветаў даў рашучы адпор беларускім нацыяналістам, якія імкнуліся правесці сваіх прадстаўнікоў у склад урада з мэтай дэзарганізацыі яго работы.

Закрываючы з'езд, старшынствуючы А. Ф. Мяснікоў у кароткай прамове падвёў вынікі работы. Ён адзначыў велізарнае значэнне рашэнняў з'езда для ўмацавання савецкага ладу і для далейшага развіцця гаспадаркі і культуры Беларусі. Ён выказаў упэўненасць, што ўсе рашэнні з'езда будуць ператвораны ў жывую справу, накіраваную на ўмацаванне дыктатуры пралетарыята.

У знак гэтых гістарычных падзей на будынку Беларускага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, дзе адбыўся з'езд, устаноўлена мэмарыяльная дошка.

**Л. МІХАЙЛОЎСКІ.**

## Выступленне Э. Багрыцкага

У 1927 годзе Мінск наведаў Эдуард Багрыцкі. У памяшканні летняга тэатра сада «Прафінтэрн» (зараз парк імя Горкага) ён прачытаў лекцыю аб паэзіі.

Вось як апісвае гэты вечар Гехт, які суправаджаў паэта ў гэтай паездцы.

«У зале было мала людзей з прычыны таго, што друкарня спазнілася з выданнем афіш, якія былі вывешаны толькі за 20 мінут да лекцыі.

Было каля 200 чалавек. Голас паэта гучаў цудоўна. Зала слухала яго са здзіўленнем таму, што ён вельмі быў не падобны на звычайнага гастралёра, гэты вялізны, сівавалосы, малады чалавек з арліным носам і чубам, які засланяў яму левае вока. Відаць, у садзе прайшла чутка аб ім, бо да канца лекцыі велізарная зала напоўнілася слухачамі.

З натхненнем Эдуард Багрыцкі прачытаў «Думу пра Апанаса» і «Кантрабандыстаў».

Даўно скончыўся вечар, а Багрыцкі ўсё хадзіў па цёмных засмечаных дарожках саду, акружаны натоўпам новых прыхільнікаў яго таленту.

**І. АКСЕЛЬРОД.**




# Партызанскі Бягомль

Лясы, якімі так багаты Бягомльскі раён, з самага пачатку Вялікай Айчыннай вайны сталі месцамі партызанскага руху. Тут дзейнічалі шматлікія атрады і брыгады. К канцу 1942 года сумеснымі дзеяннямі брыгад: «Жалязняк», «Народныя мсціўцы» імя Варанянскага, Дзядзі Колі (Лапаціна), Дубава, Лабанка і інш. пачалося знішчэнне фашысцкіх гарнізонаў вакол Бягомля. Услед за гэтым партызаны ўзялі пад кантроль падыходы да раённага цэнтра, паўзрывалі ўсе масты. 18 — 20 снежня адбыўся рашучы штурм бягомльскага гарнізона. Тры атрады брыгады «Жалязняк» пасля кровапралітнага бою авалодалі горадам і завяршылі гэтым поўнае вызваленне ад акупантаў усёй тэрыторыі раёна. У далейшым партызанская зона з цэнтрам у Бягомлі ўключыла ў сябе і частку суседніх — Докшыцкага, Крывіцкага, Плешчаніцкага і Барысаўскага раёнаў. Агульная плошча зоны дасягала больш 20.000 кв. кіламетраў, на якіх размяшчаліся 342 населеных пункты.

У зоне былі адноўлены савецкія парадкі. З арганізацыйных мерапрыемстваў, ажыццёўленых партызанамі, трэба адзначыць стварэнне велізарнай тэлефоннай сеткі, якая ахапіла ўвесь раён. Вялікае значэнне меў партызанскі аэрадром, размешчаны ў паўтара кіламетрах ад Бягомля. Праз яго, па загаду ЦК КП(б)Б, ішло інтэнсіўнае забеспячэнне больш чым сарака партызанскіх атрадаў і брыгад. Адгэтуль было эвакуіравана ў тыл многа параненых. Часам Бягомльскі аэрадром прымаў за ноч да 20 самалётаў і планераў. У перапынках паміж баямі партызаны, не пакідаючы зброі, дапамагалі калгаснікам у палявых работах.



Фашысцкія войскі неаднаразова спрабавалі ліквідаваць Бягомльскую зону. Аднак партызаны, пад кіраўніцтвам падпольных райкомаў партыі, перанеслі ўсе выпрабаванні і захавалі ўстаноўлены імі парадак аж да прыходу часцей Савецкай Арміі.



Наступаючым войскам Першага Прыбалтыйскага і Трэцяга Беларускага франтоў партызаны аказалі вялікую дапамогу тым, што не далі магчымасці акупантам выкарыстоўваць аўтастраду Мінск-Віцебск, сарвалі іх абарону ў вярхоўях Беразіны.

Аб усім гэтым зараз можна даведацца шмат цікавага як у Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, так і ў нядаўна адкрытым філіяле музея ў самым Бягомлі. Бягомльскія камсамольцы і моладзь сабралі мноства экспанатаў, такіх, напрыклад, як пушка партызанскага агнявога артылерыйскага ўзвода, аўтаматы, пісталеты, нумары партызанскай газеты «Савецкі патрыёт» і шмат іншага.

Два пакоі ў будынку Бягомльскага райкома КПБ, дзе размясціўся гэты маленькі, але дарагі нашаму сэрцу музей, ніколі не пустуюць; гэта служыць добрым прыкладам народных клопатаў аб увекавечанні памяці слаўных абаронцаў Радзімы.

**Ф. КРАЎЧУК.**

На здымках: 1. Прыём у партыю партызан на адным з паседжанняў Бягомльскага падпольнага РК КП(б).
2. Партызаны на палявых работах.



# „Беларуская вечарынка" ў мястэчку Карэлічы




Пасля рэвалюцыйных падзей 1905—1907 гг. беларускі народ праяўляе вялікую цікавасць да развіцця сваёй культуры і мастацтва. На Беларусі ствараецца шырокая сетка розных грамадска-палітычных таварыстваў і тэатральных аматарскіх калектываў, якімі кіруе перадавая, рэвалюцыйна настроеная інтэлігенцыя.

У гарадах, мястэчках і сёлах Беларусі наладжваліся так званыя «беларускія вечарынкі», якія часта насілі тэатралізаваны характар. Выконваліся народныя беларускія песні, нацыянальныя танцы, чыталіся вершы Ф. Багушэвіча, Я. Лучыны, Я. Купалы, Я. Коласа, Цёткі і інш. Акрамя таго, ставіліся беларускія і рускія п'есы. Гэтае пачынанне было настолькі папулярным, што газета «Наша ніва» з 1906 па 1913 год рэгулярна давала справаздачы аб розных тэатральных пастаноўках беларускіх аматараў. Вялікі ўдзел у стварэнні нацыянальнага беларускага тэатра прымалі Я. Купала, Я. Колас, З. Бядуля.

У 1912 годзе ў мястэчку Карэлічы Мінскай губерні ў адным з двароў была наладжана адна з такіх «беларускіх вечарынак», аб якой захаваліся даволі поўныя звесткі. Былі паказаны жывыя карціны на тэмы пораў года.

Пасля пралога, на якім старым гусляром былі прачытаны вершы з «Гусляра» Я. Купалы, і пасля спеваў хорам беларускай песні «Прыляцелі гусі» была паказана першая частка прадстаўлення — «Вясна».

Сцэна, упрыгожаная зялёнымі галінкамі і капою сена, была асветлена зялёным святлом. Паяўлялася «Вясна» (маладая дзяўчына) з зоркай на галаве, у вянку з пралесак. Яна чытала верш Я. Купалы «У вянку з пралесак». Следам за ёю выходзілі дзяўчына і хлопец, апранутыя ў летнія касцюмы. Хлапец трымаў у руках касу, дзяўчына — граблі. Абое яны сімвалізавалі «сенакос». Дзяўчына і хлопец на фоне шырокай і журботнай купальскай песні чыталі вершы Я. Купалы «Пятровы час» і «Завітаў Пятрук».

У другой частцы прадстаўлення паказвалася карціна «Лета». На сцэне—жнеі ў вянках з кветак, з сярпамі і невялікімі ахапкамі жытнёвых каласоў, асветленых жоўтым святлом. У суправаджэнні аднатоннай, але выразнай песні жней адна з дзяўчат прачытала верш Я. Купалы «Лета». К канцу чытання песня гучала мацней і на сцэне паяўляўся ўвесь хор у беларускіх касцюмах.

Другая частка карціны «Лета» ўяўляла сабой узлесак ельніку. Летняя ноч. Пры цьмяным святле месяца, які выплываў з-за ёлачак на сіняе неба, на капе сена быў відзён хлопец. Ён ляжаў і чытаў вершы. Паступова месяц пагасаў. Пачынаўся дождж. Неба асвятлялася маланкай. Але вось навальніца аддалялася і пад усё цішэйшыя раскаты грому апускалася заслона.

Трэцяя частка прадстаўлення — «Восень». Сцэну, залітую чырванаватым водсветам заходу, займала група паасенняму апранутых сялян з дзяўчынай «Восенню» наперадзе. Касцюм «Восені» аплецены срабрыстай павуцінкаю «бабскага лета» і ўпрыгожаны галінкамі рабіны. Хор сялян, які выконваў «Гарабіну», к канцу песні пакідаў сцэну.

Другая частка сцэны «Восень» уяўляла карціну ночы. Наўкол вогнішча па-асенняму апранутыя пастухі і дзяўчаты. Удзельнікі гэтай сцэны па чарзе чыталі вершы Я. Купалы «Восень», «Сцюжа набліжаецца», «Гусляр» і Я. Коласа «Нёман». Пасля чытання хор з музычным суправаджэннем выканаў «Засвіталі нашы хлопцы». Апошнюю частку песні за сцэнай паўтарала рэха.

Чацвёртая частка прадстаўлення — «Зіма». Зімовы лясны пейзаж. Зямля і елачкі, пакрытыя снегам, залітыя блакітным святлом. У сінім небе загараецца яркая зорка. На сцэну выходзіў хлопец, апрануты па-зімоваму, і дэкламаваў верш Я. Купалы «Зазімак». Насустрач яму паяўляўся стары — Зіма, увесь абсыпаны снегам, садзіўся на калоду і звяртаўся да хлопца з вершамі Я. Купалы з «Адвечнай песні». У фінале карціны сцэну займалі хлопцы з запаленай калядíай зоркай і выконвалі калядкі.

Узяўшы за аснову «жывыя карціны» і абрадавыя гульні, беларускія аматары зрабілі іх па-новаму змястоўнымі і ў сэнсе мастацкага афармлення своеасаблівымі. Мастацкае афармленне кожнай дзеі з'яўлялася вобразнай ілюстрацыяй вершаў Я. Купалы, зместам якіх, акрамя пратэстаў супраць цяжкага становішча беларускага сялянства, былі цудоўныя паэтычныя карціны беларускай прыроды.

**Б. ГУР'ЕЎ.**




# Даследчык помнікаў індыйскай культуры

Сваім знаёмствам з багатай і самабытнай культурай старажытнай Індыі мы ў значнай ступені абавязаны навуковым працам выдатнага лінгвіста Каэтана Андрэевіча Касовіча. Ён адным з першых у Расіі пачаў вывучэнне санскрыту — мовы індыйскіх літаратурных помнікаў.

К. А. Касовіч нарадзіўся ў 1815 годзе на Віцебшчыне ў сям'і беднага свяшчэнніка. Ужо ў час навучання ў Віцебскай гімназіі выявіліся выдатныя здольнасці хлопчыка. Ён паспяхова авалодваў нямецкай, французскай і лацінскай мовамі і яшчэ задоўга да заканчэння гімназіі быў накіраваны ў Маскоўскі універсітэт, на славеснае аддзяленне філасофскага факультэта. Ва ўніверсітэце Касовіч таксама старанна займаўся філалогіяй: вывучаў англійскую і італьянскую мовы, але асабліва захапляўся старагрэчаскай.

Скончыў К. А. Касовіч універсітэт у 1836 годзе. Тым не менш цэлых тры гады ён быў без работы. Не атрымаўшы настаўніцкай пасады, К. А. Касовіч увесь гэты час перабіваўся прыватнымі ўрокамі. Беднасць і цяга да навукі выпрацавалі ў характары маладога вучонага вынослівасць і ўпартасць.

У вольны час Касовіч перачытаў амаль усю старагрэчаскую класічную літаратуру, удасканаліў свае веды ў жывых заходнееўрапейскіх мовах.

Нарэшце, у 1839 годзе яму далі работу: Касовіч стаў старшым выкладчыкам грэчаскай мовы ў Цвярской гімназіі.

Малады выкладчык імкнуўся рабіць лекцыі цікавымі. Ён хацеў даць вучням трывалыя веды і адначасова палегчыць вывучэнне старагрэчаскай мовы. З гэтай мэтай ён навучанне пачынаў са знаёмства з арыгінальнымі творамі. Звычайна гэта былі «Іліяда» і «Адысея».

Ён пераклаў і выдаў на рускай мове «Граматыку грэчаскай мовы» Кюнэра і пачаў складаць «Грэка-рускі слоўнік». Справу гэтую пазней закончыў яго брат. Сам жа Касовіч авалодаў арабскай і стараяўрэйскай мовамі. Ён хацеў адшукаць вытокі элінскай цывілізацыі. Пошукі прывялі яго да адной з багацейшых і прыгажэйшых моваў старажытнасці — санскрыту. Але вывучыць санскрыт сто гадоў таму назад у Цвяры было нялёгка. Праўда, Касовіч выпісваў неабходную літаратуру з-за мяжы, але яна каштавала многа грошай. Аднак справа не абмяжоўвалася толькі матэрыяльнымі цяжкасцямі. Ні грамадскасць горада, ні калегі-настаўнікі не спачувалі захапленню Касовіча культурай Індыі. Яны пагардліва думалі: навошта ў Цвяры спатрэбіўся санскрыт?

У 1843 годзе Касовіча перавялі на работу ў Другую маскоўскую гімназію. Але і тут ён не сустрэў падтрымкі.

Адносіны грамадскасці не перашкодзілі заняткам маладога вучонага. Больш таго, ён набыў санскрыцкі шрыфт, каб мець магчымасць друкаваць свае працы.

Праз год, у 1844 годзе, Касовіч упершыню ў Расіі пераклаў эпізод з «Магабхараты» «Сунд і Упесунд», які і апублікаваў у часопісе «Москвитянин». А як толькі прафесар Бракгауз выдаў у Германіі санскрыцкі арыгінал вядомай драмы «Крышны-Місры», Касовіч адразу ж пераклаў трэці акт з яе на рускую мову пад назвай «Свята светлай думкі». Некалькі пазней Касовіч пераклаў і ўсю драму. Ён апярэдзіў усіх вучоных Еўропы. Тым не менш у царскай Расіі не знайшлося чалавека, які б мог ацаніць дзейнасць нашага выдатнага земляка.

У 1847 годзе Касовіч перакладае індыйскую казку «Сказанне аб Від'ягары Джымутавагану». Яшчэ праз год ён выдае «Сказанне аб Дгруве», перакладзенае з Багават-Пураны.

Касовіч развітваецца з Масквой, каб пашукаць шчасця ў Пецярбургу.

У Пецярбургу ён заняў пасаду рэдактара навуковых прац пры Публічнай бібліятэцы (1850 год). А ў 1854 годзе Акадэмія навук пачала друкаваць яго «Санскрыцка-рускі слоўнік». «Академические ведомости» змясцілі артыкул Касовіча аб «Багават-Гіту».

Яшчэ праз чатыры гады К. А. Касовіч прапанаваў свае паслугі ў якасці выкладчыка санскрыту ў Пецярбургскім універсітэце, і 6 кастрычніка 1859 года ён пачаў бясплатна чытаць курс уступнай лекцыяй «Аб санскрыцкай мове і літаратуры». Лекцыя гэтая была ў тым



жа годзе надрукавана ў «Журнале Министерства народного просвещения», а пазней выйшла асобнай брашурай у якасці дапаможніка.

Гэтая лекцыя — прыклад глыбокіх ведаў і бліскучага выкладання. У сваёй лекцыі Касовіч пераканаўча даводзіў, што санскрыцкая мова — «узор мовы з самымі поўнымі формамі і самай дасканалай будовай».

Санскрыцкая мова цікавая не толькі сама па сабе, але і сваёй блізкасцю да сучасных індаеўрапейскіх моў, а таксама да моў усходу — мангольскай, кітайскай, малайскай і іншых.

Касовіч у сваіх даследаваннях выступаў як прыхільнік развіцця культурных сувязей паміж народамі. Ён пісаў, што «...навука... звязвае тое, што разрывалася адлегласцю і дзічэла на працягу не вякоў, а тысячагоддзяў, дакументальна паказваючы гэтулькім плямёнам на братняе адзінства, згубленае іх свядомасцю».

Першы ў Расіі санскрытолаг-беларус быў не толькі высока адукаваным чалавекам, які стаяў на ўзроўні тагачаснай навукі, але адным з буйнейшых знаўцаў і перакладчыкаў з санскрыту, адным з выдатных прапагандыстаў індыйскай культуры.

**Л. ВАНКОВІЧ.**




# Этнограф-фалькларыст П. В. Шэйн

У г. Магілёве ў 1826 годзе нарадзіўся выдатны беларускі этнограф-фалькларыст П. В. Шэйн. Працы П. В. Шэйна, прысвечаныя апісанню быту і вуснай паэтычнай творчасці беларускага народа, яго культуры, духоўнага жыцця, не страцілі сваёй каштоўнасці і па сённяшні дзень.

Цікава адзначыць, што П. В. Шэйн, будучы калекаю, пастаянна вандраваў, забіраючыся ў самыя далёкія і глухія куткі Беларусі. Ён сабраў звыш 3000 запісаў народнай творчасці. У 1872 годзе значная частка народных песень, сабраных П. В. Шэйнам, была перакладзена на англійскую і нямецкую мовы. Замежныя вучоныя-філолагі, у тым ліку Я. Грым — адзін з аўтараў шырока вядомага нашаму чытачу зборніка нямецкіх народных казак, далі высокую ацэнку матэрыялам, сабраным, апрацаваным і сістэматызаваным П. В. Шэйнам.

Асабліва высока цанілі працы беларускага вучонага Кастамараў, Аксакаў, Хамякоў, Даль, Буслаеў і іншыя рускія вучоныя і пісьменнікі.

Выключная працаздольнасць П. В. Шэйна, яго энтузіязм, эрудыцыя, талент, гарачае жаданне служыць свайму народу, відаць, і прыцягнулі ўвагу вялікага рускага пісьменніка Л. Н. Талстога. У пяцідзесятых гадах П. В. Шэйн пераехаў у Ясную Паляну, дзе вялікі рускі пісьменнік разгортваў сваю педагагічную дзейнасць. П. В. Шэйн пасяліўся ў Льва Нікалаевіча і адзін час настаўнічаў у школе, заснаванай Талстым для сялянскіх дзяцей.

**І. ЦІШЧАНКА.**

*Давайце пагаворым...*

**Н. ЮРКЕВІЧ,**
**кандыдат юрыдычных навук**

# ДУМКІ АБ СЯМ'І І ШЛЮБЕ

При Міністэрстве юстыцыі БССР ёсць камісія па выпрацоўцы новага шлюбна-сямейнага кодэкса рэспублікі. Перад камісіяй стаіць задача — перагледзець усё дзеючае шлюбна-сямейнае заканадаўства, абагуліць судовую практыку і на гэтай аснове прадставіць на зацвярджэнне такі праект, які адпавядаў бы волі і інтарэсам працоўных.

Справядлівая думка працоўных, прасякнутая імкненнем да далейшага ўмацавання савецкай сям'і і шлюбу, бясспрэчна дапаможа камісіі паспяхова справіцца з пастаўленай перад ёю задачай. Вось чаму было б пажадана, каб чытачы часопіса «Маладосць» выказалі свае меркаванні па пытаннях, якім прысвячаецца гэты артыкул.

— Хацелася б ведаць, — сказаў аднойчы мой знаёмы ў размове, — калі ўжо будзе такі закон, які адпавядаў бы ўказанням Леніна. Я маю на ўвазе яго словы: «Нельга быць дэмакратам і сацыялістам, не патрабуючы зараз жа поўнай свабоды разводу». Асаблівы націск ён зрабіў на апошнія тры словы.

З далейшай размовы высветлілася, што мой субяседнік мае самую непасрэдную зацікаўленасць у тым, каб заканадаўства аб разводзе стала «ленінскім». Прычым ён, як гэта часта бывае з зацікаўленай асобай, узяў у Леніна толькі тое, што яму спадабалася. Прыйшлося напомніць, што прыведзенае ім выказванне Леніна адносіцца да буржуазнага грамадства. Ленін патрабаваў «поўнай свабоды разводу» ў буржуазным грамадстве таму, што адсутнасць там такой свабоды «ёсць звышпрыгнечанне прыгнечанага полу, жанчыны».

Наша ж, савецкае заканадаўства даўно зрабіла жанчыну свабоднай ад прыгнёту мужчыны, і перад намі стаіць цяпер другая мэта — дасягнуць умацавання савецкай сям'і, якая ўзнікае на аснове поўнага раўнапраўя мужчыны і жанчыны.

Пазней, у 1920 годзе, Ленін закранаў гэтае пытанне і з другога боку: «Валоданне самім сабой, самадысцыпліна, — сказаў ён, — не рабства; яны неабходны і ў каханні». Тады ж Ленін падкрэсліў вялікае значэнне шлюбу для грамадства. Іменна гэтыя выказванні заснавальніка савецкай дзяржавы і трэба мець на ўвазе, пры вырашэнні пытання аб тым, як павінен рэгулявацца развод у новым шлюбна-сямейным кодэксе БССР. Трэба таксама памятаць, што Маркс параўноўваў развод з устанаўленнем факту смерці і казаў: «Судовае скасаванне шлюбу можа быць толькі



пратакалаваннем яго ўнутранага распаду».

Кажуць, што шлюб ёсць такі саюз мужчыны і жанчыны, які аб'ядноўвае ўсё іх духоўнае, фізічнае і гаспадарчае жыццё з мэтай нараджэння і выхавання дзяцей. Таму распад шлюбных адносін трэба разглядаць як распад агульнасці духоўнага, фізічнага і гаспадарчага жыцця мужа і жонкі.

Пад духоўнай агульнасцю разумеюць перш за ўсё наяўнасць кахання. Абставіны могуць скласціся так, што чалавек, нават пасля многіх год сумеснага жыцця, вымушаны пакінуць сваю першую сям'ю і пачынае будаваць новую. Пачуццё па тых ці іншых прычынах не заўсёды ўдаецца захаваць да канца. А жыць з чалавекам, да якога адносішся абыякава, цяжка і брыдка, тым больш, што гэтая абыякавасць можа ператварыцца ў нянавісць.

Ісцец па адной справе аб скасаванні шлюбу пісаў у Вярхоўны суд БССР: «З таго часу, як я стаў ведаць яе блізка, я ўзненавідзеў яе ўсёй душой, узненавідзеў так, як гэта толькі магчыма. Яна — хітры і вераломны чалавек... Гэта чалавек, які пакалечыў маё жыццё з эгаістычнымі мэтамі. Пераканаўча прашу Вярхоўны суд... даць мне свабоду ад гэтага ненавіснага для мяне шлюбу».

Ясна, што калі прымусіць жыць разам людзей, якія так глядзяць адзін на аднаго, справа можа закончыцца крымінальным злачынствам. Гэта і здаралася ў царскай Расіі, дзе разводы фактычна былі забаронены.

Побач з каханнем мы заўсёды знаходзім узаемнае давер'е і павагу. Павага і давер'е паміж мужчынам і жанчынай магчымы і без кахання, але ўстойлівае каханне без іх існаваць не можа. Таму суды, не маючы іншы раз смеласці ўжыць слова «каханне», пішуць у рашэннях, што шлюб падлягае скасаванню, таму што ён не грунтуецца на ўзаемнай павазе і давер'і.

Духоўная агульнасць паміж мужам і жонкай немагчымы таксама без аднолькавасці светапогляду як у шырокім філасофскім разуменні, так і ў больш вузкім, якое суды называюць «аднолькавымі поглядамі на жыццё».

Ясна, што тут, як і ў любой іншай сферы, магчымы кампрамісы і ўзаемная бараць ба без разбурэння духоўнай агульнасці. Але ў прынцыповых людзей пачуцці не могуць доўга разыходзіцца з перакананнямі. Так, калі жонка і яе родныя паставілі грамадзяніна Л. перад выбарам: або ўступай у рэлігійную секту баптыстаў, або пакінь нас, ён, будучы атэістам, аддаў перавагу разводу. Вярхоўны суд БССР знайшоў, што яго іск павінен быць задаволены.

Паколькі фізічная і гаспадарчая агульнасць шлюбнага жыцця звычайна з'яўляецца вынікам духоўнай агульнасці, яны ў большасці выпадкаў не маюць рашаючага ўплыву на распад сям'і. Між іншым, істцы па справах аб скасаванні шлюбу, як правіла, самі не разглядаюць адпаведныя, скажам, гаспадарчыя парушэнні як самастойнае абгрунтаванне разводу. Звычайна, муж не прыносіць дамоў заработак таму, што прапівае яго або траціць на другіх жанчын, а жонка адмаўляецца займацца хатняй гаспадаркай або займаецца ёю нядбала па той прычыне, што хоча стаць гаспадыняй у другім доме. Але, побач з гэтым, у нас усё яшчэ сустракаюцца такія выпадкі, як паталагічная скупасць, жаданне весці паразітычнае існаванне за кошт другога і г. д.

Вось прыклады:

Малады чалавек пісаў у заяве: «Прашу зараз жа (!) развесці нас, так як жонка схлусіла мне. Да шлюбу яна казала, што мае сярэднюю тэхнічную адукацыю і зарабляе ў месяц па 1200 рублёў, а цяпер выявілася, што яна памочнік повара з заробкам у 300 рублёў».

У другім выпадку грамадзянін К., маючы на ашчаднай кніжцы 35 тыс. рублёў, не дазваляў купіць дзіцяці піражнае, або нават шклянку вады з сіропам. Жонцы даваў грошы толькі на самыя дробныя расходы, накшталт набыцця гузікаў для бялізны, але і тут рэшта — хаця б гэта былі 3 капейкі — падлягала звароту «ў касу».

Такія з'явы, як і любыя іншыя, калі яны маюць сваім вынікам **канчатковы распад шлюбных адносін у цэлым**, становяцца дастатковым абгрунтаваннем разводу.

Пытанне аб тым, з'яўляецца распад шлюбных адносін канчатковым ці не, рашаецца з улікам канкрэтных асаблівасцей справы. У прыватнасці, суды правільна, на нашу думку, спасылаюцца на працягласць паасобнага пражывання мужа і жонкі і абвостранасць іх узаемаадносін як прыкметы канчатковага распаду шлюбу. Зразумела, што пры гэтым павінна быць выключана не ўсякая, а практычная магчымасць узнаўлення такіх адносін.

У якасці прыкладу можна прывесці справу Рыгора Л. і Алены Т., якая разглядалася Мінскім абласным судом. На думку Рыгора, яны занадта лёгка аднесліся да ўступлення ў шлюб.

— Але я ж цябе тады папярэдзіла: падумай лепш, — гаворыць маладая жанчына.

— Тады, — адказвае ён, — мне здавалася, што ўсё абдумана, а потым...

— Што потым? — пытаецца суддзя.

— Потым выявілася, што ён эгаіст, не

хоча мець дзіцяці,— зноў кідае рэпліку жонка.

З папярэдняй часткі судовага паседжання ўсім у зале было вядома, што Алена і Рыгор — студэнты, іншых даходаў, акрамя стыпендый, не маюць, жывуць у яе бацькоў. І наогул мацярынства наўрад ці пажадана для студэнткі другога курса, яно можа пашкодзіць вучобе.

— Магчыма, пры цяперашніх умовах варта згадзіцца з мужам? — звяртаецца да Алены суддзя.

Яна маўчыць.

— Што яшчэ?

— Яна перашкаджае мне вучыцца, — выціскае з сябе Рыгор. — Толькі сяду за кнігу — пачынае цягнуць у кіно.

— Няўжо вы і аб гэтым не можаце дамовіцца?

— Мы б дамовіліся, але яе бацькі ўмешваюцца...

Бацькі на самай справе, бачачы, як без дай прычыны ў іх на вачах гіне сямейнае шчасце дачкі, спрабавалі ўмяшацца. Але калі выявілася, што гэта дае адваротныя вынікі, яны прапанавалі нават *наняць за свой кошт асобны пакой для маладых.*

— Дык у чым жа, нарэшце, справа?

Справа ў абражаным пачуцці ўласнай *годнасці.*

— Яна шпурнула мне ў твар пасведчанне аб шлюбе і сказала, што не будзе са мною жыць!..

— Але вы яе ўсё ж кахаеце?

На імгненне малады муж аж змяніўся з твару, але потым, відавочна ўспомніўшы, што мужчына павінен быць *паслядоўным і настойлівым*, зноў нахмурыў бровы:

— Кахаю ці не — мая справа, а жыць з ёю не буду.

Суд з задавальненнем канстатаваў, што духоўная агульнасць, каханне, як маральная аснова шлюбу, у дадзеным выпадку існуе, і адмовіў у разводзе. Надзея на тое, што Рыгор і Алена пераадолеюць сваю празмерную ганарлівасць і памірацца, тут з'яўляецца абгрунтаванай. Пасля скасавання шлюбу ім было б значна цяжэй зрабіць гэты крок.

У юрыдычнай літаратуры звярталі ўвагу на тое, як павінна ўлічвацца пры разводзе тое, што ў сям'і ёсць дзеці. Нам здаецца, што ў такіх выпадках суд павінен асабліва падрабязна высвятляць усе акалічнасці справы з мэтай выключыць усякую магчымасць *памыліцца.* Суд павінен таксама больш настойліва дабівацца прымірэння абодвух бакоў. І гэта зразумела: шлюб існуе не толькі *для асабістага шчасця мужа і жонкі.*

Але наяўнасцю дзяцей нельга апраўдваць захаванне такога шлюбу, які фактычна даўно распаўся. Варта цалкам згадзіцца з тым, што захаванне юрыдычнай абалонкі шлюбу пры такіх абставінах стварае атмасферу хлусні і двудушнасці, якая прыносіць дзецям большую шкоду, чым выхад з сям'і мужа ці жонкі.

Такім чынам, агульнае правіла з'яўляецца наступным: суд выносіць рашэнне аб разводзе ў выпадку наступлення неаднавімага распаду шлюбу. Яно і павінна быць запісана ў новым шлюбна-сямейным кодэксе БССР.

Некалькі слоў аб парадку скасавання шлюбу.

Цяпер заява аб разводзе падаецца ў народны суд. Пры падачы заявы трэба заплаціць 100 рублёў пошліны. За публікацыю ў газеце таксама плаціць асоба, *якая падала* заяву. Публікацыя каштуе яшчэ 200 рублёў. Потым справу разглядае народны суд, які павінен прыняць меры да прымірэння мужа і *жонкі. Калі прымірэнне дасягнута* не было, асоба, якая падала заяву, набывае права звярнуцца ў абласны суд. Абласны суд зноў прымае меры да прымі*рэння і ў выпадку іх беспаспяховасці* выносіць рашэнне аб разводзе або аб адмове ў ім. Калі суд прыходзіць да вывалу аб неабходнасці скасавання *шлюбу, ён павінен запісаць у рашэнні,* якая пошліна будзе спаганяцца пры рэгістрацыі разводу ў органах ЗАГСа. Законам гэтая пошліна ўстаноўлена ў памеры *ад 500 да 2000 рублёў з мужа* або жонкі або з іх абодвух. Такім чынам, самы танны працэс аб скасаванні шлюбу каштуе не менш 800 рублёў. Да гэтага трэба дадаць расходы і клопаты па паездцы спачатку ў народны суд (калі муж і жонка жывуць не ў раённым цэнтры), а потым у абласны. У выніку распад шлюбаў у значнай колькасці выпадкаў не атрымлівае неабходнага юрыдычнага афармлення.

Мужчына пакідае жонку і ідзе да другой жанчыны, з якою жыве ў фактычным шлюбе, бо зарэгістраваць яго да развода не мае права. Дзеці, якія нараджаюцца ў такім фактычным шлюбе, юрыдычна застаюцца без бацькі. Пакінутая жонка ў сваю чаргу знаходзіць мужа, з якім жыве ў фактычным шлюбе.

*Няўдала таксама выбран момант, калі* суд павінен прымаць меры да прымірэння старон.

Але разам з адзначанымі і некаторымі *іншымі недахопамі парадак разводу,* які існуе, мае і дадатныя рысы. Ён гарантуе ад лёгкадумных разводаў.

Адсюль мэта: захаваць дадатнае і *выключыць адмоўнае з гэтага парадку.*

Добра было б увесці правіла аб тым, што пошліна спаганяецца толькі з віна-



ватага ў распадзе сям'і. Прычым, пашырыць гэтае правіла і на першыя сто рублёў і на кошт публікацыі.

У друку выказвалася думка, што было б слушна ў выпадках, калі муж і *жонка згодны на развод,* аднесці яго да кампетэнцыі ЗАГСаў. У нас няма ўпэўненасці, што іменна так і трэба зрабіць. Згоду на развод нельга атоесамліваць з абдуманым жаданнем развесціся. Амаль кожная жонка, калі яна мае пачуццё ўласнай годнасці, — а такіх у нас выключная большасць, — не адмовіць у згодзе на развод. Але гэта будзе нармальная рэакцыя чалавека, якога абразілі.

— Жаніўся я даўно, — расказваў нам аднойчы чалавек з сівой галавой і багатым жыццёвым вопытам, — у дваццатых гадах. Быў я тады відным чырвоным камандзірам, а жонка мая, жанчына прыгожая, мела некаторае дачыненне да балету. У абодвух мноства знаёмых, увесь час сярод людзей... Ну вось, мне аднойчы і здалося, што яна ахаладзела да мяне. «Хадзем,—кажу,—разводзіцца». «Хадзем»,—гаворыць. Пайшлі ў ЗАГС— тады разводзіліся цераз гэтую ўстанову. Калі б там з намі хоць пагаварылі... Каб захаваць сям'ю, не шкада затраціць паўгадзіны або нават і цэлую гадзіну. Дык не. У пярэднім пакоі натоўп. Хто жэніцца, хто разводзіцца, хто рэгіструе нараджэнне, каму патрэбна даведка. Словам, хутчэй праходзь, не затрымлівай чаргу. Выйшлі мы з ЗАГСа, закурылі па папяросе і ўсё стала больш-менш ясна. Моўчкі завярнуліся, пайшлі дамоў і да гэтага часу дажылі разам, хоць і разведзенымі. Сына выгадавалі».

Гаворачы пра неабходныя змены ў заканадаўстве аб разводзе, мы зыходзілі з двух мэт: зрабіць развод даступным для ўсякага, хто ў ім сапраўды мае патрэбу, і не дапусціць аслаблення абароны савецкай сям'і.

Але не варта чакаць, што адзін суд, нават пры найлепшых законах, зможа сур'ёзна перашкодзіць распаду сям'і. Трэба мець на ўвазе, што суд пачынае сваю працу пасля ўжо таго, як шлюб цалкам аб ў значнай меры распаўся. Трэба не забываць, што суд звычайна мае справу з вынікамі, а не з прычынамі. Складаны парадак скасавання шлюбу можа выключыць лёгкадумныя разводы, але змяншэнне колькасці няшчасных сем'яў залежыць ад яго не ў многім.

Маркс параўноўвае развод, смерць шлюбу, са смерцю жывой істоты. Працягваючы гэтую лінію параўнання, можна напамянуць, што прадухіліць смерць значна лягчэй мерамі прафілактычнага характару, чым лячэннем хваробы. Прафілактыка мае яшчэ і тую перавагу, што яна прадухіляе не толькі трагічны канец захворвання, але і само захворванне. У дастасаванні да шлюбу прафілактычныя меры могуць насіць разнастайны, у большасці выпадкаў сацыяльны характар. Далейшы ўздым матэрыяльнага і культурнага дабрабыту насельніцтва, поўная забяспечанасць усіх, у тым ліку і маладых сем'яў, дастатковай жылой плошчай, будаўніцтва большай колькасці дашкольных дзіцячых устаноў і школ-інтэрнатаў, дабразычлівае ўмяшанне партыйных, камсамольскіх, прафсаюзных арганізацый і проста добрых знаёмых у адносіны паміж мужам і жонкай,— усё гэта можа і будзе становача ўплываць на далейшае ўмацаванне савецкай сям'і, якую правільна называюць асноўнай клеткай нашага сацыялістычнага грамадства.

Але ўплываць на ўстойлівасць сям'і маглі б і некаторыя чыста заканадаўчыя меры: мы маем на ўвазе пэўныя перамены ў парадку рэгістравання шлюбаў.

Вядома, што выключная большасць разводаў падае на шлюбы маладых людзей (ва ўзросце ад 18 да 30 год). Гэта зразумела — іменна ў такім узросце лягчэй за ўсё памыліцца як ва ўласных пачуццях, так і ў маральных якасцях сваёй будучай жонкі або мужа. Маладымі валодаюць палкія, але не заўсёды спелыя пачуцці; у маладых людзей многа энергіі, але мала вопыту. Адзін з вынікаў гэтага — нярэдкае ўзнікненне *такіх спраў аб скасаванні* шлюбу, па якіх суду прыходзіцца канстатаваць, што муж і жонка пазнаёміліся за некалькі тыдняў або нават дзён да таго, як узялі шлюб, адзін другога ведаюць мала і аказаліся людзьмі з зусім рознымі характарамі і жаданнямі. Пасля рэгістрацыі шлюбу (іншы раз нават на наступны ці ў той самы дзень) такія муж і жонка пачынаюць разумець, што яны зрабілі вялікую памылку, і разыходзяцца, каб сустрэцца толькі ў судзе. Судовая практыка дае вялікую колькасць прыкладаў гэтакіх лёгкадумных шлюбаў. Вось два тыпо-вых.

«З матэрыялаў справы відаць, што муж і жонка ўзялі шлюб пасля двухдзённага знаёмства, не ведаючы адзін другога. Таму, пражыўшы 20 дзён, разышліся і з таго часу жывуць паасобку на працягу двух год... па сутнасці сям'і ў іх не склалася».

«Яны зарэгістравалі шлюб у перыяд знаходжання адказчыка ў кароткатэрміновым водпуску (8 дзён) з Савецкай Арміі. Пасля заканчэння тэрміну службы адказчык да яе не вярнуўся...»

Вопыт да маладых людзей прыхо-

дзіць у больш спелым узросце, у прыватнасці, пасля таго як будуць зроблены і выпраўлены памылкі. Таму разводы будуць пры любых умовах. Спадзяванні на поўнае спыненне распаду сем'яў — утопія, асабліва ў нашай велізарнай краіне, дзе пераплятаюцца, а іншы раз і сутыкаюцца лёсы больш чым двухсот мільёнаў чалавек. Імкнуцца можна толькі да таго, каб разводаў было як мага менш.

Вядома, нельга ў заканадаўчым парадку ператварыць юнакоў і дзяўчат у людзей з багатым вопытам. Але можна паставіць іх у такія ўмовы, якія дапамагалі б ім выкарыстаць той малы вопыт, які яны маюць, у такія ўмовы, якія дапамаглі б ім выкарыстаць вопыт бацькоў і старэйшых таварышаў.

Як гэта зрабіць?

Нам здаецца, што для гэтага варта ўвесці працяглы (3—4 тыдні) тэрмін паміж падачай у ЗАГС заявы аб рэгістраванні шлюбу і самім рэгістраваннем. Ён, безумоўна, садзейнічаў бы прадухіленню шлюбаў паміж мала знаёмымі людзьмі. Больш таго, такі тэрмін увёў бы ў жыццё даволі працяглы час, калі маладыя былі б як бы заручанымі. Павялічыўся б тэрмін не простага знаёмства, а такога, калі людзі разглядаюць адзін другога як будучых мужа і жонку. А на будучага мужа, вядома, глядзіш больш уважліва, чым на простага знаёмага. Адзначаны тэрмін садзейнічаў бы ў нейкай меры і ўзаемнай праверцы пачуццяў. Калі маладыя людзі кахаюць адзін другога, яны з задавальненнем пачакаюць, а калі іх адносіны не вытрымаюць нават гэтага маленькага выпрабавання, шлюб з самага пачатку быў бы для іх няшчасцем.

Не бацькі, вядома, павінны рашаць пытанне аб шлюбе: не бацькам, а дзецям жыць у ім. Але паведаміць бацькам аб намеры ўзяць шлюб, пазнаёміць іх са сваёй будучай жонкай ці мужам, параіцца з імі — неабходна, і не толькі таму, што ў адваротным выпадку паводзіны дзяцей крыўдзілі б бацькоў і супярэчылі правілам сацыялістычнай маралі. Бацькі звычайна спалучаюць самае палкае жаданне бачыць сваіх дзяцей шчаслівымі з вялікім жыццёвым вопытам. Таму іменна яны, як правіла, у стане даць найбольш карысную для сына або дачкі параду. Трох — чатырохтыднёвы тэрмін быў бы карысны і з гэтага пункту гледжання.

Нарэшце, такі тэрмін даў бы магчымасць маладым больш сур'ёзна падрыхтавацца да вяселля і сумеснага жыцця.

Мяркуючы па перыядычнаму друку, думка аб карыснасці ўвядзення гэтага тэрміну ўсё больш распаўсюджваецца ў рэспубліцы.

Неабходна ўнесці змены і ў самы парадак рэгістрацыі шлюбаў. Цяпер загадчык райбюро ЗАГСа, спытаўшы асоб, якія падалі заяву ці сапраўды яны жадаюць узяць шлюб, абавязаны прачытаць ім тыя артыкулы Кодэкса законаў аб шлюбе, сям'і і апецы, якія забараняюць мець адначасова два шлюбы і д. т., і папярэдзіць аб крымінальнай адказнасці за парушэнне гэтых артыкулаў. Такім чынам, жаніх і нявеста нібы западазраюцца ў крымінальным злачынстве. Замест гэтага варта было б увесці ўрачыстую віншавальную прамову.

Што ж датычыць папярэджання аб забароне шлюбаў паміж пэўнымі катэгорыямі грамадзян і аб крымінальнай адказнасці за парушэнне гэтай забароны, дык гэта павінна рабіцца не ў момант рэгістрацыі, як таго патрабуе закон, а раней, у момант падачы заявы (што цяпер фактычна і робіцца, але потым чамусьці павінна паўтарацца пры рэгістрацыі шлюбу).

Да моманту падачы заявы трэба аднесці і аплату пошліны за рэгістраванне шлюбу. Патрабаванне «Плаціце грошы» пасля абвяшчэння шлюбу гучыць вельмі ўжо празаічна.

Усё сказанае датычыць не толькі ЗАГСаў, але і сельсаветаў, сакратары якіх рэгіструюць шлюбы паміж грамадзянамі, што пражываюць у сельскай мясцовасці.

Нельга забывацца і пра ўрачыстасць. Праўда, для гэтага не патрэбны ніякія змены ў законах. Саўнаркам БССР яшчэ ў красавіку 1945 г. вынес пастанову аб навядзенні парадку ў рэгістраванні актаў грамадзянскага стану і стварэнні ў цэнтры Мінска ўзорнага гарадскога бюро ЗАГС. Але яна да гэтага часу ў многім застаецца на паперы. Мы думаем, што ў Мінску павінен быць пабудаван дом ЗАГСаў. Паклапаціцца аб адпаведным знешнім і ўнутраным выглядзе яго — справа архітэктараў і мастакоў.

Урачыстасць патрэбна не толькі ў ЗАГСе. Як зрабіць урачыстым вяселле? Чаму няма сучасных вясельных песень? Чаму ўсё больш адміраюць прыгожыя беларускія вясельныя абрады і як зрабіць, каб яны захаваліся? Мы думаем, што на гэтыя пытанні адкажуць нашы паэты, кампазітары і этнографы.

Шлюб з псіхічна хворым прызнаецца ў адпаведнасці з законам несапраўдным. А як пры другіх небяспечных хваробах, венерычных, напрыклад? Чаму не забаронены шлюбы такім хворым?

Мы думаем, што настаў час паклапаціцца, каб у нас узнікалі не толькі



ўстойлівыя, але і здаровыя сем'і (у літаральным сэнсе). Нельга наогул пазбавіць хворых людзей магчымасці мець свае сем'і. Але ў некаторых выпадках, калі медыцына абгрунтована лічыць шлюбныя адносіны з чалавекам, які хварэе на пэўную хваробу, шкоднымі, *закон не павінен іх дазваляць*. У прыватнасці, гэта адносіцца да памянёных захворванняў.

Якія канкрэтна хваробы трэба мець тут на ўвазе? Гэта пытанне, на якое лепш адкажа медык, чым юрыст. Але мы можам спаслацца на вопыт краін народнай дэмакратыі.

Арт. 22 (п.2) *Закона аб асобах і сям'і* Балгарскай Народнай Рэспублікі пасля 6.IX. 1953 г. забараняе шлюб душэўна або фізічна хвораму, калі хвароба **стварае сур'ёзную небяспеку для другога боку або для патомства ад шлюбу.**

Цяпер маці пазашлюбнага дзіцяці атрымлівае ад дзяржавы дапамогу на яго ўтрыманне, а таксама можа перадаць гэтае дзіця на поўнае ўтрыманне і выхаванне за кошт дзяржавы ў дзіцячую ўстанову. Бацька ж дзіцяці не нясе перад ім ніякіх абавязкаў. Многія лічаць гэта несправядлівым. Адна адзінокая маці, упэўніўшыся ў тым, што спагнаць аліменты з бацькі нельга, пакінула дзіця бацьку. А калі па іску бацькі, з яе прысудзілі аліменты на гэтае дзіця, яна пытала ў сваёй скарзе Вярхоўны суд рэспублікі: дзе ж раўнапраўе мужчыны і жанчыны. З яго я не маю права спаганяць аліменты, а ён з мяне атрымлівае іх?

Кажуць таксама, што тэрмін «адзінокая маці» зневажае жанчыну, што абываталі стараюцца абразіць маці, якая мае дзіця ад невядомага бацькі, і г. д. Зыходзячы з гэтага, прапануюць маці пазашлюбнага дзіцяці даць права на іск аб устанаўленні бацькоўства і спагнанні аліментаў.

Можна пагадзіцца з гэтым, паколькі гутарка ідзе аб выпадках, калі сувязь паміж мужчынам і жанчынай хоць і не была аформлена ў аднаведным парадку, але мела трывалы характар, калі яны жылі разам, вялі агульную гаспадарку і перад усімі трэцімі асобамі называлі сябе мужам і жонкай. У рэспубліцы, нажаль, ёсць пэўная колькасць такіх сем'яў. Згодна даведкі, якую мы атрымалі ў Бягомльскім раённым аддзеле сацыяльнага забеспячэння, там ведаюць 32 выпадкі, калі маці жыве адной сям'ёй з бацькам свайго дзіцяці, якое нарадзілася з незарэгістраванага шлюбу.

Іншы раз такія сем'і распадаюцца. У якасці прыкладу можна прывесці наступную судовую справу. Грамадзянка П. прасіла народны суд 2-га ўчастка Веткаўскага раёна Гомельскай вобласці аб спагнанні аліментаў з свайго фактычнага мужа. У справе ёсць даведка сельсавета, што П. мае на сваім утрыманні двое дзяцей 1949 і 1950 гг. нараджэння і што сумесным жыццём з мужам яна жыла з 1947 па 1956 гг. Аб тым, што ісціца і адказчык «жылі як жонка і муж і вялі агульную гаспадарку», паведаміў таксама сведка. Адказчык растлумачыў суду, што ён увесь гэты час нібыта жыў у ісціцы толькі як кватарант і бацькам дзяцей не з'яўляецца. Але разам з тым ён прызнаўся, што фактычна ўтрымліваў сям'ю. «Я,— сказаў ён,— аддаваў ёй заработную плату і яна купляла ўсё, што было патрэбна».

*Грамадзянка П. адна* выхоўваць дзяцей не мае магчымасці. А бацька яе дзяцей перабраўся ў Мінск і, як ён сам заявіў суду, мае заработак па 1900 рублёў у месяц.

Нягледзячы на ўсё гэта, Гомельскі абласны суд рашэнне народнага суда аб спагнанні аліментаў адмяніў, бо дзеці *нарадзіліся з незарэгістраванага шлюбу.*

**Для такіх выпадкаў, г. зн. калі мужчына і жанчына жывуць разам як муж і жонка і вядуць агульную гаспадарку, мы лічым мэтазгодным увядзенне іскаў аб бацькоўстве.***

Сустракаюцца і некаторыя іншыя выпадкі, *калі адмова ў іску аб бацькоўстве* нічым не апраўдана. У прыватнасці суд справядліва спагнаў аліменты з грамадзяніна, які згвалціў маці дзіцяці. У сувязі з гэтым хацелася б звярнуць увагу на балгарскі закон аб пазашлюбных дзецях, які хоць цяпер і не дзейнічае, але здаецца цікавым. У *адпаведнасці з ім іск аб бацькоўстве* дапускаўся толькі, калі будзе даказана: 1) што бацька клапаціўся аб дзіцяці або ўдзельнічаў ва ўтрыманні і выхаванні яго, як свайго ўласнага; 2) што бацька і маці знаходзіліся ў яўным сужыцці паміж 300-м і 180-м днямі да нараджэння; 3) што бацька ў пісьмах або другіх пісьмовых дакументах, якія зыходзяць ад яго, недвухсэнсоўна прызнаў сваё бацькоўства і 4) што дзіця нарадзілася ў выніку згвалтавання бацькам маці...

Далей. Новы шлюбна-сямейны кодэкс БССР павінен даваць бацьку неабмежаванае права прызнаваць, са згоды маці, дзіця сваім. Цяпер бацька набывае такое права толькі пасля ўступлення з маці дзіцяці ў зарэгістраваны шлюб. Гэтым заканадаўца хацеў прымусіць гра-

* Але іск П., думаецца, і цяпер трэба было задаволіць у адпаведнасці з арт. 86 КЗа БША БССР.

мадзяніна, які жадае прызнаць дзіця сваім, да ўступлення ў шлюб з яго маці. Але іншы раз бацька не можа пайсці па гэтаму шляху таму, напрыклад, што больш не паважае маці свайго пазашлюбнага дзіцяці, або звязан з іншай сям'ёй, якую не збіраецца пакідаць. Аднак ён ведае, што ў яго ёсць дзіця і, як чалавек сумленны, жадае афіцыйна аформіць сваё бацькоўства, дабраахвотна ўскласці на сябе бацькоўскія абавязкі. Няма ніякіх падстаў перашкаджаць яму ў гэтым.

Інакш мы адносімся да іскаў аб бацькоўстве і аліментах, калі дзіця нарадзілася ад выпадковай сувязі і няма больш-менш пэўных доказаў. Нельга раўнапраўе мужчыны і жанчыны разумець механічна, асабліва там, дзе гутарка ідзе аб мацярынстве. Жанчына як маці па нашаму заканадаўству карыстаецца вялікімі ільготамі, якіх, вядома, мужчыны не маюць і мець не могуць. Аднак ніхто не кажа, што ў гэтым выяўляецца няроўнапраўнае становішча мужчыны ў параўнанні з жанчынай. З гэтага пункту гледжання варта падыходзіць і да пытання аб праве маці спаганяць аліменты на дзіця ад выпадковай сувязі.

Справа ў тым, што аб цяжарнасці і нараджэнні заўсёды вядома шырокаму колу асоб і ўтаіць іх вельмі цяжка, практычна немагчыма. З бацькоўствам — адваротнае становішча. Пры выпадковых сувязях яго таксама цяжка ўстанавіць, як цяжка ўтаіць мацярынства. Заканадавец павінен лічыцца з гэтым.

Трэба сказаць, што іскі аб бацькоўстве, калі б яны былі ўведзены, не абаранілі б маці дзіцяці, якое нарадзілася ад выпадковай сувязі, і ад ганьбы. Больш таго, ёсць усе падставы меркаваць, што вынікі працэсаў аб бацькоўстве былі б адваротнымі для жанчын. бо яны садзейнічалі б распаўсюджванню аб іх такіх звестак, якія наўрад ці трэба пашыраць.

Значыць, усё зводзіцца толькі да права спаганяць аліменты. А гэта неабходна, і гэтага настойліва патрабуюць перш за ўсё таму, што размер дзяржаўнай дапамогі адзінокім маці ў сярэднім значна ніжэй тых сум, якія яны атрымалі б ад бацькоў у якасці аліментаў. Акрамя таго, дзяржаўная дапамога выплачваецца да дасягнення дзіцем 12-гадовага ўзросту, а аліменты — да 18 год. У гэтым сутнасць пытання. Калі спасылку на няроўнапраўе мужчыны і жанчыны можна адхіліць, то ад няроўнапраўнага становішча пазашлюбнага дзіцяці і дзіцяці, якое нарадзілася ў шлюбе, нікуды не дзенешся. І, зразумела, мы пярэчым супраць неабмежаванасці іскаў аб бацькоўстве ў канчатковым выніку толькі таму, што спадзяёмся на ліквідацыю гэтай няроўнасці. Якім чынам?

Увядзенне свабоднага прызнання бацькам дзіцяці сваім і іску аб бацькоўстве пры фактычных шлюбах, а таксама ў некаторых другіх выпадках, аб чым гаварылася вышэй, выслабаніла б некаторыя сродкі з тых, якія цяпер выдаткоўваюцца на дапамогу адзінокай маці. Да гэтых сродкаў трэба было б дадаць яшчэ некаторыя сумы з тым, каб адзінокая маці атрымлівала дастаткова для ўтрымання дзіцяці, а выплаты рабіліся б да дасягнення дзіцем паўналецця.

У Балгарыі цяпер суд не абмежаван толькі тымі доказамі, аб якіх гаварылася вышэй. Але, як сцвярджае аўтар балгарскага падручніка сямейнага права Н. Меворах, ацэньваючы доказы бацькоўства, «мы павінны быць вельмі патрабавальнымі». Гэтае сцвярджэнне знаходзіцца ў адпаведнасці з балгарскай судовай практыкай.

У Польшчы іншае становішча. Фактычна там суды доўга лічылі, што «дзіця **павінна** мець бацьку», у выніку чаго іскі аб бацькоўстве задавальняліся амаль аўтаматычна. Кіруючыя ўказанні Вярхоўнага суда ПНР ад 27 чэрвеня 1953 г. прызналі такую практыку памылковай. Але па сутнасці яна, хоць і ў менш яркім выглядзе, захавалася. Аб гэтым сведчыць кніга польскага аўтара Следзіньскага, з якою мы нядаўна пазнаёміліся. «Цяпер такое права: што жанчына сказала, тое і праўда», — працягваюць, паводле аўтара, гаварыць у народзе.

Розніцу паміж балгарскай і польскай практыкай трэба тлумачыць, на нашу думку, розным становішчам у абодвух краінах дзяцей, бацькоўства якіх засталося неўстаноўленым. Дзіця, якое не мае блізкіх або калі блізкія цалкам ці часткова не могуць утрымліваць яго, у Балгарыі аліменціруецца за кошт дзяржавы. У Польшчы ж, пры наяўнасці ў краіне матэрыяльных цяжкасцей, клопаты аб дзіцяці, бацька якога невядомы, цалкам кладуцца на маці. Таму польскі суд, імкнучыся забяспечыць здавальняючыя матэрыяльныя ўмовы для выхавання дзіцяці, практычна не можа адмовіць у іску нават тады, калі няма дастатковых доказаў бацькоўства. А патрабаванне бесстароннасці пры такой сітуацыі ў сацыялістычнай дзяржаве ніколі не дасягае мэты. Суд заўсёды будзе аддаваць перавагу інтарэсам дзіцяці.

Здаецца, што вопыт Балгарыі і Польшчы павінен быць улічан. Думка аб тым, што ў будучым адзінокая маці не ва ўсіх выпадках павінна мець права на



іск аб бацькоўстве, знаходзіць падтрымку ў беларускім перыядычным друку. Але нават калі яе прызнаюць памылковай, неабходна звярнуць увагу на тое, што суд будзе мець магчымасць нармальна разглядаць іскі аб бацькоўстве толькі пры ўмове дастатковай забяспечанасці дзіцяці адзінокай маці за кошт дзяржавы да дасягнення ім 16—18-гадовага ўзросту.

Нарэшце, неабходна адзначыць, што ва ўсякім разе не трэба ўводзіць правіла, паводле якога бацькам дзіцяці лічылася б любая асоба, запісаная ў ЗАГСе са слоў маці.

Мне неаднаразова даводзілася выступаць з лекцыямі перад шырокай і рознай аўдыторыяй. На паведамленне, што мяркуецца ўвесці такое правіла, зал звычайна адзываўся выбухам смеху. У другіх выпадках людзі недаўменна паціскалі плячамі і пыталіся, ці сапраўды лектар сказаў тое, што ім пачулася.

Правіла, аб якім ідзе гаворка, немінуча выклікала б злоўжыванні. Мы паважаем жанчын, але ведаем, што і сярод іх іншы раз сустракаюцца такія, якім нельга верыць на слова.

Пытанне аб бацькоўстве іншы раз ставіцца і з другога боку. У прыватнасці выкладчыца Машкова з Мінска піша: «Па якой прычыне, калі гавораць аб так званым «пазашлюбным дзіцяці», то менш за ўсё думаюць аб ім? Магчыма нічога не варта даваць маці, але дзіця не павінна мець усё жыццё прочырк замест бацькі ў пасведчанні аб нараджэнні. Не кожная жанчына можа выйсці замуж. Некаторыя хочуць мець хаця б няшлюбнае дзіця. Яны не чакаюць аліментаў, але жадаюць, каб у іх дзяцей былі нармальныя метрыкі».

У доме адпачынку «Ждановічы» да мяне пасля лекцыі падышла жанчына, якая сказала: «Мне сорак год. Маёй сяброўцы столькі ж. Яна да гэтага часу не знайшла сабе мужа. Вы разумееце: страшна заставацца ў адзіноце, асабліва калі набліжаецца старасць. Але справа не толькі ў гэтым. Мая сяброўка даўно марыць аб дзіцяці. Не, не з дзіцячага дома. Яна жанчына здаровая, здольна вынасіць і нарадзіць сваё. Да бацькі гэтага дзіцяці яна не будзе мець ніякіх прэтэнзій, нават калі б мела на іх права. Але яна хоча, каб у метрыцы быў запіс аб бацьку».

У нашым друку таксама адзначалася, што метрыкі дзіцяці, бацька якога невядомы, трэба даваць такія самыя па знешняму выгляду, як і другім дзецям. Гэта не складана. У графе «бацька» трэба запісваць такое ж прозвішча, як і прозвішча маці. Звычайна так і бывае: бацька і маці маюць агульнае прозвішча. А імя і па-бацьку ў гэтай графе можна запісаць любыя са слоў маці або па выбару работніка ЗАГСа. Аб тым, што сапраўдны бацька невядомы, трэба рабіць спецыяльную адзнаку толькі ў кнізе запісаў аб нараджэнні.

...Разводзяцца Зінаіда Л. і Якаў Ч. У іх ужо было двое дзяцей, калі нарадзілася яшчэ двойня. Муж знайшоў, што гэта занадта — ён не мае намеру выбівацца з сіл на клопаты аб дзецях. Мець вольныя рукі — куды лягчэй і лепш. І ён пакінуў сям'ю, каб знайсці больш зручную партнёршу. Такая партнёрша трапілася, і вось суд слухае справу аб скасаванні шлюбу. Заадно высвятляецца, што не жадаючы прымаць непасрэдны ўдзел у выхаванні дзяцей, Якаў катэгарычна супраць грашовай дапамогі ім. Грошы вунь як патрэбны яму самому і яго новай жонцы. Таму ён знарок пайшоў на такую працу, дзе нічога не трэба рабіць. Праўда, там і плата такая, як і праца, але яму патрэбен не заробак. Добры кравец, ён лёгка дома заробіць адну-дзве тысячы ў месяц. Што ж датычыць аліментаў, то няхай іх бяруць з той сумы, якую ён атрымлівае на афіцыяльнай пасадзе. У выніку жонцы пераводзяць па пошце на чацвёра дзяцей 40—50 рублёў у месяц.

І гэта не такі ўжо выключны выпадак, як магло б здацца на першы погляд. Органы пракуратуры, таксама як і судовыя ўстановы рэспублікі, атрымліваюць ад насельніцтва вялікую колькасць самых разнастайных скаргаў на несправядлівае спагнанне аліментаў.

У Мінскім таксаматорным парку ў мінулым годзе працавалі шафёры, якія плоцяць аліменты. Амаль усе яны з'яўляюцца шафёрамі першага класа. Аднак чвэрць заработка ў васьмі з іх не дасягала і 100 рублёў, а ў 25 — не перавысіла 125 рублёў. У чым справа? Чаму яны не хочуць, у адпаведнасці з кваліфікацыяй, зарабляць у 2—3 разы больш, калі не ў таксаматорным парку, то на другой працы? Таму, што на другой працы няма «левых» даходаў.

Нельга пералічыць усе тыя прыёмы, якімі карыстаюцца вынаходлівыя лайдакі, каб ухіліцца ад утрымання сваіх уласных дзяцей.

А на скаргу жанчыны судовы выканаўца звычайна адказвае: «Як устаноўлена праверкай, аліменты з вашага мужа спаганяюцца ў адпаведнасці з законам». Ды і ці можа адказ быць другім? Аліментшчыкаў многа, за кожным не ўсочыш.

Але ўстаноўленай законам чвэрткі заработку, напрыклад, можа аказацца недастаткова для выхавання дзіцяці і без жульніцтва. Чвэрць месячнага заработку часам і сапраўды не дасягае ста рублёў. Чаму ж нельга прысудзіць з

такога бацькі на адно дзіця трэць яго заработку? Толькі таму, што столькі вызначана законам на дваіх? Аднак другога дзіцяці ў бацькі яшчэ няма, пакуль што трэба клапаціцца аб адным, першым.

Выклікае пярэчанні таксама правіла, у адпаведнасці з якім іск аб аліментах можна падаць толькі пры ўмове, што маці выхоўвае дзіця без непасрэднага ўдзелу бацькі. Нам аднойчы давялося сустрэць грамадзяніна, які мае трое дзяцей ад першага шлюбу і трое ў яго нарадзілася ад другой жонкі. Першыя трое атрымлівалі палавіну яго заработку толькі на сябе, а астатнім траім прыходзілася жыць на другую палавіну ўжо разам з бацькам, бабкай і дзедам. Памер аліментаў ва ўсякім разе не можа перавышаць палавіну заработнай платы асобы, якая іх плаціць. Гэта азначае, што калі б гэты грамадзянін пакінуў і другую сям'ю, то тую палавіну заработка, якую атрымлівала першая сям'я, суд дзяліў бы на абедзьве. Астатнюю палавіну грамадзянін атрымліваў бы ўжо на сябе аднаго. Але што гэта: заахвочванне пакінуць і другую сям'ю?

Выкладзеныя і некаторыя іншыя факты прымушаюць думаць, што закон аб спагнанні на адно дзіця чвэрці заработку адказчыка, на дваіх — трэці, а на трох і больш — паловы, з'яўляецца далёка не дасканалым.

Спагнанне аліментаў у адпаведнасці з долевым прынцыпам мае не толькі станоўчы бок (выключае адставанне памеру аліментаў ад росту заработку), але і адмоўны — у нейкай ступені дапамагае несумленным грамадзянам выкручвацца ад ускладзенага на іх абавязку. Таму долевую форму трэба ўжываць толькі разам з другой: прысуджаць аліменты ў працэнтных адносінах да заработку, але не ніжэй той канкрэтнай сумы, якую азначае гэты працэнт у момант прысуджэння аліментаў.

Здаецца, што трэба таксама ўлічыць адно мудрае балгарскае правіла. Там вызначаюць памер аліментаў не з таго заработку, які адказчык мае, а з таго, які ён мог бы мець, калі б сумленна працаваў у адпаведнасці са сваёй спецыяльнасцю і кваліфікацыяй.

Там, дзе долевы прынцып спагнання аліментаў выкарыстаць нельга, аліменты павінны прысуджацца ў цвёрдай суме. А памер як долі, так і цвёрдай сумы павінен устанаўлівацца судом, зыходзячы з двух момантаў — патрэб дзіцяці і магчымасцей бацькі (ці маці, калі аліменты спаганяюцца з яе). Толькі пры такой умове суд будзе мець магчымасць улічваць пры вызначэнні памеру аліментаў канкрэтныя ўмовы жыцця сям'і, а таксама ўлічваць як інтарэсы дзяцей, у карысць якіх спаганяюцца аліменты, так і дзяцей грамадзяніна ад новага шлюбу.

У заканчэнне артыкула хацелася б звярнуць увагу чытачоў яшчэ на адзін момант. У жыцці нярэдка бывае так, што муж жыве разам з жонкай і дзецьмі, але грошай дамоў не прыносіць таму, што прапівае іх. Спагнанне аліментаў мала дапамагае ў такіх выпадках. Не менш палавіны заработку грамадзянін працягвае прапіваць і робіцца ўсё больш алкаголікам, а жонка вымушана на аліменты ўтрымліваць не толькі дзяцей, але і самога аліментшчыка.

У такіх выпадках жонка нярэдка звяртаецца ў партыйную, прафсаюзную, камсамольскую арганізацыю або нават да адміністрацыі і просіць дапамагчы. Там на пасяджэнні адпаведнага бюро або на сходзе ці, нарэшце, у кабінеце дырэктара бяруць аматара выпіўкі ў добрую апрацоўку, прымушаюць каяцца і бяруць з яго слова, што «ў рот — ні грама». А каб слова гэтае ён лягчэй мог стрымаць, яму раяць выдаць жонцы даверанасць на атрыманне ўсёй заработнай платы. Яна, маўляў, разумней за цябе выкарыстае твае грошы.

Звычайна, гэта мае станоўчыя вынікі і аказваецца карысным як для сям'і ў цэлым, так і для самога п'яніцы. Але не заўсёды.

Грамадзянка Т. пісала суду ў сваёй заяве аб спагнанні аліментаў, што яна беспаспяхова спрабавала выкарыстаць апісаны метад. Ля акенца касы яе заўсёды чакала чарга крэдытораў мужа. Прычым іх было столькі, што апошнім звычайна нехапала, а жанчыне прыходзілася вяртацца дамоў з пустымі рукамі.

Якія адсюль вывады? Нам здаецца, наступныя. Трэба даць суду права прызнаваць п'яніцу часткова недзеяздольным і назначаць жонку апекуном над ім з правам атрымання яго зарплаты. Так робяць у Чэхаславакіі. У прынцыпе наш п'яніца быў бы ў аднолькавым становішчы з непаўнагадовым, які без згоды свайго апекуна не можа нічога прадаваць, пазычаць і г. д. Дружбакі і знаёмыя, якія цяпер спагадліва пазычаюць свае грошы аматарам выпіўкі, даведаўшыся, што назад іх наўрад ці атрымаеш, былі б не такімі добрымі. Спыніўся б і водпуск гарэлкі ў некаторых «забягалаўках» «пад пашпарт» і другія дакументы.



Герой Сацыялістычнай Працы, даярка саўгаса «Свіслач» Гродзенскага раёна, дэлегат XIII з'езда ВЛКСМ Марыя Занеўская.

Фота А. Дзітлава.



**Артыстка Рускага драматычнага тэатра імя М. Горкага А. Клімава ў ролі камісара ў спектаклі «Аптымістычная трагедыя».**

**Фота С. Школьнікава.**

*У свеце мастацтваў*

А. КАНТАРОВІЧ

# МАЙСТЭРСТВА СЦЭНІЧНАГА ХАРАКТАРУ

...І калі больш нічога не заставалася рабіць — грымнуў стрэл, і куля камісарскага рэвальвера на месцы забіла таго, «хто лез жартаваць з цэлай партыяй».

Наўрад ці хто-небудзь з гледачоў, якія прысутнічалі на спектаклі ў Рускім драматычным тэатры БССР імя М. Горкага і не чыталі да гэтага «Аптымістычнай трагедыі» В. Вішнеўскага, мог думаць, што такая нечаканая развязка драматычнай калізіі будзе пачаткам — і далёка не самым цяжкім — гераічнага шляху жанчыны-камісара, шляху, які далучыў сотні маральна знявечаных людзей да ідэй камунізма.

Ул. І. Неміровіч-Данчанка ў свой час пісаў аб асаблівай сцэнічнай абаяльнасці гогалеўскіх твораў, якую ён бачыў у арганічнай сувязі тэатра з гледачамі. Дасягнуць гэтай непарыўнай сувязі, адчуць, што паміж тэатральнай залай і акцёрам працягнуліся нябачныя ніці, якія злучаюць іх, — вельмі цяжка. У тэатры імя Горкага гэта непарыўная сувязь узнікае адразу, як толькі ўзнімаецца заслона і агеньчыкі папірос вядучых даюць знаць, што спектакль пачаўся. Гэта сувязь узмацняецца, калі сярод грубага, разбэшчанага натоўпу анархістаў паяўляецца кволая жанчына ў скураной куртцы. З гэтага моманту сэрцы некалькіх сотняў чалавек, якія запоўнілі залу тэатра, б'юцца ва ўнісон з яе сэрцам. Усё, што яна робіць на сцэне, становіцца поўным глыбокага сэнсу, кранае вялікай праўдай.

Нямалая заслуга ў гэтым належыць выканаўцы ролі Камісара Алесі Іванаўне Клімавай.

Да пастаноўкі «Аптымістычнай трагедыі» гледачам гэтае прозвішча было амаль невядома. Але пасля прэм'еры, на якой артыстка пакарыла ўсіх праніклівай ігрой, пра яе загаварылі. А хутка прыйшло і ўсесаюзнае прызнанне. Клімава паслядоўна стала лаўрэатам другой Прыбалтыйскай тэатральнай вясны, лаўрэатам Усесаюзнага фестывалю тэатральных калектываў, прысвечанага 40-годдзю Вялікага Кастрычніка. Ігру мінскай артысткі высока ацанілі такія патрабавальныя гледачы, як масквічы. З вялікім поспехам прайшлі гастролі і ў Вільнюсе — горадзе з багатымі тэатральнымі традыцыямі.

* * *

Бясспрэчна, у дараванні Клімавай было ўсё для гэтай ролі: унутраная сіла, прыгажосць, глыбокі моцны голас, сапраўдны драматызм. Але ўсе гэтыя даныя раскрыліся не толькі таму, што выпадкова супалі з абліччам камісара, але і таму, што ўсё ў

асобе гераіні п'есы закранала самыя запаветныя, самыя значныя струны душы артысткі. Сіла і прыгажосць духоўнага аблічча камісара, яе незвычайная пераконанасць у праваце справы, дзеля якой яна аддае жыццё, не маглі не ўсхваляваць і не выклікаць душэўнага водгуку ў артысткі. Па асацыяцыі перад вачыма Алесі Іванаўны праходзілі карціны яе жыцця, цярністы, але цікавы шлях у мастацтва. І міжволі ўзнікала думка: а што было б з ёй, дзяўчынкай з таежнага сібірскага сяла, з такой характэрнай назвай — Самадураўка, калі б не такія людзі, як камісар, якога яна павінна паказваць на сцэне?

...Яшчэ ў дзяцінстве, невядома якім шляхам зайшоўшыя ў сяло, студэнты пазнаёмілі маленькую Алесю з песнямі. Уражлівая дзяўчынка надта палюбіла музыку. Хутчэй за ўсё так і патухла б гэта ранняе захапленне, ды Алесі пашанцавала. У той час усюды ўзнікалі новабудоўлі, і ў 1929 годзе яе бацька Іван Клімаў пайшоў працаваць «на Магнітку». У Магнітагорск, які толькі пачаў будавацца, разам з бацькамі пераехала і 8-гадовая Алеся. Вучобу ў школе яна сумяшчала з заняткамі ў музычнай школе, а затым — у музычным вучылішчы. У дапытлівай дзяўчынкі хутка паяўляецца яшчэ адна схільнасць, якая прыняла яе да сучаснай прафесіі: яна стала наведваць драмгуртак пры Палацы металургаў.

У 1941 годзе Алеся закончыла дзесяцігодку. Далейшыя планы спыніла вайна. На заводзе яна працуе капіравальшчыцай. Вольнага часу было зусім мала, але яна займаецца ў драмгуртку без усялякіх скідак на цяжкасці ваеннага часу. Кожную вольную хвіліну яна выкарыстоўвае для таго, каб глыбей пранікнуць у тайны драматычнага мастацтва, якое ўжо стала неад'емнай часткай яе істоты.

Вельмі непасрэдная і шчырая ігра самадзейнай артысткі прыцягнула ўвагу. Клімаву запрашаюць у мясцовы драматычны тэатр. Праўда, пакуль яшчэ на сціплае становішча статысткі. Але работа ў тэатры, безумоўна, прынесла вялікую карысць. Выпрацоўвалася ўменне трымацца на сцэне, пераўвасабляцца, засвойваліся асновы акцёрскай тэхнікі.

Але мара аб вышэйшай тэатральнай адукацыі не пакідае маладую артыстку. Пасля Вялікай Айчыннай вайны яна пакідае тэатр для таго, каб прадоўжыць адукацыю ў Маскве.

Гады навучання пад кіраўніцтвам праслаўленай савецкай артысткі Веры Мікалаеўны Пашэннай Алеся Клімава ўспамінае, як лепшую пару свайго жыцця. У 1950 годзе яна выдатна завяршае вучобу ў вучылішчы імя М. С. Шчэпкіна і атрымлівае запрашэнне ў Адэскі драматычны тэатр імя А. В. Іванова.

І вось тут, у Адэсе, Клімава ўпершыню сустракаецца з камісарам — роллю, якая стала потым самай значнай і любімай. Не, да «Аптымістычнай трагедыі» было яшчэ далёка. Але...

Украінскі пісьменнік В. Сабко напісаў п'есу «Жыццё пачынаецца зноў». Па сутнасці, гэта сцэнічны варыянт яго вядомага рамана «Залог міру». Але ў п'есе цэнтральнае месца і больш глыбокую псіхалагічную характарыстыку атрымаў вобраз нямецкай артысткі Грэты Норман. П'еса вяртае нас да першых пасляваенных гадоў у Германіі, калі перад нямецкімі майстрамі культуры востра стала пытанне: каму яны аддадуць свой талент і веды — народу або мілітарысцкім колам, якія выношваюць бязглуздыя планы рэваншу? Такое ж пытанне стаяла і перад Грэтай Норман.

Цяжкі і звілісты быў шлях гераіні. Але дзякуючы бескарыслівай дапамозе савецкіх сяброў і сапраўдных нямецкіх патрыётаў Грэта прымае правільнае рашэнне: яе мастацтва павінна служыць народу. І першым крокам на гэтым шляху была згода сыграць у новым, дэмакратычным тэатры ролю жанчыны-камісара ў рускай савецкай п'есе «Аптымістычная трагедыя».

**«Аптымістычная трагедыя». Важак — Кістаў, Сіплы — Г. Качаткоў, Камісар — А. Клімава, Аляксей — Г. Някрасаў.**





Ёсць у п'есе Сабко такая сцэна. Грэта, іграючы камісара, у перапынку паміж актамі прыходзіць у свой артыстычны пакой. У скуранцы, з рэвальверам на поясе, яна доўга не можа пазбавіцца ад пачуццяў, навеяных толькі што перажытым на сцэне. Алесі Іванаўне, якая ірала гэтую ролю, прыйшлося многа перадумаць, прачытаць пра ролю Камісара, якая так усхвалявала яе гераіню. Ужо тады разам з пастаноўшчыкам была прасочана лінія Камісара ў ролі Грэты Норман, прадуманы дэталі касцюма. Словам, гэта была першая заяўка.

Вобраз нямецкай артысткі Норман, створаны Клімавай, прынёс ёй даволі шырокую вядомасць. Было гэта ў дні падрыхтоўкі да дэкады ўкраінскай літаратуры і мастацтва ў Маскве. Кіеўскі тэатр імя Лесі Украінкі збіраўся паказаць у Маскве спектакль па п'есе В. Сабко. І на ролю Грэты Норман была запрошана Клімава.

...Незабыўныя дні ўкраінскай дэкады 1951 года ў Маскве. Клімава з поспехам выступае на сцэне МХАТа ў ролі Норман. Не можа забыць Алеся Іванаўна і ўдзелу ў спектаклі па п'есе Л. Талстога «Жывы труп», у якім яна іграла цыганку Машу, а Федзю Пратасава — лепшы выканаўца гэтай ролі ў краіне, народны артыст СССР Міхаіл Фёдаравіч Раманаў.

...У Мінск Алеся Клімава прыехала ўжо вопытнай артысткай. Можна сказаць, што ў сэнсе накопленага вопыту да стварэння такога класічнага вобраза, як Камісар у п'есе Вішнеўскага, яна была дастаткова падрыхтавана. Але артыстка добра разумела, што сам па сабе вопыт не можа яшчэ даць ключа да раскрыцця вобраза. Наадварот, іменна вопыт падказаў ёй, што для таго, каб сыграць такі маштабны і шматгранны характар, неабходна старанная, усебаковая падрыхтоўка і велізарная работа.

Алеся Іванаўна такі чалавек, які заўсёды шукае, заўсёды незадаволены дасягнутым, не церпіць застою ў сваёй рабоце. Дзесьці артыстка прачытала, што асноўныя рысы Камісара аўтар узяў з біяграфіі цудоўнай жанчыны-рэвалюцыянеркі Ларысы Рэйзнер. На жаль, пра яе вельмі мала напісана. Але як многа ўзята са скупых радкоў! У старых кніжках пра грамадзянскую вайну артыстка прачытала аб другой жанчыне-гераіні — Яўгеніі Бош, і вось ужо ўражанні сінтэзіруюцца і паяўляюцца контуры будучага



**«Аптымістычная трагедыя». Камісар — А. Клімава, Аляксей — Г. Някрасаў.**

характару. У іх яшчэ нехапае некаторых дэталей, і новыя кнігі аб гераінях грамадзянскай вайны, Айчыннай вайны, гутаркі з удзельнікамі памятных падзей ствараюць недастаючае звяно.

Але вось, нарэшце, учарне вобраз гатовы. Цяпер яго трэба канкрэтызаваць на матэрыяле п'есы. Чым жыве кожную хвіліну герой, якая яго лінія паводзін у наступным эпізодзе, як ідзе развіццё характару, якія асаблівасці характару? Тысячы пытанняў, задач, якія нараджаюць новыя задачы, дзесяткі рэпетыцый, на якіх разам з партнёрамі пад кіраўніцтвам пастаноўшчыка правяраюцца варыянты, шліфуецца знойдзенае. Да акцёрскай работы цалкам дастасавальны словы Ул. Маякоўскага: «Изводишь единого слова ради тысячи тонн словесной руды». Толькі якой мерай можна вымераць акцёрскую «руду» — творчую энергію!

Але вось, нарэшце, усё засталося за плячыма і работа акцёра, хутчэй вынік гэтай работы, прадстаўляецца гледачу...

* * *

В. Вішнеўскі ахарактарызаваў «Аптымістычную трагедыю», як «сумiраваныя ўражанні з гісторыі раду марскіх атрадаў. Усе яны праходзілі перыяд анархакамітэтчыны. З канца 1918 года ўвялі мы камісарскі пачатак... затым у 1919 г. яшчэ больш

строгія асновы рэгулярнасці. Такім чынам тут — у п'есе — зліты справы многіх атрадаў 18 і 19 гадоў...» Такая гістарычная аснова п'есы, узятая з жыцця. На гэтым гістарычным матэрыяле драматург ставіць вялікія праблемы жыцця, прапануючы «падумаць, зразумець, што па сутнасці для нас барацьба і смерць...»

Спектакль пачынаецца з таго, што ў матроскі атрад, які апынуўся ва ўладзе дробнабуржуазнай, анархічнай стыхіі, прызначаецца камісар. Рэжысёр спектакля М. Л. Співак не шкадуе фарбаў для таго, каб паказаць карціну разбэшчанасці атрада. Наогул, рэжысёрскаму почырку Співака ўласцівы кантрасты, супрацьпастаўленні, якія могуць найбольш ярка адлюстраваць вастрыню канфлікту... Прамень святла выхоплівае нагу матроса, які спіць на баявой рубцы, побач—хлапец у цяльняшцы лузгае сланечнік, плятуцца, пераступаючы цераз ляжачых, два маракі, напяваючы сумную песню качагараў, «забаўляецца» Аляксей, сумуе Вайнанен. І раптам нешта недаступнае розуму спыняе прывычнае цячэнне атраднага жыцця. На караблі паяўляецца жанчына.

Гэту сцэну рэжысёр, імкнучыся дабіцца высокага гарту дзеяння, ставіць некалькі інакш ад таго, што напісана ў п'есе. Не, не да «натоўпу мужчын, якія стаяць у напружаным маўчанні», падыходзіць жанчына, а праз строй анархістаў, якія рагочуць, ідзе камісар.

**«Аптымістычная трагедыя». Камісар — А. Клімава, Камандзір—Я. Карнаухаў.**



Па-рознаму можна было сыграць гэты эпізод. І найбольш магчымы, але, відавочна, найменш перанакальны шлях заключаўся б у тым, каб прайсці з горда ўзнятай галавой, не заўважаючы агідных выхадак матросаў. Але гераіні Клімавай уласцівы рысы вялікай чалавечнасці. Як і ўсе людзі, яе герой можа стамляцца, здзіўляцца, ён нават на нейкае імгненне можа паддацца пачуццю няўпэўненасці, страху. Але ў тым і сіла, прывабнасць гэтай жанчыны, што дзякуючы жалезнай сіле волі, яснаму розуму, веры ў справу, дзеля якой змагаецца, яна ўмее хутка пераадольваць сумненні, стомленасць, страх. Адчуваецца, што артыстка ўвесь час памятае заўвагу драматурга аб Камісары: «Сутнасць у розуме і волі». І гэта лінія ў вобразе арганічна зліваецца з незвычайнай чалавечнасцю гераіні Клімавай. Вось чаму дзікія выпады анархістаў спачатку прыводзяць Клімаву-Камісара ў здзіўленне. Шырока раскрытыя вочы артысткі падкрэсліваюць нечаканасць таго, што адбываецца. Вядома, Камісар ведала, што яе сустрэнуць у штыкі, але таго, што адбываецца на караблі, яна не чакала. Між іншым, Клімава-Камісар хутка прыходзіць у сябе ад першага замяшання. Гэта праяўляецца ў той сабранасці, якая пачынае адчувацца ва ўсім абліччы Камісара: у цвёрдай мернай паходцы, павольных і ўпэўненых рухах, спакойнай і перанакальнай манеры гаварыць.

Але вось набліжаецца новае страшэннае выпрабаванне: група анархістаў спрабуе згвалціць яе. Артыстка праводзіць гэтую сцэну надзвычай дынамічна. Сэнс таго, што адбываецца, зразумелы; важна правільна ацаніць становішча: што гэта — жарт ці праверка? Яна хутка дапытліва глядзіць на людзей, усе рухі іх знаходзяць у Клімавай-Камісара «ледзь улоўныя контррухі», мы як быццам адчуваем, як шалёна б'ецца сэрца Камісара, як стукае ў скронях кроў. Выстрал у гвалтаўніка — гэта толькі пачатак поспеху, яго трэба развіць і артыстка фарсіруе падзеі. Звонкі голас, імклівыя рухі з рэвальверам то да аднаго, то да другога: «Ну хто яшчэ хоча паспрабаваць камісарскага цела?», і калі зразумела ўжо, што першая бітва выйграна, можна дазволіць заспакоіць сябе. Толькі дрыжачыя пальцы на папяроснай каробцы выказваюць перанесенае толькі што нечалавечае напружанне.

Такім чынам, валявая лінія характару вызначана. У чым жа сутнасць розуму ў вобразе? Гэта лінія вынікае



з галоўнай задачы, пастаўленай перад Камісарам партыяй: з анархістаў трэба стварыць баявы рэгулярны атрад Чырвонай Арміі. Для гэтага трэба выявіць суадносіны сіл у атрадзе і зрабіць так, каб яны былі ў карысць Камісара. Ясна, верхаводзіць у атрадзе Важак. Сіла яго здаецца неадольнай. Назначаны камандзірам былы царскі афіцэр не карыстаецца ў атрадзе ні павагай, ні давер'ем; улада боцмана мізэрная; уплыў кучкі камуністаў пакуль нязначны. Дзесьці паміж усімі групамі, але фармальна бліжэй да Важака, знаходзіцца праўдашукальнік Аляксей. Зразумела, што ў такой сітуацыі пераходзіць да наступальнай тактыкі нельга. Трэба знішчыць Важака, прыцягнуць на свой бок (а калі не ўдасца, то нейтралізаваць) камандзіра, захапіць матросаў сілай уласнага прыкладу, запаліць у іх веру ў ідэі камунізма. Такая тактыка Камісара — пасланца вялікай партыі.

Першая разведка на гэтым шляху — размова паміж «высокімі дагаворнымі бакамі». На адным баку — Важак і Сіплы, на другім — жанчына ў скураной куртцы. Пасярэдзіне — Аляксей.

Адказваючы на запрашэнне Важака: «Можа, пагаворым?», Клімава-Камісар ставіць перад сабой задачу— распазнаць гэтых людзей, якія змаглі падначаліць свайму ўплыву пераважную частку байцоў атрада.

Артыстка проста стварае гэту сцэну. Так, яна і сама не супраць павучыцца ў іх, так, работу трэба весці з тымі людзьмі, якія ёсць, а не з тымі, якіх уяўляеш. Гэтыя словы, сказаныя звычайным тонам і неяк зусім будзённа, дазваляюць нам зразумець адну з істотных рысаў характару гераіні Клімавай: Камісар здзіўляючы сціплы, умее не выдзяляць сябе з акружаючага асяроддзя, не станавіцца над масай. Але гэта адзін бок, які датычыцца яе, Камісара, асобы. А вось калі Клімава-Камісар адказвае на абвінавачванне Важака, які папракае партыю, што яна дыктуе анархістам умовы, — у голасе артысткі чуецца металёвы звон. Інтанацыя яе такая, што глядач выразна адчувае падтэкст сказаных слоў: партыя змяце са свайго шляху ўсіх, хто стане напоперак дарогі.

... Нарэшце, усё становіцца явай. Клімава-Камісар даведваецца ад абуранага Аляксея, што гэта Важак паслаў гвалтаўнікоў, калі яна ўпершыню паявілася на караблі. Не, яна ўспрыймае гэты факт не як само сабой зразумелае. У вачах бліснула здзіўленне, на нейкае імгненне яны адлюстравалі недавер'е (якое вераломства!). Наступная фраза, звернутая не столькі да Важака, колькі да Аляксея, з'яўляецца праверкай: «Ну, вядома, вы жартаўнік... Адразу відаць». У інтанацыях артысткі яўна прамільгнула жаданне, каб сказанае Аляксеем аказалася няпраўдай. Але гэта праўда. І Клімава-Камісар мяняецца. Не, з гэтым воўкам у авечай шкуры трэба паводзіць сябе інакш. Наступная фраза ўжо гучыць як папярэджанне.



**«Аптымістычная трагедыя». Камісар— А. Клімава, Боцман—Кулакоў.**

Але вось Важак дапускае першы тактычны промах. Для таго, каб даказаць сваю сілу, ён забараняе развітальны баль перад паходам на фронт. Камісар карыстаецца пралікам ворага. Клімава добра паказвае, што рашэнне яе гераіня прымае пасля доўгага роздуму (яна «наогул больш думае і наглядае, чым гаворыць»). ...Застылі ў чаканні адказу матросы. Доўга глядзіць яна на Аляксея, узважваючы ўсе «за» і «супраць», ацэньвае яго задзірыстае: «Два разы прасіць, ну!», выслуханы пярэчанні Сіплага і ў поўнай цішыні чуецца ўпэўненае, без хістанняў: «Развітальны вечар!».

Ігра Клімавай у першым акце перанакальна пацвярджае відавочную ісціну: вобраз Камісара настолькі шматгранны і разнастайны, а сюжэт п'есы пабудаваны так, што ўсё гэта патрабуе ад выканаўцы няспыннага гарэння на сцэне, выкарыстання ўсіх багаццяў акцёрскай палітры. У першым акце мы бачым толькі пачатак канфлікту, але тое, што перажыта ўжо і сказана артысткай, стварае ўражанне аб Камісары, як аб поўным і

закончаным характары. Тым больш радасна, што ў наступным развіцці вобраза, якое Клімава вядзе па ўзыходзячай лініі, мы знаёмімся з новымі рысамі характару гераіні. Праяўляюцца яны ў іншых акалічнасцях, у якіх сіла гэтай жанчыны падаецца ў параўнанні з той сілай, якую яна збіраецца зламаць. І толькі параўнанне дапамагае зразумець веліч подзвігу Камісара.

Вось Камісар у баі. Не вытрымаўшы агню праціўніка, адступаюць матросы. Поўны абурэння і насмешкі голас Камісара спыняе людзей: «Не ў той бок наступаеце, ваенныя маракі!» — і натхнёны прыкладам гэтай жанчыны, полк смела кідаецца ў контратаку.

Змена карціны пераносіць нас на стаянку палка. ...Раніца пасля бою. Дзяўчына ў белым кафтаніку піша пісьмо, упаўголаса паўтараючы простыя, звычайныя словы.

Рэжысёр і артыстка знаходзяць для гэтага эпізода на першы позірк нязначныя, але вельмі істотныя дэталі.

...Погляд Клімавай-Камісара накіраваны ў залу, здаецца, што яна гаворыць з маці аб самым патаемным, як прывыкла калісьці размаўляць з ёю. Але вось стомленасць бярэ сваё, сон сплюшчвае павекі, павольна схіляецца галава на стол. Намаганнем волі Камісар прымушае сябе ўстаць. З салдацкага кацялка змочаны скроні. Ясна — Камісар усю ноч працавала. Вайнанен прыносіць сціплы паёк — такі ж, як і ўсім байцам палка. Штрых, які характарызуе Камісара, як чалавека, які без скідак пераносіць усе цяжкасці паходнага жыцця. Гэтыя дэталі, не знаходзячыся ў супярэчлівасці з рамантычна-ўзнёслым ладам спектакля, дапамагаюць больш глыбокаму і разнабаковаму раскрыццю вобраза. Вядома, што ў першыя гады нараджэння савецкага тэатра, ды і ў наступныя гады, многія акцёры, спрабуючы стварыць сцэнічны вобраз камуніста-рэвалюцыянера, карысталіся аднымі і тымі ж фарбамі. Вобразы гэтых людзей атрымліваліся на адзін манер: суровыя, рашучыя, сухія, аскетычныя. Узнік сцэнічны стандарт «жалезабетоннага камісара», у якім вельмі мала было агульначалавечага.

Вось чаму М. Л. Співак і артыстка, імкнучыся пазбегнуць сцэнічнага штампа, шукаюць такія штрыхі, якія дапамаглі б вырашэнню галоўнай задачы — выяўленню ў вобразе Камісара тыповых рысаў характару народнага героя.

Пацверджаннем гэтага служаць выдатна вырашаныя рэжысёрам і артысткай сцэны з Аляксеем і Берынгам.

Камандзір і Аляксей — палярныя асобы. Нягледзячы на ўменне запускаць «славесныя букеты» і незвычайны прыродны розум, Аляксей малапісьменны. Гэты праўдашукальнік, член партыі «ўласнага крытычнага розуму» дзякуючы дэмагогіі анархістаў заблытаўся ў трох соснах. Вось чаму для Клімавай-Камісара важна знайсці ў размове з ім пункт сутыкнення і, грунтуючыся на ім, даказаць сілу і правату бальшавікоў. Такім пунктам сутыкнення з'яўляецца размова аб лёсе Расіі, які неабыякавы Аляксею.

У гэтым эпізодзе словы Клімавай-Камісара дасягаюць надзвычай дзейснай сілы дзякуючы таму, што артыстка не становіцца на шлях павучальных сентэнцый, або, што яшчэ горш, на дэкларыраванне прапісных ісцін. Клімава-Камісар шукае шлях да сэрца Аляксея ў сяброўскай гутарцы, ніколькі не зніжаючыся да пошуку таннай папулярнасці. Для яе Аляксей — хворы чалавек, якога можна вылячыць толькі праўдай. А праўду трэба паднесці так, каб думка Камісара набыла сілу канкрэтнага дзеяння. Вось чаму Клімава ўкладвае ў маналог усю веру ў светлую будучыню, і як бы запрашаючы зазірнуць у яе Аляксея, абдымае яго, паказваючы гэтым жэстам агульнасць імкненняў, якія іх звязваюць. І глядач фізічна адчувае, як павольна, але верна адтайвае неспакойнае сэрца Аляксея, як псіхалагічна апраўдана гучаць яго словы аб лёсе селяніна: «У долю — гэта ён пойдзе».

Камандзір — іншая справа. Выхадца з саслоўных класаў, які да рэвалюцыі быў «высокім благароддзем», яго не любіць амаль увесь атрад. Замкнуты, насмешлівы, адзінокі. Але ў начным баі ён праявіў сябе выдатна. Што гэта за чалавек? Ці нельга зрабіць яго да канца карысным Радзіме?

У дыялагу з камандзірам Клімава-Камісар паўстае ў новай якасці. Талент палеміста, высокая эрудыраванасць, інтэлектуальнасць, інтуіцыя камуніста-кіраўніка дапамагаюць гераіні знайсці ключ да сэрца гэтага чалавека, зразумець, што за раздвоенасцю, замяшаннем, ляжыць глыбокае пачуццё любві да Расіі.

Асабліва запамінаецца вырашаны артысткай своеасаблівы, але напоўнены жыццёвай праўдай эпізод партыйнага сходу.



Трэба пакласці канец панаванню Важака. Ідзе размова:

— Хто гатовы ахвяраваць галавой?

— Навошта?

— А бывае, што ў партыі не пытаюць.

Выклікаецца стары матрос. Ён будзе гаварыць перад палком. Калі яго заб'юць, будзе гаварыць Вайнанен. Калі і ён загіне, будзе гаварыць наступны. Такія ўказанні Камісара.

І раптам, у глыбокай насцярожанай цішыні чуецца недаверлівы голас: «Чаго не зразумець! Гэтага заб'юць, другога заб'юць, а ты што сама?»

Клімава-Камісар у недаўменні. Да яе спачатку нават не даходзіць сэнс пытання. Няўжо ім незразумела, што калі яна, Камісар, пасылае людзей на смерць, дык... і мякка ўсміхнуўшыся амаль дзіцячай усмешкай, адказвае (але так, што «мурашкі на спіне забегалі»): «Я! Я сама і пачну таварышы».

Сцэна самасуда над двума палоннымі афіцэрамі, якая перапоўніла цярпенне маракоў, і з'яўляецца тым момантам, калі вырашаецца лёс палка. Але чаму Клімава-Камісар не выступае неадкладна супраць Важака, чаму перадавярае іншым? Ці няма тут супярэчнасці з толькі што зробленай заявай аб тым, што яна пойдзе першай? Не, Клімава праводзіць гэту сцэну так, што не застаецца сумнення ў пабуджальных прычынах такіх паводзін яе гераіні. Змяніліся абставіны і паявілася рэальная магчымасць знішчыць Важака рукамі людзей, якія яму верылі. Гэтым адразу можна вырашыць дзве задачы: знішчыць завадатара анархістаў фізічна і развянчаць анархізм ідэйна. Гэта сцэна — кульмінацыйная ў спектаклі. Вось калі праяўляецца ўся веліч стратэгіі і тактыкі Камісара, і артыстка стараецца быць на ўзроўні гэтай задачы.

У першых спектаклях Клімаву яшчэ можна было ўпікнуць у некалькі аднабаковай трактоўцы вобраза. Артыстка рабіла акцэнт на раскрыцці рысаў Камісара, якія характарызуюць яго, як партыйнага работніка, надзеленага службовымі функцыямі. Між тым, жаночы вобраз, выведзены Вішнеўскім у п'есе, паглыбляе маральную праблематыку «Аптымістычнай трагедыі», несучы ў сабе і функцыю ўзмацнення кантрасту паміж двума варожымі сіламі. Таму ў працэсе работы над вобразам пастаноўшчык М. Л. Співак і артыстка пайшлі па лініі паглыблення лірычнага пачатку ў ім. Клімава і Г. Някрасаў (які іграе ў спектаклі Аляксея) з вялікай шчырасцю паказваюць нараджэнне вялікага пачуцця, якое толькі ледзь, пунктырам, намечана драматургам. Гэта зрабіла вобразы персанажаў больш пераканальнымі і жыццёвымі. Ацэньваючы гэты бок спектакля ў Мінскім тэатры, маскоўскі рэжысёр А. Ганчароў пісаў у часопісе «Тэатр»: «І здаецца, ні ў адной пастаноўцы не былі яшчэ так дакладна і захапляюча прасочаны ўзаемаадносіны Аляксея і Камісара».

Ёсць свая заканамернасць у тым, што не ўсё аднолькава ўдаецца артыстцы. У многім гэта выцякае з няправільнай трактоўкі некаторых персанажаў спектакля. Так і незразумелай застаецца лінія Камісар — Сіплы. Судакранаюцца яны ў спектаклі многа, але неяк дзіўна адносіцца Камісар — Клімава да Сіплага. Увесь лад пастаноўкі падказвае, што Сіплы — такі, якім ён іграецца ў тэатры, — не павінен пазбегнуць лёсу Важака. Між тым, ствараецца ўражанне, што Камісар-Клімава . пабойваецца Сіплага. Ці не адбываецца гэта змяшчэнне акцэнтаў ад няправільнай інтэрпрэтацыі гэтага вобраза ў горкаўцаў? Ва ўсякім выпадку ў п'есе Сіплы — анархіст, які паходзіць з кулакоў і ўмее тонка ўтойваць сваё аблічча за псеўдарэвалюцыйнымі фразамі, прыкрываць сваю злую волю воляй матросаў.

Аднак гэта прыватныя недахопы. Спектакль «Аптымістычная трагедыя», з'яўляючыся этапным не толькі для калектыву тэатра, але і для ўсяго беларускага тэатральнага мастацтва, хвалюе сваёй суровай праўдай, рамантыкай рэвалюцыйнай барацьбы, перамогай Дабра над Злом, Жыцця над Смерцю. Нямалую долю ў такое вырашэнне спектакля прынесла і Алеся Іванаўна Клімава.

К. С. Станіслаўскі гаварыў: «Так, трэба і можна захапляцца сваёй прафесіяй, трэба любіць яе аддана, палымянай любоўю, але не за яе самую, не за тыя лаўры, не за тую асалоду, якую яны прыносяць мастаку, артысту, а за тое, што выбраная вамі прафесія дае вам магчымасць гаварыць з гледачом аб самых важных і патрэбных яму ў жыцці рэчах, ...рабіць яго чысцейшым, лепшым, разумнейшым, больш карысным для грамадства».

Іменна такія адносіны да мастацтва, уменне не абмяжоўваючыся рамкамі спектакля смела ўрывацца ў жыццё, характэрны для А. І. Клімавай.

І ў гэтым — сакрэт яе поспеху.

Падводная скала, абросшая цыстазірай.



Марлен АРОНАЎ

# З МАСКАЮ І ЛАСТАМІ ПАД ВАДОЙ

### Калі глядзіш на марское дно

Два светы—наземны і падводны—існуюць, не бачачы адзін другога, раздзеленыя зыбучаю, напаўпразрыстаю перагародкаю. Убачыць тое, што адбываецца пад вадою, нам удаецца не заўсёды, а толькі ў вельмі ціхае надвор'е, калі паверхня мора або ракі бывае роўная і гладкая, як люстэрка. І вось мы ўглядаемся ў празрыстую тоўшчу вады, і перад нашым позіркам узнікаюць казачныя падводныя лясы, сярод зараснікаў снуюць рыбы, праплываюць крабы і яшчэ нейкія невядомыя насельнікі вады. І рыб, і крабаў усе мы бачылі выцягнутых на сушу, але тут, пад вадой, у сваёй стыхіі, яны выглядаюць куды цікавей...

Упершыню наглядаць жыццё падводнага свету мне давялося ў бухце Ласпі—цудоўным, ціхім кутку Паўднёвага Крыма. Надвор'е выдалася бязветранае, ціхае, і пад спакойнаю паверхняю вады выразна праступала дно.

У моры, паблізу ад берага, ляжалі два вялізныя камяні, глыбіня дна пад імі дасягала амаль чатырох метраў. З гэтых каменняў вельмі зручна было назіраць усё, што адбывалася пад вадою. Проста пад каменнямі віднеўся галечнік, справа—марскі пясок, а крыху водддаль—падводныя камені, якія скрозь абраслі бурымі водарасламі цыстазіры-барады. Гэтыя ж водарaслі ўтварылі непадалёку цэлыя падводныя зараснікі.

І вось нечакана ў адным месцы заpаснікі гэтыя закалыхаліся, і з іх выплыла дзіўная рыбіна яркага сіне-зялёнага колеру. Павольна, спакойна, ледзь варушачы плаўнікамі, яна праплыла над лесам водарасляў, над галькаю і схавалася пад маім каменем. Мне здалося, што я ўбачыў чырванаватыя крапінкі на яе баках. Дык гэта ж зелянушка, як яе іншы раз называюць, або чубан-паўлін! Але такіх вялікіх зелянушак я яшчэ не бачыў.

Назіраць за рыбаю ў яе прыродным асяроддзі надзвычай цікава. Не так даўно на маляўнічым возеры Нарач у ясныя сонечныя ранкі мне давялося наглядаць цікавыя здарэнні, што адбываліся пад вадою. З лодкі мне была відаць кожная палоска на целе цікаўных зялёных акунёў. Паплавок мой ляжаў спакойна, і было відаць, як рыба падплывае да нажыўкі, ходзіць вакол яе. Каб абудзіць у нерашучай рыбіны жаданне праглынуць чарвяка, я злёгку пацягнуў леску ўверх. Акунь кідаўся наўздагон за чарвяком і трапляў на кручок. Выявілася, што такім жа чынам можна лёгка падманіць і уклею, чародкі якой звычайна праплывалі безуважна каля самай, здавалася, прынаднай нажыўкі. Але варта было крышку павадзіць вудзільнам уверх і ўніз, як вакол кручка збіраліся цэлыя чародкі уклеі і наперабой кідаліся на нажыўку.

Цяпер мора, як некалі вялікае беларускае возера Нарач, дазволіла заглянуць у свае багатыя глыбіні.

Над зараснікамі бурых водарасляў з'явіліся вялікія срабрыстыя рыбы. Праплываючы каля падводных каменняў, яны, здавалася, прасавалі цыстазіру жыватом, ходзячы па ёй уза-



перад. Гэта — кефалі. Убачыць іх усяго ў якіх пяцідзесяці метрах ад берага мне давялося ўпершыню. Да гэтага я іх бачыў толькі над глыбінямі.

Рыбы гэтыя былі даволі смелыя, і калі хто-небудзь даваў нырца, яны на момант знікалі, а потым падплывалі зноў. Можна было бачыць, як яны выплываюць з-за выступу скалы, раскрываючы свае авальныя раты.

Неўзабаве я заўважыў нейкі рух у тым месцы дна, дзе быў пясок. Па дну рухалася кароткімі праплывамі плоская рыбіна. Гэта камбала. Падплыўшы да майго каменя, камбала спынілася і праз момант зашылася ў пясок.

Тут ужо я не вытрымаў. Нырнуць было справай двух секунд. Пад вадой я расплюшчыў вочы. Казачны падводны свет, які я наглядаў з каменя, неяк расплыўся, нібы ў сне, усё нібы страціла свае абрысы. З вялікай цяжкасцю па светлых плямінах пяску мне ўдалося знайсці месца, дзе схавалася рыбіна. Але я скаламуціў ваду і таму ўжо нічога не ўбачыў, толькі адчуў пад пальцамі шурпаты бок рыбіны. Але і ён выслізнуў з пальцаў, і ў мяне ў руках засталося з прыгаршчы пяску.

Марское дно валодае нейкай таямнічай уладаю. Той, хто яго ўбачыў, абавязкова імкнецца ўбачыць яшчэ і яшчэ раз. Вабіла яно і мяне. Я вырашыў набыць сабе спецыяльную маску, каб падводны свет не расплываўся перад вачамі і каб можна было плаваць між водарасляў, як тая зелянушка. Тым больш, што гэтая маска магла спатрэбіцца і для маёй работы.

Пасля падводнага палявання.



### Пад іскрыстаю плянёнкаю

Першыя выпрабаванні масак, ластаў і спецыяльных падводных стрэльбаў мы праводзілі ля скалістага ўзбярэжжа за Балаклавай.

Уражанне ад першага спуску пад ваду ў масцы незабыўнае. Перш за ўсё здзіўляе надзвычайная аб'ёмнасць і рэльефнасць усіх падводных прадметаў. Кожны камень відзён настолькі выразна, што на ім бачыш кожную шчылінку ці драпінку. Воддаль ад паласы прыбою ледзь пакалыхваецца кудлатая цыстазіра. Можна разгледзець кожную яе галінку. Калі праплываеш паміж каменнямі, здаецца, што зараснікі абступаюць цябе з усіх бакоў.

Зусім нязвыклай для вока з'яўляецца своеасаблівасць і яркасць фарбаў падводнага царства. Белыя крэйдавыя камені ля самага пляжа, далей—рудаватыя водараслі з нейкімі стракатымі крапінкамі на галінках, рознакаляровыя рыбы: зялёныя, карычневыя, чырвоныя—усё гэта выглядае незвычайна ярка і маляўніча ў праменнях сонца, што прабіваюць тоўшчу вады. Калі глядзіш у бок адкрытага мора, відаць, як дно ў далечыні паступова цямнее, а потым знікае ў туманным марыве. Недзе там—«падводны гарызонт». Пазней, пад Херсанесам, мне давялося нацешыцца «падводным гарызонтам» пры надзвычай празрыстай вадзе і слабым рассеяным сонечным святле. Відовішча было незвычайнае. Зараснікі цыстазіры на дне чаргаваліся са светлымі пясчанымі палямі, над якімі павольна праплывалі шэрыя кефалі. Вада здавалася блакітнай. Дно было відаць вельмі далёка, яно павольна паніжалася і недзе там, за «гарызонтам», знікала ў сінім тумане.

І яшчэ вельмі здзівіць кожнага, хто ўпершыню апусціцца пад ваду, мноства рыбы. Птушак у лесе ясным сонечным ранкам куды менш, чым рыбы ў зарасніках цыстазіры. Стракатыя сабачкі, яркія зелянушкі, карычневыя губанчыкі розных відаў, паласатыя каменныя акуні, чародкі смарыды і дробнай стаўрыды, цікаўныя чорныя манахі, або, як іх завуць, марскія ластаўкі, — усё гэта плавае, снуе ўзад-уперад, варушыць плаўнікамі.

Пасля першага спуску пад ваду я зразумеў, што да гэтага часу ўяўленне пра мора ў мяне было ніколькі не больш, чым у спрадвечнага жыхара стэпу пра веліч горных вяршынь.

Рыбы гэтак жа рэдка бачаць сушу,

як мы—марское дно. З-пад вады, ды яшчэ і неспакойнай, зусім не відаць берага. Водная паверхня знізу, з вады, выглядае нейкаю незвычайнаю зыбучаю зіхатліваю плёнкаю. Калі паглядзець на гэтае срабрыстае пакрывала насупраць сонца, то бляск яго слепіць вочы; калі ж падплываеш да берага, на які набягаюць хвалі, здаецца, што расцягваецца і скарачаецца нейкая велізарная бліскучая плёнка, якая аддзяляе наземны свет ад свету рыб, водарасляў, падводных каменняў.

* * *

Маскі для плавання пад вадою ўяўляюць сабой круглыя ілюмінатары ў гумавай аправе з гумавымі раменьчыкамі для замацавання на галаве. Збоку маскі ёсць адтуліна, у якую ўстаўляецца сагнутая пластмасавая трубка з клапанам-паплаўком. Дыхаць трэба праз маску. Пры апусканні ў ваду клапан павінен закрыць трубку і засцерагчы маску ад запаўнення вадой.

Прызвычаіцца да маскі не так проста. У мяне непрыемнасці пачаліся з таго, што пасля першых жа выдыханняў моцна пацела шкло, і праз гэты туман нічога нельга было ўбачыць. Памагчы гэтай бядзе можна было, націёршы шкло алоўкам, якім націраюць акуляры ў супрацьгазах. Але такога алоўка ў мяне не было.

Разам са мной вучыўся плаваць пад вадою ў масцы адзін з ленінградскіх дзіцячых пісьменнікаў—Святаслаў Сахарноў. Яго апавяданні і казкі звязаны з «марскою тэматыкай», і яму неабходна было папоўніць сваю творчую фантазію запасам рэальных нагляданняў. І вось разам з ім мы пачалі прыдумваць, як лепей прыстасаваць маску.

Каб не пацела шкло, мы паспрабавалі надзець яе так, каб яна закрыла толькі нос, а рот застаўся не пад маскаю. Праз нос мы ўдыхалі паветра, а праз рот выдыхалі пузыры ў ваду. Сапраўды, так было лепш, шкло перастала пацець, і нейкі час можна было наглядаць, што дзеецца навакол. Але нядоўга, бо пры такім становішчы маскі пры ўдыханні ў нос трапляе зусім непажаданая колькасць марской вады.

Забракаваўшы і гэты варыянт, мы, нарэшце, знайшлі такі выхад: з маскі вынялі пластмасавую трубку з клапанам, а адтуліну заткнулі гумавым коркам. Тоўстая гумавая трубка бралася ў зубы і прадзявалася свабодным канцом пад раменьчык на паты-



Падводны паляўнічы ў масцы.

ліцы. Зверху над галавою тырчэў яе канец даўжынёю 15—20 см. Падобныя прыстасаванні можна было ўбачыць у фільме «Блакітны кантынент» у тых выпадках, калі яго героі выходзілі на падводнае паляванне без балонаў.

У час, калі мы давалі нырца, у гумавую трубку трапляла вада, але, усплыўшы на паверхню, мы з сілаю рабілі выдыханне, і над нашымі галовамі з трубак узнімаўся фантан вады. Пасля гэтага дыхаць было добра. Дыхалі мы толькі ротам. Пасля ўсіх гэтых «удасканаленняў» шкло ўсё-такі крышку пацела, прыходзілася на дне маскі трымаць крыху вады і час-ад-часу прамываць яго, паварочваючы галаву з боку на бок.

Такім чынам, пасля шэрагу намаганняў нам удалося з сухаземных істот ператварыцца ў «земнаводных».

Як мы заўважылі пазней, не ўсім удавалася лёгка прызвычаіцца дыхаць праз маску. Сцэны, калі падводны плывец-навічок стрымгалоў усплываў на паверхню, зрываў маску і, выцягваючы шыю, прагна «хапаў» разяўленым ротам паветра, можна было наглядаць вельмі часта.

Наогул, у многіх з нашых калег былі купленыя маскі, у большасці былі самаробныя. Самаробную маску зрабіць няцяжка. Для гэтага трэба мець кавалак выразанага па форме авалу плексігласу (шкло, якое не б'ецца), гэты плексіглас павінен быць абцягнуты пластам порыстай гумы, склеенай па стыку краёў у кароткую трубу. Зрэз трубы вырэзваецца па форме твару, да плексігласу гума прыціскаецца металічнай палоскай, ззаду прымацоўваецца эластычны раменьчык. Для асновы маскі можна браць склееную ў некалькі пластоў і



тонка зрэзаную па краях гуму ад аўтамабільнай камеры.

Самаробная «амуніцыя» некаторых падводных плыўцоў мае часам вельмі фантастычны выгляд, і выпадковая сустрэча з імі можа напалохаць каго хочаш. Адзін мой сябар плаваў ля Карадага ў самаробнай масцы, зробленай з нейкага гумавага балона. Замест ілюмінатара ў гуму былі ўкленены шкельцы ад акуляраў, на галаве балон матляўся ў розныя бакі, і яго складкі ўтваралі нешта накшталт вушэй, якія стаялі стырчком. І калі ў такім выглядзе ён вынырнуў побач са студэнтамі-геолагамі, якія купаліся тут жа, адна дзяўчына, убачыўшы вынырнуўшую з вады чырвоную морду з падслепаватымі вачыма і вялізнымі старчкаватымі вушамі, амаль не страціла прытомнасць. Паўжывую, яе ледзь дацягнулі да берага. І як потым ні прасіў у яе прабачэння «маляўнічы» падводны плывец, дзяўчына больш купацца не пайшла.

Выходзіць, што пры апусканні пад ваду трэба ўлічваць і такія акалічнасці.

Падводныя плыўцы—гэта адначасова і падводныя паляўнічыя. Іх зброя—рыбалоўная стрэльба. Навучыцца карыстацца гэтаю стрэльбаю нам удалося таксама не адразу. Гума, якая выштурхоўвае гарпун, нацягвалася вельмі туга, і таму нам здавалася, што такая стрэльба павінна біць далёка. Таму мы на ўсякі выпадак адплылі далей ад берага,—каб ненарокам не параніць каго-небудзь з купальшчыкаў,—нацэліліся ў адкрытае мора і, затаіўшы дыханне, падрыхтаваліся стрэліць. Здавалася, вось расцягнутая гума моцна штурхане стралу, а страла з усяе сілы ірване прывязаны да яе пяціметровы шнур... Я націснуў на спускавую скабу. Страла слізнула ўперад метры на два і

Зелянушкі і ласкір (справа ўверсе).



пачала тануць, нават не нацягнуўшы шнура.

— Э-э-э... глупства якое, — расчаравана махнуў рукой Святаслаў. Мы паплылі да берага.

Яшчэ як след агледзеўшы стрэльбу, мы надзелі на гарпун наканечнік-трызубец, і я паплыў на сваё першае падводнае паляванне. «Дзічына» напаткалася хутка: насустрач мне плылі дзве кефалі.

Асцярожна падплыўшы да іх, я пачаў цэліцца. Але і гэта аказалася справай нялёгкай: казённая частка стрэльбы адлюстроўвала праменні сонца і перад вачамі ў плексігласавым ілюмінатары ўспыхвалі сотні яркіх іскраў. Скрозь гэтае ззянне рыбу разгледзець было нельга. Неяк прыцэліўшыся, я стрэліў. Але мая страла абагнула рыбіну і заблыталася ў водараслях проста над ёю. Кефалі вільнулі ў бок і зніклі.

Каб не траціць часу, я вырашыў перазарадзіць стрэльбу тут жа, у вадзе. Падцягнуўшы за шнур гарпун, я ўставіў яго ў стрэльбу і пачаў намотваць шнур. Але шнур заблытаўся. Пакуль я яго разблытваў, дык апусціўся амаль на дно. Пачаў грэбсці ластамі, усплыў, але хутка зноў патануў. Так некалькі разоў тонучы і ўсплываючы, я адчуў, што пачынаю дрыжаць ад нясцерпнага холаду. Прыйшлося плыць да берага.

Цяпер палез у ваду Святаслаў. Праз паўгадзіны і ён прыплыў без здабычы, са зламаным трызубцам-наканечнікам. Страляў у рыбіну на адлегласці метра, наканечнік ударыўся аб камень, а рыбіна вільнула хвастом і знікла.

Такім чынам, першы дзень не прынёс нам удачы. Майстэрства падводных паляўнічых не давалася адразу.

Пазней мы навучыліся абыходзіцца з падводнай стрэльбай і нават унеслі свае папраўкі ў яе канструкцыю: пафарбавалі чорнай фарбай казённік, каб не адлюстроўваў святла, і ўкарацілі амаль удвая шнур. Але асаблівага захаплення ад нашых стрэльбаў-каратышак мы не адчувалі. Пазней мне даводзілася бачыць добрыя стрэльбы-самаробкі паўтараметровай даўжыні. З такімі стрэльбамі ўжо можна было спадзявацца на ўдачу.

**Зелянушкі — рыбы-паўліны**

Бераг пад Херсанесам не вельмі высокі, але круты. Ля страмнін сустракаюцца неглыбокія пячоры, у якія на-

бягаюць хвалі. У адной з такіх пячор яшчэ да першай сусветнай вайны вяліся цюлені. Цяпер цюленяў ля Крымскіх берагоў няма ў Чорным моры. Гэта вымiраючы звер. Сустракаецца ён дзе-ні-дзе толькі ля Анаталійскага ўзбярэжжа.

У моры, ля берага, многа падводных каменняў, дно яго густа зарасло цыстазірай. З першых жа крокаў у вадзе вам трапляецца вельмі многа рыбы. Дасягальнасць гэтых жвавых істот абуджае ў чалавеку дзіўныя інстынкты. Многія пачынаючыя плыўцы апускаюцца пад ваду з самымі мірнымі намерамі: яны толькі хочуць пабачыць дно. Хвілін пятнаццаць-дваццаць яны вучацца абыходзіцца з маскаю, пускаюць пузыры і глытаюць салёную ваду. А ледзь звыкшыся з новым асяроддзем, яны барджэй плывуць да берага з крыкам:

— Давай стрэльбу!

Так і расце атрад падводных паляўнічых.

Акрамя стрэльбаў, мы выкарыстоўвалі для палявання доўгія коп'і з дзюралевых трубак. На гэтыя коп'і навінчваліся наканечнікі ад гарпуноў. У выніку атрымоўвалася своеасаблівая зброя даўжынёй каля 3,5 метра, якою трэба было дзейнічаць урукапашную. Падобна да таго, як паляўнічыя набіваюць руку, страляючы ў шапку, я трэніраваўся арудаваць пікай, пранізваючы ўсіх сустрэчных медуз. Трэба сказаць, што папасці ў рыбіну пікай — справа куды больш складаная, чым стралою з падводнай стрэльбы.

У прыбярэжнай паласе перш за ўсё трапляюць на вока разнастайныя губаны — адзін з самых распаўсюджаных відаў мелкаводных рыб. Колеру яны бываюць самага незвычайнага, але асабліва выдзяляюцца яркія зелянушкі. Нездарма іх назвалі губанамі-паўлінамі, таму што па прыгажосці афарбоўкі яны могуць раўняцца з сапраўдным паўлінам — жыхарам тропікаў. Галава ў губанаў заканчваецца выцягнутымі губамі, адсюль і паходзіць іх назва. Губаны маюць дзіўную ўласцівасць: вочы іх варочаюцца кожнае само па сабе, незалежна ад другога. Зелянушка можа адным вокам шукаць якое спажывы на цыстазіры, а другім сачыць за плыўцом, які падкрадаецца да яе. Такую ж асаблівасць можна наглядаць і ў камбалы-глосы, у якой вочы знаходзяцца над галавой, на сцяблінках. Паводзячы імі, камбала-глоса можа бачыць усё вакол сябе.

Зелянушка харчуецца малюскамі. Ракавіну малюска яна раструшчвае зубамі, але не тымі, што на сківіцах, а



Паляўнічы ўбачыў «дзічыну».

асобымі, якія схаваны ў яе ў горле і ўмацаваны на жаберных дужках. Раструшчыўшы малюска, рыба яго выплёўвае, чарапкі ракавіны тонуць, а мяса яна спрытна падхоплівае. Калі зелянушкі пачынаюць харчавацца, можна пачуць часты і даволі гучны хруст. Прычым хруст гэты чуецца і тады, калі рыбіна раструшчвае ракавіну, і тады, калі яна глытае мяккае мяса. Падобна на тое, што зелянушка скрыгоча зубамі ў чаканні смачнага кавалка ежы.

Зелянушкі сустракаюцца там, дзе ёсць водарасці і камені. Мне ніколі не даводзілася бачыць іх над адкрытым пясчаным дном. Зелянушка не асабліва хутка плыве, але спрытнасці і паваротлівасці ў яе дастаткова. Ад пагоні яна ўцякае нібыта і павольна, але надзвычай умела выкарыстоўвае ўсе натуральныя сховішчы. Калі паблізу няма вялікага каменя, пад якім яна магла б схавацца, яна нырне пад куст цыстазіры, выплыве з другога яго боку, а потым знікне пад якім-небудзь надзейным укрыццём. Гэтая рыба можа забіцца ў любую шчыліну ў скале і, прыціснуўшыся бокам да каменя, перачакаць небяспеку.

Асаблівай каштоўнасці для падводных паляўнічых зелянушка не мае. Мяса яе прыгоднае для стравы, па смаку яно падобна на мяса шчупака. Але гэтая рыба можа служыць адным з найбольш даступных аб'ектаў для назірання пад вадою. Звычайна зелянушкі, дзелавіта капаючыся ў цыстазіры, вельмі блізка падпускаюць плыўца. Іх можна разглядаць на адлегласці паўтара-двух метраў. На жаль, з-за нізкіх тэмператур марской вады вясной нельга наглядаць, як гэтая рыба робіць гняздо і ахоўвае яго.

Паляванне на зелянушак з падводнаю стрэльбай не ўяўляе асаблівай цяжкасці, таму што рыба гэта не пуж-



лівая і ў яе можна цэліцца. Усе паляўнічыя-навічкі набіваюць на ёй руку. З пікай — цяжэй. Спрытная рыбіна ўважліва сочыць за наканечнікам і ўвільвае ад удару. А ўдар кап'ём пад вадою можна нанесці толькі на адлегласці выцягнутай рукі, а гэта палохае рыбу. Біць рыбу кап'ём лягчэй тады, калі знаходзішся пад вадою. На паверхні вады цябе калышуць хвалі, і ты не можаш прыцэліцца. Ды і наогул папасці ў рыбіну зверху куды цяжэй, чым збоку. Таму ў час палявання прыходзіцца даваць нырца праз кожныя 4 — 5 удыханняў.

Трэба сказаць, што даць нырца ў масцы — цэлая праблема. Вада не хоча расступацца і пускаць у свае глыбіні незнаёмую ластаногую істоту. Каб апусціцца пад ваду, даводзіцца пацешна пераварочвацца, сціснуўшыся ў камяк, а потым, выцягнуўшы ногі і паматляўшы імі ў паветры, з шлёпаннем апускацца ніжэй і ніжэй. Пазней я навучыўся апускацца пад ваду ціха, не пераварочваючыся ўверх нагамі, а пры дапамозе моцных грабкоў рукамі знізу ўверх. Гэта было вельмі важна, каб не спалохаць заўважаную рыбіну.

### Прыгажуня-кефаль

Святаславу ў паляванні на зелянушак шанцавала. Ён час-ад-часу выплываў з мора, пенячы ваду ластамі; на яго кап'ё была нанізана рыбіна. Ён нават навучыўся біць рыбу зверху, не апускаючыся пад ваду. Я глядзеў на яго не без зайздрасці, але сам наважыў паляваць на кефаль.

У Чорным моры — пяць відаў кефалі, з якіх найбольш распаўсюджанымі з'яўляюцца лабан, сінгіль і вастранос. Лабан—самая вялікая і самая галавастая кефаль. У сінгіля на

Дзве кефалі і зубарык.



жаберных пакрышках — па залатой плямінцы. У вастраноса, або малой кефалі, галава вузейшая, чым у папярэдніх двух відаў.

Кефаль — рыба, якая мае вельмі прыгожую форму цела. Бакі ў яе светласрабрыстыя, кожная лушчынка нібы абведзена абадком. Вялікія кефалі плаваюць невялікай чародкай або паасобку. Цыстазіра з'яўляецца для іх такой жа пашаю, як і для зелянушак. Яны шчыплюць і самыя водарасці, і аб'ядаюць усе тыя дробныя істоты, якія хаваюцца ў цыстазіры: рачкоў, дробных малюскаў і г. д. Ля берагоў Крыма, а магчыма і Каўказа, няма таго месца, дзе не сустракалася б кефаль. Непадалёку ад берага можна знайсці такія мясціны, якія кефаль асабліва любіць. Такія мясціны я знаходзіў у Місхоры, пад Балаклавай і ў іншых раёнах. Выпадкова мне ўдалося натрапіць на адну «пашу» кефалі якраз насупраць руін старажытнага херсанескага храма. Па яго калонах я потым арыентаваўся, шукаючы знаёмыя мясціны дна.

Па суседству з руінамі горада, якія спускаліся аж да самага мора, кефаль падыходзіла да берага вельмі блізка. Відаць, яе маніў сюды складаны падводны рэльеф і мноства цыстазіры. Тут я і парашыў «упаляваць» хаця б адну рыбіну. Але рыба спрытна ўвільвала ад маіх атак. Пасля кожнага промаху яна абплывала вакол мяне, нібы хочучы з усіх бакоў агледзець такога няўдалага паляўнічага.

Нарэшце, пасля некалькіх гадзін «купання», калі я ўжо нанырaўся да знямогі, мне ўдалося праткнуць адну зяваку-рыбіну. Я прыціснуў яе кап'ём да дна і, пакуль не пераканаўся, што «сядзіць» яна на ім моцна, не рашыўся цягнуць яе да берага.

Цяпер ужо Святаслаў мне зайздросціў.

З гэтага дня я ўпэўніўся, што кефаль даступная для палявання. Давялося выпрацоўваць нават спецыяльную тактыку.

### Як падплысці да рыбіны

З тае прычыны, што зверху, з паверхні вады, папасці ў рыбіну ўдаецца вельмі рэдка, лепш за ўсё падплысці да яе збоку, у вадзе.

Заўважыўшы здалёк рыбіну, якая «пасвілася» ў цыстазіры, я імкнуўся падплысці да яе як мага бліжэй. Частыя няўдачы навучылі мяне карыстацца рознымі прыкрыццямі: лажбінкамі, каменнямі і г. д. Калі

спалоханая кефаль уцякае, гнацца за ёю няма ніякага сэнсу; пры самай стараннай рабоце ластамі дагнаць яе не ўдаецца. Пацэліць у яе лягчэй за ўсё, калі яна плыве ўбок або робіць круг. Яе пругкі, бліскучы бок — добрая цэль.

Часцей за ўсё пры паляванні на кефаль з ёю прыходзіцца сустракацца нечакана, і поспех справы вырашае спрыт падводнага паляўнічага. А такія сустрэчы адбываліся даволі часта, асабліва пры невялікай празрыстасці вады.

Уздоўж берага ўлетку вада амаль заўсёды мутнаватая. Вада змяняе сваю празрыстасць у залежнасці ад велічыні хваляў. Іншы раз, калі мора асабліва расходзіцца, амаль нельга разгледзець пад вадою пальцы выцягнутай рукі. «Празрыстае» надвор'е і «непразрыстае» надвор'е — такія новыя тэрміны ўвялі ў абыходжанне паміж сабою падводныя плыўцы.

Разгледзець блакітна-шэрую спіну кефалі, якая па сваёй афарбоўцы падобна да колеру дна, у мутнай вадзе вельмі цяжка. Можна доўга плаваць у багатай рыбаю мясціне і не ўбачыць ніводнае рыбіны.

Звычайна рыбу заўважаеш нечакана, і то толькі тады, калі яна адплыла ад цябе на даволі значную адлегласць. Падводныя паляўнічыя-навічкі рыбу бачаць часцей за ўсё з хваста, калі яна ад іх уцякае. Нагледзеўся на яе ў такім «павароце» і я. Вось адзін з такіх эпізодаў.

Апусціўшыся пад ваду і грабучы аднымі ластамі, плыву да каменняў, што цямнеюць наперадзе. Левай рукой злёгку падграбаю, імкнучыся трымацца бліжэй да дна. У правай руцэ — стрэльба. Дробныя зелянушкі не звяртаюць на мяне ніякай увагі. Яны нешта хапаюць з дна, і тады можна заўважыць, як з іх рота асядае на дно струменьчык пяску. Сагнуўшыся, на камені сядзіць сабачка. Вось ён падымаецца і плыве мне насустрач, віляючы целам, як уюн. Потым паварочвае ўбок і хаваецца за каменем. Каля каменя—дзве вялікія зелянушкі. Пры маім набліжэнні асядаюць на дно і хутка знікаюць.

Абплываю камень збоку, і раптам з-пад самага майго носа з зараснікаў цыстазіры выплывае кефаль. Прыгожая, ладная, яна тут жа крута паварочваецца, і я бачу толькі яе вёрткі хвост. Не паспеў я агледзецца, як з зараснікаў выносяцца яшчэ тры рыбіны. Адна за другой, нібы імклівыя срабрыстыя ракеты, яны праносяцца паўз мяне і знікаюць у марской далечы...

Мне нехапае паветра, і я ўсплываю на паверхню. Аддыхаўшыся, зноў апускаюся пад ваду. Уперадзе відаць нейкая сцяна. Падплываю бліжэй — гэта той самы камень, які служыў мне падводным арыенцірам. Верх яго густа зарос цыстазірай. Пад яго плыве вялікая зелянушка. Я раблю спробу заглянуць у яе сховішча і раптам тут, у самым незвычайным месцы, уверсе над каменем, заўважаю кефаль. Відаць, яна пераплывала цераз нейкую перашкоду і аказалася ля самай паверхні вады. Страляю наўгад, кефаль робіць нейкія дзіўныя кругі і выскоквае з вады. Усплёск, ззянне воднай паверхні... і я не магу зразумець, пацэліў у рыбіну, ці не. Пачынаю шукаць здабычу. Кефалі нідзе не відаць, слядоў крыві ў вадзе таксама няма. Значыць, уцякла мая здабыча, толькі, відаць, моцна напалохалася і, трапіўшы на мелкае месца, пачала падскокваць.

Калі я выцягваў з водарасляў стралу, адтуль вылез вялізны каменны краб. Хвіліну ён сядзеў на дне, растапырыўшы свае клешні, а потым павольна пабег пад прыкрыцце.

Перазарадзіўшы стрэльбу, абплываю пад вадой камень. І тут тварам у твар натыкаюся на двух вялікіх лабаноў. Яны спрабуюць павярнуць, але гэта ў іх выходзіць не зусім зграбна, і я накіроўваю стрэльбу ў бліскучы бок бліжэйшае рыбіны. Страла лёгка прабівае яе цела, і раскрытыя лапы наканечніка не даюць ёй сарвацца.

Павінна ж калі-небудзь узнагародзіцца цяжкая праца падводнага паляўнічага!

Цікава, што рыбы не баяцца ні купальшчыкаў, ні нават катэраў, што ходзяць па моры.

Каля місхорскага пляжа, на неглыбокіх мясцінах, заваленых каменнем, абросшым цыстазірай, мне давялося наглядаць, як паводзіць сябе вялікая чарада дробных губанчыкаў. Зялёныя, карычневыя і стракатыя шэрыя рыбкі нагадвалі вялізнае рухомае воблака. Гэтае воблака нібы пульсавала; то разыходзячыся ў бакі, то імгненна сціскаючыся, у залежнасці ад пагрозы, што ўзнікала непадалёку ад яго. Можна было толькі здзіўляцца, з якою хуткасцю каляровыя рыбкі, што запоўнілі трохметровую тоўшчу вады, раптам спадалі на дно, а потым зноў рассейваліся ў розныя бакі. Невядомым «дырыжорам», які камандаваў імі, быў інстынкт, які забяспечвае чарадзе большы поспех у барацьбе за існаванне.

**Працяг будзе.**

# *Гумар і сатыра*

Захар **БІРАЛА**

## ГАЛАВА СВАЯ Ў РЫГОРЫ

Бабкі дома ці на полі
Языкамі ўсё малолі:
— Ці не чулі пра навіны,
Быў Рыгор, гуляў у Ніны.

— Ды яна ж яго не варта,—
Гаварыла цётка Марта,—
Ён такі прыгожы, дужы,
А яна, як жаба з лужы.

Прэч на бок усе гаворкі,
Не чураўся хлопец зоркі,
Ціха з ёю пашаптаўся,
Ды ў нядзелю запісаўся.

Не з красуняў, праўда, Ніна,
А звычайная дзяўчына,
Але што каму па густу,—
Хто есць рэдзьку, хто капусту.

Пяць гадоў прайшло гадзінай,
Ніна трох сыноў радзіла,
Як вясной спяваюць птушкі...
Скора будуць і дачушкі.

Ладзяць, дружаць любы з Любкай,
Нібы галубок з галубкай...
Сталі бабкі, як без сілы—
Языкі аж прыкусілі.

Сонца ў небе не астыне,
Рыгор Ніну не пакіне.
Галава свая ў Рыгоры,
Не гарбуз гнілы з разоры.

### БЕЗ СЛОЎ.















---